# ЗМЕСТ

Крыніца

# Уладзімір КАЛЕСНІК



*Шукайма ісціны*
*ў законах быцця і пазнання,*
*у патрэбе пазнання свету*
*і самога сябе.*

ЦЫТАТНІК

## УРЖУМ. «ТЭСТАМЕНТ»

*Ненадрукаваны раздзел з кнігі «Ветразі Адысея»*

## МЕНТАЛІТЭТ – ПТУШКА КРЫЎДЛІВАЯ

*Незакончаны артыкул з архіва Уладзіміра Калесніка.*

**Пра Уладзіміра КАЛЕСНІКА**



# УРЖУМ. «ТЭСТАМЕНТ»

*Ненадрукаваны раздзел з кнігі «Ветразі Адысея»*

Летам 1930 года Жылка з жонкаю быў на дачы пад Мінскам. 8 чэрвеня ў іх нарадзілася дачка, якую яны назвалі рэнесансавым імем Беатрычэ, Беата, пяшчотна звалі Ата. Не здагадваліся бацькі, што так хутка жыццё пачне развейваць іх рамантычныя лятункі, што іх Беата будзе выхоўвацца ў бабкі Таццяны Ануфрыеўны і стане Натай, звычайнай Наталляй. Пад гэтым імем жыла і працавала ў Полацку Наталля Уладзіміраўна Лазарава, настаўніца адной з гарадскіх школ.

18 ліпеня Уладзімір Жылка быў арыштаваны, там жа, на дачы, і разам з лідэрамі «Узвышша» Я. Пушчам, У Дубоўкам і А. Бабарэкам знаходзіўся пад следствам. Туберкулёз лёгкіх дайшоў да трэцяй стадыі, на грудную клетку быў накладзены пнеўматаракс, турэмны ўрач даў даведку аб неабходнасці стацыянарнага лячэння Жылкі ў бальніцы. Пасля заканчэння допытаў, 28 жніўня, ён быў вызвалены з турмы пад распіску аб нявыездзе з Мінска. Лячыўся ў бальніцы, а ў пачатку зімы перабраўся на кватэру Вярнуўся дамоў слабым і, па словах жонкі, усю зіму і вясну не хадзіў на працу «Прыкаваны да ложка, – піша Р Маневіч, – ён у тую зіму сапраўды шмат займаўся перакладамі і пераклаў паэму польскага пісьменніка»[1] Дакладней трэба было б сказаць – закончыў

*Пра Мяне:*

## ПУНКЦІРЫ ЖЫЦЦЯПІСУ

**Час нараджэння – 17 верасня 1922 г., родная вёска –Сіняўская Слабада ў Карэліцкім раёне Сямікласную адукацыю набыў тут і ў суседніх Ярэмічах. А перадусім школу выхавання прайшоў у бацькі – земляроба, плытагона, вясковага майстра, ад якога так «пераняў спрыт да сякеры, малатка, гэбліка», што сваімі рукамі зрабіў нават скрыпку.**

**Пасля сямігодкі, у 1936 г., У Каленік паступіў у польскую Навагрудскую гімназію імя А. Міцкевіча. З лёгкай рукі прафесара Крука захапіўся маляваннем, разьбою па дрэве. Самастойна вывучаў тэорыю выяўленчага мастацтва, марыў стаць крытыкам жывапісу Уражанні ад палескіх аповесцяў Якуба Коласа змянілі ягоныя намеры: «Буду вучыць сялянскіх дзяцей. Буду жыць і працаваць з чыстым сумленнем, як Андрэй Лабановіч. А маляваць буду для сябе. »**

**У гімназіі – найперш пад уплывам стрыечнага брата, члена КПЗБ, – юнак зацікавіўся марксізмам. Канфлікты з дырэкцыяй прывялі да выключэння з гімназіі напрыканцы трэцяга навучальнага года.**

**Пасля верасня 1939-га працягваў вучобу ў Навагрудку – у беларускай сярэдняй школе, затым у педвучылішчы (разам з Аляксеем Карпюком, з якім жыў у адным пакоі).**

# ЖЫВЫЯ ПІСЬМЫ

**За паўстагоддзя сябравання іх сабралася дзве пакоўныя папкі, яго і маіх. Хораша і сумна было мне перачытваць іх, а часам яшчэ і балюча. Няхай сабе мы, хто старэйшы, і прызвычаены лёсам да розных удараў, няхай сабе неўзабаве будзе цэлы год пасля яго адыходу, а ўсё ж балюча дакранацца да раны, якая яшчэ ўсё свежая...**

**Так сказаць, рэгулярная перапіска ў нас пачалася з прыходам разлукі, пад восень 1952 года, калі Валодзя быў пасля аспірантуры накіраваны на працу ў бабруйскі настаўніцкі інстытут, а праз два гады ў брэсцкі педагагічны. Там ён, у «горадзе над Бугам», і ўгрунтаваўся на ўсё жыццё, там і спачыў пасля доўгіх, цяжкіх пакутаў.**

**Разлука наша не была, вядома, суцэльнай. Я наведваў яго ў Бабруйску, ён прыязджаў у Мінск. За сорак наступных гадоў мы даволі часта сустракаліся то ў Брэсце, то яшчэ часцей у Мінску. Былі ў нас сумесныя падарожжы і адпачынкі. Падарожжы бліжэйшыя, па роднай Наваградчыне, і далейшыя, то ўдвух, то сем'ямі, то ў сяброўскай кампаніі. Па Літве і былой Усходняй Прусіі; па Валыні, Львоўшчыне і Закарпацці; па Узбекістане, ад Ташкента да Самарканда; па Волзе ад Масквы да Астрахані і назад; па Карэліі, з Кіжамі і Салаўкамі ўключна. На працягу 1970–1973 гадоў летнімі тыднямі мы сустракаліся з ацалелымі жыхарамі беларускіх «вогненных вёсак». Адпачывалі разам над Нёманам і Шчарай, на Нарачы і Свіцязі, у Юрмале і**

**З першых дзён нямецкай акупацыі У. Калеснік удзельнічае ў стварэнні антыфашысцкага падполля. Каб пазбегнуць вывазу ў Германію, становіцца – з даручэннем падпольнай арганізацыі – настаўнікам пачатковай школы ў Некрашэвічах. Тут вядзе агітацыю сярод моладзі і толькі выпадкова ўнікае арышту.**

**Улетку 1942-га ідзе ў партызаны. Быў кулямётчыкам, падрыўніком, камандзірам узвода, а ўжо праз год – начальнікам штаба атрада. Удзельнічаў у дыверсіях, баях, быў двойчы паранены, «пазнаў крайнія межы пачуццяў», але «не страціў веры ў жыццё, не атупеў маральна, глядзеў на змаганне сумленна і сур`ёзна».**

**У партызанах ваяваў і ягоны бацька. Малодшы і адзіны брат Яўген загінуў на фронце.**

**У ліпені 1944 г., пасля злучэння партызан з Чырвонай Арміяй, У. Калеснік быў накіраваны на працу ў Мірскі райваенкамат, потым настаўнічаў, быў інспектарам раяна.**

**1945–1952 – гады вучобы на філфаку і ў аспірантуры Мінскага педінстытута. Годам пазней пачаў выступаць у перыядычным друку як літаратурны крытык. Схіляў яго да творчасці Янка Брыль, з кім пасябраваў яшчэ ў партызанах. «Прыходам у літаратуру я абавязаны перш за ўсё Янку Брылю», – напіша ён пазней у аўтабіяграфіі.**

**Два гады пасля аспірантуры працаваў загадчыкам кафедры літаратуры Бабруйскага настаўніцкага інстытута, у 1954-м стала пасяліўся ў Брэсце. Працуючы ў тутэйшым педінстытуце, стаў кандыдатам навук, загадчыкам кафедры, прафесарам, заслужаным работнікам вышэйшай школы Беларусі. Значна ажывіў літаратурнае жыццё на Берасцейшчыне Доўгі час кіраваў літаб'яднаннем пры абласной газеце «Зара», быў першым кіраўніком абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў.**

**Жывучы ўдалечыні ад сталіцы, плённа супрацоўнічаў з інстытутам літаратуры, з'яўляўся членам вучонага савета, падрыхтаваў шэраг раздзелаў для акадэмічных выданняў. У 1980 г. за ўдзел у падрыхтоўцы двухтомнай гісторыі беларускай літаратуры У Калеснік быў удастоены Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа.**

**Аўтар больш чым дзесяці кніг літаратурна-крытычных нарысаў, літаратурных партрэтаў, дакументальна-мастацкіх аповесцяў, палемічных артыкулаў, рэцэнзій, падручнікаў і дапаможнікаў для ВНУ Агульная колькасць публікацый – больш за шэсцьсот. Шырокі іхні тэматычны абсяг: фальклор, заходнебеларуская літаратура, беларуская старажытная літаратура, постаці Скарыны і Гусоўскага, Купалы і Жылкі, Танка і Брыля, сучасная паэзія, пераклады беларускай паэзіі на польскую мову, творчасць асобных украінскіх, польскіх майстроў слова.**

**Шматлікія былі і пазалітаратурныя захапленні пісьменніка і вучонага. Даўняе і галоўнае з іх – выяўленчае мастацтва: «Зрокавыя ўспрыманні, пластычныя вобразы мне ўсё ж блізкія, прывычныя з дзяцінства» Маляваў карціны алеем, ствараў скульптурныя працы ў дрэве, пісаў артыкулы пра маста-**

пераклад і падрыхтаваў да друку паэму Бруна Ясенскага «Слова пра Якуба Шэлю».

Работа над перакладам твора выключна вітальнай сілы, напэўна, дапамагала хвораму паэту падтрымліваць вітальны тонус. Вясною Жылка пачаў папраўляцца і ўжо пачуўся на сілах, каб паехаць летам у Клецішча да маці і там падрыхтаваць свой чарговы зборнік твораў. Ён звярнуўся да АДПУ па дазвол, бо даў распіску аб нявыездзе, але яму аб'явілі, што пастановай калегіі ад 10 красавіка 1931 года ён высяляецца на пасяленне ў горад Уржум Вяцкай губерні. Жонка паэта лічыць, што Жылка меўся раней ведаць пра гэтую пастанову Аднак дата, што стаіць пад пастановай Калегіі, схіляе прыняць выказванне брата паэта, Барыса, які гаворыць, што звестка пра высылку была для паэта нечаканай. Бясспрэчна тое, што АДПУ адносілася да Жылкі даволі паблажліва, не даймала кантролем, бо лічылі яго хваробу смяротнай. Прымаць да такога чалавека, хоць і прызнанага тады вінаватым, усю суровасць закона не мела сэнсу.

Як сцвярджае Барыс Адамавіч, брат выязджаў з Мінска ў Уржум са своеасаблівым камфортам: меў білет у вагон першага класа і права на высокі харчовы «ліцэр» Але адчуваў сябе прыгнечаным, пакрыўджаным, ахвярай трагічнага непаразумення і не хацеў ісці па той «ліцэр» Барыс Адамавіч у парыве спагадлівасці сказаў яму: «Можа лепей было б, каб не ехаў ты сюды з Прагі?» Паэт адмоўна паківаў галавой і, усміхнуўшыся, заўважыў, што там яго хутчэй спаткала б нешта яшчэ горшае. Варта заўважыць, што такое было сказана не проста з ласкі на пацеху, для суцяшэння малодшага брата. Палітычныя адносіны паміж СССР і Чэхаславакіяй пагоршыліся, у «Звяздзе» за 28 кастрычніка 1928 года быў апублікаваны артыкул «Чэхаславакія і антысавецкі блок», з якога было відаць, што ў Чэхаславакіі пачыналіся праследаванні прыхільнікаў камуністычнага руху. Уражаны гэтым адказам брата, над лёсам якога замыкаўся нейкі фатальны круг, Барыс Адамавіч рашуча пайшоў да асобы, якая ведала «ліцэрамі», і ўзяў той дакумент на палепшанае харчаванне.

Паэт выехаў у ссылку адзін, на сямейным савеце вырашылі, што жонка з дачкою застанецца ў Мінску. Назаўтра пасля ад'езду Жылкі Рыму Маркаўну наведала Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка Янкі Купалы, якая працавала тады загадчыцай дзіцячага садка пры нейкай высокай установе, і запрапанавала ёй пасаду настаўніцы спеваў.

Жылка дабіраўся да Уржума з прыгодамі. Па дарозе ён пазнаёміўся з землякамі, якія мелі такія ж прысуды, сярод іх былі два студэнты родам са Слуцка – Іван Алімпіевіч Сасіновіч і Адам Корань. Сярод сяброў па няшчасцю, з якімі паэт пачаў падтрымліваць адносіны, трэба назваць Яўхіма Кіпеля і Мікалая Улашчыка. Яны былі сасланы ў Налінск, больш буйны гарадок за Уржум. Да станцыі Вяцкія Чаўны даехалі цягніком, далей патрэбна было плысці цеплаходам па рацэ Вятка, а рачны транспарт працаваў блага, быў надта перагружаны, і вось ссыльныя праявілі ініцыятыву: купілі сабе дзве лодкі, і самі рашылі плысці ўніз па Вятцы да прыстані Капельніча. Дзівіла іх экзотыка тутэйшых мясцін і неверагодна танныя прадукты ў вёсках.

Жылку пасадзілі аднаго ў аднамесную лодачку, прывязалі яе да вялікай, і хворы паэт мог у ціхай самоце сузіраць свет, думаць, мроіць, тварыць. Дзесьці на прычале Яўхім Кіпель прыгадаў Жылку, як яны, група адраджэнцаў, сустрэўшыся з ім у Мінску пасля навуковай канферэнцыі, аднадушна раілі яму вярнуцца і жыць у Чэхаславакіі. Паэт устаў і сказаў· «Ведаеш, браце, мае раны мне і так баляць, ты іх больш не цвялі»[2]

Адам Корань спыніўся ў Малмыжы, а Сасіновіч і Жылка дабіраліся да прыстані Медзвядок, што насупраць Уржума. Амаль год землякі пражылі на адной кватэры Спачатку Сасіновіч ставіўся да паэта з недарэчнай крыўдлівасцю, выгаворваў яму, што вось, маўляў, цераз імігрантаў, запэцканых у палітыку, ды ўсялякіх бездказных літаратурных забіякаў і яму, проста стараннаму студэнту, даводзіцца спыняць вучобу і нявінна пакутаваць. Але неўзабаве ён зразумеў сваю пахоплівасць і стаў адносіцца да Уладзіміра Адамавіча з належнаю павагай, як да чалавека высокай культуры, маральнай чысціні і грамадзянскай сумленнасці

Ва Уржуме была іншая чым у Беларусі, атмасфера, карэнныя жыхары мелі цьмянае ўяўленне пра такія паняцці, як «беларускі нацыяналізм», і адносіліся да ссыльных без прадузятасці, ацэньвалі іх проста па дзелавых і чалавечых

**Каралішчавічах. А яшчэ ж і паходы і выезды на рыбалку: Нёман, Прыпяць, Ясельда, Рыта, Лясная, Сэрвач, Кромань...**

**Колькі было перагаворана – каля надрэчнага вогнішча, на лясной дарозе, на свежым сене гумнаў, у хатняй утульнасці, пры настольнай лямпе і без яе, у начной цішыні то ў яго, то ў мяне, то ў нейкай незнаёмай да таго сціплай гасцініцы. Мужчынская шчырасць дружбы. «Падабенства сэрцаў», як напісаў мне на сваёй першай кнізе яшчэ адзін наш Валодзя, Караткевіч.**

**І чыталася, і чулася, і самому думалася так: раней людзі хадзілі, ездзілі на конях, і ўсюды паспявалі. Тэлефонаў таксама не было, былі пісьмы. Былі і засталіся. Больш у вялікіх папярэднікаў, менш у сучасных.**

**За дзевяць месяцаў апошняй разлукі я двойчы пераглядаў нашу перапіску: спачатку па зразумелай душэўнай патрэбе, а потым, паабяцаўшы «Крыніцы» зрабіць для яе публікацыю. Не адступаючы ад гэтага намеру і абяцання, я ўсё ж то турботна думаў, што такое лепш было б зрабіць камусьці трэцяму паміж намі, з зацікаўленым позіркам збоку, то зноў шукаў адпаведнага падыходу, памятаючы, што сам я павінен тут гаварыць перш і больш за ўсё <u>пра яго</u>, а гэта якраз і нялёгка, калі думаць пра патрэбную паўнату паказу.**

**Была ў мяне публікацыя перапіскі з Караткевічам, аднак там знайшоўся той неабходны <u>трэці</u>, дакладней <u>трэцяя</u>, – закаханая ў родную літаратуру, талковая, кваліфікаваная Людміла Мазанік. Я памагаў ёй толькі патрэбнымі заўвагамі. Дый пісем там было значна менш, і былі яны менш складаныя, даць іх у альманах «Шляхам гадоў» за 1990 год было значна лягчэй, чым бачыцца ў гэтым выпадку.**

**Словам, выходжу да чытача з пэўнай трывогай, спадзеючыся на прыхільнае зразуменне.**

**Перапіска наша, мне думаецца, творчая, у тым сэнсе, што яна была своеасаблівым, дадатковым працэсам творчай працы нас абодвух. Мы дзяліліся задумамі, чыталі адзін аднаго не толькі перад здачай таго ці іншага матэрыялу ў рэдакцыю часопіса, газеты ці ў выдавецтва, а ў самых першых варыянтах, не скажу сырых, але першапачатковых, яшчэ гарачых ад аўтарскай рукі. Найменш было ў нас, а то і зусім не было нейкага тэарэтызавання, тым больш павучання адзін аднаго. Праўда, і з некаторымі зрывамі, якія пагоды не рабілі. І не толькі па-дзелавому пісалі мы адзін аднаму, – і паскардзіцца на цяжкае ці крыўднае таксама ж трэба было, няхай не пад бацькаву дужую і цёплую далонь падстаўляць галаву, але ж далонь сяброўскую адчуць у поціску – гэта ж таксама патрэбна, нармальна. Амаль усе мае творы, чытаючы іх у розных варыянтах машынапісу, ён сустракаў не толькі прыязнасцю, але і крытыкай, часамі суб'ектыўна завострай, па дружбе з поўнай свабодай слова, аднак у сутыкненні з маёй самастойнасцю ён, па натуры гарачы, не ганарыўся і прызнаць сваю памылку ці памылкі. Часамі нават і залішне каяўся, наракаў на самога сябе.**

**Так, напрыклад, было з першым варыянтам аповесці «Ніжнія Байдуны». У маі 1975-га я пісаў яму:**

**«...Дарэмна Ты папракаеш сябе. Дагаварыўся нават да...дыскваліфікацыі...А чаму не прасцей, – што кожны мае права на сваю думку? Апроч Цябе, чыталі Саша[1], Федзя[2], Скрыган, Ніна[3], Якуб[4], Бярозкін, Караткевіч. У кожнага былі свае заўвагі. Саша і Якуб лічаць лепшым пачатак, першую палавіну. Ты і Ніна – другую. Скрыган, Караткевіч і Бярозкін хваляць усю рэч. А мне прыйшлося яшчэ трохі з ёю памарочыцца – і ў кампазіцыі, і ў дробязях. І ўжо вось зноў зманлівае адчуванне, што ўсё, можна здаваць у часопіс... Апроч таго, што і людзей добрых паслухаць хочацца і трэба, дый прывык я да гэтага, трэба ж**

коў, адклікаўся на іхнія выстаўкі. Добра вядомы як фотамайстар: многія здымкі – пейзажы, партрэты і інш. змешчаны ў фотаальбомах, кнігах, часопісах.

Адзін з аўтараў унікальнай дакументальнай кнігі «Я з вогненнай вёскі...», ён у апошнія гады свайго жыцця пісаў і рыхтаваў для выдавецтва дакументальна-аўтабіяграфічную аповесць «Адвечны кліч», прысвечаную партызанскай барацьбе ў мінулай вайне. Асобныя фрагменты апублікаваны ў перыёдыцы.

Не стала Уладзіміра Андрэевіча Калесніка 15 снежня 1994 года пасля цяжкай хваробы. Пахаваны ў Брэсце.

Падрыхтаваў Алесь КАСКО.

## «МЕТАДАЛАГІЧНАЕ» ДАСЬЕ

У нашу літаратуру У. А. Калеснік уступіў як крытык і літаратуразнавец у першай палавіне 50-х гадоў. Да гэтага ён прайшоў добрую жыццёвую школу. У гады Вялікай Айчыннай вайны партызаніў Адразу пасля вызвалення родных мясцін працаваў у Мірскім райваенкамаце, а затым настаўнічаў у Луцкай няпоўнай сярэдняй школе для вайсковаабавязаных. Усё гэта было далёкім ад здзяйснення юнацкіх мар У.А. Калесніка, якія яшчэ ў даваенны час прывялі яго ў Навагрудскае педвучылішча. Прадоўжыць вучобу ў педагагічным інстытуце ён змог толькі ў 1945 годзе. Стаўшы аспірантам Мінскага педінстытута,

якасцях, не ставячы пад сумненне грамадзянскай лаяльнасці, ім спагадалі, памагалі ўладкавацца на работу

Цераз год да Сасіновіча прыехала са Слуцка нявеста, студэнтка педвучылішча Марыя Міхайлаўна Вячорка, яна прадоўжыла вучобу на трэцім курсе Уржумскага педвучылішча, а потым настаўнічала, як і яе муж Іван Алімпіевіч. Ён, мабыць, не думаў, што асядзе тут надоўга, даслужыцца да звання заслужанага настаўніка РСФСР, будзе прыняты ў партыю, а яго жонка стане ветэранам педагагічнай нівы таксама ў гэтым краі. «Мы вельмі часта бывалі разам, – прыгадвае тыя часы і зямляцкія сустрэчы Марыя Міхайлаўна, – паэт прыходзіў да нас часта, разам рабілі мы выхады ў ваколіцы Уржума. Яны таксама надта маляўнічыя Памятаю, ён чытаў нам вершы і нейкія ўрыўкі, мажліва са сваёй паэмы Яшчэ памятаю, ён даваў мне перакладаць з нямецкай мовы (я тады яе нядрэнна ведала) на рускую мову нейкія там тэксты Я з прыемнасцю гэта рабіла, бо мне заўжды хацелася зрабіць для яго нешта харошае. Ён быў дужа задаволены і часта гаварыў· «Ах, Марылька (так ён звычайна называў мяне), – мне б вашы гады! Колькі б я яшчэ мог зрабіць!» Яму хацелася яшчэ шмат-шмат зрабіць, але, на жаль, сілы здавалі»[3].

Непрыстасаванаму да бытавых цяжкасцей і клопатаў паэту было зайздросна глядзець на сям'ю Сасіновічаў «Шчаслівы ты, Янка, –уздыхаў ён, – як бы я хацеў, каб са мною побач была сяброўка» Праз некаторы час прыехала жонка і да Жылкі, але дружнага жыцця ў іх не атрымалася. Жылка, як гавораць пагалоскі, паехаў у Вятку хадайнічаць аб дазволе на пераезд у Крым, прастудзіўся і праляжаў там два месяцы ў бальніцы. Калі вярнуўся, пачуў благія перасуды пра паводзіны жонкі, загаварыла ўроджаная жылкаўская сумленнасць, вернасць, і Рыма Маневіч пасля сямейнай сцэны выехала ў Ленінград, дзе жыў, прайшоўшы «перавыхаванне» працай, яе бацька, нядаўні гомельскі нэпман, а цяпер партовы грузчык.

«Памятаю, – піша М.М Вячорка, – мы з сяброўкамі, Леначкай Спаскай і другімі, недаўмявалі: як магла Рыма Маркаўна пакінуць такога цудоўнага чалавека, ды яшчэ ў такую цяжкую хвіліну»[4]. Малодшая на дзесяць гадоў жонка, спачатку ідэалізавала яго як звычайна ідэалізуюць вучаніцы настаўнікаў, лічачы іх людзьмі выключнымі. Цяжка бывае

яшчэ і не згубіць таго, што бачыцца самім сабою, нявыказанае да канца. І гэта не ўсё яшчэ, – я пісаў паралельна апавяданні, таксама не да канца ўпэўнены ў тым, што гэта сапраўднае, а рабіць хацелася, чаго я даўно так шчасліва не адчуваў... Словам –я пра тое, што Ты дарма сябе папракаеш. Мне добра, што ёсць з кім дзяліцца, ёсць каго паслухаць, ёсць каму па-сяброўску падзякаваць. І добра, што ёсць трывога на душы, калі дасі таварышу, а потым слухаеш яго. З Федзем, які другі, пасля Сашы, прачытаў, мы даўгавата хадзілі па парку і па вуліцы, і пэўная стрыманасць яго пайшла мне на карысць таксама».

Так нядаўна гэта было, дваццаць гадоў таму назад, калі мелася каму даць на суд толькі што зробленае, калі ў цябе, скажам з журботнай усмешкай, быў свой «уласны саюз пісьменнікаў», саюз сяброўскага ўзаемаразумення. Імёны, якія я называў вышэй, – Бог мой, якая гэта талака, якая помач!.. А цяпер?.. Выходзіш да чытача старонкамі часопіса ці кнігі і сцішнавата на душы, як неапранутаму ў золкі дзень, як выштурхнутаму з-за кулісаў на зыркае святло рампы, – такі вось мінус старасці, сяброўскай адзіноты. Адарванасць ад маладзейшых па сваёй віне? Тут цэлы комплекс віны-невіны, а перад усім – халодная заканамернасць, асіраценне ў сваім пакаленні...

Над старонкамі нашых пісьмаў думалася:

Не, не мне ж самому пісаць пра ўсё тое добрае, што ў яго пісьмах сказана пра мяне, маю працу!

Дадам: а што ж рабіць, калі тое добрае здаецца табе не проста справядлівым, але ж, магчыма, і патрэбным для кагосьці іншага, хто прачытае гэта са шчырасцю, блізкай да тое, з якою ты прапануеш наша ягонай увазе.

Тут будзе пісьмо Уладзіміра Андрэевіча ад 2 студзеня 1966 года, у адказ на маё, якое ў яго багатым





маладзіцы перайсці ў асабістых адносінах ад ролі той, каго апякаюць, да ролі апякункі. Рыма Маркаўна захавала адчуванне вучаніцы ў адносінах да Уладзіміра Жылкі, а вучаніцам дазволена даймаць настаўнікаў. «Ён валодаў педагагічным талентам, – прыгадвае Рыма Маркаўна, яго ўрокі былі заўсёды цікавымі, прадуманымі і эмацыянальна насычанымі. Гэта была агульная думка студэнтаў. Уладзімір Адамавіч здабыў імя чалавека мэтанакіраванага, карэктнага, уважлівага да людзей, высока эрудзіраванага. На агульным фоне ён адразу вылучаўся яркай індывідуальнасцю»[5]. Да гэтага хочацца дадаць толькі адно: ва Уржуме ён, хворы і бездапаможны, страціў здольнасць імпанаваць жанчыне, якая прывыкла перш за ўсё цаніць у мужчыне сілу, спраўнасць і тэмперамент.

Марыя Вячорка, якая глядзела на хворага Жылку збоку, захавала пра яго іншы, але таксама паказальны ўспамін. «Калі я думаю пра паэта, якім ён быў у той час, у маёй памяці ўстае вобраз чалавека вышэй сярэдняга росту, хударлявага, на прыгожым адухатвораным твары вылучаюцца незвычайна ясныя блакітныя-блакітныя вочы. Цёмныя валасы, цёмныя густыя бровы. У белай летняй кашулі пад гальштукам, ён, нягледзячы на худзізну, быў стройным і такім запамятаўся мне... І амаль заўжды ўсмешлівы, заўжды з жартам, расказвае нешта займальнае... Яго гумар, дасціпнасць я памятаю добра. Быў прыветлівы, любіў усё прыгожае, памятаю гаварыў: «На прыгожым жаночым твары вока адпачывае»

Ганна Сяміглазава, тады настаўніца, у доме якой каля года кватаравалі яшчэ адзінокімі Жылка і Сасіновіч, таксама светла ўспамінае паэта. У пісьме да Барыса Адамавіча Жылкі яна піша: «Потым да вашага брата прыехала жонка з Мінска, Рыма Маркаўна, яна працавала тут жа, дзе Ваш брат, у медвучылішчы: ён –выкладчыкам літаратуры, а яна – па музыцы. Ваш брат вельмі часта ўспамінаў сваю маленькую дачку Атачку і да самай смерці хаваў яе цацку – бразготку і локан яе валасоў, перавязаны стужачкай Мая мама ўладкавала пазней Вашага брата на кватэру да сваёй знаёмай бабулькі, да Ганны Андрэеўны Рукавішнікавай. Там ён і памёр. Я помню яго пахаванне. Мы былі разам з мамай. У мяне на ўсё жыццё застаўся самы добры і цудоўны ўспамін аб Уладзіміру Адамавічу»[6].

У.А. Калеснік у снежні 1949 года друкуе ў «Настаўніцкай газеце» свой першы артыкул.

Засяроджваючы ўвагу на станаўленні творчай індывідуальнасці У.А. Калесніка, трэба ўлічваць многія фактары яго жыццяпісу. Як ён згадвае сам у артыкуле «Сваім следам» («Пра час і пра сябе» Мн., 1966), вялікае ўздзеянне на яго ў Навагрудскай гімназіі аказаў прафесар Крук, выкладчык малюнка і ручной працы. Ён развіваў здольнасці надоранага талентам юнака маляваць. Настаўнік прыносіў свайму вучню кнігі, часопісы, малюнкі, каб той засвойваў прынцыпы адлюстравання хараства ў прыкладным мастацтве. «Асабліва любіў я Хэлмоньскага, Вычулкоўскага, Фалата, Рушчыца, з французаў – Клода Манэ, – успамінаў пазней Уладзімір Андрэевіч. – Фалат мне падабаўся, бо маляваў беларускія лясы, зімовыя пейзажы з лясамі, паляванні – усё вельмі свойскае і дарагое з дзяцінства. У Рушчыца была таксама беларуская прырода, але не такая, як у Фалата, дзівосная, рамантычная, амаль казачная... Сам я маляваў акварэлі то рэалістычныя з натуры, то стылізаваныя ў кубісцкім духу». Аднаго разу гімназісту прыйшла нават думка стаць крытыкам жывапісу і пісаць так, як пісалі тады вядомыя спецыялісты ў гэтай справе Віткевіч і Герсан-Дамброўская.

У гімназіі У.А. Калеснік упершыню перажыў захапленне творамі родных яму беларускіх пісьменнікаў. Ва ўжо згаданым аўтабіяграфічным артыкуле ён піша: «Пад уражаннем «Палескіх апо-

архіве пакуль што не знойдзена. Там я пісаў яму, што рыхтую прапанаваны мне выдавецтвам чатырохтомны збор твораў, дзяліўся з сябрам гэтым клопатам.

«...Тваё пісьмо мяне ўзрушыла і ўсхвалявала той глыбінёй і святасцю адносін да літаратурнай справы, якая ў наш час, на жаль, не ўсюды і не заўсёды сустракаецца. Вульгарызатары вельмі шмат нарабілі зла, унушыўшы пасрэдным рамеснікам погляд, быццам літаратура і ёсць рамяство, сутнасць якога заключаецца ў лоўкасці пераказу агульнавядомых палажэнняў сацыялогіі на мову наглядных вобразаў. Гэты погляд і зручны, і выгадны для людзей, якія робяць творы «без божества, без вдохновенья», бо ён аблягчае ім занятак і заработак, а галоўнае – ураўнівае пасрэднасць з талентам, рамяство з творчасцю. І ніколі гэтая катэгорыя літаратараў не адступіцца ад мілых іхняму сэрцу прынцыпаў. Барацьба за сапраўднае мастацтва заўсёды была і будзе барацьбой супраць рамяства, якое заўжды гатова на кан'юнктурныя «подзвігі». Гэта горкая праўда, але ад яе няма куды дзецца. Такое жыццё. Мне думаецца, у гэтай сітуацыі трэба асцерагацца лішняй уражлівасці, хваравітасці, а старацца весці барацьбу сістэматычна і з такім напружаннем сіл душы, якога вымагаюць абставіны, каб не растрачваць пачуццяў па-дурному. Варта ўлічваць і тую акалічнасць, што такія Карпавы маюць моцныя нервы і самыя сур'ёзныя адносіны да іх тактыкі – гэта іронія. Іронія, на мой погляд, якраз найлепшая зброя, бо яна наносіць удар праціўніку і зберагае агонь душы, псіхічную энергію, якая ў адрозненне ад энергіі фізічнай затрачваецца беззваротна.

Я разумею, што Ты перажываеш вельмі адказны этап жыцця і творчасці, падводзячы вынікі здабыткаў напярэдадні пяцідзесяцігоддзя. Шчыра дзякую Табе за да-

**весцяў» я рашыў змяніць свае планы на будучае. Не буду крытыкам мастацтва, стану вясковым настаўнікам...»**

**Калі У.А. Калеснік вучыўся на трэцім курсе педвучылішча, пачалася вайна. Яна ўнесла свае карэктывы ў здзяйсненне задум юнака.**

**У ваенны час пакаленне У.А. Калесніка фактычна было пазбаўлена магчымасцяў развіваць свой мастацкі талент, тым больш у сферах літаратуразнаўча-крытычнай дзейнасці.**

**Не ва ўсім спрыяльнымі для творчага развіцця былі гады навучання У.А. Калесніка ў сталічным педагагічным інстытуце і аспірантуры. Менавіта на той час прыпадае некалькі палітычных кампаній, якія стрымлівалі натуральны працэс літаратурнага развіцця, скіроўвалі літаратуразнаўства і крытыку на дагматычныя пазіцыі. Гэта ў той час выйшлі пастановы ЦК ВКП(б) «Аб часопісах «Звезда» і «Ленинград», «Аб рэпертуары драматычных тэатраў і мерах па яго паляпшэнню», «Аб кінафільме «Большая жизнь». У іх вызначаўся адзіна «правільны» кірунак развіцця мастацтва: паказ савецкага грамадства ў яго няўхільным руху ўперад. Крытыка таго часу стала рупарам многіх дагматычных ідэй, пакладзеных у аснову названых партыйных пастаноў.**

**На тыя гады прыпадае шырока разгорнутая ў краіне барацьба супраць касмапалітызму, калі вялася барацьба «супроць пакланення гнілой буржуазнай культуры». Суровы адпор «бязродным касмапалітам» гучаў са старонак усіх літаратурных выданняў**

Сардэчна адгукнуўся на пісьмо дачкі паэта Наталлі Уладзіміраўны Лазаравай Мікалай Аляксандравіч Шарсценнікаў, прафесар медыцынскага інстытута ў Уфе: «Ваш бацька пасля прыезду ў Уржум жыў са сваёю жонкай у нашых сяброў Дзеранковых І.С. і Е.А., дзе і адбылося наша знаёмства. У тым жа годзе мне выпала чэсць арганізаваць ва Уржуме медыцынскі тэхнікум (часова быў першым дырэктарам). Я запрасіў Уладзіміра Адамавіча на працу на пасаду загадчыка гаспадаркай і для выкладання літаратуры (было не шмат гадзін). Так ён запаўняў час і меў пэўную матэрыяльную аснову, каб жыць. Мой пераемнік К.К. Елкіна дапускала часам (у сілу свайго характару) нетактоўныя выхадкі ў адносінах да У.А., але ён умеў па-філасофску і аптымістычна нейтралізаваць іх.

Здароўе яго было слабае, часта тэмпературыў... Да яго вельмі ўважліва ставіліся ўржумскія ўрачы і асабліва доктар Вільгельм Іосіфавіч Гольдблат, усе стараліся дапамагчы ў яго хваробе. Калі стан пагоршыўся, ён быў пакінуты жонкай і застаўся адзін»[7].

Перасылаючы мне гэтае пісьмо, Наталля Уладзіміраўна Лазарава напісала: «Гэта ўсё яшчэ раз пацвярджае тое, пра што мне гаварыла бабуля. Я вельмі яе любіла, верыла кожнаму яе слову, а вось сказанаму пра маці не хацела верыць. . Часам становіцца так смутна. І заўсёды пад такі настрой набягае думка-пытанне: «Чаму менавіта на маю долю гэта выпала?»[8].

Але вернемся да ўспамінаў М.А. Шарсценнікава: «Я і доктар Гольдблат былі неадлучнымі ў Уладзіміра Адамавіча – не пакідалі ні на адзін дзень без догляду Да яго вельмі часта заходзілі сябры – І.А. Сасіновіч з жонкаю М М. Вячоркай, мая жонка з выкладчыцай М.М Зубаравай і іншыя.

Сам Уладзімір Адамавіч валодаў агромнай сілай волі і ўсяляк самаабслугоўваў сябе, хоць знаходзіўся на пасцельным рэжыме. Набліжаліся апошнія трагічныя дні, калі ўсялякая надзея прапала. Першага сакавіка раніцай ён папрасіў мяне напісаць ліст, які да гэтага часу не выходзіць у мяне з памяці (здаецца, быў адрасаваны Барысу Адамавічу)»[9].

На захаваным у архіве М.А. Шарсценнікава графіку тэмпературы застаўся накід прадыктаванага ліста. Тэмпературная крывая «скакала» ўжо ў кастрычніку, а з 23 – 26 лютага

**вер і жаданне параіцца пры складанні чатырохтомніка выбраных твораў. Мне здаецца, Ты паступіў правільна, падбіраючы творы па прынцыпу найбольшай шчырасці і эмацыянальнасці нагрэву. Адчуваецца еднасць стылю ў шырокім сэнсе гэтага слова – стылю адносін аўтара да жыцця і адбору пэўнага тыпу чалавечых характараў, адлюстраваных у творах...**

**Адносна «Забалоцця» можна згадзіцца, што там ёсць пэўны налёт ілюстрацыйнасці і тэндэнцыя адбору блікаў, а не ценяў, што прывяло да паслаблення канфліктнасці, а віны тут Тваёй няма, бо сам дух жыцця таго перыяду праяўляўся ў затушоўванні канфліктаў. Канфлікты заганяліся кудысьці ўглыбіню, г.зн., што самыя людзі баяліся ў тую пару быць шчырымі, асабліва ў афіцыйнай абстаноўцы. З другога боку, Ты браў жыццёвы матэрыял у раёне не зусім, можа, тыповым – сілы, якія маглі б абвастрыць сацыяльны канфлікт, былі зломаны ў нас у час партызанскага руху, і гэта абумовіла адносна лёгкі пераход да калектывізацыі. Так што для раёнаў, дзе ідэі савецкай улады мелі багатыя традыцыі, Твая рэч застаецца праўдзівым адлюстраваннем жыцця. Вобразы, створаныя ў гэтай аповесці, пластычныя і запамінальныя. Па мастацкіх і ідэйных вартасцях яе можна было б уключаць. Толькі, можа, сапраўды распаўсюджанасць папярэдніх выданняў гэтай рэчы створыць такое ўражанне ў пакупніка, што гэта свайго роду «дагрузка».**

**Я хацеў бы параіць Табе ўсё ж заказаць прадмову ці ў Сашы, ці ў Каваленкі, бо Твае аўтабіяграфічныя нататкі не могуць замяніць прадмовы. Ты спасылаешся там на манаграфіі і г.д., але ж, наколькі я ведаю Тваю думку пра гэтыя працы, яны не раскрываюць у поўную меру Твайго пісьменніцкага аблічча. А па-другое, не кожны чытач будзе мець магчымасць і ахвоту чытаць манаграфіі. Яму захочацца проста**





пачаўся дэпрэсіўны спад і ўрачы спынілі вядзенне графіка. Над снежаньскай амплітудай рукою М.А. Шарсценнікава запісаны тэкст ліста. «Хворы цяжка, як ніколі. Пытанне аб смерці не сходзіць з парадку дня. Пацею, часам трачу прытомнасць. Знаходжуся на ўтрыманні страхкасы (140 рублёў). Адчуваю сур`ёзныя эканамічныя цяжкасці. Звярніся да Сяргея, Кастуся, да Петрыка, каб неадкладна перавялі ў сярэдзіне сакавіка па 100 рублёў. Калі вернемся здаровы, вярну ім доўг»[10]

Вярнуцца не давялося, як не давялося скарыстацца з дазволу на выезд у Крым, які паэт атрымаў у лютым. Уржумскі гарсавет перадаў цераз Сасіновіча, што выдаткі на пераезд ён возьме на сябе, але ўжо было позна, хворы не меў сілы ехаць. Апошняя надзея прапала. Грошы ад родзічаў і пасылка з рыбіным тлушчам, на які, па словах М.М Вячоркі, таксама ўскладаў надзею хворы, дайшла з дому пасля яго смерці. Марыя Міхайлаўна прыгадвае: «Мне ясна запомніўся дзень смерці Уладзіміра Адамавіча. Мы сядзелі каля яго. Былі таксама настаўнікі, яго калегі, блізкія знаёмыя. Слёзы душылі мяне. На сценцы вісеў дзіцячы малюнак: коцік з рухомымі вочкамі. На гэты малюнак ён любіў глядзець і збіраўся паслаць яго сваёй дачушцы. Памятаю, я не магла ўсё глядзець на гэты малюнак: слёзы набягалі на вочы і я не вытрымлівала, выбягала. А ён ужо быў у вобмараку Потым Уладзімір Адамавіч раптам адкрыў вочы, падняў галаву, абвёў усіх вачыма, спыніў позірк на мне, лёгка ўсміхнуўся і, апусціўшы галаву на падушку, зноў закрыў вочы. Гэты позірк я памятаю як цяпер. . Позірк яго быў ясны, а вочы сінія-сінія . Больш свядомасць да яго не вярнулася»[11]

Мікалай Аляксандравіч Шарсценнікаў запамятаў і самое пахаванне. «Мы пахавалі яго, – піша ён дачцэ паэта, – пры вялікай колькасці людзей, што сышліся праводзіць яго. Я і Сасіновіч вынеслі яго з кватэры на вуліцу (з другога паверха) і на руках яго неслі сябры да самай магілы. Там быў праведзены жалобны мітынг (выступалі я і Сасіновіч)[12]

Судовая справа Уладзіміра Адамавіча Жылкі перагледжана Вярхоўным Судом БССР і ажно 19 верасня 1960 г пастанова Калегіі ДПУ адменена, а справа спынена за недаказанасцю абвінавачання. Справядлівасць адноўлена, і для юрыстаў страцілі цікавасць акалічнасці і матэрыялы той

**Гады вучобы У.А. Калесніка ў аспірантуры прыпадаюць на той час, калі ў савецкай літаратуры панавала т.зв. «тэорыя бесканфліктнасці», згодна якой пісьменнік пазбаўляўся права паказваць у сваіх творах адмоўныя бакі савецкага жыцця.**

**Безумоўна, што пералічаныя фактары не змаглі не паўплываць хоць у нейкай ступені на У.А. Калесніка як пачынаючага крытыка і літаратуразнаўца. Нічым іншым не растлумачыш таго, што ўжо згаданая першая яго публікацыя ў «Настаўніцкай газеце» мела сугучную таму часу назву «Гэта нам дадзена родным Сталіным».**

**Аднак жыццёвы вопыт, добры мастацкі густ, эрудыцыя абумовілі тое, што з самага пачатку сваёй творчай дзейнасці У.А. Калеснік не аказаўся ў рэчышчы дагматычных схем часу. Нярэдка перамагаючы сябе, ён рашуча ад іх пазбаўляўся, імкнуўся толькі да праўды, якой яна яму бачылася асабіста.**

**Для пацвярджэння гэтага нагадаем такі факт. Першая дысертацыйная тэма У.А. Калесніка была звязана з літаратурай Заходняй Беларусі. «Каб вывучыць фальклор рэвалюцыйнага руху, аб`ездзіў на веласіпедзе многія раёны, сустракаўся з былымі падпольшчыкамі. Падарожнічалі разам з Янкам Брылём, які збіраў тады матэрыял для рамана «Граніт». Разам працавалі ў архівах Вільні, Гродна, Слоніма і іншых гарадоў У выніку я напісаў старонак трыста і хутчэй адчуў, чым пераканаўся (на вучоным савеце працу адобрылі), што мая пісаніна нічога не варта, – згадвае У.А. Калеснік. – На Кампартыі Заходняй Беларусі тады ляжаў цень. У архівах я не знаходзіў**

**даведацца, якое месца займаеш Ты як пісьменнік у сучаснай савецкай літаратуры, і параўнаць свае ўражанні і ацэнкі ад прачытаных твораў з ацэнкамі крытыка-прафесіянала. Так што ўступны артыкул абавязкова патрэбны, ён дапаможа фарміраванню больш дакладнага і граматнага погляду на Тваю творчасць у чытача і будзе спрыяць агульнаму росту чытальніцкай культуры...»**

**Уздыхнём, падумаўшы: быў жа час, не ваенны, а мірны, калі на адным тыдні, адпісаўшы сябру, можна было атрымаць і ягоны адказ.**

**Гэта я пра другое пісьмо, ад 8 студзеня 1966-га, вакол той самай справы.**

**«...Я рады, што Ты згадзіўся са мной наконт прадмовы для чатырохтомніка і «польщен», што Твой выбар паў на мяне. З прыемнасцю я б заняўся гэтай працай, адлажыўшы на потым Таўлая, але думаецца мне, што я не зраблю таго, што трэба зрабіць і што можа зрабіць Віктар Каваленка. Тут патрэбна, на мой погляд, пэўная дыстанцыя паміж аўтарам і крытыкам, якое мне не хапае ў сілу нашай дружбы. Я буду пісаць пра Тваю творчасць памімаволі залішне інтымна, асабіста, уплятаючы розныя дэталькі і ўражанні, якія мне здаюцца дарагімі з прычыны нашай дружбы, а чытачу яны не абавязковыя ў даным выпадку і могуць паказацца не да месца. Так што з канчатковым рашэннем падумай.**

**Я пішу зараз, выбіраючы хвіліны (калі набрыдзе), такое эсэ–не эсэ на тэму «Як і чаму пісаўся раман «Птушкі і гнёзды». Раблю свабодныя экскурсіі і адступленні, накрэсліў папутна партрэцік Паўла Жалезняковіча, як мецэната «Жывога і гнілі», –адным словам, такое маляванне ўпрытык. Не ведаю, што з гэтага выйдзе, але можа быць сёе-тое атрымаецца. Закрану і пытанне: матэрыял жыцця – змест твора, чыркану пра прататыпы.**

**пацвярджэння тых абвінавачванняў, якія лічыліся аксіёмамі. Браць іх на веру не дазваляла гордасць. Ды і не лезлі праз горла папрокі ў адрас крыштальна чыстых людзей, з якімі я пазнаёміўся ў часе вандровак і архіўных пошукаў. Рашыў змяніць тэму і пачаў пісаць пра даверасвеўскую творчасць Максіма Танка».**

**Вывучэнне творчасці М.Танка стала добрай школай для маладога вучонага. У час яе даследавання выпрацоўваліся навуковыя прынцыпы падыходу да гістарычных з'яў і мастацкага матэрыялу Пазней У.А. Калеснік прызнаваўся, што пішучы кнігу «Паэзія змагання», ён «сам пакутліва змагаўся супраць спакусліва лёгкай схаластыкі і схематызму Не заўсёды перамагаў». Сказанае, безумоўна, праўда. Але ў ім выявілася сціпласць патрабавальнага да сябе аўтара. Кніга «Паэзія змагання» У.А. Калесніка і сёння ўспрымаецца як сур'ёзнае навуковае даследаванне, асабліва на фоне выданняў другой палавіны 50-х – пачатку 60-х гадоў. Яна стаіць у адным радзе з такімі даследаваннямі таго часу, як «Беларуская савецкая проза» Ю. Пшыркова, «Паэзія праўды» Р Бярозкіна, «Сіла слова» Р. Шкрабы, «Беларуская байка» Я. Казекі.**

**На першую кнігу У.А. Калесніка адгукнуліся часопісы «Вопросы литературы», «Маладосць», газета «Літаратура і мастацтва» У асобе яе аўтара ў беларускае літаратуразнаўства ішоў удумлівы даследчык заходнебеларускай літаратуры.**

**Гаворачы пра станаўленне творчай постаці У.А. Калесніка, нельга не адзначыць вялікага ўплыву на яго Я. Брыля. «Прыходам у**

справы, але нам, літаратуразнаўцам, застаўся яшчэ адзін твор – паэма «Тэстамент».

У свой час аўтарства гэтага твора патрэбна было даказваць, бо ён з'явіўся у адной з акупацыйных беларускіх газет Перадрук яго быў забаронены, разгляд непажаданы. Сёння мы маем успаміны Яўхіма Кіпеля, які піша, што тыдні праз два пасля смерці У.Жылкі ён атрымаў ад Сасіновіча ліст цераз пасыльнога. У канверце ляжаў рукапіс «Тэстамент або Духоўніца, напісаная Уладзімірам з Адама і Таццяны сынам Жылкавым»

Раней я шукаў доказы Жылкавага аўтарства, дзе толькі мог Даведаўшыся, што, пішучы паэму, Жылка дасылаў яе ўрыўкі з Уржума сябрам па няволі. Доктар гістарычных навук, археограф Мікалай Мікалаевіч Улашчык прыгадвае: «Са жніўня 1931 г па люты 1933 г я жыў у адлегласці 60 кіламетраў ад Жылкі (гор. Налінск, на левым беразе р. Вяткі) і часта перапісваўся з ім, а Жылка высылаў мне некаторыя са сваіх твораў, сярод іх «Тэстамент». Усе прысланыя ім рукапісы ў свой час загінулі[13] Пісана гэта было на лінаванай паперы, на перагнутых папалам аркушыках, апрача «Тэстаменту» Жылка прысылаў мне пераклады з чэшскай і (здаецца) нарвежскай мовы. З гэтага памятаю толькі верш пра трох таварышаў, якія паміралі адзін за другім, і той, хто застаўся жывы, шануючы памяць памёршых, больш ні з кім не сябраваў»[14]

Атрымаўшы гэтае пісьмо, я паслаў Мікалаю Мікалаевічу тэкст паэмы і папрасіў пракаменціраваць, прыгадваючы Жылкаў рукапіс, які ён у свой час атрымліваў ад аўтара. Шаноўны адрасат адказаў· «Той «Тэстамент», які прысылаў мне Жылка, быў значна меншы ад таго, што Вы маеце. Той экземпляр, што быў у мяне, напэўна, заняў бы не больш як тры машынапісныя старонкі»[15] Калі ўлічыць, што перапіска паміж У. Жылкам і М Улашчыкам прадаўжалася да лютага 1933 года, дык трэба думаць, што або аўтар не ўсё напісанае дасылаў, або паспеў шмат дапісаць за апошні месяц жыцця. Апошняе малаверагодна з увагі на стан здароўя паэта. Тэксту месцамі не хапае мастацкай закончанасці, пасля многіх строфаў у ім стаяць шматкроп`і, а з ключавой засталіся толькі два радкі. Публікацыя ў акупацыйнай газеце суправаджалася тэндэнцыйным антысавецкім

**Другая мая патаемная работа пра Тваё і наша – гэта кароценькія эцюдзікі, якія маюцца быць тэкстам да альбома «Сустрэчы з пісьменнікамі цераз аб`ектыў», або «Здымкі без папярэджання», або «Фотасустрэчы з майстрамі слова», або... – назвы канчатковай не прыдумаў. Накрэмзаў першы эцюдзік пра наша гасцяванне ў М. Лынькова, сустрэнемся – пакажу.**

**Улічыўшы ўсё гэта, падумай, ці варта мне, настроенаму на легкадумны лад, даручаць такую сур'ёзную працу, як прадмова да этапнага выдання. Чакаю Твайго рашэння».**

**Я ўсё-такі настояў на сваёй просьбе, і той збор твораў выйшаў з прадмовай Уладзіміра Калесніка.**

**Як, дарэчы, не згадзіўся з тым, што аповесць «У Забалоцці днее» можна ўключыць у чатырохтомнік.**

**Трэба, відаць, не ў заўвагах, а тут сказаць пра Паўла Жалезняковіча, нашага старэйшага сябра з партызанскіх дзён. Пра яго мы ўдзячна пісалі з Валодзем абодва, – ён у «Блакадзе», апублікаванай летась часопісам «Беларусь», а я, за трэцім разам, у эсэ «Заказ і просьба», змешчаным у зборніку «Пішу як жыву». У пісьме сваім Валодзя згадвае той факт, што мая аповесць «Жывое і гніль», якая пазней увайшла ў «Птушкі і гнёзды», у партызанскім лагеры, дзякуючы, у першую чаргу, Жалезняковічу, была перадрукавана штабной машыністкай і самалётам, з аказіяй, паслана з Налібоцкай пушчы ў Маскву, Максіму Танку.**

**А што да фотаальбома пра сустрэчы з пісьменнікамі – задума гэтая, на жаль, не здзейснілася. Хочацца быць упэўненым – пакуль што. Мноства таленавітых фотаздымкаў у Валодзевым архіве захавалася і чакае свайго часу.**

**Калі ж яшчэ пра яго шчырую сяброўскую зацікаўленасць у маіх поспехах, дык варта спыніцца на двух рэчах, так сказаць, этапнага характару – на маіх «Птушках і гнёз-**





каментарыем, што дае падставу лічыць выкінутымі непрымальныя для публікатараў мясціны тэксту. Параўнальны аналіз мовы і стылю пацвярджае Жылкава аўтарства тэксту

Пры ўсім гэтым можна цалкам пэўна гаварыць пра тэматычную выразнасць твора і ацэньваць яго як паэму жыцця, як твор аўтабіяграфічны і этапны. Гэта паэма пра паяднанне беларускага паэта, што «нёс і жарсць і дух асілка», з новым жыццём, якім горкім і жорсткім яно для яго ні аказалася.

Як успамінае Барыс Адамавіч, яго брат Уладзімір з падкрэсленаю добразычлівасцю ставіўся да калгасных эксперыментаў у вёсцы. У гутарцы са мною Барыс Адамавіч прыгадаў, як брат, даведаўшыся, што ён ціхачом прадаў добрага каня і купіў блажэйшага, каб з выгадай здаць гэтага ў калгас, сарамаціў яго і абураўся Ён разумеў супярэчлівасць такога павароту ў лёсе сялянства, якім была калектывізацыя, але стаяў за сацыялістычнае абнаўленне вёскі і вызваленне сялян ад забабонаў Добрае ўражанне зрабілі на яго назіранні ў вёсцы Лісічына за працай і настроямі калгаснікаў-пачаткоўцаў, але галоўную ролю іграла становішча госця-імігранта, які хацеў быць ветлівым у краіне, якая яго прыняла спачатку дабром.

«Тэстамент» задуманы як філасофская паэма-запавет Творы такога тыпу вядомы ўсходнеславянскай літаратуры з найдаўнейшых часоў («Поучение Владимира Мономаха внукам»), «Дыярыуш» Афанасія Філіповіча). У новай беларускай і ўкраінскай літаратурах жанр запавету звязаны з нацыянальным адраджэннем – «Запавіт» Т. Шаўчэнкі, «Лісты з-пад шыбеніцы» К. Каліноўскага. У сучаснай Жылку заходнебеларускай літаратуры такімі творамі былі «Адвечным шляхам» І. Канчэўскага, «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі» К. Сваяка. Праўда, змест апошняга твора не мог быць вядомы Жылку (апублікаваны толькі ў сярэдзіне 30-х гг. у Вільні).

Па характару творчага выяўлення паэма У Жылкі адносіцца да аўтабіяграфічных твораў філасофска-медытацыйнага складу. У ёй разгортваецца некалькі тэм, якія па задуме ўтвараюць пэўную музычную і вобразна-сэнсавую сістэму.

У цэнтры паэмы лірычны герой, які спалучае ў сваёй асобе талент мастака і «жарсць асілка», г.зн. увасабляе тып паэта, які Купала, Колас і Багдановіч паднялі да ідэалу Уладзімір Жылка ў творах віленскага і пражскага перыяду

**літаратуру я абавязан перш за ўсё Янку Брылю, – палічыў неабходным адзначыць Уладзімір Андрэевіч ў аўтабіяграфічным нарысе. – Мы пазнаёміліся яшчэ ў партызанах. У Мінску заходзіў да яго на кватэру, там сустракаў многіх пісьменнікаў. Не трэба было вялікай назіральнасці, каб заўважыць, што ў прыватных гутарках і асабістым жыцці пісьменнікі часта больш цікавыя, чым у творах. Узнікла спакуса заняцца гэтай з`явай. Захацелася стаць прапагандыстам не толькі твораў, але і складаных жыццёвых і мастацкіх біяграфій»**

**Гэтае прызнанне Уладзіміра Андрэевіча дае магчымасць зразумець задуму яго другой кнігі «Час і песні». Яна ўяўляе сабою зборнік літаратурных нарысаў і партрэтаў. Кніга напісана не ў такой змушанай форме, як першая. Тая была заснавана на матэрыяле дысертацыі, дзе ёсць свае кананічныя для такіх прац патрабаванні. У нарысах кнігі «Час і песні» больш аўтарскай асабовасці. Тут выразна выявіліся парады Я. Брыля, творча ўспрынятыя і засвоеныя маладым даследчыкам. «Янка Брыль чытаў усе мае аспіранцкія рэфераты, далікатна рабіў заўвагі па сэнсу і стылю. Слухаючы яго, я пачынаў дабівацца чалавечай натуральнасці выказвання, – прызнаваўся пазней Уладзімір Андрэевіч. – Я ўцяміў, што без сувязі з чалавекам слова пусцее і блякне. Але, аказалася, мала знаць, трэба ўмець, ну і мець смеласць гаварыць ад сябе Пісаць мудрагеліста ад імя нейкай абстрактнай асобы было лягчэй. Брыль суцяшаў: «Нічога, усе мы, сядаючы за рабочы стол, любім нацягнуць на галаву вучоны каўпак».**

**дах» і ягонай манаграфіі пра маё жыццё і творчасць. Да манаграфіі мы вернемся крыху пазней, а пра «кнігу адной маладосці» скажу, што тузаніны ў нас з Валодзем вакол яе было шмат, пакуль не дайшло да канчатковага варыянта гэтай рэчы ў мяне, а ў майго сябра-крытыка да ягоных ацэнак у артыкулах і ў манаграфіі. Тут не месца для апублікавання вялікіх дыскусійных пісьмаў, і я хачу даць вытрымку толькі з аднаго пісьма, датаванага канцом снежня 1962 года.**

**«...Сапраўды, мы нібыта развучыліся пісаць (дакладней сказаць, я развучыўся, і гэта будзе правільна ва ўсіх адносінах). Уласна кажучы, не набралася яшчэ такіх балючых пытанняў, каб карцела сесці за стол ды шкрэбаць гадзіну-другую, адводзячы душу. Мне проста хацелася пачуць Твой голас ды сказаць: жадаю поспехаў, рад, што Табе пішацца!..**

**Па тону Твайго пісьма бачу, што ў Цябе алімпійскі настрой і алімпійская форма. Вельмі прыемна гэта мне, хоць і пабойваюся, каб не лішне дабрадушны тон запанаваў у мелодыі рамана. Мне хацелася б пачуць у ім адценне іроніі (прадмету духоўнай сталасці літаратуры), накшталт тое, якая ўлоўліваецца, скажам, у рамане Джузепе дзі Лампедуза «Леапард». Нядаўна я прачытаў гэтую кнігу і хаджу пад яе глыбокім уражаннем. Такой тонкай праніклівасці ў жыццё людзей я не сустракаў у літаратуры. Тым больш выглядае ўсё гэта фенаменальна, што аўтар яе, нейкі італьянскі арыстакрат, напісаў адну адзіную кнігу ў канцы жыцця. Хочацца пачуць Тваю думку пра гэтую кнігу.**

**Думаючы пра Твой раман, хацеў бы пажадаць, акрамя пэўнай дозы халодных тонаў, яшчэ і суровай прастаты талстоўскага тыпу, якая, на мой погляд, дужа свежа прагучала ў аповесці Салжаніцына, адкрываючы самыя глыбокія закаморкі славянскай земляробскай летуценнай душы. На мяне яна**

**Памятаючы гэта, аўтар кнігі «Час і песні» ставіў мэтанакіраваную задачу: цікавы матэрыял па гісторыі заходнебеларускай літаратуры не засушыць нудным акадэмізмам і перапевамі. З другога боку, выкарыстоўваючы вядучы ў той час сацыялагічны метад даследавання, У.А. Калеснік шырока карыстаўся прыёмамі біяграфічнага метаду Яму ўдалося паказаць, што творчасць такіх пісьменнікаў, як М. Васілёк, А. Салагуб, М. Засім, А. Гаўрылюк, – гэта частка іх існасці, жыцця. Па тым часе кніга «Час і песні» вызначалася выключнай увагай аўтара да гістарычных фактаў. Яна ажыўляла мёртвыя сховішчы архіваў. У гэтым плане добрую паслугу вучонаму аказваў вопыт прадстаўнікоў культурна-гістарычнай школы. Безумоўна, прызнацца ў гэтым аўтар кнігі «Час і песні» не мог, бо ўсе акадэмічныя навуковыя школы мінулага адмаўляліся. Адзіным навуковым метадам і літаратуры, і крытыкі прызнаваўся толькі сацыялістычны рэалізм.**

**Навуковы метад даследавання мастацкіх з'яў У.А. Калесніка знайшоў сваё развіццё у кнігах «Зорны спеў» і «Лёсам пазнанае». Тут іх аўтар выявіў сябе майстрам эсэ. Пра М. Танка ён напісаў дзве кнігі. Але колькі цікавага змог сказаць яшчэ пра паэта ў літаратурным нарысе «Будзённы дзень з Максімам Танкам». У эсэ «Здымак у жыццё» У.А. Калеснік раскрывае багаты ўнутраны свет Я Брыля, асаблівасці яго мастакоўскага светабачання. Глыбокае навуковае асэнсаванне творчасці празаіка ўдала спалучаецца з асабістымі ўражаннямі ад сустрэч з пісьменнікам У нашых літара-**

распрацаваў гэты вобраз у адпаведнасці з умовамі і густамі ўдзельнікаў вызваленчага руху, да якога належаў як публіцыст, работнік друку і культурны дзеяч («Уяўленне», «Віхор», «Да Персі Шэлі», «Вільня» і інш.).

Роздум над лёсам народа і над прызваннем песняра – арганічна ўласцівы паэме як жанру, які паднімае звычайна важкія гістарычныя праблемы. Жанравую паўнагучнасць усходнебеларускай паэмы 30-х гадоў падточвалі і аслаблялі культ факта, празаічная рэпартажнасць, газетная інфармацыйнасць, да чаго заахвочвалі і прымушалі ў парадку праўдзення антырамантычнай і антылірычнай кампаніі завадатары і робаты-пагромшчыкі з БелАППа, пралетары дабіваліся гегемоніі над іншымі літаратурнымі групоўкамі, асабліва над узвышэнцамі, якія бачылі перспектыву паэзіі ў апладненні рамантычнай палётнасці эстэтычнаю культурай сусветнай класікі для таго, каб надаць беларускай рэальнасці значэнне агульначалавечае, не губляючы нацыянальнай самабытнасці.

Навязаная рапаўскімі дагматыкамі арыентацыя на голы фактаграфізм, які ілюстрацыйным падабенствам вобраза-факта прыкрываў нястачу праўды мастацкай, ацэначнай, выключала магчымасць падыходу з пазіцыі чалавека, яго духоўных патрэб, у тым ліку маральна-эстэтычных. Рапаўцы бралі гатовыя ацэнкі з блакнотаў агітатара і далей вульгарнай сацыялагізацыі грамадскіх з'яў не ішлі.

Пра дырэктыўныя патрабаванні крытыкаў пісаць паэтам толькі пра факты сённяшняга дня і не выходзіць за рамкі прадпісаных ідэолагамі ацэнак, з горкім гумарам скардзіўся Я. Колас у паэме «На шляхах волі».

*І страшна мне за лёс паэмы.*
*Мой крытык возьме строгі тон,*
*Ухілаў знойдзе ён мільён*
*І несучаснасць самой тэмы..*

У атмасферы такіх вульгарызацый літаратурнага жыцця «Тэстамент» У. Жылкі вырастае да ролі адзінай паўнацэннай беларускай паэмы свайго часу.

Генеральная праблема твора – апраўданне беларускага паэта (песняра і змагара), які на цяжкім шляху жыцця і

**зрабіла такое ўражанне, нібы прайшоў за адзін вечар жыццё ўсіх продкаў ад скіфскіх часоў да нашых дзён, убачыўшы ў перспектыве гісторыі народнага духу ўсе грандыёзныя эксперыменты з іх нялюдскай жорсткасцю – дарэмнымі, наіўнымі і смешнымі. Тут паказана перад судом гісторыі нават эпоха культу асобы, а само ўсходняе славянства з яго рахманай недалужнасцю і страшэннаю, нялюдскаю вынослівасцю.**

**З нецярпеннем чакаю завяршэння Тваёй вялікай працы...»**

**Дзяліцца радасцю ад прачытаных кніг – гэта ж таксама сяброўская дапамога.**

**Вось і яшчэ пісьмо, характэрнае ў гэтым сэнсе. Напісана яно з Дубултаў, у студзені 1977 года.**

**«...Убіўся быў у чытанне тэарэтычных работ найноўшага перыяду, каб падабраць адпаведны матэрыял пад фундамент для артыкула пра філасофскую лірыку, але наткнуўся на такую занудлівую мудрагельшчыну, што ледзь не ўцёк дамоў, махнуўшы рукой на такую навуку і сваё служэнне. Да чаго ж заархадокшана наша беднае літаратуразнаўства! І няўжо тытуляваныя знакамітыя літсаноўнікі не разумеюць, што такое літаратуразнаўства нічога нікому не дае, што гэта нейкае кланавае абслугоўванне вучоных вытворцаў нудоты...**

**Дзякаваць богу, што натрапіў тут на ўспаміны Пабла Нэруды «Wyznaję, że żyłem»[5] – і адвёў душу, вярнуў сабе адчуванне карыснасці літаратуразнаўчай прафесіі, калі яна скіравана на людзей, а не на артадаксальных склеротыкаў, якія бясконца адзін аднаму напамінаюць агульнавядомыя цытаты з класікаў ці адпаведных пастаноў і каменціруюць, і каменціруюць да атупення. Між іншым, наш паважаны Леанід Мікалаевіч[6] таксама ўзяўся за настаўленні на шлях ісціны сваавольных крытыкаў. Уніфікацыя літаратурных ацэнак і густаў... А**





творчасці мог дапусціць міжвольныя пралікі, «грахі», апеляцыя да чытача зычліва прызнаць грамадзянскую і чалавечую вартасць пройдзенага і створанага, паколькі цярністы шлях завяршыўся далучэннем да стваральнай гістарычнай дзейнасці народа. Пясняр прызнае вартасць здабытага і ставіць на варце «саюз рабочых і сялян».

Паэма створана як спавядальны маналог, у якім выразна вылучаюцца тры, паслядоўна разгорнутыя, тэмы: дзяцінства, прабуджэнне душы вясковага хлапчука, будучага песняра, асвячэнне духу харастом свету і абцяжаранне любоўю да Радзімы.

Тую залатую пару дзяцінства прыгадвае чалавек безнадзейна хворы, «тугой выгнання збіты ўшчэнт», і, натуральна, што ўспаміны яго дрыготкія, поўныя жывых імпульсаў, шчымлівага болю і слодычы. Бруістасць эмоцый гарманізуецца ўдзячнай радасцю быцця.

Уражанне свежасці, жывасці малюнка адцяняецца рытмагукавою арнаментаванасцю складанай васьміраднковай страфы, у якой вылучаецца знарочыста хлёсткая рыфмоўка: а в а в а в в с с. Як і ў пейзажных вершах сталай пары, прырода ў «Тэстаменце» – адно з увасабленняў харастава жыцця. Часта яна выступае як жывая істота, якая ўмее далікатна шапнуць на вушка хлопчыку таемнае слоўка:

*Яно было пра тое, як*
*Прыгож бязмерна свет дзівосны,*
*Які жыцця зайздросны смак,*
*Як босы йдзеш па сцежках росных*

*І лыне ў грудзі поўна так*
*Птушыны шчэбет шматгалосны,*
*Шырокі гоман гонкіх хвой*
*І неба сінь над галавой.*

Як бачна, тут пераважае ўласцівы Жылку музычны тып успрымання наваколля і ўвасаблення ўражанняў Хараство, як гармонія свету, як памятная нам злучанасць матэрыі і духу, уладарна кіруе паэтычным настроем Душа заварожана сімфоніяй жыцця, музыкай, якою поўніцца свет прыроды.

**туразнаўчых працах не так часта індывідуальнасць творцы разглядаецца ў працэсе самога творчага акта. Аўтару кнігі «Зорны спеў» не раз даводзілася быць сведкам таго, як зараджаліся ў Я. Брыля задумы твораў і як ён увасабляў іх у вобразы і мастацкія карціны. Разам з тым, перадаючы сваё ўспрыманне творчасці празаіка, У.А. Калеснік узнімаецца да шырокіх тэарэтычных абагульненняў. Ён адзначае, што творчасць Я. Брыля з'яўляецца мастацкім сцвярджэннем духоўнага багацця нашага народа. Яго творы нясуць у свет жывую праўду пра змаганне беларусаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, пра яго нялёгкую мірную працу.**

**У названых кнігах У. Калеснік узнімаецца на новую ступень у асэнсаванні заходнебеларускай літаратуры. Зроблена ўдалая спроба паставіць і вырашыць тэарэтычную праблему – асаблівасці рамантызму ў гэтай літаратуры. У.А. Калеснік прыводзіць пераканальныя довады, чаму рамантызм у літаратуры Заходняй Беларусі 20-х гадоў стаў своеасаблівай нормай і стылем. Ён аргументавана аспрэчвае ўстойлівы погляд на заходнебеларускую літаратуру, як на літаратуру толькі крытычнага рэалізму. Пры гэтым удакладняе і сваю канцэпцыю, якой прытрымліваўся ў раней апублікаваных працах.**

**У гісторыка-тэарэтычным плане разглядаецца праблема рамантычнай традыцыі ў беларускай паэзіі ў кнізе У.А. Калесніка «Ветразі Адысея». У цэнтры даследавання – паэзія У. Жылкі. Праз яго творчасць заходнебеларуская літаратура выходзіла на цесную сувязь з са-**

**пасля гэтага застаецца толькі ўвесці знак якасці і даручыць Дзяльцу[7] ставіць на вокладкі кніжак. Толькі і выратаваў ад гэтай мярцвячыны Пабла Нэруда. Калі Ты яшчэ яго не чытаў – дастань абавязкова і атрымаеш вялікую асалоду.**

**Вялікі мастак, арганічны мастак гаворыць пра мастацтва, жыццё, пра мастакоў і простых людзей, пра свае інтымныя справы і праблемы сучаснага складанага свету. Чытаецца кніга як паэма, нават мова так насычана вобразнасцю, метафарычнасцю, што пераносішся ў свет паэзіі, у яго паэтычны свет. Колькі трагізму ў гэтай кнізе, колькі балючых штрыхоў веку: Гарсія Лорка, Сікейрас, Гевара, Альендэ і многія іншыя трагічныя постаці, героі вызваленчай барацьбы трэцяга свету. Крыўдна толькі, што з савецкіх пісьменнікаў адзін Ілья Эрэнбург зрабіў на яго ўражанне, астатнія, у тым ліку Сіманаў, хоць і сустракаліся, і гасцявалі, – прайшлі як салдаты на маршы – міма і міма.**

**Прызванне паэзіі ён бачыць у тым, каб не даць заарганізаваць жыццё і не ператварыць чалавека ў механізм, хоць бы і добры. І яшчэ што пакарае – магутная сіла любові да роднага краю, народа. Хоць тэрмін народнасць яму і не ўласцівы, але ўласціва вышэйшая форма сувязі з народам. Апісанне выступленняў паэта перад рабочымі і на вялікіх сходах, на мітынгах кранаюць нейкай незвычайнай узнёсласцю. Нам усё гэта вельмі блізка – і лёс, і баявы дух паэзіі: як многа пераклічкі з Купалам, Танкам. Нават прыгадваюцца неаднойчы «Лісткі календара», на жаль, маштабы ў нас больш сціплыя. Народная спецыфіка – родная зацялёпістасць...»**

**Абедзве Валодзевы падказкі былі выкарыстаны. Раман «Леапард» мне давялося прачытаць толькі праз два гады, але затое пабачыў і цудоўны кінафільм па ім, – у Варшаве, бо ў нас ён, здаецца, не праходзіў. А кнігу Нэруды, зноў жа**

**вецкай літаратурай, польскай рэвалюцыйнай паэзіяй і заходнееўрапейскімі літаратурамі.**

**На высокім тэарэтычным узроўні напісана кніга У.А. Калесніка «Тварэнне легенды». У яе ўвайшло пяць адносна самастойных гісторыка-тэарэтычных артыкулаў, першы з якіх прысвечаны нацыянальнаму асветніку Ф. Скарыне, а апошні – творчасці класіка нашай літаратуры Я. Купалу. У даследаванні размова вядзецца пра пісьменнікаў розных гістарычных эпох, розных напрамкаў і творчых індывідуальнасцяў Але ёсць у ім стрыжнявая праблема, якая вызначыла назву кнігі. У ёй праведзены цікавыя назіранні, як заражджалася і як на працягу стагоддзяў развівалася нацыянальна-вызваленчая легенда беларусаў. У сваіх вывадах аўтар зыходзіць з рэальных гістарычных фактаў, творчасці Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф Багушэвіча, Я. Купалы.**

**Выключная роля ў творчай распрацоўцы нацыянальна-вызваленчай ідэі, адзначае У.А. Калеснік, належала рамантыкам. У сюжэт гэтай легенды добра кладуцца лепшыя творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага.**

**У працах У.А Калесніка пастаўлены многія важныя праблемы як гістарычнага, так і тэарэтычнага зместу. У іх вызначана і апрабавана метадалогія, якая дазваляе іх паспяхова вырашыць. У гэтым плане працы У.А. Калесніка маюць для навукоўцаў не толькі пазнавальнае, але і метадалагічнае значэнне.**

Аляксей МАЙСЕЙЧЫК

Музычна, па-жылкаўску, гучыць трэцяя пейзажная страфа. На жаль, з чацвёртай страфы, дзе тэма прыроды сыходзіцца з тэмай радзімы, захаваліся толькі два першыя радкі:

*Якія раніцы я ведаў!*
*Якія ўсходы спатыкаў!*

Калі яна была ў аўтара закончана, дык трэба думаць, што гэты стык прыродаапісальнага з грамадзянскім быў адной з цікавейшых мясцін твора. І ўсё ж выснова творчасці ў паэта грамадзянская. Зараджэнне грамадзянскай свядомасці спачатку патрактавана як бы з усмешкаю і паблажліва:

*І ўцяміў я ( о смех і плач!)*
*Пауней, чымся калі й суцэльней,*
*Што я, малюсенькі таўкач, –*
*Быцця сусветнага удзельнік.*

Трапна адзначае аўтар, што ад усведамлення гэтага парадокса прыйшла ў яго душу «і слодыч, і пякельня» Вось такое салодка-балючае харство, што ўздымаецца «над песні салавейкі», запаланіла душу, і ён стаў не проста слухаць спеў прыроды, а сам «стаў спяваць» Песня была як «сусветнай пекнаце ўклон», але перадусім гэта была радасць ахмялення ад любові да роднага краю, «ад пекнаты яго жанчыннай».

Паказ моманту грамадзянскага даспявання паэта расчаруе таго, хто спадзяваўся б знайсці ў паэме апісанне складаных біяграфічных перыпетый Жылкі ў часы грамадзянскай вайны ў Мінску і ў часы вызваленчай барацьбы ў заходнебеларускі перыяд дзейнасці. Такіх рэалій у тэксце няма. Аўтар ідзе па шляху лірыка-рамантычнага ўвасаблення пачуццяў і ўяўленняў адсюль зашыфраванасць рэальных імпульсаў, сімвалізацыя, што нават часам аслабляе сілу ўздзеяння тэксту на чытача. Некалькі актывізуе нашу ўспрымальнасць яскравая рэнесансавая алегорыя. любоў да радзімы разгорнута ў асацыяцыю цудоўнага зачацця і таямнічай цяжарнасці Месцамі іншасказанне выглядае знарочыстым, нават відаць спакуса падражніць слых чытача на манеру Бруна Ясенскага. Пэўная няёмкасць тут адольваецца,

**праз два гады пасля рэкамендатара, і я прачытаў у бібліятэцы дома творчасці ў Дубултах, па тым самым, што і Валодзя, экземпляры польскага выдання, пра што пісаў у «Сваіх старонках».**

**Яшчэ крыху пра ўражанні ад прачытаных паасобных твораў і кніг, – тут нібыта зусім між іншым у яго, а бачыцца значным і сімпатычным.**

**«...Канчаю артыкульчык у «Літгазету» пра Платона Галавача. Атрымліваецца нейкае неканкрэтнае разважанне, – можа, такое ім і патрэбна.**

**Як пісьменнік Галавач сыраваты, скрозь чуецца нейкая паспешлівасць, эскізнасць і побач з моцна напісанымі сцэнамі –шаблонныя, побач з усхваляванымі роздумамі – пропісі палітграматы, побач з яркімі дыялогамі – агіткі.**

**Добра, што ў цэлым адчуваецца чэснасць і шчырасць». (13.VII.67)**

**«...Чытаў «Авиаэтюды» Межалайціса і пазайздросціў літоўцам – сапраўды касмічная вышыня, аж дух займае.**

**Адначасна купіў «Радиус действия» Раждзенственскага – многа наіграната, жаданне быць глыбакадумнейшым за самога сябе.**

**Панчанкава шыпшыністая лірыка куды больш натуральная і праўдзівая. Раблю накід рэцэнзіі на яго зборнік». (20.V.66)**

**Тут ужо я і сам на абзацы пабіў, для большай значнасці, і слова адно падкрэсліў, – так жыва ўявілася густая зелень лістоты, пяшчотныя фарбы і водар, і абаронная, і наступальная калючасць – не толькі кветак, але і вершаў.**

**Ён быў шчодры ў сяброўстве. Згадваецца мноства цудоўных фотаздымкаў, якімі ён закідаў сяброў, у тым ліку і мяне, можа больш чым каго. А мне тут хочацца дадаць пра шчодрасць у іншым.**

**Для апавядання «Званочкі» з рыбацкага цыкла «Пад гоман вогнішча» ён мне ў пісьме расказаў пра цыганоў, як яны, ратуючыся ад гітлераўцаў, задыбалі табарам у**





аднак, сапраўды моцнаю і сапраўды рамантычнаю карцінайвідзеннем:

*Мая бясцэнная ўласнасць,*
*Са мной мой край, яго бяда,*
*Са мной праз горы і каменне*
*Высачыня майго натхнення.*

Тэма місіі песняра-змагара, ці, як Жылка любіў гаварыць, паэта-адраджэнца таксама разгорнута ў лірычна-роздумным плане, аўтар унікае канкрэтных фактаў, біяграфічных і нават гістарычных падзей, а імкнецца перадаць жывое адчуванне слодычы і болю, надзеі і пакут, якія нясе ў сабе абавязак змагання і маральнай адказнасці. Гэтая ідэя прыме мадэрную форму лірычных варыяцый па матывах міфа аб цудоўным зачацці і таямнічым выспяванні ў душы юнака чагосьці святога, што прывядзе яго да святыні народнага духу На жаль, і народ не праходзіў ліхалецця чысценькім, і ён трапляў у пасткі, пастаўленыя тыранам, але ж пясняр не можа адрачыся ад народа, бо ён у яго адзін на ўсё жыццё. Паэт прызнае мэты змагання народа за справядлівае і годнае жыццё ў прынцыпе слушнымі. Тут прычына трагедыі, якую бярэ ў спадчыну і трымае ля сэрца паэт Аўтар, аднак, не становіцца ў позу пакутніка, не ап'яняецца болем і самабічаваннем, а стаіць на пазіцыі разумнай і маральна высокай чалавечнасці. Апелюючы да ўласцівай народу цярпімасці і здольнасці дараванне, ён кажа: «Даруйце мне, людцы, цяжкія, а мімавольныя грахі» Варта падкрэсліць тут паняцце мімавольных грахоў, а не памылак ці маладушных зрываў і, над усім, зварот да людзей, а не да сусветнай волі лёсу ці творцы. Грахі гэта чалавечыя, і людзі дасведчаныя павінны судзіць грэшнікаў, яны змогуць знайсці ім справядлівы суд і велікадушнае апраўданне:

*Хто плыў у раз'юшанай стыхіі,*
*Калі бушуе шквал ліхі, –*
*Той ведае, як хібы блізкі,*
*Як залівае човен хісткі.*
*. . . . . .*
*І хто сягаў выходзіць з дому*

## ЦЫТАТНІК

***(З твораў У. Калесніка)***

*Калі прагрэс выганяў першабытнага чалавека з «раю» цёмнага жывёльнага існавання, акаляючы свет спакушаў і трывожыў яго душу жывымі таямніцамі, а свежая палахлівая фантазія падказвала першую вялікую гіпотэзу пра сутнасць гэтага неспазнанага свету. Ён такі ж, як я сам, – сказаў Чалавек і прыпісаў прыродзе, з якое выйшаў, свае здольнасці. здольнасць адчуваць, думаць, жадаць. Першы акт пазнання сутнасці свету. Ці быў ён толькі наіўнай памылкай?. Ці не прыдало гэтае ўраўнанне продкам пэўнасці? І ці не здольна яно стрымліваць сучаснікаў, у якіх пэўнасці аж замнога?*

*Жыццё як пазнаванне само сабою натыкаецца на адвечны парог апазіцыі – гэта нязгода ўсяго жывога на смерць і нябыт, на мінучасць існавання, прага і дамаганне свайго ў жыцці.*

*Пошук самога сябе, свайго спосабу існавання ў бясконцым мностве мажлівых і немажлівых форм быцця, належная ацэнка свайго месца ў бясконцым і мнагалікім свеце, – у гэтым бачыцца і цяжар і годнасць жыцця чалавечага.*

*Менавіта ў кантэксце жыцця ўсяго чалавецтва, якому няма канца, асоба можа пазнаць самую сябе, знайсці сваю мэту як функцыю мэты ўсечалавечай.*

*Прыбітыя адчаем, няшчасныя, прагнуць абы-якой надзеі, хоць сла-*

**партызанскі атрад, дзе іх накармілі, за што яны «падзякавалі», пакраўшы тол, які палічылі мылам, і паўцякалі, калі атрад пайшоў на заданне, пакінуўшы ў лагеры аднаго вартавога. Валодзя не толькі расказаў мне гэты свой успамін, а прапанаваў яго як устаўку. Што ж, гісторыя літаратуры ведае прыклады такога сяброўскага супрацоўніцтва. Прыгадайся «Пан Тадэвуш», у які адзін з сяброў Міцкевіча, паэт Вітвіцкі, напісаў некаторыя фрагменты – нават такому аўтару! Аднак праз некалькі гадоў, калі Валодзя даў мне прачытаць пачатак сваіх партызанскіх успамінаў, мне стала няёмка, прыгадаўшы тую ўстаўку ў «Званочкі» і падараваныя ім для ўсяго цыкла яшчэ два невялікія эпізоды. Успаміны яго спадабаліся мне, – густая, вобразная проза, – я неаднойчы пасля падштурхоўваў яго працягваць гэтую працу, замест залішняй газетнай публіцыстыкі, якая адбірала ў яго нямала часу і нерваў. Няёмкасць мая паўтарылася, калі чытаў «Блакаду», працяг успамінаў. Застаецца задавальняцца тым, што яго «цыганскі» падарунак не бачыцца ў «Званочках» лішняй латкай з чужога палатна, – бо і апавяданне гэтае ён любіў, пра што пісаў у адным з лістоў, і нагадвала яно яму, як і мне, наш цудоўны выпад з Бабруйска на Беразіну ў чэрвені 1954 года, бо і Андрэй у цыкле – гэта ён, Валодзя, бо ёсць і яшчэ адна акалічнасць, – асабліва прыемна бывае падараваць іменна тое, чаго пасля шкада. Ці шкадаваў ён – не ведаю, хутчэй за ўсё не. А няёмкасць мая яшчэ раз паўтарылася, калі я перачытваў для гэтага слова яго пісьмо ад 26 лістапада 1961 года, у якім ён піша:**

**«...Можа, варта, пішучы пра цыганоў, даць адзін халодны мазок – паказаць не толькі харство, бязмежную паўнату дзікай свабоды, але і яе беднасць, «нищету». Скажам, мог бы Андрэй расказаць з іроніяй выпадак, як цыганоў ганялі**

*бых ілюзій, што іх спаняверанымы жыцці ўсё ж маюць нейкі, няхай замагільны, але чалавечы сэнс.*

*Каб свядомасць згадзілася, што ты смяротны, патрэбна адолець страх; каб дацягнуцца да несмяротнасці, патрэбна мужнасць.*

*Стан несмяротнасці – прывілей чалавека і чалавецтва, яна –маці ўсіх жаданняў і стымул самапазнання, з яе выцякае патрэба ўласнай годнасці і пачуцця свайго я.*

*Хіба можна развітацца з вечнасцю, належачы да яе?*

*Сэнс быцця. Калі б можна было ахапіць яго і выказаць адным словам, адным афарызмам ці вобразам, ён перастаў бы быць вечным пытаннем, жыццё наша страціла б сваю прывабную загадкавасць, як траціць яно прывабнасць для тых, хто не шукае сэнсу, згаджаецца проста жыць як набяжыць.*

*Найбольш цяжкі выпадак спрашчэння сэнсу жыцця – гэта бездухоўнасць, біялагізацыя, што зводзіць жыццё чалавека да сытасці, камфорту, кар'еры, спажывання матэрыі свету.*

*Можна сустрэць сцверджанне, быццам толькі для герояў савецкіх трагедыйных твораў характэрна адчуванне: «Без мяне народ не поўны, але і без людзей няма мяне». Генезіс і абсяг пачуцця лучнасці індывіда з родам тут кан'юнктурна завужаны, яно такое ж старое, як чалавецтва, і ўваходзіць карэннямі глыбока ў дакласавае грамадства, у родавы лад. Той век Гегель называе*

*За будны круг штодзённых праг,*
*Каму, няўтольнаму, вядомы*
*І чорнага прадоння жах,*
*І верхавіны гораў стромых,*
*Той, пэўна, скажа. – Цяжкі шлях,*
*Яшчэ не ёсць яго памылка,*

*Ён нёс і жарсць і дух асілка. .*
*І мне здалося не аднойчы,*
*Што ў тайне радасных часін,*
*У момант паўнаты станоўчай*

*Ў маім узлонні быў зачын*
*І зблытаў я, мой краю-войча,*
*Хто бацька быў, а хто быў сын...*

Тэма апраўдання гучыць у паэме драматычней, чым творчае абуджэнне.

Вылучаныя намі тэмы не складаюць асобных раздзелаў твора. Яны наслойваюцца, як гэта бывае ва ўспамінах, адна на адну, утвараючы як бы ствол дрэва, па якім цыркулююць сокі лірычнага роздуму і практычнага досведу, што недзе надае твору сілу.

Запавет нашчадкам нараджаецца разам з іншымі тэмамі, ля карнявішча паэмы. Талент зрабіў паэта святым і грэшным, адкрывальнікам хараства і брыдоты, уладаром душ і слугоюпакутнікам, адказным за разлад гармоніі свету, перажытае, адпакутаванае гора і спажыткаванае шчасце дае яму права пісаць тэстамент, перадаваць зведанае і недасягнутае сучаснікамі, цяжкое для ўсведамлення – нашчадкам. Знамянальна, што У. Жылка хоча аддаць на ўтрыманне прыгожую, квітнеючую, плодную дабром і хараством зямлю не літаратурным пабрацімам, а працоўнаму люду. Страфа, у якой раскрываецца гэты акт прынясення дароў, –натхнёная, высокая, і нездарма менавіта яе насамперш прыгадаў па памяці М. Улашчык у пісьме да аўтара гэтых радкоў·

*Спявай, зямля, упіся сонцам,*
*Абмыйся чэрвеньскім дажджом,*
*Расці, цвіці, красуй бясконца,*

**немцы, жадаючы вынішчыць, – нібыта яны памагаюць партызанам. А яны не дараслі, каб памагаць каму-небудзь. Я Табе, здаецца, расказваў, як у блакаду...»**

**А далей – амаль даслоўна тое, што ў «Званочках».**

**Зрэшты, цяперашнюю маю нямёкасць ён – бачу гэта з журботнай удзячнасцю – назваў бы «миндальничаньем», а то і прасцей, мацней, – я даў, ты ўзяў і – на здароўе!..**

**Цяпер вакол яго манаграфіі пра мяне.**

**«Народная асвета» заказала яе яму ў пачатку 1981 года. У адпаведную серыю, дзе такія кнігі строга па дзесяць аўтарскіх аркушаў. А ён з творчай свабодай, што з ім здаралася неаднойчы, зрабіў їм амаль удвая больш. І тут пачаліся складанасці. Пра гэта ў далейшых фрагментах з яго пісьмаў. А ў першым – ягоны адказ на маю прапанову даць яму для прачытання некалькі цікавейшых чытацкіх пісьмаў, у тым ліку і замежных.**

**«...Пісьмы мне будзе цікава і карысна прачытаць хоць бы для таго, каб не меў адразу вялікай механічнай перавагі той біёграф, што будзе пісаць пасля маёй смерці.**

**Між іншым, пішучы кніжку пра Танка, я ўвесь час адчуваў гэтую сваю недаінфармаванасць, і гэта мяне раззбройвала. Мажліва, таму, што Максім прачытаў мне некалькі дзесяткаў пісьмаў, падшытых у гросбуху, цікавых, але не запрапанаваў перачытаць і зрабіць патрэбныя выпіскі. Біяграфія пасляваеннага часу ў кніжцы пра яго зусім перасохла, гэта заўважылі і чытачы, і рэцэнзенты. Але там была кніжка вучэбная, так што неабавязкова было яе абсталёўваць усімі ветразямі і вёсламі, а кніжку пра Цябе я хачу зрабіць больш раскавана і не паўтараць таго, што ўжо надрукавана, хіба ў парадку палемікі ці спасылак».**

**Напісана гэта было ў снежні 1982-га, калі Валодзя яшчэ ўсё здалёк прымяркоўваўся да працы**





*Пладоў, зярнят насып каўшом.*
*Уцехай будзь маёй старонцы.*
*Дары красой, дары дабром!*
*Вітай, Цябе у сіле поўнай*
*Я аддаю сям'і працоўнай.*

Чаго чакае ад свайго сімвалічнага спадчынніка паэт? Догляду і ўзбагачэння зямлі, таго, што людзі працы «садамі высадзяць твой дол...», а яшчэ важней, што яны згуртуюцца ў працоўным парыве: «перааром без меж палі, і будзе ўсё дабро агульна, і ўсім у краі маім утульна».

Паэт шануе люд працоўны, як дбайнага разумнага гаспадара зямлі, які ўмее памнажаць яе багацці, хараство, а калі зойдзе патрэба, бараніць ад ворагаў·

*Каб ні зладзей і ні тыран,*
*Ні чалавек ліхі, праклятаы*
*Не скралі волі дь! у зман*
*Не завялі сляпыя хаты, –*
*Тваіх работнікаў, сялян*
*На варце стаўлю гнеў зацяты.*
*Калі між імі будзе еднасць,*
*Ліхое згіне у бясследнасць.*

Асэнсоўваючы гэты запавет мастака, міжвольна прыгадваеш запісы ў дзённіку, які спрабаваў весці У. Жылка, калі быў студэнтам Пражскага універсітэта. Там ён упершыню запісаў споведзь сваёй душы Тая споведзь была трагічнай, даходзіла да безнадзейнасці «Жыццё, – чытаем мы запіс ад 1 мая 1923 года, –так шмат разбіла найдаражэйшага, што нічагусенькі не засталося – адзін «правал», нейкае чорнае бяздонне, якое ўсё часцей аскальвае сваю жахлівую зяпу... Брр! Страшна!»

Паэт, як памятаем, спрабаваў ратавацца ад страху і зняверу імкненнем да хараства, гармоніі, марай дзяцінства пра ціхі вясковы прытулак. Жыў у іх і яшчэ адзін досвед – горкі, трагічны: «Толькі дужыя, здаровыя ходзяць без кія, а слабому трэ і падперціся, трэба дапамога. Мо таму я так упарта шукаю падпоркі...» Падпоркі шукаў паэт у веры, але знайшоў у сябрыне патрыятычных леварэвалюцыйных сту-

*гераічным, тады стварайся класічны эпас, які ў эпоху індывідуалізацыі чалавечай асобы стаў немажлівым.*

*Філосаф Сенека выканаў на сабе смяротны прысуд свайго вучня, самадурнага цара Нерона. Арыстоцель, апынуўшыся ў падобнай сітуацыі, ратаваўся ўцёкамі. Сваю пагарду ён скіроўваў не на ўласнае жыццё, а на суддзяў, якія асудзілі яго на смерць. А яны былі ўзурпатарамі, што захапілі ўладу пасля смерці яго вучня Аляксандра Македонскага. Выканаць на сабе іх смяротны прысуд азначала б прызнаць законнай узурпацыю і тыранію.*

*Дастойнае пражыванне жыцця – справа не простая для душы ўражлівай, чулай, ранімай. Ёй не абысціся ні гордым маўчаннем, ні ганарлівым скепсісам, ні нават дэманічным бязвер'ем. Разуменне свету і здабытая ў пошуках зычлівасць, ласка – вось спосаб парадкавання ўласнай душы У гісторыі многа, бясконца многа цёмных і светлых плям, адсюль рахунак жыццю і заплата яму ж. Чаргуюцца бясконца і ніколі не зраўнаважацца шалі касмічных вагаў. Гайданні веры і сумніву, пэўнасці і асцярогі, плюса і мінуса – ці не закон гэта існавання чалавечай існіны?*

*Мадэрністы[ ] ідэалізавалі і фетышызавалі жыццё індывіда, а смерць ураўноўвалі з канцом свету. Беларускія паэты на такіх скрайніх пасылках не настойваюць, іх больш цікавіць пранікненне мадэрна і паэзіі ў глыбіні псіхікі, за межы двайной логікі, пошук прыкмет і абрысаў неспазнанага. Яны адчуваюць, што мастак можа выйсці за межы*

**над кнігай. Наступнае пісьмо – праз тры гады, калі работа ўжо ішла.**

**«...Пасылаю Табе незакончаны варыянт першага раздзела. Прабач, што ён яшчэ ў такім сырым стане, але я баюся, што Ты паедзеш на ўзмор'е, і я не змагу давесці гэтага матэрыялу да нейкага ладу, бо ён насычаны біяграфічнымі фактамі і патрабуе гаспадарскага вока. Ведаю сваю слабасць – абыходзіцца з фактамі вольна, г. зн., эмацыянальна. Напэўна тут знойдуцца недакладнасці, – папраў, «поправи мя, Господи!»**

**Праз адзінаццаць дзён пісьмо наступнае:**

**«...Прачытаў Твае заўвагі, часам сароменючыся за сырасць матэрыялу, які Табе паслаў, але часцей расчароўваючыся і ў памяці жывой, і ў пісанай, і ў мажлівасцях фантазіі пры апісанні біяграфіі мастака. Збіраў я, як Ты мог заўважыць, крупіны фактаў з розных сваіх нататак, зробленых на хаду, калі Табе ў размове прыгадваўся нейкі біяграфічны эпізод. Наша дзелавая гутарка летам у Крынічным[6] запісана досыць дакладна. Твае расказы дапамаглі збольшага выстраіць біяграфічны ланцуг, але аказалася ў ім багата недакладнасцей, часам, пэўна, я не ўлоўліваў кантэксту, часам Ты гаварыў не зусім выразна... Не ўсё, напэўна, з напісанага варта даваць у друк, я і ўстаўляў спрэчныя ці неабавязковыя моманты, каб пачуць Тваю думку... Ды перастань вагацца, – усё гэта давядзецца-дацягнецца да ладу.**

**Але не магу пагадзіцца з Табою, што трэба пісаць нейкі утылітарны варыянт манаграфіі, прымальны для настаўнікаў-дыетыкаў, чые страўнікі не змогуць пераварыць матэрыялу, напісанага на ўзроўні сучаснага літаратуразнаўства. Я не хачу і нізавошта не стану пісаць шпаргалак для настаўнікаў. На гэтае хапае спецаў, якія ведаюць, што трэба, а чаго не трэба, што можна, а чаго не можна. Няхай яны**

*рэальнасці, пранікнуць у падсвядомае, адкуль могуць ісці алагічныя імпульсы, рэальнасць можа змешвацца з прывідлівасцю і неспазнанасцю. А.Разанаў назваў гэтую сферу трэцім светам. Ян Чыквін называе трайной логікай.*

*Што б ні падумалася чытачу аб складанасці або дзівацкасці вобразнай формы твораў Разанава, але ніхто не дакажа, што гэтая несамавітасць была для аўтара самамэтай, бо форма адпавядае зместу паэзіі, якая адлюстроўвае знешні і ўнутраны свет суб'екта адначасна і дыялектычна. Версэты, кантэмы і пункціры – гэта формы арганічнага самавыяўлення таленту Разанава, адпаведныя пазнавальнай звышзадачы, якую ён сам сабе ставіць.*

*Філасофія Я.Брыля перадусім пісьменніцкая, у яго свядомасці дамінуе не інтэлектуальны лагічны пошук ісціны, а гуманістычны, калі ісціна спасцігаецца ўсёю істотай, усім чалавечым жыццём – на ўсю яго лёсавую дыстанцыю ад шчасця да няшчасця, ад нараджэння да смерці.*

*Мастацкі талент, як магічны крышталь пазнання, застаецца ў ліку таямнічых з'яў, непазнаных. І – парадаксальна, таленту, з'яве непазнанай нашы талмудысты сацрэалізму даручаюць пазнаваць і рацыянальна тлумачыць усё. Непазнанаму даручаецца пазнаваць непазнанае, неразгаданаму разгадваць неразгаданае, а ўрэшце, і непазнавальнае: хоць ялаў, а цяліся.*

*Паэтычныя маналогі – гэта крыніца фантазіі, што звязвае ў*

дэнтаў, якія яго бачылі сваім духоўным выразнікам і даверанай асобай.

Светапоглядное развіццё Жылкі пайшло па лініі вызвалення ад хрысціянскай этычнай містыкі, пра што засведчылі вершы 1926 года: «Альбігоец», «Каму жыццё атруты келіх», «На эміграцыі». Але ў жыцці вядомы выпадкі, калі перад абліччам смерці вяртаюцца і ўяўленні, вынесеныя чалавекам з дзяцінства, упарта вяртаюцца і пачынаюць засціць аслабелы дух, робяцца «падпоркамі», кажуць аддавацца на волю лёсу Жылка ў сваёй развітальнай паэме засведчыў, што свецкія асновы яго маральна-этычных поглядаў стойка вытрымалі наступ усялякай містыкі і філасофіі змірэння, а за гады жыцця ў Мінску адбылася далейшая духоўная эвалюцыя. яго погляды станавіліся рэалістычнымі. Мы не знаходзім містыкі ў развітальнай споведзі мастака. Ён знайшоў рэальны спосаб прымірэння са светам цераз удзел у творчай і стваральнай працы народа, якім жыў у мінскі перыяд. Вярнуўшыся з-за граніцы, паэт аказаўся патрэбным таму маладому бурнаму руху і «думкам аб вясне», якія кіпелі-бушавалі на радзіме. Тут ён убачыў грамадзянскі энтузіязм, ажыў, расправіў крыллі, працаваў, тварыў Як яму здавалася, тварыў свабодна, шчыра і радасна, нягледзячы на тыя прыкрасці, якія абрынала на яго літаратурная куламеса ў выглядзе ашчэранай нянавісцю сектанцкай крытыкі Абрыджвальнікі таксама крычалі, што бароняць грамадскі інтарэс, вымушаны былі прыкрывацца грамадскім інтарэсам Гэтая хітрасць рабіла іх вартымі жалю ці выбачэння

Аддалены ад канкрэтыкі, узнесены ў сферу духоўнасці, філасофіі і этыкі, патрыятызму і сацыялістычнай ідэі, тэкст «Тэстамента» не дае магчымасці здагадацца, як прыняў Жылка найвялікшую ў гісторыі Беларусі палітычна-рэпрэсіўную аферу, якая была сфабрыкавана прыезджымі партыйцамі, варацілямі Куніцкім і Затонскім, ды пераведзеная спецамі з АДПУ пры БВА ў следчую і абвінавальную версію так званай справы неіснаваўшага Саюза вызвалення Беларусі. Яму, як чалавеку выключнай сумленнасці ды эмігранту, цяжка было так дрэнна думаць аб уладзе, як яна гэта заслугоўвала. Збівалі яго з тропу і паказанні самых слабых па характарах, але раней шанаваных людзей І. Краскоўскага, У Чаржынскага, П. Мядзёлкі, а ўрэшце і В. Ластоўскага ды А. Цвікевіча, якіх за

**і пішуць, а я пагарджаю ўсёю тою вульгарнай катавасіяй, якую вядуць знаўцы ідэалагічнай легкатраўнасці вакол літаратуры.**

**У новым праекце праграмы, які меўся адпавядаць рэформе школы, адведзена ўсяго тры гадзіны на «непонятную» старажытную беларускую літаратуру, прытым палавіну часу трэба аддаць на старажытнарускі перыяд, а ў беларускім убіваць у галовы вучням ідыёцкую думку, што беларусы як нацыя яшчэ ў чэраве гісторыі жылі адзінай марай і мэтай, каб з'яднацца з вялікім рускім народам. Манія з'яднання была такой вялікай у нашых продкаў, што яны не зважалі нават на татара-мангольскае ярмо – хоць у ярме, абы быць спрэжаным разам з братам.**

**Я пісаў рэцэнзію на тую праграму і выказаў свае адносіны да такога роду утылітарызацыі гісторыі ў імя «высокіх мэт» навучання і выхавання пакалення бязродных Іванаў...**

**Не паспеў я адаслаць тое рэцэнзіі, як дайшла з гары Сінай звестка, што рускія «вучоныя»-метадысты наогул адмянілі гістарычны прынцып пабудовы школьнага курса літаратуры і «предписали» ва ўсіх класах вывучаць адначасна і класікаў, і сучасных пісьменнікаў уперамежку. Літаратура, такім чынам, аддзяляецца ад гісторыі і ператвараецца ў набор займальных сюжэтаў, вумных маналогаў, прыдатных для «возбуждения положительных чувств». Калі ісці за такою метадычнай навукай і практыкай, якая накшталт Івана-дурня сячэ сук, на якім не паспела яшчэ толкам усесціся пасля кувыркання ў 20-я гады, у эпоху лабараторнага метаду і брыгаднага пражэкцёрства, дык увогуле трэба страціць павагу да сябе.**

**Тое, якую кнігу захоча выдаваць «Народная асвета», мяне не асабліва цікавіць. Мне хочацца напісаць кнігу сур'ёзную, прафесійна напісаць, лічачы настаўніка літаратуры**





дзесяць начэй псіхічных катаванняў следчыя адчалавечвалі, рабілі пакорлівымі, паслухмянымі, гатовымі паўтараць за сваімі катамі і запісваць, нібы свае ўласныя прызнанні, д'ябальскую, пачварную хлусню, саманагавор, прыналежнасць да контррэвалюцыйнай дыверсійнай арганізацыі і злачынныя намеры. Праўда, у хворага Жылкі і яго літаратурных сяброў Дубоўкі, Пушчы і Бабарэкі хапіла самасці і сілы волі, каб не прызнаць сябе вінаватымі. У «Тэстаменце» паэт лічыць сябе вінаватым міжвольна і горача каецца ў грахах, выказвае веру ў тое, што вядзецца барацьба народа за сацыялізм у БССР. У чым жа справа, няўжо ён перайшоў у савецкую ідэалагічную веру? Не ў гэтым жа сутнасць справы, а ў тым, што Жылка, падобна як і І. Краскоўскі, В. Ластоўскі, А. Некрашэвіч, Я. Лёсік і іншыя, прыцягнутыя да справы СВБ, некамуністы, прызнаваў і магчымасць сужыцця з савецкаю ўладаю і згодна працаваць у карысць Беларусі на ніве культуры і асветы, пры ўмове, што вышэйшыя дзяржаўныя органы рэспублікі будуць папаўняцца беларусамі, а не прыезджымі функцыянерамі Трэба мець на ўвазе і тое, што маса ў пачатку 30-х гг. яшчэ не была разбэшчанай і здэмаралізаванай уладамі і не выходзіла крычаць на плошчы і вуліцы «Смерць ворагам народу!» і славіць Яжова. Не дайшла яшчэ да апагея і высылка кулацкіх сем'яў. Паэт верыў, што шлях да сацыялізму вызначаны прадумана і будзе здзяйсняцца на карысць грамадства, хібы выпраўляцца. Гэта была памылка даверлівасці. Але былі ўжо і вострыя адчуванні бяды, якую можа прынесці краіне дыктатура і тыраны. Ад гэтай бяды ён засцерагаў і замольваў чытачоў Ён пакідаў свет з любоўю і «дзіўным сумам»·

*Я пакідаю з дзіўным сумам*
*Маю дабродзейку зямлю.*
*Я голад знаў, душыўся глумам,*
*Ды імі сэрца не кармлю.*
*Яна ўсяго, як толькі ўздумаць,*
*Дала, й такой яе люблю.*
*З бядою, з ліхам, з посным квасам*
*І радасцю кароткай часам.*

Не скаргі на злыбеды зямнога жыцця, не спадзяванні на

*адзіным вобразе з'явы далёкія і блізкія, прыгадкі і назіранні, мару і рэальнасць... У творах лірычных субстрат часу – не час дзеяння, а час уяўлення лірычнага суб'екта пра падзеі, што адбыліся ў мінулым, ці адбываюцца вось цяпер, або чакаюцца ў будучыні, нарэшце, рэакцыя на падзеі, якія могуць адбыцца ўсюды і нідзе, заўсёды і ніколі.*

*Мастацтва сёння ў свеце лічыцца пазнаннем моцна суб'ектызаваным, персаналізаваным, мастак не можа дайсці праўды без эмоцый і перабораў, таму мае права гаварыць усё, што хоча, і рана ці позна давядзецца гэтае права афіцыйна прызнаць і ў нас, без гэтага мастацтва і яго галоўны стрыжань – літаратура – завянуць, страцяць прэстыж і дома, і ў свеце.*

*Цывілізаваныя грамадствы стараюцца забяспечыць умовы, у якіх творчы працэс працякаў бы адкрыта і рэляцыя паміж палітыкамі, ідэолагамі, публіцыстамі з аднаго боку і мастакамі з другога кантралявалася свабоднаю думкай. Гульня адкрытымі картамі падымае грамадскі прэстыж і літаратуры, і палітыкі. У нас жа музу трактавалі як служанку ў палітыкаў. Супраць гэтага пратэставалі ўсе таленавітыя мастакі, а Караткевіч рабіў гэта звонка.*

*Спакуслівa ўявіць сусветную літаратуру як сістэму мензурак, у якіх па шклянках і гумовых трубачках пераліваецца эстэтычная субстанцыя, займаючы сярэднесусветны ўзровень. Бяда толькі ў тым, што эстэтычная субстанцыя не хоча аддзяляцца ад чалавека, а кожны*

**разумным і падрыхтаваным чытачом, які б знайшоў у гэтай кнізе нешта новае, каб яна абудзіла яго думку і павярнула яе ў рэчышча адказнага грамадзянскага, эстэтычнага і філасафічнага мыслення. Упэўнены, што ў такой кнізе ёсць сапраўдная патрэба. Сам жа я вяду штогод практыку студэнтаў у школах. А выдавецтва?.. Не захоча «Асвета» выдаваць, запрапаную «Вышэйшай школе» ці іншай фірме. Выдадуць, абы кніга была добрай. Зрэшты, няхай лепш ляжыць, чым мае жыць на правах пабірахі ці ўгодлівага прыслужніка нейкага баламута, які сам не ведае, чаго хоча, і не ўяўляе, колькі каштуе фунт творчай працы ды мастацкага густу.**

**Баюся, што не паспею ў час здаць рукапіс: работа сур'ёзная і цяжкая. Бачыш, нават біяграфічны раздзел зрабіць нялёгка. Праўда, ён мае быць па задуме не проста біяграфічным, але і светапоглядным. Не ведаю, ці гэта адчуваецца...**

**Даруй, што тлумлю Табе галаву праблемамі, якіх магло б і не быць, каб я сядзеў у акадэміі і памаленьку (па паўстаронкі ў дзень) мог сабе пісаць манаграфію пра пісьменніка. Хачу верыць сабе, што далей такіх заўвагаёмкіх раздзелаў будзе менш, хоць, як Ты мог заўважыць, па плану кнігі (наклееным на вокладцы той папкі, якую я Табе пасылаў), і ў далейшых раздзелах будуць з'яўляцца кавалкі біяграфіі, характарыстыкі жыцця, зробленыя цераз прызму Твайго і Вашай брылёўскай сям'і. Усё гэта будзе праецыравацца на творы. Бо дасюлешнія манаграфіі ўсё ж будаваліся па прынцыпу: ад твора да твора. Мне хочацца ісці ад этапа да этапа. Будзе нялёгка. У тых выпадках, дзе давядзецца мець справу з раманам ці цыклам апавяданняў, кніга сама павінна стаць і этапам, цыкл нарысаў – таксама».**

**Як пастскрыптум – з майго пісьма яму ад 28 студзеня 1986 года:**

**«...Што да нашай з Табой «ста-**

кампенсацыю крыўды зямное там, у жыцці замагільным, а глыбокае мудрае ўсведамленне цяжару і значнасці свайго лёсу, упрэжанага ў не менш цяжкі лёс народа на пераломе гісторыі. Цяжкія часы выбару – вось што прыгадваецца песняру, і ён апавяшчае адзіны спосаб дастойна выйсці з завірухаў – сумленнасць.

*Бывай, надзей сардэчны ўздым!*
*І вы, снягі, завеі, зімы*
*На зломе дзвюх эпох злавесных*
*У неспрыяльным ветры злым,*
*Сваё жыццё прайшоў я чэсна*
*Пясняр, змагар, бядняк праз век, –*
*Быў перш за ўсё я чалавек.*

У Жылкавым апафеозе зямлі, радзіме, працоўнаму люду, у акце перадачы нашчадкам спадчыны мы бачым паэтычны варыянт прагназіравання будучыні, якое складае важную частку ідэі сацыялізму. У яго вылучаецца на пярэдні план чалавечы фактар, а не сацыяльна-эканамічныя адносіны. Гэтым адрозніваецца паэтычная мадэль будучыні ад мадэляў палітычных праграм.

Тут можна ўбачыць зрух у бок рэалістычнага погляду на жыццё, але таксама пашырэнне мажлівасцей рамантызму, тыпу мастацтва, які таксама, як і рэалізм, імкнецца да ісціны, толькі хоча ісціну мастацкую бачыць асабліва прывабнай, эмацыянальна-дзейснай і гатовы дабівацца гэтага выкарыстаннем умоўных вобразаў, дынамізацыяй моўнага струменя шляхам унутраных маналогаў, увядзення сімволікі, характэрнай для паэзіі беларускага нацыянальнага адраджэння і абноўленай Купалам у першым дзесяцігоддзі савецкага жыцця. «Тэстамент» узбагачае беларускую паэму 30-х гадоў і сведчыць пра плённасць тых перадавых традыцый, якія выпрацавала тагачасная паэма і адступленне ад якіх аслабляла пошукі паэтаў у гэтым жанры ў пачатку 30-х гадоў Вопыт усёй савецкай паэмы той пары паказвае, што вяртанне да ўрокаў класікі дазваляла адолець запаветы вульгарнасацыялагізатарскіх плыняў, але гэта ўдавалася толькі паэтам выдатным, напрыклад, А. Твардоўскаму – «Страна Муравия», у нейкай меры А. Куляшову – «Хлопцы апошняй вайны» Але найбольш важкімі аказаліся паэмы заходнебеларускія: «Нарач», «Сказ пра Вяля», «Каліноўскі» М Танка.

У апошняй страфе «Тэстаменту» паэт уяўляе сваё сімвалічнае пахаванне і пераносіцца туды, дзе спачывае збалелае цела Ядвігіна Ш , Ігната Канчэўскага, Казіміра Сваяка, у горад, дзе сам Жылка быў не проста паэтам, а песняром руху. Слова Рух Жылка пісаў тады з вялікай літары:

*На магілках зацішных Росы*
*Хачу спачыць ад каламут.*
*Сачыцьмуць мой спакой найпільней*
*Муры старой, каханай Вільні.*

Чаму ў Вільні, а не ў Мінску? Літаратурны Мінск на пераломе 20-х – 30-х гадоў быў у разуменні беларускіх культурных дзеячаў «беларускімі Афінамі», тут паглыблялася сувязь з нацыянальнымі і сусветнымі культурнымі традыцыямі Пра гэта з гонарам гаварылі Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Вацлаў Ластоўскі. Паглыбіць сувязі сучаснасці з класікай спрабавалі вядучыя вучоныя, прафесары Вазнясенскі і Барычэўскі, тут шчыраваў энтузіяст-музыказнавец Ю. Дрэйзін, гэтай ідэяй хварэлі крытыкі і паэтыўзвышэнцы – Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча і іншыя. Жылка быў адзін сярод многіх. Рамантычным пажаданнем пахаваць яго ў Вільні ён падкрэсліў жыццёвую важнасць каранёў у беларускай культуры і літаратуры, тых асноў, якія выпрацавалі нашы продкі і сучаснікі-адраджэнцы.

Калі будуць знойдзены ўсе рукапісы гэтага ўржумскага перыяду, дык нашы меркаванні, напэўна, спаткаюць яшчэ не адно пацвярджэнне.

На жаль, Жылкавай спадчыне не шанцавала. І пасля смерці паэта яго творы праследаваў нейкі фатум. 15 сакавіка 1933 года ў Мінску быў арыштаваны яго брат, Барыс Адамавіч, студэнт ветэрынарнага інстытута, які жыў пасля ад'езду жонкі паэта ва Уржум на іх кватэры. Ён падазраваўся ні больш ні менш як у шпіянажы на карысць Польшчы (у 60-я гады рэабілітаваны). Пры арышце, па словах Барыса Адамавіча, былі затрыманы ўсе братавы паперы – уласнаручныя рукапісы і пісьмы розных асоб да яго, набралася цэлы мяшок, які з

*чалавек нясе ў сабе асобны свет, свой уласны лёс. Тым больш – народы. Універсальна пашыраюцца ў свеце толькі тэхнічныя адкрыцці.*

*Яшчэ і сёння ўзнікаюць дэбаты наконт таго, у якую традыцыю – грэка-візантыйскую ці лаціна-рымскую – запусціла карэнні нацыянальная культура таго ці іншага еўрапейскага народа на зары яго ўзнікнення. Адным выстаўляюцца ацэнкі са знакам плюс, іншым са знакам мінус, але мала разважаецца пра мажлівасці сінтэзу візантыйскіх і рымскіх традыцый. Менавіта на такі сінтэз было настроена беларускае Адраджэнне, а піянерам сінтэзавання традыцый грэка-лацінскай еўрапейскай культуры з нацыянальнаю беларускаю быў Скарына.*

*Культура непазбежна павінна нешта браць ад суседзяў, але сэнсам яе існавання магло быць не запазычванне, а вяртанне пазыкі з працэнтамі. Так, Скарына чэрпаў матэрыял для роздумаў з сусветнага помніка культуры Бібліі, перасаджваў яе тэмы, матывы на беларускую глебу і ствараў арыгінальную канцэпцыю грамадства. А Гусоўскі, наадварот, – чэрпаў матэрыял з роднага жыцця і, выклажыўшы яго лацінскім вершам, прапанаваў чытачу еўрапейскаму.*

*Смерць і ўваскрашэнне Беларусі – вось цэнтральны скразны матыў нацыянальнай міфалогіі, ён пранізвае нашу літаратуру і зводзіць яе ў адзіны ланцуг народнага лёсу. Янка Купала назваў яго адвечнаю песняй.*

*Адраджэнне ў творах Купалы мае велічны сэнс, гэта не толькі сацыяльная роўнасць, нацыянальная свабода і дзяржаўная незалежнасць, але і вызваленне прыгнечаных ад духоўнага рабскага сну, збавенне асобы чалавека ад цемры, бездухоўнасці, адраджэнне чалавечай годнасці шляхам далучэння да скарбніцы народных і агульначалавечых каштоўнасцей – свабоды, праўды, дабра, хараства. Купала лічыў беларускае адраджэнне адной з праяў сусветнага прагрэсу, актам абуджэння занядбаных гісторыяй плямён і народаў. Ён адчуваў вызваленчы рух як узлёт да сонца ідэалу, бачыў яго непаўторным і сусветна заканамерным.*

*Творчасць – гэта і ёсць спосаб на несмяротнасць, але несмяротнасць не можа быць адзіным і галоўным стымулам літаратурнай працы. Стымулам больш глыбокім з'яўляецца ўсведамленне свайго ўдзелу ў літаратуры, якая нясе праўду аб жыцці, яго ідэалах, мэтах.*

*Для творчых людзей ва ўсе часы вера ў прагрэс была праблемай сэнсу жыцця і ўмовай працы на ніве культуры. Не было б пэўнасці, што народ наш уваскрэсне і неўзабаве ўступіць у лепшы час, дык чаго ж было б нам марнавацца, выжыльвацца за рабочым сталом ці ў інстытуцкай аўдыторыі.*

*Нельга мастаку паўнацэнна жыць для чалавецтва, не жывучы для свайго народа, не памятаючы яго славы, здзяйсненняў, яго страт, не дбаючы пра яго добрае імя ў свеце і яго будучыню.*

*Натхненне – гэта стан вызва-*

**рэчай» забыўлівасці і памятлівасці – не думаю, што яны «злосныя» ці «зласлівыя». І мяне ўжо ў сім-тым памяць падводзіць, і трэба правярацца. Да пэўных промахаў Тваёй памяці я не магу быць абыякавым: нашы сяброўскія адносіны ў літаратурным свеце (дый шырэй) вядомы многім, і тое, што Ты пра мяне скажаш – будзе лічыцца самым дакладным.**

**Так што, дружа, не злуйся і не «казнись».**

**Ну, а далейшы лёс манаграфіі быў нялёгкі. Аўтару ўсё-такі прыйшлося скарачацца да абавязковага серыйнага памеру, а гэта прывяло да балючых стратаў...**

**Мне асабіста з таго, што не ўвайшло ў кнігу, было найбольш шкада Валодзевых разваг пра маё любімае – мініяцюры. Праўда, гэта ён выкарыстаў пазней у грунтоўным артыкуле, змешчаным у яго апошняй прыжыццёвай кнізе «Усё чалавечае».**

**Усё пра мяне ды пра мяне... А ён жа пісаў мне і пра іншых.**

**«...З прыемнасцю прачытаў Тваё слова пра Адамовіча, кранае яно гуманістычнай азоранасцю, пераканальна-шчымлівым выяўленнем каштоўнасці жыцця і балючай дыялектыкі, што існуе паміж дружбай, найбольшай блізкасцю і адзінотай, непазбежнасцю адзіноты. Да гэтага далучаецца высокае адчуванне маштабнасці справы, якой мы служым. Апошняе адчуванне дазволіла Табе ўзняцца над юбілейным этыкетам (цяпер розныя віды таварыскіх і службовых этыкетаў знаходзяць масу служак) і гаварыць пра юбіляра як пра слугу справы і праціўніка ўсякіх этыкетаў, свядомага і прынцыповага праціўніка. Гэта ў Сашы ёсць, і гэта бадай што галоўнае сярод многіх рыс яго характару. Трапна і не назоўліва прачытаў Ты раман яго цераз жывы светлы вобраз (прататып) Ганны Мітрафанаўны[9], добра, старанна ацэнены і яго літаратурна-крытычны набытак, удала вырашыў сітуацыю досыць клопатную, – што Твая творчасць знаходзіла ў ім прапагандыста і прыхільніка – не абмінуў і не звёў гаворкі зноў да этыкетнай удзячнасці.**

**Змог я заўважыць толькі пару драбнічак і адзначыў іх на палях рукапісу. Ты іх разбярэш і, калі захочаш, вырашыш, дакладней – улічыш». (26 лютага 1977 года.)**

**Ён любіў моладзь, умеў знаходзіць сярод сваіх студэнтаў дзяўчат і юнакоў з божаю іскрай, шчыра апекаваўся абласным літаратурным аб'яднаннем, па прэсе цікавіўся маладымі талентамі ва ўсіх кутках Беларусі, радуючыся поспехам і смуткуючы ад непажаданага.**

**У наступным фрагменце з пісьма пра аднаго маладога паэта я, нібыта і ўзгодніўшы гэта з Валодзем, прозвішча маладзёна апускаю з педагагічна-прыязных меркаванняў.**

**«... Хлопец вельмі здольны, начытаны, памятлівы і ахоплены прагай паэтычнай славы, усё гэта было б цалкам добра, калі б захоўвалася нейкая мера суадносін творчасці з жыццём, а ён, як мне думаецца, так напорыста выціскае з сябе ўсю душу, што не застаецца часу, патрэбы, сіл, каб проста жыць, зносіцца з людзьмі. Пару вечароў толькі прагаварылі з ім пад лёгкім віном, дык і размовы, і інтарэсы ў яго ўсе ў літаратуры. Я ўжо і не ведаю, што думаць. Спрабаваў яму заўважыць, але ён і слухаць не збіраецца. Сам усё ведае ад «а» да «я». А дакладней – гэтае Я з'яўляецца пачаткам і канцом ведаў. Прачытаў яго вершы – ёсць цікавыя, хоць і кніжнасці хапае, між іншым, пераймэнне ў Караткевіча. Пакуль не магу разабрацца з гэтым хлопцам – і здольны, і па-свойму апантаны паэзіяй, і супярэчлівы, не самакрытычны. Можа, гэта сучасная сталічная норма характару і паводзін творчай адзінкі? Я ўжо толькі назіраю збоку і маўчу». (Студзень 1977 года.)**

**Траплялася і радасць, толькі радасць:**

*ленне мастака-творцы з палону штодзённасці якая сваёй нікчэмнасцю здрабняе пазнанне, навязвае спрошчанае разуменне душы чалавечай.. Гнасеалагічная парадаксальнасць натхнення ў тым, што ахоплены ім паэт цераз духоўнае аддаленне ад зямнога жыцця, як ад аб'екта пазнання, шырэй і глыбей ахоплівае яго сутнасць.*

*Пазбыцца творчай адзіноты – значыць перастаць быць паэтам, доляй якога з'яўляецца выдзіранне з сэрца і з душы самых дарагіх, патаемных ідэй, г. зн. як бы ўмярцвенне самога сябе. Вось чаму адзінота – гэта паміранне, адыход ад нармальнага паўнакроўнага чалавечага жыцця. Творчая адзінота – балючая ахвяра, але не бясплодная...*

*Разгубленасць духу – па сутнасці антынатхненне.*

*Паэт шукае гармонію Сусвету ў прыродзе і ў сабе ды неўпрыцям сам становіцца сусветам.*

*Сакрэт мастацкай творчасці не ў суме прафесійных ведаў і навыкаў, нават і не ў працавітасці, а ў маштабах асобы мастака, у здольнасці чалавечай душы ўбіраць у сябе, акумуліраваць і выказваць самыя вострыя і балючыя праблемы жыцця, матэрыялізаваць у слове дух часу. Вось чаму толькі ў творчым парыве рашаюцца мастакі часам гаварыць пра сваё прызванне, пра місію паэтычнага слова.*

*Асоба – крыніца ўсякай арыгінальнасці, у тым ліку і творчай, а стыль і манера – знешнія адзнакі яе.*

ветлівасці да следчага-жанчыны сам ён аднёс у рэпрэсіўную ўстанову.

Недзе ў той жа час да ўржумскай гаспадыні У. Жылкі Г.А. Рукавішнікавай, у якое кватараваўся і памёр паэт, з'явіўся незнаёмы, прадставіўся братам нябожчыка і забраў у прастадушнай кабеты ўсе паперы паэты. Не выклікала падазрэння тое, што «брата» не цікавілі іншыя спадкі, акрамя рукапісаў. І тыя пісьмы і рукапісы вершаў, што паэт прысылаў у Клецішча, да родных, спасцігла бяда. У вайну маці закапала іх пад яблыняй Клецішча ляжала ў зоне актыўных партызанскіх дзеянняў, непадалёку вёскі прайшоў славуты Лаўскі бой. У часе блакады схованак быў выяўлены карнікамі, паперы загінулі.

***

У 20-я гады беларуская літаратура марыла пра больш арганічны сінтэз эмацыянальнай рамантычнасці з класічнай дасканаласцю формы, наогул пра паяднанне рэвалюцыйнага касмізму з рэальнасцю сацыялістычнага будаўніцтва, фантазіі з явай, пачуцця з думкай Менавіта такая цяга і такі пошук ляжалі ў аснове беларускай варыяцыі тэорыі «жыццебудовы», перанятай узвышэнскімі крытыкамі ад перавальцаў Марачы пра сінтэз, яны авансам славілі, узносілі пакуль што «раз`яднаную» паэзію Дубоўкі, паэзію эмацыянальную, сугестыўную і спантанную. Жылку ж, які гэты сінтэз фактычна ажыццяўляў, быў найбольш блізкім да патрона ўзвышаўцаў Максіма Багдановіча, як ні дзіўна, яны недаацэньвалі. Жылку прымалі ўпотай, моўчкі, умоўна. У маі 1929 года «Узвышша» прыняло яго, раскрытыкаванага вульгарызатарамі, у свае рады, узяло пад абарону, але тэарэтыкі журылі паэта за недахоп «дзеістасці», сувязі з сучаснаю жыццёвай дзеяй Яны хацелі бачыць гэтую сувязь больш адкрытай, больш прамой і шырокай, не абмежаванай толькі інтымнымі эмоцыямі і цягай да хараства. Атрымлівалася, што Жылка і Дубоўка, паэты, якія выразна дапаўнялі адзін аднаго, не ставіліся крытыкамі поруч У шостым нумары «Узвышша» за 1929 год быў надрукаваны верш Жылкі «Раніцою» адзін з выдатных узораў узвышэнскай лірыкі, і там жа адзін з лепшых артыкулаў

**«...Двойчы быў у Брэсце Карпюк, адзін раз заехаў пагутарыць з нашымі абкомаўскімі спецыялістамі па сектантах, другі раз Алёша быў з Волькай Іпатавай, выступалі тыдзень па лініі бюро прапаганды. Волечка зрабіла на мяне ўражанне таленавітага, прагна-дапытлівага дзіцяці, прытым за гэтай дзіцячай свежасцю душы прыхавана разумная дасведчанасць сапраўднага інтэлекту. З`явілася радаснае адчуванне, што яна далёка пойдзе ў літаратуры і асабліва, відаць, у прозе. Дарэчы, гаварыла, што закончыла і здала ў друк аповесць пра Ефрасінню Полацкую. Слаўнае дзяўчо!» (18.X.71 года.)**

**І ўдзячнасць бывала ў радасці:**

**«...Атрымаў два лісты ад Веры Сымонаўны, і яшчэ раз шчасліва адчуў, якое гэта шчасце для нас, крытыкаў, што над усходамі нашай крытычнай руні стаіць такая звеннявая – добры дух ураджаю. Клапоціцца, дабіваецца і, відаць, даб`ецца, што мой Жылачка выйдзе без купюраў і без асаблівых страт». (Студзень 1977 года.)**

**Вера Палтаран узначальвала тады рэдакцыю крытыкі выдавецтва «Мастацкая літаратура». «Жылачка» – манаграфія Калесніка пра жыццё і творчасць Уладзіміра Жылкі, «Ветразі Адысея». Выданне гэтае, згодна з цэнзурнымі нормамі часу, як ні змагалася светлая, мужная Вера Сымонаўна, на жаль, выйшла з бязлітасна-недарэчнымі купюрамі. Валодзя вельмі перажываў гэта. А манаграфію ён рупліва дапрацоўваў да сваіх апошніх дзён.**

**Ён быў заўсёды вельмі перагружаны працай, абавязкамі, у нервовым напружанні, часта хварэў. У вайну – два раненні, з вайны вынес туберкулёз, лячэнне на цэлы дзесятак гадоў, потым язва і, нарэшце, цэлы букет...**

**А ўсё роўна з Мінска ён, амаль да апошніх дзён, вяртаўся з новымі заказамі, як нейкі навукова-літаратурны трактар (так я тады жартаваў), абчэплены кожны раз**





Адама Бабарэкі «Узвышэнская паэзія», але, на жаль, не толькі верш, але і імя Жылкі не названа Бабарэкам Пачало, відаць, дзейнічаць ідэалагічнае табу, кіраўнікі «Узвышша» асцерагаліся наклікаць на арганізацыю пагром. Яны гаварылі пра паглыбленне рамантычнай паэзіі ў стыхію сусветнага мастацтва і не называлі таго, хто зайшоў на гэтым шляху хіба найдалей. Чытаючы разважанні Бабарэкі пра ператварэнне матэрыяльнага ў ідэальнае ў дачыненні да слова, у дачыненні да чалавека і да бацькаўшчыны, міжвольна чакаеш спасылкі на Жылкаву паэзію. Але ў Бабарэкі быў адзін дасканалы паэт – Дубоўка. У Дубоўкі ён бачыць «ідэальнае слова», тое слова, што прадаўжае народнае ласкавае слова і асветнае Марцінкевічава і Купалава, здольнае гучаць «на свет цэлы» Узвышэнскае слова несла, па думцы крытыка, сцверджанне, «што Беларусь не памерла, а жыве ў працы сціплай»[16] Да гэтага слова павінен быць прыпісаны і Уладзімір Жылка.

---

**[1] Пісьмо да мяне, датаванае 9 красавіка 1970 г.**

**[2] Кіпель Яўхім. Апошнія дні Уладзіміра Жылкі. «Маладосць», 1992, N 4. С. 125.**

**[3] З пісьма М.М. Вячоркі-Сасіновіч, прысланага мне ў студзені 1976 г.**

**[4] З пісьма М.М. Вячоркі-Сасіновіч, прысланага мне ў студзені 1976 г.**

**[5] З пісьма Р.М. Маневіч, прысланага мне 14 студзеня 1970 г.**

**[6] Пісьмо А.А. Сяміглазавай-Астраптавай да Б. Жылкі. Тэкст у адрасата.**

**[7] Пісьмо датавана 8 жніўня 1967 г. Тэкст у адрасата.**

**[8] Пісьмо ад 18 кастрычніка 1967 г. Тэкст у адрасата.**

**[9] Тэкст у дачкі паэта Н. Лазаравай.**

**[10] Тэкст у дачкі паэта Н. Лазаравай.**

**[11] Пісьмо М.М. Вячоркі-Сасіновіч да мяне, студзень 1976 г. Тэкст у адрасата.**

**[12] Пісьмо да Н. У. Лазаравай за 8 жніўня 1967 г.**

**[13] М.М. Улашчык яшчэ двойчы арыштоўваўся НКВД пасля першай высылкі.**

**[14] З пісьма М.М. Улашчыка за 26 верасня 1969 г. Тэкст у адрасата.**

**[15] З пісьма за 16 кастрычніка 1969 г. Тэкст у адрасата.**

**[16] Бабарэка А. Узвышэнская паэзія. «Узвышша», 1929 г., N 6. С. 91.**

*Лёгкі спосаб на арыгінальнасць – паказаць свет перавернутым дагары.*

*Унутраны цяжар пазнання пры знешняй лёгкасці, нават гуллівай гарэзнасці вобраза – вось адзін з карэнных парадоксаў паэтычнай прафесіі.*

*Мне асабіста здаецца адно. сучаснай маладой паэзіяй наогул недастаткова глыбока асэнсоўваюцца духоўныя здабыткі класікі ў інтымнай лірыцы Культура класікаў не засвойваецца, а толькі прысвойваецца знешне.*

*Каханне – вельмі зыбкі і далікатны тып адносін паміж людзьмі, нават інтэлектуальнае бачанне гэтых адносін крайне суб'ектызавана.. У вершах пра каханне мы сустракаем больш прывіднасці, самасці, чым у грамадзянскай або філасофскай лірыцы. Мройнасць надае любоўнай паэзіі статус невычэрпнасці і бясконцай мнагастайнасці формаў Пакуль існуе каханне, няма ніякіх шанцаў напісаць пра яго апошняе слова, банальнае – магчыма.*

*[Ісці] да ўсё большай і большай мнагастайнасці форм азначае максімальнае вызваленне жанравай прыроды лірыкі як славеснага жывапісу пачуццяў.*

*Мова матэрыя душы. у мове жыве індывідуальнасць таго, хто гаворыць, – яго розум, тэмперамент, характар, культура. І ўсё гэта не проста жыве, а дзейнічае, прымаючы форму моватворчае сілы. Калі моватворчая сіла выходзіць за рамкі*

**новым мноствам розных агрэгатаў. Варта паглядзець у шасцітомным «Слоўніку беларускіх пісьменнікаў» ягоную бібліяграфію, каб пераканацца, колькі паспеў зрабіць гэты да канца нястомны руплівец. А колькі хацелася зрабіць, давесці да ладу тое, што цяпер, на жаль, засталося ў накідах або толькі ў задумах...**

**Для ілюстрацыі – два фрагменты з розных пісьмаў:**

**«...Атрымаў ліст ад Чалмаева з «Дружбы народов», прапануе некалькі тэм. Перспектыва прываблівая. І хочацца, і колецца... Не ведаю, ці спраўлюся напісаць, бо планы і так пераўзыходзяць мае магчымасці. Ніяк не давяду да ладу Салагуба, а за акадэмічны артыкул, можна сказаць, не браўся. Незакончаны ляжыць палемічны артыкул аб перыядызацыі старажытнай літаратуры і дапаможнік па выразнаму чытанню. Уклініўся ў мае планы даклад аб эстэтычным выхаванні, які я прачытаў на абласным семінары настаўнікаў мовы і літаратуры. Асноўная думка: сувязь эстэтычнага выхавання з жыццём, г. зн. з роднай прыродай, грамадскім і бытавым укладам нашага нацыянальнага раёна і нацыянальным (рэгіянальным) мастацтвам, – так быў захапіўся працай, што хацеў давесці даклад да кандыцыі журнальнага артыкула, але зараз гляджу на здабыткі гэтага даклада скептычна, магчыма, пазней, сабраўшы больш матэрыялу, давяду гэтую справу да нейкага канца».**

**Гэта – са снежня 1960-га. Тады, калі ласка, з лістапада 1972-га:**

**«...Вісіць на шыі яшчэ раздзел для акадэмічнай гісторыі літаратуры на рускай мове, і рукапіс Серафіма Андраюка (на рэцэнзіі) – дай бог закончыць да канца наступнага месяца... Каб як збавіцца ад пачуцця затумканасці – нічога не хацеў бы. А то налятае адно на другое, і бегаеш у вечных даўжніках, уцякаеш ад крэдытораў...»**

*сярэдняй нормы, тады мы маем справу з мастаком слова.*

*Дзве супрацьлеглыя мадэлі хараства – простай, аскетычнай і складанай, раскошнай – узніклі не ў часы Талстога і Чэхава, яны існавалі, мабыць, з таго часу, калі зараджалася эстэтычнае ўспрыманне свету на ўзроўні першых, высечаных у пячорах Альтаміры жывёльных татэмаў. Адна са старадаўнейшых дэфініцый простай красы належыць кітайскаму філосафу Ду Фу, які гаварыў: «Не трэба быць дарагім, як яшма, трэба быць простым, як камень». Няма сумнення, што афарызм Ду Фу узнік як альтэрнатыва супрацьлеглай мадэлі красы: нельга быць банальным і шэрым, трэба быць зіхоткім, як дыямент.*

*У розныя эпохі і ў розных асяроддзях на першы план высоўвалася адна ці другая мадэль, а ў эпохі стабілізацыі густаў абедзве яны сужываліся і ўзаемадзейнічалі ў кірунку росквіту, узбагачэння густаў.*

*Гармонія – залаты плён кавання супярэчлівасцей. Яна выступае як свята жыцця, як момант, калі пазнаннем, змаганнем і працай перамажана процьма злыбед, калі адолены адны жыццёвыя супярэчлівасці, а іншыя не паспелі завязацца.*

*Гармонія – гэта завяршэнне пэўнага этапу на шляху росту, узыходжання і непрыкметная падрыхтоўка да пачатку наступнага.*

*Гармонія – гэта апагейны прыпынак у няспынным палёце стыхій, лятункаў, сіл.*

# МЕНТАЛІТЭТ – ПТУШКА КРЫЎДЛІВАЯ

Свет наш супярэчлівы, складаецца з духу і матэрыі, думкі і справы Апостал Іаан пачаў сваё евангелле афарызмам. «Спачатку было Слова», гэта значыць, першасным з`яўляецца дух, ідэя свету, увасобленая ў слове Але ж вялікі Гётэ, шануючы евангелле, уклаў у вусны Фаўста афарызм-антыному «Am Anfang war die Tat» («Спачатку быў чын). Паводле практыкі і логікі чалавечай стваральнай дзейнасці спачатку фармуецца ідэя, задума твора, прадбачваецца прызначэнне яго, меркаваны ўжытак для чалавека, а потым ідзе чын, творчы акт, рэалізацыя задумы і карыстанне створаным.

Тыя мысляры, якія ўяўляюць тварэнне свету аналагічным праектаванню машыны ці маляванню мастаком карцін, не ўлічваюць багацця сусвету і яго сэнсу ў самім сабе Такая аналогія спрошчвае сутнасць сусвету, таму пазнанне вядзецца на аснове дыялектыкі, узаемаадносін тэорыі і практыкі, матэрыі і духу Думаецца і менталітэт, яго пашырэнне не складае выключэння

Моманты перавагі духоўнасці над практычнымі сродкамі ўздзеяння на жыццё запомніліся чалавецтву ад той падзеі, калі рымляне заваявалі Грэцыю і самі аказаліся заваяванымі, бо па добрай волі прынялі грэчаскую міфалогію, рэлігію, нормы сужыцця, элінізаваліся Гэты прэцэдэнт напомніў Мікола Гусоўскі каралеве Бонне ў



прадмове да «Песні пра зубра» Ён запэўніў каралеву, што, апякуючы паэтаў, мастакоў, вучоных, яна прынясе больш карысці дзяржаве, чым яе муж, ведучы войны з ворагамі.

Нацыянальная ідэя, духоўнасць выходзіць на першы план у грамадскім жыцці народа тады, калі ў нацыянальна свядомых асяродках абуджаецца вызваленчы дух, а таксама тады, калі вызваленчыя сілы цярпяць паражэнне і на падтрымку ўпалага духу пераможаных прыходзяць ідэолагі, заяўляючы, што ідэя свабоды жыве і гэта важней, чым дзяржаўнасць, якое не ўдалося здабыць. З такім суцяшальным словам выступіў у Вільні ў 1921 годзе Ігнат Канчэўскі, выдаючы кніжку філасофскіх нарысаў «Адвечным шляхам» Ён сцвярджае, што дзяржаўная незалежнасць спараджае месіянства і нацыянальны эгаізм· вызваленыя становяцца прыгнятальнікамі нацыянальных меншасцяў. Такую метамарфозу прайшлі польскія патрыёты, такое ж магло стацца і з беларускімі. Але не здарылася, пераможаныя беларусы маюць чыстае сумленне і могуць усе сілы скіраваць на адраджэнне духоўных каштоўнасцяў свайго народа, заслужыць павагу ў свеце. Канчэўскага падтрымалі паэты Жылка, Родзевіч ды ідэолаг беларускіх эсэраў на эміграцыі Тамаш Грыб Апошні выказаўся так шчыра і горача, што хочацца прывесці прынамсі адну мясціну з яго пісьма да У Жылкі: «Мы зыйшліся на цярністым шляху жыцця не для забавы, а для працы, для цяжкай маральнай і маруднай працы над уцелаішчаннем мэты нашага жыцця. У чым жа яна, гэта наша мэта? Пісаць аб гэтым не буду. Ваша «Уяўленне» і як дадатак да цэласці некалькі вершаў і амаль уся мая праца і практычная і тэарэтычная – сама за сябе кажа. А мо я памыляюся? О, не Я і цяпер у гэта веру Я веру, што мы аднолькава па зместу, хоць мо розна па форме ўяўляем мэту нашага жыцця Але адно трэба зазначыць пры гэтым· мы яшчэ не выявілі таго, як мы ўяўляем сваю мэту, свой ідэал. Гэтаму шмат было розных прычын, адна з якіх прывяла нас у Прагу Мы вырашылі грунтоўна папрацаваць над сабой, заняцца самаадукацыяй і самаўдасканаленнем, каб як найбольш у дасканалай форме выявіць тое, аб чым тужыць наша душа.

Бывайце здаровы, набірайцеся сіл, каб разам весці змаганне з беларускім нявольніцтвам ва ўсіх відах і формах»

Заходнебеларускі крытык і публіцыст А.Бужанскі ў 1937 годзе заклікаў тых паэтаў, у каго не клеіліся вершы, пісаць прозу, спадзеючыся, што нехта ж павінен напісаць такі раман, які абляціць увесь свет і скажа, што беларусы ў Польшчы жывуць і твораць, хоць іх адраджэнская дзейнасць, вызваленчы чын, які здзяйснялі Грамада і Змаганне, былі падаўлены Раман меў вярнуць з забыцця беларусаў і беларускую ідэю, а свет пачне іх прызнаваць. Нічога з гэтага не выйшла. Дык ці варта паўтараць хібнае, маючы, як кажуць, ад Бога дзяржаву і незалежнасць?

Дастаеўскі бачыў феномен беларускай ментальнасці ў трывучасці беларускага мужыка, які не траціў сваёй самасці, выжываў як адметны суб'ект гісторыі паміж двума вялізнымі і магутнымі этнічнымі і цывілізацыйнымі арэаламі расейскім і польскім Сапраўды, верхнія пласты беларускага абездзяржаўленага ў XVIII стагоддзі грамадства асіміляваліся: шляхецкая моладзь акаталічвалася ў езуіцкіх калегіях і апалячвалася пры

---

**Такія фрагменты з пісьмаў можна было б трывожна, прыкра множыць...**

**Забанальненым словам «хобі» мне не хочацца называць ягонае захапленне жывапісам, разьбой па дрэве, мастацкай фатаграфіяй – усё гэта было ў яго не толькі адпачынкам ад навукі і літаратуры, усюды ён дамагаўся прафесійнасці.**

**У падрыхтоўцы да выдання кнігі «Я з вогненнай вёскі...» у нас былі два выдатныя памочнікі – рэдактар Васіль Сёмуха і мастак Арлен Кашкурэвіч. Процьма работы, якая несправядліва называецца «чарнавой». Гэта тая работа, якой пасля не відно, відаць толькі промахі, недапрацоўкі, памылкі. А каб іх не было – патрэбна нямала цярплівасці, як з пчоламі, цягавітасці, як у аратага, дадамо яшчэ светлую думку, відушчасць і творчае азарэнне, якое не адразу ўспыхвае на жары ці прыску. Калі з Васілём Сяргеевічам працавалі мы ўдвух з Адамовічам, дык з Арленам Міхайлавічам Калеснік адзін. Пакуль ішла яго работа з мастаком, якога адрознівае і належны густ, і плённая практыка афарміцеля, а таксама і мяккая, але паслядоўная настойлівасць, Валодзя, і сам мастак, пісаў мне зрэдку і пра цяжкасці, і пра ўдачы ў пошуках належнага вырашэння той ці іншай формы падачы матэрыялу. Прычым трэба памятаць, што яму трэба было і ў Мінск прыязджаць неаднойчы, і што ўся тая процьма за чатыры леты назапашанага фотаматэрыялу ў падачы для кнігі рыхтаваліся ім не ў больш-менш прыстойнай фоталабараторыі, а проста ў цесным ванным пакоі, і не ў поўнай свабодзе для гэтай работы, а дзённымі ды вячэрнімі прыхваткамі, нібы між іншым, пасля лекцыяў, пасяджэнняў, дакладаў, літаратуразнаўчых работ, якія ў сваю чаргу, а часцей без чаргі патрабавалі належнай увагі.**

**І ён усюды паспяваў.**

**Дваццаць гадоў таму назад, у Маскве, знаёмячы Валодзю з маім рускім сябрам, добрым пісьменнікам і чалавекам Васілём Субоціным, я назваў яго, Калесніка, а мой Васіль Яфімавіч, па-свойму сціпла ўсміхнуўшыся, сказаў:**

**–Как же не знать! «Володя сказал», «Володя пишет», «Если бы Володя это видел». Очень приятно, Владимир Андреевич!..**

**І мне было прыемна ўдвая, – і што знаёмлю сяброў, і што Вася, якога цікавяць мае лірычныя запісы, аб чым ён і ў друку гаварыў, ведае пра нашу дружбу.**

**Гэта праўда – у запісах маіх, і ўжо надрукаваных, і яшчэ не, пра Валодзю гаворыцца часта. А штосьці большае пра яго як чалавека, пісьменніка, сябра мне пакуль што – спакусліва-заманлівае «пакуль што»! – напісаць не прыйшлося. Калі не лічыць скупаватага нарыса «Першы прыпынак», слова да яго пяцідзесяцігоддзя.**

**Нямала дадала б і, можа, калі-небудзь дадасць наша перапіска.**

**А <u>пакуль што</u> – аптымістычна паўторымся – няхай штосьці скажа і гэтая публікацыя з калектыўнай нагоды.**

Верасень 1995 года.

**Янка БРЫЛЬ**

[1] Саша – Алесь Адамовіч.
[2] Федзя – Фёдар Янкоўскі.
[3] Ніна Міхайлаўна – жонка Я. Брыля, педагог
[4] Якуб Герасімавіч Міско (1911–1981) – журналіст.
[5] «Прызнаюся, што жыў» (польск.).
[6] Леанід Мікалаевіч Навічэнка – украінскі літаратуразнаўца.
[7] Дзялец Міхаіл Іванавіч – у той час старшыня Камітэта па друку.
[8] Крынічнае – наднёманскі пасёлак у Карэліцкім раёне, дзе лецішча Я. Брыля.
[9] Ганна Мітрафанаўна (1904–1979) – маці Алеся Адамовіча.

дварах магнатаў яшчэ з часоў дзвюх Уніяў, пазней яна русіфікавалася, рыхтуючыся ў расейскую армію афіцэрыць або ачыноўнівацца цераз універсітэты Непарушны заставаўся мужычок-прастачок, хоць і тут дробная шляхта і заможныя сяляне асіміляваліся да сваіх былых сюзерэнаў, паноў. І ўсё ж у элітным сялянскім асяроддзі захоўваліся вугельчыкі беларускага менталітэту – трывучасць і павага да самога сябе, пачуццё сваёй патрэбнасці ў жыцці як кармільца свету Любіў мужык прыроду роднага краю, як святасць, што была партнёрам у яго дзейнасці. Ля гэтага цяпельца грэлі свае душы і настройвалі таленты беларускія пісьменнікі, чыёй місіяй стала асэнсаваць нацыянальны воблік свайго народа ў мастацкіх вобразах і вывесці ў свет, узвысіць яго Два тыпы былі знойдзены яшчэ ў XVII–XVIII стагоддзях у інтэрмедыях і сацыяльна-бытавых казках. Абодва яны былі разумнейшыя за паноў – гэта вобраз гаваркога Стопака, які ідзе на славесную дуэль з панам і перамагае, даводзіць да інфаркту самадура, расказваючы «чаму панскі сцізорык зламаўся», а другі, Рымша, такому пану-самадуру даказаў лазою, прывязаўшы ў мурашніку, што за здзек мужык умее адказаць справядліваю помстай. Не толькі хітрасцю як Стопак, а і сілай, як сапраўдны герой-асілак.

Пісьменнікі-патрыёты ў пачатку XX стагоддзя пайшлі далей – стварылі некалькі вобразаў-антыподаў У Купалавай «Паўлінцы» носьбітамі беларускай ментальнасці выступаюць Сцяпан Крыніцкі, элітны гаспадар, яго менталітэт у асабістай годнасці, адчуванні перавагі над шляхцюком Быкоўскім. Зусім новы варыянт носьбіта беларускай ментальнасці – інтэлігент, настаўнік Якім Сарока і яго выхаванка, дачка Крыніцкага Паўлінка, якая выбірае паміж Якімам і яго антыподам, нафардабычаным засцянковым шляхцюком Быкоўскім

Адчайная барацьба вакол беларускага нацыянальнага менталітэту разгарэлася ў часе рэвалюцыі. Праблема з нізоў паднялася ў інтэлігенцкую сферу і стала асновай праграмы вызваленчага руху Гэта добра адлюстравана ў вершах і п'есе Купалы «Тутэйшыя». Сцвярджаць беларускасць у гэтую пару вялікіх шанцаў і яшчэ большых перашкод трэба было не так словам, як чынам

Дзесяцігоддзі савецкай палітыкі зліцця і ліквідацыі нацый адкінулі нас далёка назад, за гістарычны гарызонт, калі ахоўнікамі менталітэту засталіся адны пісьменнікі ды настаўнікі беларускай мовы ў школах, тэхнікумах, інстытутах, акторы беларускіх тэатраў, спевакі хароў, а «руководящие товарищи» з дзяржаўных і грамадскіх установ са смакам русіфікаваліся, саветызаваліся Беларускую культуру сціснулі і прывялі да ролі нейкай прыправы да савецкага пышнага, звычайна русіфікаванага каравая.

Мы выходзім у разважаннях на тэму, што ёсць менталітэт бездзяржаўнага народа, а ёсць і народы паўдзяржаўныя, тым бывае найгорш. Першы трымаецца ў сферы ідэй, бездзяржаўнікі спрыяюць падвышэнню нацыянальнай ідэі, у крытычных момантах фетышызуюць свядомасць, творчасць, уздымаюць культуру над грамадскай дзейнасцю і нават над барацьбой за дзяржаўнае вызваленне Менталітэт дзяржаўнага, незалежнага народа ўсё робіць наадварот. Сам менталітэт увасабляецца тут не ў тэарэтычных разважаннях, не ў мастацкіх вобразах, а ў рэальных подзвігах і героях, арганізатарах змагання і дзеячаў, што за свае заслугі пасталі абраннікамі, важакамі дзяржаўнай і грамадска-палітычнай эліты. У паўдзяржавах эліты запаўняюцца прызначанымі, а не абранымі лідэрамі.

Што ж такое менталітэт? Гэта генеральная зарыентаванасць асобы ў нацыянальнай прасторы, цвёрдая ўстаноўка на прыярытэт патрыятычнага абавязку над прыватнымі інтарэсамі. Адсюль і высока развітое пачуццё нацыянальнай годнасці. Натуральна, што самымі мацёрымі носьбітамі нацыянальнага менталітэту стараюцца быць першыя асобы ў дзяржаве, цывілізаваная грамадскасць прымае іх за самых тыповых беларусаў, хоць на практыцы можа аказацца нешта іншае і тады ў дэмакратычных дзяржавах усчынаецца барацьба за змену лідэраў. На жаль, і сучасныя беларускія дзяржаўна-палітычныя лідэры не вытрымлівалі жорсткіх патрабаванняў менталітэту· ехалі з афіцыйнымі візітамі ў Польшчу і вялі там перамовы па-польску, а ў Расеі – па-расейску. Адсутнасць парытэту ў такіх выпадках паніжае нацыю, да якой належыць угодлівы лідэр. Атрымліваецца ў дадатак так, што ў палітыцы беларускі менталітэт раздвоены, вагаецца паміж Усходам і Захадам.

Не найлепшую карысць справе адраджэння прыносяць правінцыяльныя жэсты ветлівасці, якія рассыпаюць нашы лідэры і аўтарытэты. Мяне абурае, калі я чую авансам кіданыя з высокіх трыбун ці тэлеэкрана гасцінныя воклічы «Перад эмігрантамі трэба на калені ўпасці, яны захавалі беларускую мову і дзяцей навучылі. Беларуская мова там, за мяжой, у эмігрантаў, больш чыстая, чым у нас» А на справе, які ж подзвіг у тым, што чалавек не адцураўся, не адрокся, не кінуў роднае мовы? Ды гэта самая натуральная норма ў свеце Толькі ў нас, у часы хрушчоўскага шалапуцтва, беларуская мова была ператворана ў разменную валюту, якою кар`ерысты і цынікі аплачвалі пасведчанні аб набліжэнні да камунізму і сваё права на кіраўнічыя пасады там, у сталіцы сталіц Маскве. Справа дайшла да такое ганьбы, што адзін паэт нават на пасяджэнні ў Саюзе пісьменнікаў заклікаў да калектыўнага перакульніцтва, пераходу ўсім гуртам на расейскую мову. Калі, маўляў, гэта наблізіць нас да камунізму і сусветнай культуры, дык што ж тут такое Зала была шакіравана гэтым прагматычным нахабствам. Назаўтра герой атрымаў мянушку Смердзюкоў беларускай літаратуры.

Пра дасканаласць мовы, якую нібыта захавалі ці выпрацавалі беларускія эмігранты, гаварыць можна хіба жартам. У публіцыстыцы і мемуарыстыцы часта цвітуць там жарганізмы і словы-калекі Чаго варта адна безгустоўная калька «задзіночанне», спісаная з польскай.

Трэба аддаць належнае беларускай патрыятычнай інтэлігенцыі за мяжой за тое, што асуджала палітыку дэнацыяналізацыі, якую праводзілі ў постсталінскія часы нацыянальныя нігілісты на радзіме. Што датычыць чысціні мовы, дык яе ствараюць і захоўваюць таленавітыя вучоныя і мастакі, дзе б яны ні жылі

Як дарунак лёсу мы атрымалі незалежнасць, маем свабодную дзяржаву і органы заканадаўчай, выканаўчай і прадстаўнічай улады Апошнія для таго і існуюць, каб дастойна прадстаўляць Беларусь, імкненні, намеры і здольнасці яе народа, беларускія

# СПРОБА ПАРТРЭТА

**... Прыснілася: я паставіў сваю машыну ў гараж да Калесніка!.. У тым гаражы, што ўніз па вуліцы Спакойнай, адразу за Трышынскімі могілкамі, яшчэ пры жыцці гаспадара я быў усяго адзін раз. І нават, калі б хацеў, не змог бы сёння знайсці ні сам гараж, ні нават прыблізнае яго месца... Але хто ходзіць тваімі сцежкамі, Божа! І хто паказвае нам тыя сцежкі... Самохаць заехаць у Калеснікаў гараж, ды яшчэ і паставіць туды сваю машыну!.. І гэта нібы яшчэ пры ім, жывым, прысутным... Абсурднасць і абсалютная немажлівасць таго, што адбывалася незалежна ад маёй волі, выклікалі ўва мне нават у сне нейкую стрэсавую ашаломленасць, пачуццё непапраўнай віны, што паступова ахаплівалі ўсю істоту гарачаю хваляю сораму і прыкрасці...**

**...Містычны сон перарваўся зусім рэальным тэлефонным званком. На тым канцы провада была Зося Міхайлаўна, яго ная жонка і найблізкі сябра, якая цяпер, пасля смерці гаспадара, узяла на сябе клопат аб усіх яго недавершаных справах, аб ягоных асірацелых аспірантах і дыпломніках... І вось цяпер клапацілася пра лёс аднаго з іх, беручы пад сваю абарону і апеку...**

**І сон, і ява звязваюць нас з ім, адышоўшым, інерцыяй прыцяжэння агромністага касмічнага цела, таямнічага і маласпазнанага, што ціха праплыло каля нас, захапіўшы ў сваю арбіту і бударажачы ўяўленне гарызонтамі нязвыклымі, невядомымі...**

**Памяць не адпускае. Памяць лучыць нас з ім (жывых з мёртвым) адзіным ланцугом лёсу, дзе ў грандыёзным працэсе тварэння нацыянальнай свядомасці (Калеснік паэтычна называў гэта «тварэннем легенды»), кожны толькі звяно, з`яднанае родавым абавязкам і духам з папярэднікамі і наступнікамі. Продкі цанілі і ставілі гэтае пачуццё лучнасці вышэй за ўсё: пачынаючы пабудову храма ці крэпасці, засяваючы белае поле пергаменту ці паперы зернем мудрых ісцін, ведалі: нашчадкі давершаць пачатае, бо вечны род людскі духам і добрымі справамі. З тым прыходзілі ў свет, аб тым клапаціліся, адыходзячы з яго.**

**Я чую іх спавядальныя галасы з глыбіні стагоддзяў.**

**Еўфрасіннін: «Но что Успѣша при нас бывшии родове наши? И женишася, и посягоша, и княжиша, но не вѣчноваша. И житие их мимо тече. Слава их погыбе, яко прах, и хужьши паучины».**

**Скарынаў: «Таковый убо был милосник наукы и мудрости (пра Пталамея Філадэльфа. – Г П.), иже болѣй избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах».**

**У гэтым духоўным запавеце продкаў, з іх прагай выйсці за межы наканаванага зямнога быцця, прадоўжыцца ў памяці нашчадкаў праведнай сілай і аўтарытэтам сваёй духоўнай існасці, свайго духоўнага подзвігу, мне чуецца і яго са-**

дыпламатычныя прадстаўніцтвы працуюць у многіх краінах свету, на форуме ААН Беларусь прадстаўлена сталай прадстаўнічай дэлегатурай. Не разумею, чаму раптам некаму захацелася перадаць пальму першынства культуры і цераз яе прадстаўляць менталітэт Але ж гэтае прадстаўніцтва можа насіць толькі неафіцыйны характар і выяўляецца ў словах, спевах ці танцах. Баюся, што і тэрмін менталітэт давядзецца нам выводзіць ад беларускага вясёлага слова мянташка. Нацыянальны менталітэт гэта сама ідэя беларускасці, якую можна добра выявіць цераз панацці, публіцыстычныя і відовішчныя творы мастацтва, гэта перадусім стваральная дзейнасць народа

Пасля палітычнай эліты ідзе ў цывілізаваных краінах эліта інтэлектуальная – навукоўцы, творчая інтэлігенцыя, асветнікі і дзеячы культуры. Названая грамадская асобнасць пашырае нацыянальную ментальнасць незалежна ад чыіхсьці заклікаў ці даручэнняў, робіцца гэта самастойна, бо навука, мастацтва, культура, калі яны паўнакроўныя і развітыя, нясуць у сабе вобраз нацыянальнага характару, тыпажу Нават сёння, хоць беларуская культура не ачуняла яшчэ ад прэсінгу і дэфармацыі, якія чынілі чыноўнікі ад культуры, ажыццяўляючы сталінскае прадпісанне «культура нацыянальная па форме і сацыялістычная па зместу», сіла ўздзеяння беларускай эліты на грамадскасць замежжа значная

У руках інтэлектуальнай эліты этыка і эстэтыка, а гэта моцныя сродкі перадачы менталітэту, паколькі сюды ўваходзіць эмацыянальна-вобразная форма свядомасці. Увасабляючы характэрныя рысы беларускай існасці ў жывыя мастацкія вобразы, яскрава малюючы займальныя жыццёвыя сітуацыі, культуратворчая інтэлігенцыя стварае на радзіме духоўную атмасферу братэрства, роднасці ўсіх жыхароў Беларусі. Мастацкія творы нясуць эталоны паводзін і адносін паміж грамадзянамі Беларусі, ствараюць атмасферу бяспекі, зычлівасці і салідарнасці. Чалавек, які належыць да беларускага народа, не павінен ніколі адчуваць сябе лішнім, непатрэбным, чужым.

Што датычыцца цывілізаваных высокаразвітых краін, дык іх цікавіць не так самабытнасць беларускай ментальнасці, як узровень цывілізаванасці гэтага мала каму вядомага народа. Замежнікі пытаюць, ці беларусы бліжэй стаяць да жыхароў рэчышча Амазонкі, ці да цывілізаваных дэмакратычных краін Даказаць, які той узровень развітасці пры дапамозе адной культуры – цяжка Ужо сённяшняя Беларусь звязана мноствам галін і карэнняў свайго дзяржаўна-грамадскага жыцця з блізкім і далёкім замежжам У гэтых сувязях удзельнічаюць першыя асобы дзяржавы, і спартсмены, і эстраднікі, і камерсанты Трэба ствараць грамадскую думку, каб усе галіны і карэнні працавалі на беларускі менталітэт, каб і дзелавыя людзі адчувалі сябе тыповымі прадстаўнікамі беларускага нацыянальнага характару На жаль, пакуль што такое адчуванне ёсць адно толькі ў «Дайновы» і прадпрымальніка-нафтавіка Анатоля Селівоніка ды некалькіх іншых, а многія дэманструюць афарызм манкуртаў· «Мне всё равно, как говорить. колбаса, килбаса или коўбаса, лишь бы оно давало доход».

Незалежнасць дасталася нам лёгка, як вытворнае ад барацьбы рускіх дэмакратаў з кансерватарамі, што маньячылі аб рэканструкцыі Саюза. А тое, што лёгка дастаецца, невысока цэніцца. Былыя наменклатурнікі, якімі жывасілам нашпігавана ўся сістэма ўлады, перапалохаліся таго, што рускія дэмакраты-ельцынцы, перамогшы апазіцыю, не захочуць з дубагаловымі мецць справы і настане іх палітычная смерць. Схапіліся за добра асвоены промысел махлярства і падманаў Задубелая большасць у Вярхоўным Савеце прагаласавала за незалежнасць Беларусі, згадзілася на ўвядзенне гістарычнай сімволікі – старадаўняга сцяга і герба «Пагоня», прыняла закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Але, ачомаўшыся, гэтыя псеўдапатрыёты ўбачылі, што зайшлі вельмі далёка ў грыміроўках і маскіроўках: рускім дэмакратам патрэбны былі не беларускі патрыятызм ці дэмакратызм, а згодніцтва, такое самае, якое яны асвоілі, робячы кар`еры ў былым СССР І сказалі рэстаўратары: «Вороти, бабушка, капусту назад». Па ўсіх інстанцыях улады выбухнуў рэстаўратарскі юр, вылілі найперш цэбар памыяў на беларускую мову і падтрымалі цемрашалаў з антыбеларускіх бастыёнаў рускамоўнага насельніцтва, прытворна зараўлі пра небяспеку беларускага шавінізму Адным словам, янычары ўдарылі ва ўсе медныя катлы і накрыўкі· «Даешь старую символику, даешь двуязычие, даешь общую валюту – российский рубль!» Аб`ядналіся наспех рэанімаваныя КПБ і БКП, іх лідэр у праграмным звароце на старонках «Новой народной газеты» сказаў, што беларусы, як і іншыя славяне, псіхалагічна не прымаюць дэмакратыі, ім трэба іншы лад, а паплечніца лідэра, дачка Машэрава, напрасткі аб`явіла, што пара уніфікаваць разбежкі ў ідэалогіі, якія шкодзяць рэстаўрацыі былога..

Хіба гэтую бездапаможнасць, разбэрсанасць і растрэсенасць грамадска-палітычных структур, палітычнае бескультур'е можна нам везці за мяжу і выдаваць за беларускі нацыянальны менталітэт? Зробяць гэта, аблізваючыся, касмапрагрэсісты, якія зарабляюць даляры за абрыджванне сваёй намінальнай айчыны, тыя, што працуюць толькі на экспарт і беларускія слоўкі ў сваіх «писаниях» ужываюць толькі для дыскрэдытацыі мовы, якую А. Міцкевіч лічыў самаю чыстаю і паэтычнаю з усіх славянскіх моў. Ведаюць падзёншчыкі пяра, што няма сёння ў Беларусі нават такіх гарачых галоваў, якія, згаварыўшыся, учынілі б абрыджвальнікам «цёмную». Гэта быў бы належны адказ на свядомую подласць. Робяць нешта падобнае на касмапрагрэсістаў і наменклатуршчыкі-склеротыкі, запрашаючы ўсіх беларусаў прыняць удзел у дабудоўванні Вавілонскай вежы па імені Савецкі Саюз.

Пра якую культуру і ментальнасць можна тут сур'ёзна гаварыць? Насамперш трэба нам самім прафесійна засвойваць культуру развітых краін, а не валачы на радзіму задворкавай брыдоты..

*Незакончаны артыкул з архіва Уладзіміра Калесніка.*
*Пачатак 1994 г*

**слабелы, балесны голас там, у бальнічнай палаце, калі, пакутуючы ад болю і мройна паказваючы вачыма некуды ўвысь, пад столь пакоя, ён як выдыхнуў нешта сваё запаветнае, вынашанае: «... От, каб дзенебудзь там застацца, пісаў бы, думаў...»**

**Канцэнтрацыя на духоўным змесце жыцця, адчуванне сваёй прафесіі і творчай дзейнасці крытыка, літаратара найперш як місіі слугавання свайму народу і людзям, праз якую і ён сам як бы выходзіў у сферу вечнага чалавечага духу, альбо ноасферу, як яе называў Вярнадскі, былі, як мне здаецца, магутным унутраным рухавіком і сэнсам яго падзвіжніцкай творчай дзейнасці на ніве нацыянальнай літаратуры, культуры, асветы.**

**Юнаком спазнаўшы пекла вайны і гераічны драматызм партызанскага змагання, страту сяброў і страх смерці, меру чалавечага і нечалавечага ў самім чалавеку, ён вельмі рана пачаў вымяраць сваё жыццё і ўчынкі катэгорыяй вечнага, маштабам гістарычнага поступу нацыі і ў гэтай сваёй грамадзянскай і чалавечай звышзадачы альбо місіі, старанна прыхаванай абалонкай знешняй прастаты і звычайнасці, вельмі часта заставаўся незразумелым не толькі абывацелю, але і людзям блізкім, нават сябрам...**

**Да гэтага трэба дадаць незвычайна развітую эстэтычную і маральна-этычную ўражлівасць і бясспрэчную сумленнасць, памножаныя на гарачлівы, бескампрамісны характар, якія непазбежна штурхалі яго ў самы вір жыцця, у эпіцэнтр грамадска-палітычных і літаратурных праблем і канфліктаў, з самага пачатку творчай дзейнасці выводзячы на вастрыё грамадска-навуковай думкі, што найперш канцэнтравалася тады ў сферы літаратуры і літаратуразнаўства.**

**Нездарма пасля вайны, калі вынішчаная ў 30-я гады беларуская літаратура і крытыка пачалі пакрысе апрытомніваць, збіраць сілы і інтуітыўна намацваць пераараны бульдозерамі сталінізму і вульгарна-сацыялагічнай крытыкі нацыянальны шлях, расстаўляць новыя вехі, тады яшчэ малады, пачынаючы крытык адразу ж замацаваўся на гэтым грунце як даследчык літаратуры Заходняй Беларусі. Нацыянальная адраджэнская ідэя, прыціснутая напластаваннямі марксісцкіх догмаў, задушлівай атмасферай ідэалагічнага ўціску і цкавання, падспудна жыла ўім заўсёды. Цяпер жа яна станавілася той унутранай духоўнай апорай, што надавала сэнс жыццю, навуковай і літаратурнай творчасці, спакваля гартавала ў ім дух апазіцыйнасці і ўнутранага супраціўлення афіцыйнай ідэалогіі таталітарызму і уніфікацыі.**

**Дарэчы, У. Калеснік ніколі не быў ні руйнавальнікам сацыялістычных асноў, ні палітычным праціўнікам сістэмы. Ягоная апазіцыйнасць у цэлым не выходзіла за рамкі памяркоўна-ліберальнай рэфармісцкай ідэалогіі шасцідзесятнікаў, а арыентацыя на сацыялістычную ідэю і сацыялістычны выбар была і да апошніх дзён заставалася па-за ўсякай палітычнай кан'юнктурай. У пачатку 80-х гадоў мне нават даводзілася чуць у яго адрас папрокі ў залішняй артадаксальнасці.**

**Зрэшты, ці можна нешта пэўнае сказаць пра верніка па тым, як часта ў царкве кладзе ён паклоны?! Не палітычная фразеалогія і не марксісцка-ленінская аснашчанасць асобных прац У. Калесніка (месцамі**

і сапраўды густаватая) вызначалі глыбінную сутнасць, змест і напрамак яго літаратурна-крытычнай дзейнасці, а прафесійная сумленнасць і нацыянальны грунт мыслення, пазіцыя шчырага заступніцтва і абароны беларускасці, роднай мовы і культуры, што рэалізаваліся ў фундаментальнай распрацоўцы ім ідэалогіі і эстэтыкі нацыянальна-вызваленчага адраджэнскага руху ў гісторыі беларускай літаратуры XVI–XX стст. Варта задумацца над значэннем хоць бы аднаго толькі факта адкрыцця і грунтоўнай прапіскі ў гісторыі нацыянальнага пісьменства творчасці У. Жылкі, В. Таўлая, Л. Родзевіча, К. Сваяка, І. Канчэўскага, Л. Геніюш, М. Машары, М. Васілька, М. Засіма, шматлікіх іншых імёнаў і твораў паднагляднай і санацыйнай да самага апошняга часу літаратуры Заходняй Беларусі. І гэта ва ўмовах, калі нават на былых членах КПЗБ ляжаў цень падазронасці, закрываліся беларускія школы, ішоў шалёны русіфікатарскі наступ, а правадыры БССР ліхаманкава рыхтаваліся папоўніць беларусамі новую гістарычную супольнасць – савецкі народ...

Дзівакам-рамантыкам, накшталт У. Калесніка, пры такім раскладзе, што прапаноўвала сваім грамадзянам магутнейшая ў свеце таталітарная дзяржава з яе жорсткай сістэмай іерархічнага падпарадкавання, строгай рэгламентацыяй і кантролем за ўсімі формамі выяўлення грамадскай думкі, не заставалася нічога лепшага як разгортваць свой ідэал дзяржаўнага і грамадскага ўладкавання на пляцоўках ідэалагічна больш ціхіх і бяспечных, чым сфера рэальнай палітыкі. Скажам, дрэйфаваць у мінулую гісторыю Беларусі, да цьмяных берагоў Сярэднявечча, дзе ўзгаралася зорка беларускага Адраджэння, пачынаўся Новы час, наступаў Залаты век... І Францыск Скарына са старонак «Библии русской» разважаў аб мудрых законах, якіх павінны слухацца і якім мусяць падпарадкоўвацца нават цары...

Непапраўны ідэаліст і фантазёр, які публічна бажыўся ў сваіх камуністычных перакананнях, ён чамусьці захапляўся і аддаваў відочную перавагу ў сваіх працах прымітыўна-простым, змадэляваным паводле законаў жывой прыроды і боскай справядлівасці формам арганізацыі грамадства і грамадскага жыцця. Тым самым, паводле якіх жылі першыя хрысціянскія абшчыны, што яшчэ не скаштавалі пладоў рэальнага сацыялізму, паводле якіх і сёння жывуць у прывольных пушчанскіх лясах чароды асілкаў-зуброў, раяцца пчаліныя раі... Звяры і птушкі ведаюць свае лагавіскі і гнёзды, а людзі навекі захоўваюць у сваім сэрцы любоў і ласку да мясцін, дзе нарадзіліся і ўзгадаваліся з ласкі Божай...

Чалавек нябесны, улюбёны ў Сярэднявечча і паэзію класічных рамантыкаў, ён быў адначасна і чалавекам надзіва зямным, рэалістычным, які хадзіў па грэшнай зямлі, і гэты цвёрды грунт пад нагамі, смак цяжкой штодзённай навуковай і творчай працы, вір службовых, гаспадарчых, бытавых і іншых дробязных і нядробязных клопатаў і спраў былі для яго такой жа неабходнай і сэнсоўнай часткай жыцця, як і патрэба ўзірацца ў зорнае неба над галавой і недасяжны іскрысты Млечны Шлях...

Жыццё, людзі, свет цікавілі яго ва ўсёй разнастайнасці і шматаблічнасці сваіх праяў, ва ўсіх сваіх унутраных дачыненнях, сутыкненнях і супярэчнасцях, гармоніі і анамаліях, высокім і нізкім, трагедыйным і камічным.

Ён і сам быў чалавекам няпростым, складаным – як уласнай неардынарнай, рэдкай натурай, так і адбітым у ёй часам з яго кантрастамі, супярэчнасцямі і ілюзіямі, з яго надзеямі і памылкамі, з яго праўдамі і горкімі крыўдамі. Ён быў, як само жыццё... І нават назвай сваёй развітальнай кнігі дзякаваў яму за дар блаславёнага святога і грэшнага чалавечага наканавання...

Ягоны чалавечы характар можна суаднесці з спектрам дзённага святла: у ім як бы ўсе мажлівыя адценні і грані чалавечай натуры, узятыя ў іх дыялектычных антыномах... Ён быў мудры і гарачлівы безаглядны, пранікліві і наіўна-даверлівы, адчайна смелы, нават дзёрзкі і абачлівы асцярожны, бескампрамісны і памяркоўны, паблажлівы і педантычна строгі, па-таварыску просты, даступны і субардынацыйна недасягальны... Быў шляхетна далікатны і абыходлівы з людзьмі і мог прылюдна разануць такое... у духу не горшых узораў вуснай творчасці народа, што заставалася толькі пачухаць патыліцу... Усё залежала ад узроўню асобы субяседніка і сітуацыі, грамадскай важнасці і прынцыповасці дыскутаванага пытання ці праблемы, унутранага настрою і стану душы.

Але над усімі антыномамі дамінавала і звязвала іх у цэласны чалавечы характар ягоная непаўторная мудрая, іранічна-мяккая ўсмешка, якая гаварыла пра яе ўладальніка больш і глыбей, чым усе напісаныя ім кнігі і сказаныя словы...

... Мне здаецца, што якраз у шматграннасці і дыялектычна-супярэчлівым універсалізме натуры і чалавечага характару Уладзіміра Андрэевіча, што дазвалялі яму лёгка распазнаваць розныя тыпы аўтарскай індывідуальнасці і характараў літаратурных герояў, прагназаваць і дакладна ацэньваць іх псіхалагічныя рэакцыі і паводзіны ў канкрэтных жыццёвых сітуацыях і, адпаведна, адэкватнасць іх эстэтычнай сублімацыі ў мастацкім вобразе, якраз і прыхавана таямніца яго унікальнага крытычнага дару.

Прычым сама літаратурна-крытычная праца была для яго не толькі інструментам пазнання рэчаіснасці і мастацтва, але і формай самога жыцця, той яго унікальнай гранню, якая дазваляла спаўна рэалізаваць якраз найбольш моцныя бакі яго шматграннай таленавітай натуры.

Калеснік – літаратар, творца і Калеснік – жывы чалавек – шмат у чым розныя людзі. Пісьмо, праца над словам астуджвалі яго гарачую імпульсіўную натуру, яго імгненную, часта непрадказальную рэакцыю на падзеі і з'явы грамадска-палітычнага і літаратурнага жыцця, людзей, дазвалялі спыніць і вярнуць час, скарэкціраваць празмерна эмацыянальныя ацэнкі альбо недакладныя высновы. Пісанае слова вызваляла ў ім прастору для вечнага, для глыбіннага філасофскага роздуму над сутнасцю жыцця і з'яў мастацтва, вызваляла ў ім мысліцеля, як Радэн вызваляў скульптурны вобраз з гранітнага друзу, адсякаючы, па яго словах, усё лішняе.

Ён і сапраўды быў у гушчыні жыцця, быў, як само жыццё, але адначасна і над жыццём.

Ён жыў у сваім часе, але і над часам.

Ён заўсёды быў самім сабою, але і над сабой, больш за самога сябе...

Усё ягонае жыццё ёсць гісторыя бязлітаснага спаборніцтва, змагання і барацьбы: з часам, лёсам, з самім сабою – учарашнім, недасканалым, кансерватыўным..

Я не магу назваць у сённяшняй нашай літаратуры пісьменніка, літаратара, роўнага яму ў гэтым чалавечым і творчым подзвігу: патрэба ў самаўдасканаленні, у пастаянным самаабнаўленні была ўнутранай асновай, стрыжнем яго натуры, яго тытанічнай, пасапраўднаму рэнесансавай постаці.

У свае семдзесят тры гады ён пайшоў ад нас да крыўднага рана, па-маладому прагны праўды і хараства, поўны шматлікіх задум, у вечнай, няскончанай спрэчцы з жыццём і яго праблемамі.

Ягоны дух сягаў на стагоддзе!.

..... .. .. .....

Прысніцца ж такое: я паставіў сваю машыну ў гараж да Калесніка!..

Генадзь ПРАНЕВІЧ

# ЯГО АСОБА

Яго асоба здзіўляе сваім багаццем і шматграннасцю, сваёй духоўнай цэласнасцю. На лекцыі пра творчасць М.Багдановіча ён, помніцца, з асаблівым пачуццём паўтараў словы паэта:

*Жыві і цэльнасці шукай.*
*Аб шыраце духоўнай дбай.*

Паўтараў – і сам запальваўся ад гэтых слоў.

Творчая спадчына Калесніка, яго зацікаўлены збор і вывучэнне дадуць несумненна шмат каштоўнага для літаратуразнаўства і гуманітарнай навукі ў цэлым. Але не менш плённай у гэтых адносінах з'яўляецца менавіта асоба пісьменніка і крытыка, якая ў даным выпадку набывае якасць метадалагічнай праблемы. Час быў такі, што палітычная пячатка забарон і рэгламентацый далёка не заўсёды садзейнічала поўнаму і ідэнтычнаму самавыяўленню творцы. Часта думалі адно, а казалі другое. З Калеснікам такога – можна з упэўненасцю сказаць – не здаралася: той справе, за якую ён браўся, ён імкнуўся выдаткоўваць сябе дарэшты і, як кажуць, без рэзерву. Яскравая, буйная асоба гэтага чалавека і няпросты характар праяўляліся ва ўсім, да чаго ён дакранаўся. Але час не мог не адбіцца і на яго працах. Ёсць тут, напэўна, месцамі, скажам, крыху перабольшаная доза сацыялагічнага дэтэрмінізму ў тлумачэнні мастацкага феномена. Але ў каго з нас гэтага няма? У Калесніка якраз менш, чым у каго іншага. Ён больш, чым хто, давяраў сабе, яго компасам была любоў. Ён пісаў пра тое, што паважаў, цаніў, пра тых, хто выклікаў яго сімпатыю і захапленне, да каго ён быў нераўнадушны. Сярод «герояў» яго даследчых прац – Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі, Максім Танк, Міхась Васілёк, Рыгор Шырма, Ігнат Канчэўскі, Алесь Салагуб, Валянцін Таўлай, Мікола Засім, Уладзімір Караткевіч і іншыя знакамітыя постаці. «Інтэлігентнасць без позы» – назваў ён свой артыкул пра адну з кніг С. Ліхадзіеўскага, здзіўішы ўсіх новым разуменнем паэта і паэзіі. У многім і сам У. Калеснік падобны на сваіх герояў-інтэлігентаў без позы, руплівцаў дабра і справядлівасці, нястомных апосталаў веры ў чалавека. На мой погляд, у пару «адлігі» ён вельмі трапна вызначыў маральна-этычную сутнасць творчасці М. Танка – «гераізм чалавечнасці».

Уладзімір Калеснік уяўляецца мне сапраўдным еўрапейцам, барацьбітом за чалавечыя правы, постацю ў поўным сэнсе гэтага слова рэнесанснай. У многім гэта ішло, відаць, ад выхавання, ад радзінных каранёў, ад гімназіі, дзе ён вучыўся ў дзяцінстве, ад лепшых старонак той нацыянальна-вызвольнай эпапеі барацьбы, якую вяла Заходняя Беларусь у 20–30 гады, у імкненні «людзьмі звацца». І ў самога Калесніка была моцная агульначалавечая маральна-этычная аснова. Помню ягоныя ўспаміны пра гімназійнага выкладчыка-лацыніста, які тлумачыў сваім вучням слова concordia, захапляўся яго сэнсам і гучаннем.

Пра Калесніка можна гаварыць бясконца. Ужо самім фактам свайго існавання, творчай актыўнасці, адчуваннем мэты ён уносіў у паўсядзённае жыццё асэнсаванасць і надзею.

Мяне не пераставала здзіўляць пасіянарная адоранасць гэтага чалавека, яго вера ў лепшае. У лісце да мяне ён пісаў у адказ на некаторыя мае сентэнцыі: «Калі прыедзеш да родзічаў, а я буду яшчэ жывы, заходзь, пагамонім, ці моцная ў Вас вера?»

Патрыятызм з'яўляўся для

яго таксама агульначалавечай нормай і каштоўнасцю. У адной з сваіх нядаўніх яшчэ прац У. Калеснік згадвае цікавы эпізод, які ён адшукаў у архіўных матэрыялах па беларускай гісторыі пачатку 20-х гг.: «Усевалад Ігнатоўскі, развітваючыся з Пётрам Крачэўскім перад прыходам бальшавікоў у Менск, сказаў сябру: «Ты ідзі служыць Беларусі на Захад, а я пайду на Усход». Так па-братэрску развіталіся кіраўнікі Беларускай камуністычнай арганізацыі з прэзідэнтам БНР. Здавалася б, што тут такое? – дадае даследчык. – Нармальны чалавек убачыць трыумф патрыятычнага пачуцця і абавязку над палітычнымі страсцямі, партыйнымі арыенцірамі. ... Бальшавіцкія ідэолагі бачылі здрадлівасць, двурушніцтва, каварства» («Літаратура і мастацтва». 1993. 15 лют.).

Ці трэба дадаваць да гэтага, што абвостранае (па зразумелых прычынах) пачуццё патрыятызму ніяк не перашкаджала У. Калесніку нармальна адносіцца да людзей усіх нацый.

Пра яго можна расказваць бясконца.

Спадчына Уладзіміра Калесніка – агульнае духоўнае багацце ўсіх тых, хто верыць у дабро і справядлівасць.

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# УЛАДЗІМІР КАЛЕСНІК І ПРАБЛЕМЫ НОВАЙ «ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XX СТАГОДДЗЯ»

*(Выступленне на мемарыяльных чытаннях «Асоба і духоўная спадчына Уладзіміра Калесніка»)*

Шаноўнае спадарства! Я з удзячнасцю прыняў запрашэнне Аргкамітэта мемарыяльных чытанняў, бо заўжды адчуваў і адчуваю бязмежна глыбокую павагу да Уладзіміра Андрэевіча. Павага гэтая ідзе ад усведамлення маштабнасці яго асобы, узятай у кантэксце грамадска-палітычнага і культурна-духоўнага жыцця Беларусі. Уладзімір Калеснік – буйнейшая фігура на небасхіле беларускай крытыкі і літаратурнай навукі 50–90-х гадоў. Цэлае паўстагоддзе працаваў гэты таленавіты пісьменнік і вучоны на ніве беларускай культуры, літаратуры, асветы! Асэнсаваць яго ролю ў распрацоўцы тэарэтыка-метадалагічных прынцыпаў пабудовы новай «Гісторыі беларускай літаратуры», у асвятленні гісторыка-літаратурнага працэсу і канкрэтных творчых постацяў – задача ў такой жа ступені ганаровая, як і складаная. Тым болей, што мы глядзім на новую «Гісторыю» як на заданне агульнадзяржаўнага ўзроўню. Не вузкае кола аўтараў удзельнічае ў яе стварэнні, а фактычна ўсе літаратуразнаўчыя сілы Беларусі. І таму вопыт даследчыкаў, якія на працягу доўгага часу вызначалі твар нацыянальнай крытыкі і літаратурнай навукі, павінен быць усебакова асэнсаваны і выкарыстаны ў новай калектыўнай працы, закліканай прадэманстраваць узровень дасягненняў не толькі беларускага літаратуразнаўства, але і ўсёй навукова-творчай думкі. Між тым практыка папярэдніх «Гісторый беларускай літаратуры» сведчыць, што вопыт многіх таленавітых даследчыкаў належным чынам не выкарыстоўваецца. А гэта збядняе ўяўленні аб нацыянальным прыгожым пісьменстве, ускладняе становішча тых, хто будзе карыстацца калектыўнай «Гісторыяй». Яно і зразумела: «Гісторыя» замацоўвае пэўную шкалу каштоўнасцяў, і тое, што туды не трапляе, як бы адсоўваецца на другі план. Гэта датычыць і канкрэтных пісьменніцкіх імёнаў, і асобных жанраў, і складаных гісторыка-літаратурных праблем. `Апроч таго, хацелася б закрануць тут і яшчэ адзін аспект. Сённяшнія мемарыяльныя чытанні я асабіста разглядаю як адзін з практычных крокаў у калектыўнай падрыхтоўцы навуковай біяграфіі Уладзіміра Андрэевіча і напісанні новай навуковай «Гісторыі беларускай крытычнай думкі». Упэўнены, прыйдзе час і на кніжных паліцах з`явіцца прысвечаная Калесніку кніга ў серыі «ЖСЛ» («Жыццё славутых людзей»). Не выключана, што яе аўтар знаходзіцца ў гэтай жа аўдыторыі і слухае нашы выступленні, пераконваючыся, што сваёй шматграннай дзейнасцю Уладзімір Андрэевіч заслужыў падобную пашану – стаць героем кнігі і заняць ганаровае месца ў «Гісторыі беларускай крытыкі».

Перад тым, хто распачне працу над «Гісторыяй крытыкі», непазбежна паўстане пытанне: якую метадалогію, прынцыпы якой метадалагічнай школы браў у аснову сваёй дзейнасці Калеснік – крытык і даследчык? Змест яго прац – «Паэзія змагання» (1959), «Час і песні» (1962), «Зорны спеў» (1975), «Ветразі Адысея» (1977), «Максім Танк» (1981), «Лёсам пазнанае» (1982), «Тварэнне легенды» (1987), «Янка Брыль» (1990), «Усё чалавечае» (1993) – змест гэтага дзевяцікніжжа паказвае, што іх аўтар аддаваў перавагу т.зв. біяграфічнаму метаду як аднаму з кампанентаў культурна-гістарычнай школы. Дабратворнае ўздзеянне гэтай школы зведалі на сабе многія славутыя вучоныя, сярод якіх былі і выдатныя беларускія пісьменнікі – Максім Багдановіч, Сяргей Палуян, Максім Гарэцкі, акад. І. І. Замоцін. Чалавек энцыклапедычных ведаў, Уладзімір Андрэевіч таксама не мог не апынуцца ў сферы прыцягнення гісторыка-культурнай





метадалогіі, але ўжо абноўленага зместу; ён свядома браў на ўзбраенне плённыя здабыткі папярэднікаў і творча ўзбагачаў іх жывым вопытам беларускага слоўнага мастацтва.

У чым прывабнасць біяграфічнага метаду? У тым, што ён рэальна дапамагае раскрыць творчасць пэўнага пісьменніка ў адзінстве сацыяльна-грамадскіх і індывідуальна-псіхалагічных праяў. Прыхільнікі біяграфічнага метаду зыходзяць з усведамлення велізарнай ролі выхавання, бытавога асяроддзя, сямейнага, хатняга ўкладу, спадчыннасці, асаблівасцяў псіхічнага складу таленавітай асобы.

Як бачым, пад увагу бяруцца як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя фактары, якія ўплываюць на фарміраванне мастака і ягоную дзейнасць. Каштоўна тое, што за творчай асобай прызнаецца права на самавыяўленне і што ўнутраны свет творцы выступае тут як сфера, непадлеглая адвольнаму ўмяшанню і прымусу. Ва ўмовах жа таталітарнага рэжыму на мастака слова глядзелі як на паслухмянага выканаўцу ідэалагічных і палітычных заданняў часу. Пісьменнікам – у афіцыйнай трактоўцы – лічыўся той, хто адлюстроўваў, адбіваў, услаўляў, заклікаў, натхняў, але не той, хто тварыў новую, мастацка-вобразную рэальнасць, хто выяўляў сваё, непаўторнае, суб'ектыўнае бачанне свету. Суб'ектыўнае абавязкова ацэньвалася як вузка суб'ектывісцкае, г.зн. пазбаўленае грамадска-пазнавальнае вартасці. Суверэннасць пісьменніка як творчай асобы афіцыёзам не прызнавалася.

Інакш кажучы, перад сумленнымі вучонымі стаяла задача рэабілітаваць на практыцы біяграфічны метад. Зусім відавочна, што гэтая рэабілітацыя ўяўляла сабой апазіцыю тагачаснай ідэалогіі. Памятаеце, яшчэ Маякоўскі пісаў, што для раппаўца «личность – всё равно, что неприличность». І падобны вульгарызатарскі погляд на ролю асобы не змяніўся з часоў РАППа і БелАППа ні ў 30-я, ні ў 50-я гады. Вось чаму мы павінны аддаць належнае тым вучоным, хто абарону асобы творцы ўзводзіў у маральны прынцып і хто гэты прынцып рабіў асновай навуковай метадалогіі. Сярод гэтых даследчыкаў быў і У.А. Калеснік.

Звярніце ўвагу на такую цікавую дэталь, як падзагалоўкі пералічаных вышэй прац Уладзіміра Андрэевіча. Амаль у кожнай з іх прысутнічае жанравае азначэнне «літаратурны партрэт» і «нарыс». І гэтая адзнака жанравай прыналежнасці дакладна перадае сутнасць метадалогіі даследчыка, які на першы план, у цэнтр увагі паставіў вывучэнне творчай індывідуальнасці, непаўторнасці пісьменніцкай асобы. І трэба прызнаць, што напісаныя Калеснікам творчыя партрэты Максіма Танка, Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Карпюка, Валянціна Таўлая, Алеся Разанава, Уладзіміра Жылкі, Ніны Мацяш і многіх іншых беларускіх паэтаў, пісьменнікаў, дзеячаў культуры, напрыклад, А. Луцкевіча, І. Дварчаніна, – гэта сапраўдная класіка беларускай крытыкі і літаратуразнаўства. Вось тут і спатрэбіліся тыя назіранні, якія Уладзімір Андрэевіч назапасіў падчас сустрэч, сумесных паездак, выступленняў, гутарак, спрэчак з прыгаданымі вышэй пісьменнікамі. Звесткі, якія ён прыводзіў і якія датычылі гадоў дзяцінства, юнацтва, даныя пра сямейнае выхаванне, пра хатні ўклад жыцця, пра кола знаёмстваў, дзіцячых захапленняў, узаемаадносін з прыродай і г.д. патрэбны былі не дзеля паўнаты ўзнаўлення жыццяпісу паэта, празаіка. Гэта была перш за ўсё спроба вытлумачыць прыроду таленту, адметнасць светабачання, генезіс эстэтычных схільнасцяў творчай асобы. Літаратурныя партрэты Янкі Брыля ці Уладзіміра Караткевіча таму і ўспрымаюцца як змястоўнае слова, бо іх стваральнік – Уладзімір Андрэевіч – здолеў адшукаць вытокі творчасці, асаблівасці светабачання гэтых выдатных мастакоў слова ў іх дзяцінстве, юнацтве, ва ўмовах іх сямейнага выхавання. Прычым, вызначаючы генезіс творчасці, У. Калеснік рабіў высновы доказна, пераканальна, пазбягаючы спрошчанасці і аднамернасці. Разуменне псіхалогіі творчасці, трактоўка асобы творцы не вульгарызавалася ім. І гэты момант мы павінны асабліва цаніць і выкарыстоўваць ва ўласнай практыцы як даследчыкі і літаратурныя крытыкі.

Пры знаёмстве з кнігамі Уладзіміра Андрэевіча адразу кідаецца ў вочы, што аб'ектам яго даследавання былі не толькі вяршынныя з'явы беларускага прыгожага пісьменства (Ф. Скарына, М. Гусоўскі, Я. Купала, М. Танк, У. Караткевіч, Я. Брыль), але і постаці менш буйныя. Менавіта дзякуючы намаганням У. Калесніка ў гісторыка-літаратурны працэс была ўведзена творчасць Алеся Салагуба, Анатоля Іверса, Леапольда Родзевіча, Міхася Васілька, Піліпа Пестрака, Міхася Машары, Міколы Засіма, Алеся Рэдзькі, Ніны Тарас, Сяргея Крыўца, Алеся Мілюця і інш. Можа хто і ўбачыць тут толькі праяву мясцовага патрыятызму, але мы маем справу з прынцыпова іншым меркаваннем: У. Калеснік, зыходзячы з уласных эстэтычных арыентацый, на практыцы замацоўваў думку пра неабходнасць беражлівага стаўлення да кожнай творчай асобы. Ён лічыў: кожны паэт, празаік, драматург цікавы па-свойму, толькі трэба знайсці і паказаць тое адметнае, непаўторнае, што кожны з іх унёс у літаратуру. Паводле меркаванняў Калесніка, «мы» – гэта не механічная сума «я». Чым адметней кожнае «я», тым багацейшае нацыянальнае мастацтва. І тым мацнейшае яго ўздзеянне на канкрэтнага чытача, на духоўнае станаўленне асобы.

У гэтай сувязі міжволі прыгадваецца размова з Уладзімірам Андрэевічам на адным з чарговых семінараў у Белдзяржуніверсітэце, дзе я апрабоўваў праблематыку «Якой быць «Гісторыі беларускай літаратуры»?» Гэта быў ка-

нец 80-х гадоў. Пры абмеркаванні майго даклада Уладзімір Андрэевіч перасцярог, каб у новай «Гісторыі» т.зв. тэндэнцыі і заканамернасці, нават калі яны будуць сапраўды новымі, не паглынулі жывую пісьменніцкую асобу, творчую індывідуальнасць. Трэба прызнаць, што гэта была своечасовая і каштоўная ў тэарэтыка-метадалагічным плане заўвага, якой і можна было чакаць, бо ніякіх заканамернасцяў па-за канкрэтнай творчай асобай у прыродзе не існуе.

Са сказанага не вынікае, нібыта Уладзімір Андрэевіч ігнараваў ці недаацэньваў працу тых аўтараў, хто імкнуўся ўзнавіць агульны рух літаратуры на вялікім гістарычным адрэзку і раскрыць тэндэнцыі, заканамернасці, якія можна выявіць толькі пры супастаўленні розных пісьменнікаў рознай творчай арыентацыі. Не, гаворка тут пра тое, што даследчык прапаноўваў ісці да агульнага праз спазнанне індывідуальна-непаўторнага, адметнага, своеасаблівага. Гэта шлях даўжэйшы, але затое і высновы пераканальныя, бо яны пазбаўлены апрыёрнасці.

Палемічны пафас абароны творчай асобы пранізвае літаральна кожную працу У. А. Калесніка. Надзвычай паказальны ў гэтых адносінах артыкул «Жыў-быў казачнік Рэдкі» ў кнізе «Тварэнне легенды». Казачнік пражыў болей за сто гадоў, «быў для сваіх землякоў, напэўна, постаццю незвычайнай, яны хоць і не захавалі ў памяці яго прозвішча – цяжка слыць прарокам на дамашнім сметніку, але затое клічку далі адпаведную – Рэдкі.

Так было заведзена: цаніўся род, а не індывід, нават самабытнейшая індывідуальнасць – асколак роду» (С. 198–199).

З імкнення глыбей спасцігнуць непаўторнасць творчай індывідуальнасці мастака і ўзніклі адметныя рысы даследчай манеры У. А. Калесніка – глыбокі аналітызм, тонкае адчуванне эстэтычнай прыроды мастацтва. Каштоўна якраз тое, што У. Калеснік арганічна спалучаў у сваіх працах цікавасць да грамадска-палітычных аспектаў творчасці і эстэтычнага ўзроўню твора. Падобная арганічнасць – рэдкі дар, бо ў жывой практыцы мы найчасцей бачым дзве супрацьлегласці – ухіл у сацыялагізатарства, недаацэнку формы і, з другога боку, пэўнае ігнараванне грамадскіх функцый літаратуры.

У гэтай сувязі дазвольце спыніць Вашу ўвагу на адным фрагменце літаратурнага партрэта Аляксея Карпюка, дзе гаворка вядзецца пра яго раман «Вершалінскі рай». Тут вельмі выразна раскрыўся даследчы талент Калесніка, вызначальныя рысы яго творчай манеры – шырыня погляду на літаратуру, цікавасць да тэарэтычных праблем, да праблем жанравай формы, глыбокае веданне грамадскай гісторыі, безумоўная прынцыповасць як літаратурнага крытыка, які не баіцца публічна сказаць горкую праўду. Гэты фрагмент цікавы і тым, што раскрывае змястоўную сутнасць біяграфічнага метаду. У. Калеснік падкрэсліў, што «Вершалінскі рай» вырас з краязнаўчага нарыса. І калі б А. Карпюк спыніўся на жанравай форме нарыса, дык ад гэтага выйгралі б усе – і пісьменнік, і чытачы, і беларуская літаратура. Але Карпюк, асоба актыўная, настойлівая – а гэтыя рысы характару замацавала партызанская барацьба, нямецкі палон, – некрытычна паставіўся да сябе, перабольшыў уласныя магчымасці. «...паверыўшы ў сваю цягавітасць ды напорыстасць», малады празаік «узяўся вывалакаць нарыс на ўзровень рамана» («Усё чалавечае». С. 146 – 147). І якім жа аказаўся вынік творчых намаганняў А. Карпюка? «Пакутніцкі эксперымент пераканаў, што раманная форма – гэта не разбухлае апавяданне ці аповесць, а тым больш нарыс. Раман – больш складаная мастацкая структура, на цэлы рад вышэйшая за аповесць, на два рады – за апавяданне і хіба на тры – за нарыс» (С. 146–147). Гаворка, як бачым, ішла не пра тое, што раман як жанр нібыта больш каштоўны за апавяданне, а пра складанасць структуры, унутранай пабудовы. Інакш кажучы, размова пераносілася ў сферу тэарэтычных праблем, што было вельмі своечасова для тагачаснай літаратуры, у якой жанр рамана выходзіў на перадавыя рубяжы, і вельмі важна было трымаць планку эстэтычных крытэрыяў на адпаведнай вышыні. Болей таго! У. Калеснік убачыў небяспечны сімптом актыўнай раманізацыі беларускай прозы шляхам механічнай перапрацоўкі апавяданняў ці аповесцяў: «Пісьменнік працаваў метадам прыбудоўвання і дабудоўвання твора». Але гэты метад паказаў сваю непрыдатнасць: «Белетрызацыя вывела нарыс з рамак дакументальных і не ўвяла ў склад жанраў чыста мастацкіх» (С. 147).

Істотныя заўвагі крытычнага плана былі зроблены Калеснікам і адносна праблематыкі «Вершалінскага раю», яго ідэйнай скіраванасці: «Атэістычны пафас стаў фокусам заходнебеларускага грамадскага жыцця, у той час як на справе знаходзіўся дзесьці з боку ад цэнтру» (С. 147).

Як бачым, У. Калеснік здолеў пераканальна вытлумачыць прычыны творчай няўдачы раманіста. Прычыны як суб'ектыўна-псіхалагічныя, так і аб'ектыўныя, грамадска-палітычныя. Маецца на ўвазе імкненне пісьменніка патрапіць ідэалагічным устаноўкам на сатырычнае выкрыццё рэлігіі як нібыта рэакцыйнай сілы. Падобна роду крытыка станавілася пазітыўным фактарам літаратурна-творчага жыцця.

Мяне заўжды захапляў высокі прафесіяналізм У. Калесніка, выключная скандэнсаванасць зместу яго прац, глыбіня выкладзенай думкі, праблемнасць артыкулаў і манаграфій. Але Уладзімір Андрэевіч быў яшчэ і выдатны палеміст. Можна не пагаджацца з ягонымі меркаваннямі, але прайсці міма іх як нібыта нецікавых нельга. Падобнай непавагі да чытача Уладзімір Андрэевіч не мог сабе дазволіць менавіта як прафесіянал, як чалавек з высокім пачуццём адказнасці за слова – вуснае і друкаванае. Ягоны разгляд вершаў, да прыкладу Г. Пашкова, – яскравае таму пацвярджэнне.

Увогуле, трэба сказаць, што прысутнасць У. А. Калесніка ў грамадскім і нацыянальна-культурным жыцці заўжды была адчувальнай, а яго маральны аўтарытэт – нязменна высокім. Барацьба за нацыянальнае адраджэнне была і заставалася пафасам усіх даследчых і літаратурна-крытычных прац Уладзіміра Андрэевіча.

Трэба ўлічваць і такую акалічнасць. Сталае месца працы і жыхарства не ў сталіцы давала яму магчымасць не ўцягвацца ў групавыя спрэчкі, у дробязныя, побытавага кшталту сутыкненні, дзе вызначальнымі матывамі нярэдка былі амбіцыі. А таму слова Калесніка ўспрымалася беларускай інтэлігенцыяй як слова аб'ектыўнае, непадузятае, прадыктаванае ў першую чаргу клопатам пра нацыянальную культуру, пра нацыянальнае Адраджэнне. Менавіта так успрыняў я Калеснікаву ацэнку маёй кнігі «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20–30-я гады» (1975), яго прыхільнае стаўленне. Я ганаруся і ганаруся той высокай ацэнкай, бо яна была вельмі патрэбная мне, тады яшчэ маладому даследчыку, які адважыўся ўзяцца за складаную тэму. Падтрымка Уладзіміра Андрэевіча натхняла на далейшую працу.

Тым, хто сустракаўся з Уладзімірам Андрэевічам штодзённа, ён, безумоўна, павінен бачыцца крыху інакшым, чым бачыцца мне, маім калегам: перад намі У. Калеснік паўставаў перш за ўсё як навуковец, даследчык, як тэарэтык, метадолаг і, вядома ж, як пісьменнік, аўтар сусветна вядомай дакументальна-мастацкай кнігі «Я з вогненнай вёскі...». Падчас прыезду ў Інстытут літаратуры Уладзімір Андрэевіч заўжды быў, як кажуць, цалкам адмабілізаваны, псіхалагічна і прафесійна гатовы да размовы на самыя складаныя тэмы. Ён не зводзіў навуковую спрэчку на бытавы ўзровень, і гэта было надзвычай павучальна. Дык захаваем жа ў сваім сэрцы і ў сваёй душы шчырыя пачуцці павагі да Уладзіміра Андрэевіча, а ўсё тое каштоўнае, што ён зрабіў для беларускай літаратуры, айчыннага літаратуразнаўства і крытыкі, нацыянальнай культуры, зберажом і прымножым калектыўнымі намаганнямі.

Міхась МУШЫНСКІ





# УЛАДЗІМІР КАЛЕСНІК І ШАСЦІДЗЕСЯТНІКІ

У пачатку 60-х гадоў узнікла фенаменальная з'ява, якая атрымала назву шасцідзесятніцтва. Творчы імпульс, атрыманы грамадствам у той час, быў такім моцным, што яго энергіі хапіла на наступныя тры дзесяцігоддзі. Два пакаленні беларускай інтэлігенцыі жыло верай у гуманістычныя каштоўнасці, чакала змен у грамадскай атмасферы, выношвала ілюзіі паступовага паляпшэння таталітарнай сістэмы, напаўнення сацыялістычнай ідэі чалавечым зместам. «Вясна надзей» змянялася «прымаразкамі», на месца адных міражоў прыходзілі другія, а найбольш таленавітыя і сумленныя прадстаўнікі пакаленняў 60-х працавалі не пакладаючы рук на будучыню, ва ўмовах абвастрэння ідэалагічнай барацьбы рабілі ўсё магчымае, каб духоўна падрыхтаваць грамадства да карэнных змен.

Чым далей, тым лепш відаць, што гэта быў унікальны час, які даў нашай літаратуры цэлую плеяду яркіх творчых індывідуальнасцяў. Уражвае, як дакладна і паслядоўна дзейнічаў тут універсальны прынцып дадатковасці: кожны дапаўняў кожнага. «Лірык» Я. Брыль, вядома ж, адчуваў прысутнасць у літаратуры «эпіка» І. Мележа, а інтымная лірыка М. Танка добра глядзелася побач з паэтычнай публіцыстыкай П. Панчанкі і філасофскімі цыкламі А. Куляшова. Але і паэзія, і проза разам прагнулі прыходу тэарэтыка літаратуры, сябра-крытыка, які дапамог бы расчышчаць штучна створаныя вульгарызатарамі завалы. І вось побач з эстэтыкам Р. Бярозкіным узнікла постаць публіцыста А. Адамовіча і постаць самабытнага філосафа «беларускага шляху» У. Калесніка – выкарыстоўваю даўняе азначэнне Ю. Канэ, хаця і разумею, што гаворка ідзе толькі аб дамінанце творчай індывідуальнасці.

У магутнай кагорце шасцідзесятнікаў асоба Уладзіміра Андрэевіча Калесніка заўважаецца адразу. У яго быў свой абсяг літаратурных інтарэсаў. Пачынаў ён і доўгі час працаваў, як вядома, на досыць вузкай пляцоўцы двух міжваенных дзесяцігоддзяў у Заходняй Беларусі. Але ўжо ў манаграфіі «Паэзія змагання» выявілася звышзадума даследчыка, які разумеў, што ў заходнебеларускіх умовах не толькі літаратура, але і сама Камуністычная партыя была іншай. На Захадзе, паводле слоў аўтара, «класавая барацьба цякла натуральна, з'яўляючыся сродкам абароны рознымі класамі, грамадскімі арганізацыямі, партыямі сваіх сацыяльных і палітычных інтарэсаў». Да ўсяго гэтага барацьба адбывалася ў выразна нацыянальных формах: беларуская меншасць ваявала за свае правы – за беларускую школу, родную мову, за правы выбіраць і быць вы-

браным ва ўладныя структуры. «Нацыянальны пачатак, – пісаў У. Калеснік, – стрымліваў у беларускім руху экстрэмісцкія замашкі левых сіл, дазваляў дасягаць прымірэння». Ва ўмовах Заходняй Беларусі яшчэ дзейнічала еўрапейская мадэль жыцця, а поруч з ёю была моцная плынь лепшых нацыянальна-беларускіх традыцый, закладзеных «нашаніўцамі». У працах іншых шасцідзесятнікаў гэтыя думкі таксама прысутнічалі, але, магчыма, не ў такой, як у У. Калесніка, эмацыянальна-ўсхваляванай форме: аўтары міжволі то тут, то там «прагаворваліся».

Гэта быў час вяртання да жыцця многіх забытых імёнаў і да творчасці тых зусім нямногіх, каму пашчасціла ацалець. Чымсьці тыя гады нагадваюць сённяшні час, калі на нас абрынулася лавіна раней «забароненых», «арыштаваных» твораў. У Калеснікавай манаграфіі і наступных яго навуковых працах уражваў вадаспад імёнаў, назваў, фактаў літаратурнага жыцця – многія з іх яшчэ і сёння ўспрымаюцца як адкрыццё, а У. Калеснік змог, знайшоў спосаб увесці іх ва ўжытак або хаця б напомніць, проста назваць, што былі такія, было такое. К. Сваяк, А. Навіна, І. Канчэўскі, Н. Арсеннева, У. Жылка, Г. Леўчык, А. Салагуб, І. Дварчанін, Л. Родзевіч, – сустрэўшы ў У. Калесніка гэтыя імёны, дапытлівая студэнцкая моладзь і навукоўцы кідаліся ў бібліятэкі і архівы на пошукі першакрыніц, якія даследчык заўсёды абазначаў вельмі дакладна, быццам трымаў увесь час на ўвазе менавіта такога «праніклівага чытача».

Як сапраўдны патрыёт заходняга рэгіёна У. Калеснік здолеў зацікавіць літаратурную грамадскасць творчасцю многіх з тых, каго грэбліва залічалі да прадстаўнікоў «абласной» літаратуры, да «самавукаў» і аматараў. Калі раней гаворка пра заходнебеларускую літаратуру абмяжоўвалася прозвішчамі двух-трох паэтаў-рэвалюцыянераў, пра якіх дакладна можна было сказаць, што яны сапраўды змагаліся ў падполлі, сядзелі ў астрогах, бадзяліся па этапах, то пасля кніг і артыкулаў У. Калесніка набыткам грамадскай супольнасці стала творчасць некалькіх дзесяткаў літаратараў. У канцы 50-х і пачатку 60-х гадоў, у маю бытнасць студэнтам, у Бярэсці дзесятак беларускіх паэтаў лёгка губляўся ў гушчы рускамоўных версіфікатараў. Усё змянілася з часу з'яўлення ў горадзе У. Калесніка: бадай, кожны выпуск педінстытута даваў нашай літаратуры некалькі звонкіх імёнаў, многія з якіх вядомы далёка за межамі берасцейскай зямлі. І ўжо, зразумела, кожны яго студэнт (колькі іх было за 40 гадоў выкладчыцкай працы!) нёс у сваёй памяці ўрокі жыцця і творчасці выдатнага Настаўніка. Стварэнне унікальнай атмасферы духоўнасці ў рэгіёне, бадай, галоўны плён шматгадовых высілкаў гэтага чалавека.

Грамадства шпарка засвойвала новыя ідэі і погляды, якія прапагандавалі шасцідзесятнікі, і часам здавалася, што яны ўжо адстаюць ад часу, як злараднічалі ў партыйнай прэсе. Але прайшлі гады і выявілася, што праграма гуманістычнага абнаўлення, задуманая і распрацаваная шасцідзесятнікамі, усё яшчэ не выканана і што лепшыя з іх шэрагаў па-ранейшаму знаходзяцца наперадзе. Той прарыў да новых глыбіняў ісціны, які здзейсніў У. Калеснік у сярэдзіне 70-х гадоў, быў натуральным выяўленнем яго ўнутранай свабоды, якая тым мацней уражвае, што нарадзілася ва ўмовах няволі, яго высокай чалавечай годнасці, якая купляецца гатоўнасцю да самаахвярнасці. У гэты час У. Калеснік, азіраючыся на зробленае, з сумам канстатаваў сваю залежнасць ад афіцыйнага літаратуразнаўства і ідэалагічных догмаў, добра ўсведамляючы пры гэтым меру ўласнай віны і адказнасці: «Многае, – зазначаў ён, – хацелася перапісаць нанова». Гэтыя словы азначалі не толькі рашучы перагляд ім ранейшых поглядаў і падыходаў, але і імкненне здзейсніць задуманае, пісаць па-новаму. У кнігах «Ветразі Адысея» і «Тварэнне легенды» перад намі новы, незнаёмы У. Калеснік. Зробленае ім у гэтых даследаваннях уражвае сваёй змястоўнасцю, небывалай скандэнсаванасцю пачуццяў і думак: пра жыццё і лёс У. Жылкі ён піша так, як, можа, пісаў бы пра самога сябе, з поўнай самааддачай, нічога не ўтойваючы, выказваючыся дарэшты, быццам гэта яго апошняя кніга.

Несумненна, на У. Калесніка, як і на яго сааўтараў і сяброў А. Адамовіча і Я. Брыля, паўплывала цяжкая праца над кнігай-дакументам «Я з вогненнай вёскі...»: прайшоўшы пекла людскіх пакут, нельга было заставацца ранейшым. Мабыць, у жыцці кожнага чалавека здараюцца моманты, калі ён, прайшоўшы выпрабаванне пакутамі, крута мяняецца. Але не кожны чалавек здольны пры поўнай свядомасці адважыцца перажыць пакуты, якіх ён можа спакойна пазбегнуць. У. Калеснік адважыўся, бо належаў да пакалення, пра трагедыю якога, бадай, не скажаш лепш, чым гэта сказаў перад смерцю М. Зошчанка: «Ну ж і адрэзачак гісторыі нам выпаў!» Змена акцэнтаў у жыццёвых і творчых паводзінах У. Калесніка выявілася, напрыклад, у тым, што ён гераізуе ў сваіх кнігах ужо не Праметэя, а іншы чалавечы тып: «Арэол, – пісаў ён, – над чоламі паэтаў ззяе наймацней у часы вялікіх гістарычных зрухаў, калі мастацкае слова стварае праграмы змагання, увасабляе ідэалы, за якія вядзе бітву народ, аддаючы на ахвярны алтар лепшых сыноў. У такія часы нараджаецца тып мастака-змагара, што выводзіць свой род не ад алімпійца Апалона, а ад гераічнага Тыртэя». Як вядома, менавіта Тыртэй, старажытнагрэчаскі паэт-лірык, кульгавы школьны настаўнік, змог сваімі песнямі ўзняць баявы дух спартанцаў, якія дарэмна чакалі ад афінян вайсковай дапамогі. У самыя змрочныя часіны застою, калі многім здавалася, што выхаду ўжо няма, свет імкліва спаўзае да ядзернай катастрофы, і сярод шасцідзесятнікаў адбыўся раскол, словы такіх аўтарытэтных літаратараў, як У. Калеснік і яго сябры па пяру, сапраўды ўздымалі баявы дух і падмацоўвалі надзею на лепшае.

Кнігі У. Калесніка, як і іншых лепшых нашых паэтаў, празаікаў, крытыкаў, навукоўцаў, па сутнасці, былі тэарэтычным абгрунтаваннем будучага духоўнага Адраджэння беларускай нацыі. У. Калесніку ўдалося на багатым матэрыяле беларускай літаратуры ад старажытнасці да нашых дзён прадэманстраваць думку аб тым, што ўсе без выключэння лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў былі не толькі таленавітымі, але і глыбока нацыянальнымі. У той момант, калі ўсякае адкрытае выяўленне сваёй нацыянальнай прыналежнасці жорстка каралася і адзінай нацыяй прызнавалася «савецкая нацыя», калі да ажыўлення нацыянальнага жыцця было яшчэ вельмі далёка, У. Калеснік вярнуў нам дарагое паняцце нацыянал-рамантызму, паказаўшы яго актуальнасць і жыццёвасць на матэрыяле творчасці Ф. Скарыны і М. Гусоўскага, Я. Купалы і У. Жылкі. Менавіта ў гэты час ён першым у нашым літаратуразнаўстве прыгадаў імя І. Канчэўскага і разгарнуў перад уражанымі вачыма сучаснікаў панараму яго ідэй беларускага «адвечнага шляху». У пазнейшыя гады У. Калесніку заставалася толькі дэманстраваць сваю правату ў гэтым пытанні на матэрыяле творчасці такіх новаадкрытых паэтаў, як Н. Арсеннева і Л. Геніюш. Думка, што нацыянальная літаратура, па сутнасці, стварае сваю легенду пра народ і што з духоўным пасталеннем народа гэта легенда становіцца рэальнасцю, большай, чым любая фізічная абалонка рэчаў, стала пафасам яго апошніх гадоў жыцця і творчасці. Бо што ёсць наогул чалавечая культура, як не створаная ўсімі папярэднімі пакаленнямі легенда, версія, міфалогія, у атмасферы якой мы ўсе жывём, якой дыхаем, не прыкмячаючы гэтага штохвіліны, бо яна паўсюль, яна ў кожным з нас, стала нашай сутнасцю.

У апошнія гады гэта вялікая ідэя сцвярджалася У. Калеснікам цалкам свядома і вельмі напорыста. «Вызваленчаму руху прыгнечаных нацый, – пісаў У. Калеснік, – заўжды не хапае кадраў патрыятычнай інтэлігенцыі, не стае творцаў і пашыральнікаў ідэй, таму расце высокі прэстыж духоўных каштоўнасцяў усіх відаў. Праблемай усведамлення народа займаюцца практычна ўсе актывісты – ад палітычных дзеячаў да паэтаў. Новай эпосе патрэбны не толькі работнікі, а перадусім сацыяльна актыўныя грамадзяне, энергічныя і мужныя, прадпрымальныя і жыццярадасныя, закаханыя ў жыццё і поўныя веры ў прагрэс, у неабмежаваныя мажлівасці ўдасканалення свету і самога чалавека». Сказанае пра далёкае наша мінулае ўспрымаецца як сказанае на ўсе часы. Сказанае пра нас з вамі.

**Міхась ТЫЧЫНА**

# «ФІЛАСОФСКІ ЭКСПРОМТ» Уладзіміра КАЛЕСНІКА

Трывога гэта ці суцяшэнне, але ў «кадры» літаратурнай творчасці У. Калесніка я часта бачу яго вочы – выразна разумныя, крыху іранічныя, вочы «белавежскага аленя», як паэтычна заўважыў У. Караткевіч; вочы, якія быццам супакойваюць мяне ў маім шчырым жаданні адчуць гуманістычную думку крытыка-берасцейца ў яго «філасофскіх экспромтах». А «філасофскі экспромт» У. Калесніка (назавём яго вольным літаратурным жанрам), калі не падпарадкаваны, то цесна злучаны з праблемаю мастака і мастацтва ў беларускай паэзіі, а таксама існуе ў «арнаменце» лірычных, эстэтычных, сацыяльных адчуванняў аўтара. Адчуванні гэтыя абумоўлены творчым жаданнем У. Калесніка пазнаць «разумнага» чалавека ў пейзажах Я. Купалы, М. Танка, У. Жылкі, Ф. Багушэвіча, зразумець «прыгожага» чалавека ў эпосе Рэнесансу, знайсці «шчаслівага» чалавека ў вобразе патрыёта-барацьбіта зямлі Заходнебеларускай.

«Філасофскі экспромт» У. Калесніка мае ілюстрацыйнае выяўленне, інакш кажучы, з'яўляецца лаканічна арганізаванай ілюстрацыяй канкрэтнай паэтычнай праблемы. Так, напрыклад, філасофскую думку-экспромт «Ідэал перастае быць ідэалам, як толькі становіцца зусім ясным» («Тварэнне легенды». С. 287) трэба палічыць ілюстрацыяй наступнай паэтычнай праблемы: няяснасць як паказчык рамантычнай ідэалізаванасці асобных вобразаў Я. Купалы. У даным «экспромце» мы бачым У. Калесніка не толькі літаратурным тэарэтыкам, які ставіць знак роўнасці паміж светам ідэальным (няясным) і светам рамантычным (уяўным), але і філосафам, якому за яго амаль платонаўскі ідэалізм хочацца выказаць удзячную ўхвалу.

У. Калеснік – літаратар, які часта сабе супярэчыць, асабліва ў «філасофскіх экспромтах». Знаходзім у аўтара: «Самая паспяховая крытыка любой з'явы – гэта крытыка сцвярджальная» («Тварэнне легенды». С. 281). У гэтых радках ёсць пэўная недагаворанасць, паколькі ў літаратурным жыцці і па-за межамі яго Калеснік-філосаф заўсёды сцвярджаў сябе праз «адмаўленне» і адмаўляў сябе праз «сцвярджэнне». Неяк у прыватнай размове з крытыкам (мы гаварылі пра жанчыну ў вершах А. Разанава), я заўважыла для сябе, што У. Калеснік – гэта рэаліст, які не лічыць жанчыну ідэалам жыцця (памятаю, як ён мне пытальна пярэчыў: «А Бабаяга... Няўжо і яна ідэал?). Ідэальная жанчына, на думку У. Калесніка, абавязкова рэальная: яе можна толькі зрокава ад-

чуць. Аднак падобнае меркаванне не перашкаджае У. Калесніку – лірыку і эстэту– у літаратурным нарысе «Чалавечы бор» («Зорны спеў». С. 375) палюбіць абстрактную жанчыну ў «любоўных» вершах А. Разанава – сурова-ідэальную – таму незразумелую.

У сваіх «філасофскіх экспромтах» У. Калеснік, бясспрэчна, аптыміст, нават і тады, калі гаворыць пра ахвярную адзіноту творцы. «Творчая адзінота – балючая ахвяра, але не бясплодная, яна патрэбна для нараджэння новых твораў» («Тварэнне легенды». С. 417), – сказана аўтарам у яго «экспромце» пра мастацкую арганізаванасць вершаў Я. Купалы. Можна ўявіць, што для Калесніка-аптыміста творчасць – гэта храм, у якім здзяйсняе сваё служэнне мастацтву пакліканы мастацтвам чалавек, але ні ў якім разе ён не павінен быць самаўпэўненым індывідуалістам, як у Ніцшэ. Сталая адзінота мастака, лічыць У. Калеснік, не толькі ахвярны жэст, – гэта яшчэ і творчы бенефіс паэта, які дае яму права быць незвычайным, арыгінальным, непаўторным, а гэтаксама дае права паэту на неўтаймаваную «кабарэтнасць».

«Філасофскі экспромт» У. Калесніка мае і сваю лірычную адмеціну: «белавершавасць» – рытмічна спланаваную, спеўную. Падобную лірыку адчуваем у «экспромце», які ілюструе праблему музыкі ў вершах А. Салагуба. «Паэтлірык, як шаўкапрад, цягне залатую нітку паэзіі з самога сябе, сваёй душы і сэрца» – чытаем у літаратурным нарысе «Талент». У. Калеснік параўноўвае лірыка з шаўкапрадам, бо шукае ў лірыцы музыку, паколькі музыка ў яго разуменні – гэта «не столькі гукавыя з'явы сапраўднасці[...] і адлюстраванне іх у музычных творах, колькі пачуцці і настроі чалавека» («Лёсам пазнанае». С. 161).

Невыпадкова, што ў рэальна-будзённым жыцці У. Калеснік вельмі паважліва ставіўся да людзей настрою – паэтаў з музыкаю ў душы. Ён нават вітаўся з імі своеасабліва. Прыпамінаецца яго знакамітае выклічнікавае – «О» – з ледзь чутным пераходам у «Э», якое магло азначаць (асабліва для вучняў У. Калесніка) і жарт, і павагу, і параду – адначасна.

Звернем увагу і на філасофскія «ілюстрацыі» У. Калесніка, злітыя з думкаю пра натуралістычны пейзаж, выпісаны ў стылі Русо, у якім прырода – «розум у ідылічнай вокладцы». Напрыклад, пра пейзажы Багушэвіча (у літаратурным нарысе «Беларусь – Радзіма») крытык гаворыць так, быццам хоча знайсці ў іх дух асветніцтва – легенду пра «разумнага» чалавека, замацаваную ў скупым, пункцірна-празрыстым сюжэце («Тварэнне легенды». С. 355). Але афарыстычным завяршэннем падобнага пошуку ў пейзажах Багушэвіча Калеснік лічыць усё ж сацыяльнасць. Вось чаму нам так зразумелы наступны «філасофскі экспромт»: «Пейзажны жанр – натуральная форма ўвасаблення патрыятычных пачуццяў» («Тварэнне легенды». С. 352).

Трывога гэта ці суцяшэнне, але ў «кадры» творчасці У Калесніка я часта бачу яго вочы – выразна мудрыя, падобныя на падказку будучаму паэту – як стаць мастаком і маляваць гронку вінаграду так, каб птушкі зляталіся дзяўбці малюнак («Зорны спеў». С. 149).

Алена ІГНАЦЮК

# УРОКІ ЛІТАРАТУРНАГА КРАЯЗНАЎСТВА

Нядоўгім быў той перыяд, які сёння называюць хрушчоўскай адлігай. Для беларусаў ён яшчэ скараціўся. З пачатку 60-х гг. пачаўся новы масіраваны наступ на беларускую мову. Ідэолагі СССР распрацавалі тэорыю зліцця моў, бо ад гэтага, на іх думку, залежала, як хутка савецкія людзі будуць жыць пры камунізме. Кіраўніцтва БССР усё рабіла, каб прывесці беларусаў туды першымі. Міністэрства асветы БССР рассылае ў школы цыркуляр, згодна з якім беларускую мову можна зусім не вывучаць, а з літаратурай дазвалялася знаёміць вучняў па-руску. У сярэдзіне 60-х гг. у г. Брэсце беларускую мову выкладалі толькі ў школе N 6, дзе працавала сям'я нацыянальна свядомых настаўнікаў Шчуроўскіх. Па вобласці пачынаюць закрываць беларускамоўныя школы і пераводзіць навучанне на рускую мову. Перастае выдавацца на роднай мове абласная газета «Зара», якая раней была двухмоўнай. Пераводзіцца на рускую мову шэраг раённых газет, якія былі беларускамоўнымі.

Рэзка скарачаецца набор на філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А.С. Пушкіна – усяго адна група (25 чалавек) шырокага профілю. У ліку гэтых 25 чалавек былі такія, хто мовы ўжо не вывучаў, а беларускую літаратуру – па-руску. У такіх умовах трэба было, каб філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута законічны не проста настаўнік, у дыпломе якога запісана, што ён мае права выкладаць беларускую і рускую мовы і літаратуры, а каб хацеў гэта рабіць прафесійна і з любоўю. Менавіта ў гэты час У. А. Калеснік звяртаецца да такога надзейнага і выпрабаванага сродку патрыятычнага выхавання, якім з'яўляецца краязнаўства. Уладзімір Андрэевіч пачынае арганізоўваць на выпускным курсе (заўважым, што менавіта на выпускным, каб даць студэнту-выпускніку моцны эмацыянальны імпульс) літаратурныя экскурсіі. Ён распрацаваў маршрут і вадзіў па ім студэнтаў аж да канца 70-х гг. І ўсе гэтыя гады я ездзіла з Уладзімірам Андрэевічам. Часам выказвалі жаданне паўдзельнічаць у экскурсіі выкладчыкі філфака: І.Г. Моладава, Г.М. Малажай, В.М. Емельяновіч і інш.

Маршрут, распрацаваны У.А. Калеснікам, ахопліваў найбольш знакамітыя літаратурныя мясціны і помнікі дойлідства. Экскурсаводам быў заўсёды сам Уладзімір Андрэевіч.

Экскурсія найчасцей пачыналася з дарагой і любімай экскурсаводу Навагрудчыны. А дарога з Брэста да Завосся звычайна была таксама вельмі цікавай. Студэнты шмат спявалі, і Уладзімір Андрэевіч любіў слухаць беларускія, палескія, рускія, украінскія песні.

З Завосся, дзе, па адной з навуковых версій, нарадзіўся Адам Міцкевіч, пачыналася фактычнае адкрыццё нашага земляка, пісьменніка сусветнага значэння. На жаль, у курсе гісторыі замежнай літаратуры ў той час студэнты знаёміліся з творчасцю Адама Міцкевіча ў агляздзе. Уладзімір Андрэевіч не проста расказваў факты з жыцця паэта, звязаныя з той ці іншай мясцінай, якую наведвалі (хоць было і гэта), але ішоў углыб і ўшыр, даваў шырокі гістарычны і культурны фон, паказваў своеасаблівасць спосабаў тыпізацыі ў рамантычнай літаратуры. Недалёка ад Завосся знаходзіцца невялічкі ўзгорак, які пад пяром пісьменніка-рамантыка Адама Міцкевіча ператвараўся ў вялікую гару. У час экскурсіі па мясцінах аўтара «Пана Тадэвуша» Уладзімір Андрэевіч шмат чытаў на памяць, чытаў творы Міцкевіча ў арыгінале.

Наступны прыпынак рабілі ў Калдычэве ля помніка ахвярам фашызму. Экскурсавод тут быў негаваркі. Найчасцей маўкліва ўскладвалі кветкі, чыталі лаканічны надпіс на помніку. Іншы раз Уладзімір Андрэевіч згадваў, што ў ліку ахвяр Калдычэўскага канцлагера была прататып настаўніцы пані Мар'і з аповесці Янкі Брыля «Сірочы хлеб». Яшчэ радзей гаварылі тут пра Яна Чачота і яго баладу «Калдычэўскі шчупак». На месца, дзе размяшчаўся канцлагер, ніколі не хадзілі. Яго экскурсавод паказваў здалёк.

З Калдычэва кіраваліся да каменя філарэтаў – велізарнага валуна недалёка ад хутара Жук. Аўтобус спыняўся адразу за вёскай Карчова. Ішлі звычайна моўчкі, усё яшчэ былі думкамі і пачуццямі ў Калдычэве. Ля валуна, аднак, настрой мяняўся і ў студэнтаў, і ў экскурсавода. Уражваў агромністы валун, асколкі ля яго. І Уладзімір Андрэевіч пачынаў расказваць, як адзін купец у даваеннай Польшчы хацеў зрабіць з яго жорны для млына і адкалоў часткі. Толькі ўмяшанне грамадскасці выратавала гэты дарагі помнік прыроды і літаратуры. Студэнты ўзбіраліся на валун, пачыналася фатаграфаванне. Дарэчы, на экскурсіі Уладзімір Андрэевіч заўсёды браў з сабою фотаапарат і рабіў шмат здымкаў. Фатаграфавалі і студэнты. Пачыналася цікавае апавяданне пра Віленскі універсітэт, пра рэвалюцыйныя згуртаванні, іх статуты, рэалізацыю праграмы ў дзейнасці, пра аднадумцаў, паэтаў-летуценнікаў, многія з якіх былі з Навагрудчыны і канікулы праводзілі ў Туганавічах. Расказваў Уладзімір Андрэевіч не толькі пра грамадскую дзейнасць юнакоў, але і іншыя захапленні маладосці.

Апавядальнікам Уладзімір Андрэевіч быў адмысловым, у хадзе лёгкі і нястомны. Таму нярэдка самыя цікаўныя са студэнтаў не імкнуліся кінуцца ў аўтобус, каб ехаць у Туганавічы, тым больш, што ад вёскі Карчова да былога маёнтка Верашчакаў рукою падаць, ішлі пешкі і з задавальненнем слухалі пра Яна Чачота, Тамаша Зана, Міхала Верашчака і Міцкевіча.

Туганавіцкая сядзіба згарэла ў першую сусветную вайну, здзічэлі сад і кусты, аднак падмурак, агульныя абрысы прысадаў яшчэ захаваліся. Высока ў неба ўзляталі ліпы, якія ўтваралі альтанку, дзе сустракаліся Марыля з Міцкевічам. Аглядалі ўсё, што можна было пабачыць, фантазіравалі, аднаўляючы ў сваім уяўленні сядзібу мінулага стагоддзя. Каля альтанкі абавязкова рабіліся здымкі.

Экскурсія звычайна праводзілася ў самым канцы мая ці ў пачатку чэрвеня. Калі шанцавала на пагоду, Уладзімір Андрэевіч сядаў на пагорку, а студэнты вакол яго. Сядзіба Туганавічы на той час ужо была пад аховаю дзяржавы. Разнатраўе, рамонкі, званочкі, незабудкі цешылі вока, п'янілі водар кветак і цвіценне ці то бэзу, ці то язміну, ці то акацыі. Экскурсавод адкрываў тоўсты том Адама Міцкевіча і чытаў паэму «Пан Тадэвуш», чытаў у арыгінале, захапляўся сам, захапляў і слухачоў. Звычайна часу на Туганавічы Уладзімір Андрэевіч не шкадаваў.

Далей кіраваліся ў Валеўку, праязджалі вёскі, якія добра ведаў экскурсавод. Ён расказваў, як яны звязаны з тым ці іншым пісьменнікам, а часам і пра каларытных асоб і пра цікавыя падзеі, якія тут адбываліся. Валеўка прывабіла тым, што ў мясцовай школе працаваў на той час адзін з лепшых літаратурна-краязнаўчых музеяў. Быў ён створаны сябрам У.А. Калесніка па Мінскаму педінстытуту А. Петруковічам. Яго асобе і недагігічнаму майстэрству У.А. Калеснік прысвяціў нарыс «Партрэт друга», змешчаны ў зборніку «Сейбіты разумнага, добрага, вечнага». Пазней, калі Петруковіч пераехаў у Любчу і там узначаліў музей, эстафету краязнаўчай працы падхапіў у гэтай школе У.А. Урбановіч, які абагульніў вопыт дзейнасці школы па вывучэнні роднага краю ў кнігах «Па дарагіх мясцінах» і «Шляхамі паэтаў і герояў». Уладзімір Андрэевіч прымаў непасрэдны ўдзел у стварэнні музея, парадкаваў заходнебеларускую перыёдыку, а кнігу У.А. Урбановіча прывеціў рэцэнзіяй, што была надрукавана ў абласной газеце «Зара».

Ролю знаёмства студэнтаў з Валеўскім літаратурна-края-

знаўчым музеем цяжка пераацаніць. Ён быў эмацыянальным штуршком для таго, каб ужо настаўнікамі самім распачаць з вучнямі працу па вывучэнні літаратуры роднага краю.

На Навагрудчыне асабліва выразна выяўлялася любоў экскурсавода да сваёй малой радзімы. Ён знаходзіў магчымасць адзначыць і падкрэсліць разнастайнасць і хараство краявідаў Навагрудчыны. Пасля раўніннага Палесся, якое часам стамляла сваёй аднастайнасцю, узгоркавая Навагрудчына сапраўды ўражвала. З якой гордасцю экскурсавод расказваў пра стронгу, рыбу, якая захавалася ў Сэрвачы.

Разам з валеўскімі настаўнікамі кіраваліся на возера Свіцязь. Любаваліся гэтай жамчужынай Беларусі, прыгадвалі, хто са знакамітасцяў яе наведваў і якія пакінуў уражанні. Найбольш жа гаварылася пра Міцкевіча і Марылю, згадваліся балады «Свіцязь» і «Свіцязянка». Купаліся ў пагодлівыя дні і позна вечарам кіраваліся зноў у Валеўку. Тут традыцыйна начавалі. Заканчваўся першы, самы ўражлівы, дзень падарожжа.

Ранак сустракалі ў Навагрудку. Агляд пачыналі з Замкавай гары. Доўга любаваліся краявідамі, што адкрываліся з яе. Уладзімір Андрэевіч паказваў вёску Літоўку, знаёміў з сюжэтам паэмы «Гражына» Адама Міцкевіча. Тут У.А. Калеснік любіў прыгадваць гады навучання ў Навагрудскай гімназіі, пра свае захапленні той пары, пра любімых і нелюбімых настаўнікаў, пра тое, як яму, «хамскаму сыну» (як часам, не саромеючыся, гаварылі яму ў вочы навучэнцы-палякі), даводзілася адстойваць сваю чалавечую і нацыянальную годнасць. Пасля Замкавай гары праводзілася невялічкая экскурсія па горадзе. Аглядалі фарны касцёл, курган, наведвалі музей Адама Міцкевіча. Тут экскурсію вялі супрацоўнікі музея, але вельмі часта ў яе ход умешваўся Уладзімір Андрэевіч, каб нешта паправіць ці ўдакладніць.

З Навагрудка ехалі ў Мір. Па дарозе – Брылёва Загора. Уладзімір Андрэевіч расказвае пра сям'ю аўтара «Птушак і гнёздаў», пра іх сумеснае партызанства, пра мясціны, апісаныя ў аповесці «На Быстранцы», пра прататыпаў «Ніжніх Байдуноў». Зноў згадваецца Адам Міцкевіч і яго паэма «Дзяды», расказваецца гісторыя напісання, паказваюцца мясціны, апісаныя ў творы.

Перад пад'ездам да Міра Уладзімір Андрэевіч расказваў пра даваеннае мястэчка, пра дзівацтвы апошняга ўладальніка Мірскага замка. Экскурсавод дасведчана і прафесійна паказвае веліч, хараство, арыгінальнасць Мірскага замка. У час гэтых экскурсій асабліва відавочныя Калеснікавыя адносіны да духоўнай спадчыны. Як радаваўся ён, калі пачалася рэстаўрацыя Мірскага замка. Калі ж работы зацягнуліся, то не раз казаў, што ў гэтых адносінах нам, беларусам, трэба вучыцца ў летувінаў. Тыя рэстаўрыравалі ўсе значныя помнікі, якія аказаліся на іх тэрыторыі. Ды пазней, калі студэнты траплялі ў Вільню, самі пераконваліся, бачачы той ці іншы будынак у рыштаваннях.

Далей маршрут вёў на Стаўпеччыну, на Коласавыя мясціны. Традыцыйна тут Уладзімір Андрэевіч менш расказваў, а больш паказваў. Гэта зразумела. Коласавыя мясціны знаёмыя, хай і завочна, са школьных гадоў, з паэмы «Новая зямля», трылогіі «На ростанях». Аглядалі Мікалаеўшчыну, Акінчыцы, «палац з ласіным рогам», выходзілі да берага Нёмана. Уладзімір Андрэевіч радуецца, калі студэнты чытаюць урыўкі з паэмы «Новая зямля», вершы, калі ў пісьменнікавых мясцінах усплываюць у памяці самі сабою Коласавыя радкі. Самае ўражлівае, аднак, заўсёды чакала ў Смольні, на апошняй сядзібе сям'і Міцкевіча. Хвалявала хата, дзе жыла сям'я, куды прыязджаў Якуб Колас, працуючы настаўнікам, прыязджаў зволънены з гэтай пасады за ўдзел у нелегальным з'ездзе рэвалюцыйна настроеных настаўнікаў Беларусі, дзе сустракаўся з Янкам Купалам, уражвалі разгалінастыя ліпы, насаджаныя рукой пісьменніка, але самае галоўнае, што выклікала найвялікшую насалоду не толькі экскурсантаў, але і экскурсавода, была сустрэча з братам Коласа Юзікам, які таленавіта чытаў урыўкі з паэмы «Новая зямля», асобныя вершы.

Традыцыйна начавалі ў Мінску ў інтэрнаце педінстытута ці універсітэта. Наступны дзень аддаваўся сталічным літаратурным музеям. Тут У.А. Калеснік пакідаў студэнтаў на працаўнікоў музеяў, а сам спяшаўся то ў рэдакцыі часопісаў і выдавецтваў, то ў АН БССР, то да сяброў. Клопатаў у Мінску звычайна хапала. Пасля музеяў аглядалі помнікі нашым класікам, а вечарам імкнуліся трапіць у купалаўскі тэатр. Тут шанцавала далёка не заўсёды.

Яшчэ адна ноч у Мінску. Наступным днём наведвалі Радашковічы. Пра многае з літаратурнага і культурнага жыцця гэтага беларускага мястэчка маглі б пачуць студэнты з вуснаў такога дасведчанага экскурсавода, якім быў Уладзімір Андрэевіч, але час быў не той. Абмяжоўваўся наш настаўнік толькі Радашковіцкай беларускай гімназіяй, паказваў будынак, дэталёва расказваў пра пратэст навучэнцаў супраць разгрому Грамады, пра ролю гэтай навучальнай установы ў жыццёвай і творчай біяграфіі Максіма Танка. З Радашковіч звычайна кіраваліся на Вязынку. Першыя экскурсіі праводзіліся тады, калі ў хаце, дзе нарадзіўся паэт, была невялічкая мемарыяльная экспазіцыя. Пазней тут стала запаветная зона. У Вязынцы Уладзімір Андрэевіч больш слухаў, пра што гаварыла экскурсавод, шмат рабіў здымкаў. Студэнты любаваліся краявідамі, якія ўплывалі на фарманне таленту паэта і якія натхнялі на стварэнне многіх твораў.

З Вязынкі экскурсія кіруецца на Віленшчыну. Па дарозе слухалі расказы Уладзіміра Андрэевіча пра Міхася Васілька, Алеся Салагуба, знакамітую Смаргонскую акадэмію. Спыняемся толькі ў Жупранах (ніколі не было, каб заязджалі ў Кушляны. Яны ўбаку, а трэба даехаць да Вільні і ўладкавацца на начлег). Тут аддавалі даніну памяці Францішку Багушэвічу. Уладзімір Андрэевіч выказваў сваё незадавальненне надмагільным помнікам, устаноўленым Саюзам пісьменнікаў БССР. Больш цікавым ён лічыў бюст паэта, устаноўлены бывцам бы на тым месцы, адкуль аўтар «Дудкі беларускай» клікаў сваіх землякоў на паўстанне. Асаблівае захапленне і экскурсавода і экскурсантаў выклікаў мясцовы касцёл у стылі готыкі. З захапленнем Уладзімір Андрэевіч расказвае пра адметнасць гатычнага стылю, спецыфіку мясцовай готыкі. Фатаграфуе Багушэвічавы мясціны.

Пад вечар – у Вільні. Дзе мы толькі не начавалі: то на беразе Віліі, то на нейкіх толькі Уладзіміру Андрэевічу вядомых турбазах. Наступны дзень аддаваўся Вільні. Экскурсаводам быў заўсёды У.А. Калеснік. Тут студэнты чулі і бачылі цэлы курс па беларускім дойлідстве. Готыка, барока, класіцызм, рэнесанс, ракако, эклектыка. Касцёл св. Ганны, касцёл Пятра і Паўла, Вострая Брама, Святаянскія муры, гарадская ратуша, віленскія дворыкі, у адным з іх – помнік беларускаму першадрукару. Далей аглядалі мясціны, звязаныя з літаратураю: Лукішская плошча і пліта на месцы, дзе былі павешаны Каліноўскі і Сераkoўскі, і сумна знакамітыя Лукішкі, рэдакцыя «Нашай нівы», Віленская беларуская гімназія... Незабыўнае ўражанне пакідала наведванне бібліятэк Віленскага універсітэта і Урублеўскага. У першай знаёміліся з беларускімі рукапіснымі і друкаванымі старажытнымі кнігамі, з кнігамі на летувінскай мове, яшчэ раз пераконваліся, наколькі больш старажытная пісьмовая культура нашага народа. У бібліятэцы Урублеўскага цікава было ўбачыць «Нашу ніву», надрукаваную кірыліцай і лацініцай. У будынку універсітэта знаёміліся з кабінетам і бібліятэкай Я. Лелевеля, з універсітэцкай абсерваторыяй, з актавай залай, дзе гучаў голас нашага земляка Забэйды-Суміцкага, дзе юны Максім Танк чытаў свае вершы і ўдзячная моладзь і спевака, і паэта падхапіла на рукі і пранесла праз залу.

Перад ад'ездам з Вільні падымаліся на гару Гедыміна. Яшчэ раз аглядалі панараму горада, пазнавалі помнікі, з якімі ўжо пазнаёміліся, чыталі раздзел з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Уладзімір Андрэевіч радаваўся, калі студэнты без яго напамінку бралі ў дарогу Коласаў томік.

Пад вечар пятага дня пакідалі Вільню. Перапоўненыя ўражаннямі, стомлены студэнты, стомлены і экскурсавод. Але калі пад'язджалі пад Астрына – мясціны Цёткі, кіраўнік экскурсіі захоплена расказвае пра Першую (як ён любіў называць Цётку), паказваў помнік паэтцы, узведзены ў гэтай вёсцы (скульптар Заспіцкі). Начавалі ў Гародні на турстанцыі. Абавязкова сустракаліся ці з Васілём Быкавым, ці з Аляксеем Карпюком, вялася доўгая зацікаўленая гаворка пра напісанае гарадзенцамі. Затым аглядалі дом-музей Элізы Ажэшкі, невялічкую экспазіцыю ў адным з пакояў. У Гародні экскурсаводам звычайна быў Аляксей Карпюк. Уладзімір Андрэевіч то ўважліва слухаў свайго даўняга сябра і калегу, то пацвельваў з апошняга. У Гародні аглядалі таксама дом, дзе жыла сям'я Максіма Багдановіча, палац Стэфана Баторыя, Каложу, Стары Замак.

У абед пакідалі гасцінную Гародню. Па дарозе спыняліся толькі ў Ружанах. Там аглядалі развалiны замка, касцёл і помнік Юзіку Урбановічу. У Брэст прыязджалі заўсёды позна вечарам. Праходзяць гады, а гэтыя шэсць дзён паездкі па Беларусі не цьмеюць у памяці, жывуць як адно з самых яркіх уражанняў студэнцкіх гадоў.

У 60-я гг. па ініцыятыве У.А. Калесніка ствараецца шэраг літаратурна-краязнаўчых стэндаў: «Яны надрукаваліся», «Пісьменнікі – госці Брэстчыны», «Шляхамі паэтаў і герояў», «Рускія пісьменнікі на Брэстчыне». Фотаздымкі да гэтых стэндаў рабіў сам Уладзімір Андрэевіч, сядзеў са студэнтамі і клеіў іх, падпісваў. Яму належыць ідэя стварэння літаратурна-краязнаўчай карты вобласці.

Адным з напрамкаў літаратурна-краязнаўчай працы было абмеркаванне кніг пісьменнікаў з удзелам іх аўтараў. Іван Мележ, Іван Шамякін, Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Анатоль Вярцінскі, Іван Чыгрынаў, Анатоль Кудравец, Мікола Аўрамчык і многія іншыя бралі ўдзел у сустрэчах са студэнтамі, слухалі іх уражанні ад толькі што напісаных кніг. Янка Брыль, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч сустракаліся са студэнтамі на маёй памяці па некалькі разоў. У апошні час, калі вырасла і набрала моц пад дбайным кіраўніцтвам Уладзіміра Калесніка літаратура Берасцейшчыны, сістэматычна сталі наладжвацца сустрэчы са сваімі мастакамі слова: Нінай Мацяш, Міколам Пракаповічам, Алесем Каско і інш. Вёў гэтыя сустрэчы У.А. Калеснік. Яму належала грунтоўнае ўступнае і заключнае слова. Многае з таго, што гаварылася на гэтых сустрэчах Уладзімірам Андрэевічам, пазней уключалася ім у рэцэнзіі, артыкулы, эсэ, літаратурныя партрэты, прысвечаныя выдатным дзеячам беларускага мастацкага слова.

Закладзеныя У.А. Калеснікам традыцыі літаратурна-краязнаўчай працы на філалагічным факультэце Брэсцкага педінстытута падтрымліваюцца дэканатам і кафедрамі цяпер. Многае з таго, што рабілася ў пазааўдыторны час, увайшло ў навучальныя планы, у тым ліку такія дысцыпліны, як літаратурнае і лінгвістычнае краязнаўства, літаратурна-краязнаўчая і лінгвістычна-краязнаўчая практыкі, экскурсія па літаратурных мясцінах Беларусі.

Вера ЛЯШУК

# ВЕДАЎ, ЛЮБІЎ, АДМЫСЛОВА КАРЫСТАЎСЯ...

Уладзімір Андрэевіч не адзначаў афіцыйна свае дні нараджэння. У гэтым годзе яго вучні, ужо не пытаючыся дазволу Настаўніка, сышліся ясным вераснёўскім днём у адной з вялікіх аўдыторый Брэсцкага універсітэта, каб падзяліцца ўспамінамі пра чалавека, які пакінуў светлы след у душы кожнага. Прыгадваліся жыццёвыя сітуацыі, якія выразна характарызавалі адносіны Калесніка да грамадскіх падзей, асобных людскіх учынкаў, да беларускай культуры, роднага слова. І падумалася: мабыць, зусім не выпадкова адна з першых кніг Калесніка, што выйшла ў 1962 годзе, была напісана ім разам з яго добрым сябрам – лінгвістам Фёдарам Янкоўскім. Яны абодва рабілі ўсё магчымае, каб беларускае слова не толькі гучала ў час выкладання, а натуральна лілося з вуснаў прамоўцаў, настаўнікаў, журналістаў, людзей розных прафесій і заняткаў. Дзеля гэтага і пісалася кніга «Вусная мова і выразнае чытанне». Дзеля гэтага навуковец рэдагаваў вучэбныя дапаможнікі па выразным чытанні, спрыяў выданню спецыяльнай фонахрэстаматыі.

Сам Уладзімір Андрэевіч быў добрым знаўцам роднага слова. Яго лекцыі, публічныя выступленні запомніліся многім не толькі іх зместам, а і адметнай формай выкладу, нават нейкім артыстызмам прамоўцы. Выключна валодаючы навуковым стылем (пра што сведчаць асабліва яго апошнія кнігі «Тварэнне легенды» і «Усё чалавечае»...), Калеснік мог дазволіць сабе то непасрэдную гутарковасць, якая часам даходзіла да прастамоўнасці, то ўзнёслую паэтычнасць, што рабіла выступленне завострана публіцыстычным. Гэта, безумоўна, залежала ад таго, пра што гаварылася, але немалы ўплыў на такія стылёвыя адступленні і «зігзагі» рабіла няўрымслівая натура лектара і прамоўцы, які не мог спакойна рэагаваць на некаторыя праявы жыцця. Былым студэнтам Калесніка да гэтага часу помняцца характарыстычныя выслоўі, якія вырываліся з вуснаў Настаўніка, калі ён абураўся невуцтвам, душэўнаю лянотай, абыякавасцю да свайго, беларускага. І толькі цяпер па-сапраўднаму даходзіць змястоўнасць такіх характарыстык, як «сацыялістычныя папуасы», «пашахонцы няшчасныя», «галубіцы іарданскія»...

Невыпадкова ў дакументальнай аповесці «Пасланец Праметэя» Калеснік напісаў: «Каб слова брала за душу, той, хто кажа ці піша яго, сам павінен мець шчырую душу ды чулае і гарачае сэрца». Такое сэрца меў аўтар шматлікіх літаратуразнаўчых прац, публіцыстычных артыкулаў, дакументальных кніг. Аўтабіяграфічны нарыс пра сябе Уладзімір Андрэевіч некалі (а было гэта яшчэ ў 1966 г.) назваў «Сваім следам». Свой выразны след ён пакінуў не толькі ў літаратуразнаўстве і дакументалістыцы.

Працы Калесніка вызначаюцца адметным стаўленнем аўтара да слоўна-фразеалагічных і граматычных рэсурсаў беларускай мовы. У выбары слоў і пабудове сказаў заўсёды выяўляецца «нястомная работа духу» (А. Чычэрын) таго, хто ступіў на дарогу творчасці. Першая манаграфія Калесніка называлася «Паэзія змагання». Не засяроджваючы ўвагі на сэнсавай ёмістасці гэтага загалоўка, адразу скажам: большасць манаграфій Калесніка называецца так, што адразу робіцца заяўка не на строгае акадэмічнае даследаванне, а на паэзію, якой заўсёды поўніцца творчая праца. Перачытаем назвы на вокладках некаторых Калеснікавых кніг: «Ветразі Адысея», «Зорны спеў», «Пасланец Праметэя», «Лёсам пазнанае», «Тварэнне легенды», «Усё чалавечае»... Паэтычная сутнасць душы даследчыка падказала, што ў загалоўкі варта вынесці спалучэнні слоў, якія ўздымаюць нас над будзённасцю жыцця. У літаратуразнаўчым нарысе «Купалы сны нязводныя» сам Калеснік піша, што яму хацелася «выкласці справу так папулярна, каб і воку, не ўзброенаму вучонай лупай, адкрылася [...] дзівосная духоўнасць яго паэзіі, яе еўрапейскі кантэкст і арганічная беларускасць...»

Арганічная беларускасць самога Калесніка заключалася ў тым, што ён заўсёды падкрэсліваў: родная мова – адна з найдаражэйшых духоўных каштоўнасцяў беларусаў. Яе ён пачуў на мілай сэрцу Карэліччыне, не цураўся ні ў гады ваеннага ліхалецця, калі партызаніў у беларускіх лясах, ні ў студэнцкія і аспіранцкія гады, а ў перыяд выкладчыцкай і навуковай працы быў надзейным абаронцам і прапагандыстам роднага слова. Уладзімір Андрэевіч добра ведаў тых філолагаў, якія рупіліся на ніве беларускай мовы. На ягоных паліцах і цяпер стаяць кнігі Яўхіма Карскага і Фёдара Янкоўскага, разнастайныя слоўнікі і даведнікі. Помніцца, якой радасцю свяціліся Калеснікавы вочы, калі ён убачыў «Дыялектны слоўнік Брэстчыны», выдадзены калегамі з кафедры беларускага мовазнаўства.

Асабліва трапяткія адносіны выяўляў Калеснік да мастацкага слова. На яго думку, гэта адзін са сродкаў «буджэння асьлеплай соннай душы». Мастацкае слова ў адных выпадках «аказваецца словам суровай ці горкай праўды, звернутай да развагі і сумлення», у другіх – «рамантычным згусткам чалавечага духу, заклінаннем, святым агнём, здольным уваскрашаць упалыя душы, распальваць нячулыя сэрцы, напаўняць душы харством свабоды і светлай будучыні». Найбольшую сілу мае паэтычнае слова, якое, як сцвярджае навуковец, «з'яўляецца выпрабаваным сродкам уваскрашэння духу свабоды і годнасці ў народзе». Гэтак Калеснік успрымаў не толькі прарочае, трыбуннае слова, а і простае слова беларускае, бо яно «не толькі экспрэсіяй, празорлівасцю ці праўдзівасцю, а самой наяўнасцю [падкр. – Г.М.] сваёй адраджае мёртвыя душы, усяляе пачуццё тоеснасці асобы, нацыянальнай годнасці, дае адчуванне гістарычнага быцця».

Галіна МАЛАЖАЙ





# З ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКІХ ПАЛЕТКАЎ

Яго дужая прысутулена-высокая і па-сялянску каржакаватая постаць выдавала патомнага земляроба. Ды і інтанацыі гаворкі, разважліва-павольнай, эмацыянальна стрыманай, не надта чыстай тэмбрам, з нейкім глухавата-нуднаватым беларускім пранонсам нагадвалі вясковага чалавека нашага заходняга рэгіёна. Нават смяяўся ён пакрэктваючы, як той дзед на прызбе даўнейшай хаты.

Калі ж пачынаў гаварыць пра літаратуру, адкрываўся інтэлектуал, эстэт, які валодаў рэдкім чуццём мастацкасці, быў па-сапраўднаму дасведчаным у філасофіі, гісторыі, выяўленчай творчасці. Яго цікава было слухаць – пра што б ні гаварыў, – бо меў уласную арыгінальную думку і не кідаў словы на вецер, а выказваўся грунтоўна, важка.

Мне заўсёды здавалася трохі таямнічым гэтае спалучэнне ў асобе Уладзіміра Калесніка народна-маральных і кніжна-інтэлігенцкіх пачаткаў. Калісьці ўяўляў яго проста таленавітым савецкім крытыкам. Але вось у 1971 годзе прыехаў у Брэсцкі педінстытут на навуковую канферэнцыю «Беларуская мова і літаратура ў ВНУ». У праграму ўключана была мая тэма «Патрыятычнае выхаванне на матэрыяле беларускай літаратуры». У. Калеснік павёз на сваёй машыне Фёдара Янкоўскага і мяне паказаць ваколіцы Брэста. Спыніліся ля нейкай рэчкі, прыселі на беразе. У размове закранулі канферэнцыю, што пачыналася на наступны дзень, і Калеснік павярнуў галаву да мяне: «Малайчына, браце, што абраў такі кірунак даклада. Выхоўваць трэба не высокімі і дзяжурнымі фразамі, а нашымі лекцыямі, ды каб студэнты гэтага і не прыкмячалі. Шанаваць сваё, бацькоўскае, родавае – вось што мы павінны перадаць. Тады маладыя вырастуць людзьмі. І беларуская літаратура мае для гэтага велізарны патэнцыял. На жаль, кепска яго выкарыстоўваюць...»

Ф. Янкоўскі маўчаў, прыглядаючыся да рачной плыні, і зрэдку ківаў галавою. А я думаў, што ў педагагічнай літаратуры пра гэта не пісалі і не гаварылі пра гэта на метадычных нарадах. Галоўнае было – «савецкі патрыятызм і інтэрнацыяналізм». І яшчэ думалася, што не ведаў дагэтуль У. Калесніка.

Пазней успомніў, як Ларыса Геніюш распавядала пра сустрэчы з Калеснікам у Брэсце. Павёў ён госцю ў Брэсцкую крэпасць. Хадзілі, глядзелі. Нарэшце яна кажа: «Што вы мне ўсё гэта паказваеце? Тут не нашы людзі і не за нашу зямлю паміралі». Згадваючы тое, гарэзліва бліскала вачыма: «Ну, думаю, узарвецца зараз гневам літаратурны мэтр. А ён – гэтак разважліва: «Чаму ж? І зямля нашая, і людзі не чужыя тут ваявалі. І яшчэ нешта ў тым жа тоне. Я і прымоўкла. Памяняла гаворку».

Моцнае было ў ім пачуццё маральнага абавязку перад сябрамі, калегамі. У 1992 г. прыехаў у Гродна на пахавіны Аляксея Карпюка ўжо цяжка хворым. Гаварыў над дамавінаю неяк непрывычна ціха, паслабелым голасам. Спытаўся яго пра здароўе. «Кепска, – адказаў, – але ж з Алёшам мы даўно і хораша зналіся. І во – на табе. Быў ён усё жыццё салдатам. Толькі што на варце праўды. Такіх ужо мала».

Ён, Уладзімір Калеснік, таксама вартаваў праўду. Ды яшчэ – харство мастацтва.

Аляксей ПЯТКЕВІЧ

* * *

*Светлай памяці У.А. Калесніка*

Прыроды зімовае ззянне –  
Пачатак пагожага дня –  
У гэта журлівае ранне  
душой не адразу прыняў.

У час, калі свет чалавечы  
ішоў – памінальна –  
са мной,  
здавалася мне недарэчнай  
усмешка прыроды самой.

Падумаў жа:  
ў ззянні прыроды,  
душа я г о зліта з якой,  
ёсць нешта ад чуйнай турботы  
і штосьць ад усмешкі жывой...

Пачаўся дзень белы-бялюткі,  
дзень снежаньскі – сонца  
ды снег.  
З імглой натуральнага смутку  
душы далягляд паяснеў.

15 снежня 1995

Васіль ЖУКОВІЧ

# НАСТАЎНІК ПАЭТАЎ

Калі я паступаў у Брэсцкі педінстытут (у 1968-м), дык разам з заяваю паслаў у прыёмную камісію свае першыя вершыкі. Мне ўяўлялася, што тут вучаць не толькі на настаўнікаў, але і на паэтаў. У рэшце рэшт, мала памыляўся, бо, стаўшы студэнтам, у кабінеце літаратуры ўбачыў партрэты інстытуцкіх выпускнікоў Міхася Рудкоўскага, Міколы Купрэева, Васіля Жуковіча, у філфакаўскай насценнай газеце – вершы трэцякурсніка Міколы Пракаповіча, абразкі другакурсніка Алеся Зайкі... А тут яшчэ «ссыльнага» Алеся Разанава пасялілі ў наш пакой, калі аціх вядомы канфлікт вакол беларускасці ў БДУ. Ім апекаваліся тады сам наш рэктар Сяргей Гусак і ён, Уладзімір Калеснік. Ды чаму толькі «тады»? Алесь і Уладзімір Андрэевіч ведаліся даўно, яшчэ з таго часу, калі першы быў шасцікласнікам і вызначыўся на абласным конкурсе школьных сачыненняў.

Моцна заняты працаю ў інстытуце і ўласнай творчасцю, У. Калеснік цікавіўся ўсімі і ўсім, радаваўся кожнаму парастку, асабліва дужаму і перспектыўнаму. Курыраваў інстытуцкі літгурток, запрашаў вядомых пісьменнікаў са сталіцы і наладжваў дыспуты пра новыя кнігі, не прапускаў пасяджэнняў абласнога літаб'яднання, якім кіраваў, прымаў у сябе на кватэры ўсякага «смелага» аўтара або адказваў яму лістом на ліст. Калі пра літаратурнае настаўніцтва казаць моваю педагогікі, дык асноўнай формай для яго была акурат «індывідуальная работа з вучнем» (вучнем найперш здольным, вартым траты сіл і часу). А гэта: з праўдзіваю ўважлівасцю перагортваць рукапісныя і вершы, і вершыкі, тасаваць і бласлаўляць іх у друк, а калі не «ідуць» – весці перамовы з дырэктарам выдавецтва ці, як трэба, і з самім міністрам; чытаць ледзь не кожную публікацыю і кожны чарговы зборнік, адгукацца ў прэсе, уводзіць імя аўтара ў вушы прыёмнай камісіі СП; нарэшце ўпарадкоўваць разам з паэтам кнігу выбранага і пісаць да яе прадмову мала меншую за аўтарэферат, а то і за кандыдацкую дысертацыю... Пры гэтым адно зрэдку буркнуць, што, маўляў, з-за растакое вашай лірыкі-мурлырыкі ён мусіць ставіць у чаргу да свайго рабочага стала самога Скарыну ці Караткевіча. Але ўсё паспяваць зрабіць. І не зважаць, што не менш мацёрыя калегі пачынаюць папракаць за «местачковы патрыятызм» або «манапалізацыю» крытыкі.

Такая форма настаўніцтва мяжуе з бацькоўскай апекаю і мецэнацтвам. Каму і шкодзіла яна, дык гэта самому настаўніку, бо забірала процьму часу, фізічных і маральных сіл, псіхалагічна ўзбуйняла – хай сабе і вельмі рэдкія – памылкі і расчараванні. Затое нешта не сустракаў я пакрыўджаных вучняў, якія наракалі б на залішнюю сяброўскую апеку: маўляў, скоўвала. Ставала Уладзіміру Андрэевічу і мудрасці, і педагагічнага такту, і чалавечай павагі да маладзейшага, каб не пасягаць на ягоную свабоду. А ўрэшце, моцная творчая натура сам, ён хацеў бачыць такую ж натуру і ў вучню, што і станавілася галоўным гарантам плённасці ўзаемных стасункаў. Аўтарытэт настаўніка, папярэджваў ён у адным з артыкулаў, можа лёгка пахіснуць слабага паэта, а паэт-асоба ў адказ на крытыку яшчэ больш умацуецца на абраным шляху. Свабоду творчай асобы У. Калеснік сцвярджаў адназначна, без агаворак: «... мастак не можа дайсці праўды без эмоцый і пераборaў, таму мае права гаварыць усё, што хоча, і рана ці позна давядзецца гэтае права афіцыйна прызнаць і ў нас, без гэтага мастацтва і яго галоўны стрыжань – літаратура – завянуць, страцяць прэстыж і дома, і ў свеце». (Залатыя, надзённыя словы, шаноўны настаўнік!)

Кажучы пра вучняў У. Калесніка, маю на ўвазе найперш паэтаў-землякоў, хоць, магчыма, не ўсе яны лічаць сябе такімі; нехта не супадаў у поглядах, аднак у большай ці меншай ступені падпадаў пад ягоную ўвагу. Спакусліва, але рызыкоўна «прысвойваць» таго, хто сягаў у шырокі кантэкст жыцця, эстэтыкі, літаратуры, у космас думак і пачуццяў Скарыны, Гусоўскага, Купалы... Вялікія папярэднікі жывуць у кожным нашчадку, і той, хто браўся за даследаванне іхняга жыцця і творчасці, пісаў і пра сённяшніх нас – берасцейцаў, гарадзенцаў, менчукоў, – дбаючы пра будучыню ўсёй нацыянальнай культуры.

Дык жа і непасрэднай увагаю не абмінаў ён маладых паэтаў з іншых абласцей і са сталіцы. Ці шмат мэтраў літаратуры і знаўства аб ёй не пагрэбавала напісаць хоць адну-другую так званую бягучую рэцэнзію на адметную публікацыю ў перыёдыцы або на асобны паэтычны зборнік? А Уладзімір Калеснік падаваў узоры такіх рэцэнзій. Мне, напрыклад, дасюль памятаецца грунтоўны ягоны аналіз у «ЛіМе» за 1984 год кніжкі Генадзя Пашкова «Зямлю слухаю». І выснова ягоная: «...паэтычная творчасць – справа куды больш цяжкая, чым гэта сёння здаецца... І дай божа дачакацца таго часу, калі маладыя паэты адчуюць гэта самі. Тады і мае заўвагі стануць прымальнымі, больш таго – будуць дапоўнены аўтарам, ён убачыць такія хібы, якія мне бачыць не пад сілу. Гэта і будзе нармальны творчы рост». Не выбачаўся перад аўтарам, а саўдзельнічаў у ягонай творчасці, ягонай будучыні...

Адно што мы, берасцейцы, больш чым хто пачуваліся несамотна і пэўна побач з ім. Ягоную прысутнасць усведамлялі не без гонару і спаўна, калі сябры-калегі з іншых «правінцый» з прыкметнай зайздрасцю падкрэслівалі: «У вас ёсць Калеснік, і гэтым усё сказана».

Затое і прагал пасля страты бачым надзвычай вялікі. Хто заменіць Настаўніка? Хіба што ўсе разам – тыя, хто «аперыўся» з ягонага крыла.

Хіба што ў пэўнай долі...

Алесь КАСКО

# Я ГАМАНЮ З ЯГОНАЮ ДУШОЙ...

Адзін французскі святар, віншуючы маладых са шлюбам, казаў: «Перш чым вы сустрэліся і сярод мноства людзей выбралі адно аднаго, вас выбраў Бог; будзьце ж годныя дарунка Божага; у жыцці ўсяляк бывае, але як бы ні складваліся жыццёвыя варункі, і ў радасныя, і ў цяжкія хвіліны свае не забывайцеся падзячліва думаць адно пра аднаго: «Чым я заслужыў ці заслужыла цябе?» Гэтая ваша шчырая ўзаемная ўдзяка і хвала Богу за пасланага спадарожніка жыцця заўсёды паможа вам адолець усе перашкоды, годна вырашыць усе вашыя праблемы».

Спаміж найдарожшых людзей, да якіх найчасцей ляціць падзячлівае і маё – «Чым я заслужыла цябе?», – Уладзімір Андрэевіч Калеснік.





Ладны, абаяльны, разумны, раскаваны і вонкава пэўны самога сябе. Ён і бянтэжыў мяне (ды ці адну мяне?!), і прыцягваў – сваёй выключнай эрудыцыяй і дасціпнасцю, моцай нейкага геданістычнага духу, актыўным жыццялюбствам, ураўнаважаным высокай эстэтычнай мерай у падыходзе да жыцця і ацэнцы ўсемагчымых ягоных праяваў. Вартая подзіву была Ягоная здольнасць спраўляцца з безадхланнем самахотна ўзваленых на свае плечы і душу абавязкаў – выкладчыцка-асветніцкіх, літаратурных, грамадскіх, побытавых. Часам Ён дазваляў сабе паскардзіцца на фізічную і нервовую перагрузку («Падбіўся ў дарозе»...), аднак ніколі не даваў сабе паслабкі, хоць якога пярэдыху, хіба што зрэдчас «адпачываў» з фотаапаратам у руках, з пэндзлем за мальбертам, з разцом, апрацоўваючы падабраны ў лесе незвычайны формаю корань ці сук, з сякерай, пілой ды гэблікам, ладзячы гараж ці будан і ўлягаючы ва ўсё гэта з поўнай самааддачай. Яму ўдавалася літаральна ўсё: і настаўніцтва (прафесарам Калеснікам створана, па сутнасці, свая школа педагагічнага майстэрства), і росшук ды гуртаванне схільных да літаратурнай дзейнасці берасцейцаў (намаганнямі пісьменніка Калесніка ўтварылася і працуе абласное аддзяленне СП), і налада сяброўства літаратараў Берасцейшчыны і Валыні (традыцыя сумесных творчых паездак і сустрэч з жыхарамі нашага памежжа і цяпер прагне працягу). Як пачаткоўцы, так і сталыя паэты ды празаікі ўважалі за гонар апынуцца ў коле зацікаўленняў Калесніка-крытыка і літаратуразнаўцы – фенаменальна дасведчанага даследчыка і аналітыка плыняў і з'яваў «прыгожага пісьменства». Неардынарнае мыслярства шчасліва спалучалася ў Ім з узнёслым рамантызмам: побач з Уладзімірам Андрэевічам не было холадна нікому. Праўда, нікому не гарантавалася і няўзрушнасць ідылічнага ўтулля: ходзячы зблізку каля агню, чалавеку надараецца і апячыся... А ў магнітным полі гэтай самабытнай Асобы была, бадай, не адна тысяча людзей: настаўнікі (калегі ды выхаванцы), творчыя людзі (і не толькі Беларусі), партызанскія сябры, дзяржаўныя службоўцы, суседзі ды землякі... Свяцільня духу Уладзіміра Андрэевіча Калесніка слала кожнаму тое, у чым хто меў найнеабходнейшую патрэбу: з каго злятала, хоць на пэўны момант, самадурства ды пыха, каму дадавалася веры ў патэнцыял нацыянальнай культуры, хто набываў непасрэдную дапамогу ці маральную падтрымку ў скрутных будзённых абставінах: душа Настаўніка расхіналася насустрач цэламу свету з усёй яго зямною нэндзай і высокай Красою. «Кругласутачная вахта» стамляла, хацелася «пераключыцца на чыста інтэлектуальныя заняткі, а заняткаў накапілася горы, – прызнаваўся ў адным з лістоў Уладзімір Андрэевіч. – Зрэшты, Арыстоцель лічыў, што самымі шчаслівымі істотамі ў свеце з'яўляюцца багі і філосафы, бо тыя і другія вядуць сузіральнае жыццё, а не дзейснае».

Ды ўявіць Уладзіміра Андрэевіча сузіральным пустэльнікам проста немагчыма. Ягоная магутная актыўная натура палымнела чалавечай і людской устурбаванасцю і не магла мірыцца з тленнем іншых, а пагатоў творчых людзей: «сумны цень кідае на наша творчае жыццё гэтая няшчасная вульгарная гарэлка»; «хоць завый ад бяссілля людзей – гэтых таленавітых самагубцаў»; «сэрца кроўю абліваецца за згубленыя магчымасці»; «няхай у новым годзе свет будзе менш дзіўным»... І Сам рабіў усё, што мог, каб прыўнесці ў гэты разладжаны свет хоць трохі гармоніі і дабраты.

Усе мы дачасныя на зямлі, ды не выпадковыя тут істоты. І кола нашых чалавечых узаемінаў таксама не выпадковае. Гэтак трэба было Жыццю, культуры, літаратуры беларускай, духоўнасці грамадства і зямлі берасцейскай, каб менавіта на ёй з'явіўся і плённа дзеяў магутны духоўны магніт у асобе Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Гэтак трэба было, каб Ён стаўся і маім духоўным Бацькам і Братам. Звыш чвэрці стагоддзя я адчувала Ягоную паўсякчасную падтрымку.

Ды лепш няхай з голасу самога Уладзіміра Андрэевіча пачуецца ды ўбачыцца, кім Ён быў у маім жыцці. Перапрашаю чытачоў, што мушу быць нясціплай, разгалошваючы датычныя мяне завышаныя ацэнкі Настаўніка. Прагну, каб чытацкая ўвага засяродзілася на ісцівым прызначэнні публікацыі гэтых фрагментаў з лістоў Уладзіміра Андрэевіча: паўней выявіць, якім чулым, уразлівым, шчодрым на дабрату і зычлівае слова быў Ён, як блізка да сэрца прымаў усё, што адбывалася, ці магло адбыцца са мною, як далікатна і мудра навучаў мяне чалавечай годнасці.

«Мілая Ніна! Усё ў душы пераварочвалася, калі мы тут даведаліся пра здарэнне з Табою і сястрою (у 1973 г. мы трапілі ў аўтакатастрофу, сястра загінула. – Н.М.). Сапраўды, нейкія дзікія жарты лёсу, выпрабаванні зусім неймаверныя нават у нашу трагічную эпоху. Не ведаю, якою Ты станеш пасля таго як паправішся і пачнеш працаваць, але веру, што здолееш выгнаць з душы бяссільную крыўду і горыч на сляпыя прыхамаці лёсу. Ты дастаткова загартаваная, каб не зламацца і не сагнуцца, дастаткова мудрая, каб разумець, што жыццю прымальна толькі тое, што рухае яго, развівае стваральныя сілы»... (23.XII.73)

...«Вярнуўшыся з Гродна, дзе сядзеў на вельмі цяжкім судовым працэсе (працэс над карнікамі, якія знішчалі Хатынь), быў усцешаны Тваімі віншаваннямі і галоўнае звесткамі, што ў Цябе ўсё пакрысе ідзе на норму. Жадаю Табе хутчэй паправіцца і засесці за рабочы стол»... (5.III.74)

...«Давялося некалькі разоў з прыемнасцю гаварыць пра Тваю творчасць, а «Берасцейскае вогнішча» спадабалася «Дружбе народаў» і, відаць, дойдзе справа да друку – гэта, зразумела, дзеля вас, маладых талентаў»... (6.XI.74)

...«Рады, што не маеш часу сумаваць, але калі знойдзецца вольная хвіліна, пацеш вока альбомам Манэ, які Табе высылаю»... (8.III.75)

...«Шлі свае балтыйскія вер-

шы. Праўда, са старонкамі ў нас бяда, у «Зары» цяпер такая неспрыяльная атмасфера, што Івану Кірэйчыку яе не ацяпліць. Я ўжо падымаў шум у абкоме супраць рэдактара, але толку мала. Відаць, справа не палепшае ажно да нейкай персанальнай перамены ў складзе рэдакцыі ці хоць бы ідэалагічнага аддзела. Мне самому цікава, што вычаравала з Цябе Юрмала – сосны і мора. Хоць цяпер я ўжо ўзяўся за гісторыю літаратуры і сяджу над Жылкам, потым думаю ўзяцца за Таўлая, Танка і Брыля, але ж сваіх крэўных паэтаў берасцейскіх нельга абыходзіць увагай. Буду і далей рэцэнзаваць новыя зборнікі, каб калі-небудзь перавыдаць «Берасцейскае вогнішча» дапоўненым. Дарэчы, учора Разанаў прыслаў мне сігнальны экз. «Зорнага спеву», дзе вогнішча займае 1/3 частку тэксту. Выдаў добрую кніжку вершаў Міхась Рудкоўскі «У краі тым…», куды ўвайшлі выбраныя яго ранейшыя вершы і некалькі новых. Каб ад мяне залежала, я б даў яму Купалаўскую прэмію і без скідак»… (24.IX.75)

…«Віншую Цябе з дзіцячаю кніжкаю. (Казка «Два браты і сякера». – Н.М.). Прызнацца, чакаў гэтага, чакаў, прыгадваючы, як хораша ты гуляла з пляменнікам, калі мы з Васілём наведваліся да Цябе ў Ніву. Кніжка ў цэлым харошая, як на першую – аж надта, пачынаючы з другой старонкі тэксту, я не змог да яе прыдрацца. Усё ідзе так натуральна і хораша і зацёпіста і ясна, як у народнай паэзіі. Але першая старонка мяне была насцярожыла. «Распісвалася» Твая ручка даўгавата. Для перавыдання я раіў бы Табе перарабіць гэты пачатак. … Няўдала і тое, што ён, чалавек, як відаць, тонкай душы і сціплы і сумленны, пакланяецца толькі зямлі, а не небу. Зямлі хутчэй павінен пакланяцца, як я разумею, старэйшы брат, нездарма ж у народзе гавораць пра прагавітых і скнарыстых «зямля ты ненаежная». Зямлю ты пераідэалізавала, яна ў Цябе і настаўніца: «А зямля вучыла быць і нясквапным, і цярплівым» – гэта не так: улада зямлі і ўлада цьмы – з той жа бочкі, Ніначка, зямля ва ўмовах уласніцтва – вучыцелька каварная, яна вучыць прагнасці і эгаізму і чаго хочаш, толькі не «нясквапнасці». Вось і канец старонкі, якую трэба перарабіць. Шкада, што не прыслала мне рукапісу ў свой час, можа б падзейнічалі мае прыдзіркі»… (14.XI.75)

…«Думаю, што Твае сумненні наконт таго, ці не будзе сама-надзейнасцю пісаць твор па матывах легенды, расказанай Янкам Купалам, – выкліканы лішняй далікатнасцю. Калі ў паэзіі нават пераклад лічыцца самастойным творам, дык чаму наследаванне ці тым больш выкарыстанне сюжэтнай канвы мае быць чымсьці непрыемным ці нясціплым. Наадварот, калі ступень і характар выкарыстання першапачатковага тэксту ўказаны (ці ў загалоўку, ці ў падзагалоўку, ці ў эпіграфе) – дык гэта здымае ўсякія магчымыя дакоры таму, хто піша перайманне, вольны пераклад, ці свой варыянт твора, падказаны папярэднікам. Што датычыць аўтара першаўзору, дык для яго гэта чэсць і форма прызнання, калі наступнікі спрабуюць па-свойму інтэрпрэтаваць яго задумы ці карціны. Толькі такім шляхам у рэшце рэшт і жывуць літаратурныя вобразы. Без абнаўлення яны пераходзяць у сферу гісторыі літаратуры, мярцвеюць для сучаснікаў»… (24.I.76)

…«Добры і верш «Не ў Рым вядуць дарогі», хоць трывога дзяўчыны за даўгавечнасць кахання і шчасця выказана крыху занадта «інтэлектуальна», мудра, а любоў, даўно вядома, – дурненькая, і чым больш яна дурная, тым больш трывалая і, я б сказаў, цудоўная, прыгожая»… (17.II.76)

…«Заадно хачу Табе параіць не абгароджваць сваёй асабістай інтымнай сітуацыі частаколам жыццёвай мудрасці. У Тваёй сітуацыі не можа быць месца трафарэту. Трэба прымаць факты як яны ёсць і дзякаваць лёсу за тое, што ёсць, а не планаваць нейкую мадэль вечнага кахання і мнагадзетнай сям'і. Каварства такой планавай гаспадаркі ў сферы інтымных адносін вядомае – плануючы вечнае і абмяжоўваючы дачаснае ў імя вечнага, не атрымаеш ні таго, ні другога ў поўнай меры. На маю думку, лепш мець поўную меру дачаснага, чым крохі ілюзіі на вечнае. А галоўнае тое, што Твой каханы павінен быць чалавекам незвычайным! І толькі стаўка на гэтую незвычайнасць мае сэнс. Яна якраз і дасць моцнае і трывалае пачуццё, моцную сувязь, да якой імкнуцца людзі, асабліва жанчыны. Жадаю Табе такога кахання і веру, што яно такім і будзе. Толькі менш мазгуй і менш бойся»… (30.IX.76)

…«У Мінску чуў добрую навіну, што Табе прадоўжылі прабыванне ў санаторыі яшчэ на адзін тэрмін. Шэрман з кампаніяй збіраюцца падскочыць на саюзнай машыне да Цябе ў адведкі. Так што чакай гасцей, а галоўнае – гімнастыкуйся і памятай пра асноўную службу. Тут у нас намячаецца абласная сустрэча пісьменнікаў з начальствам. Я хадзіў па справах пісьменніцкіх да Мацюшэўскага, і той падаў мне гэтую ідэю. Мне хочацца, каб на сустрэчу прыехала і Ты, будзе добры момант для мяне падняць пытанне аб павелічэнні Табе пенсіі, таму пастарайся паведаміць мне, калі Ты вернешся і калі зможаш прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве»… (27.XII.81)

«Мілая Ніна! Рады быў атрымаць ад Цябе пісьмо, хоць і навіны, і настрой у Цябе не вясновыя, але, думаю, гэта ўсё пройдзе, для панікі няма падстаў. Усе перажываюць станы смутку і расчаравання, калі нешта аказваецца недасяжным… Адным словам, мілае дзіцятка, перастань эксперыментаваць над сваім целам, змірыся і задавальняйся тым, што ёсць. Чалавек можа і да горшага прывыкнуць і не адчуваць сябе нешчаслівым, варта толькі ўгаварыць самога сябе. … Адным словам, Ніна, трымайся ў сваёй стыхіі, памятаючы пра дыялектыку, паводле якой усё на свеце ўзаемазвязана і ўсякія абмежаванні і недамаганні ці немагата – кампенсуюцца.

Я гэта заўважыў па сабе, калі цэлы месяц хварэў грыпам, які паў мне на твар і прымусіў разразаць шчаку, а потым мучыцца неймавернай слабасцю і немагатой што-небудзь рабіць, пісаць, нават чытаць. І адклаў я свае справы. Не адпісаў яшчэ (больш месяца) энцыклапедыстам, не завізіраваў тэкстаў сваіх артыкулаў, не напісаў пра рамантызм, перастаў пісаць самую трагічную кнігу сваёй партызанскай маладосці «Рэквіем Зіне» – адным словам, выздаравіўся. Спачатку перажываў, палохаўся, а потым звыкся і вось цяпер пачынаю ажываць і з ахвотаю пішу да Цябе гэты ліст, жадаючы ў душы, каб і Цябе хутка наведала ранейшае жаданне жыць і працаваць, пісаць вясёлыя вершы. Вось пастаўлю машыну на калёсы, дык прыеду і прачытаю Табе натацыю!..» (27.III.85)

«Дарагая Ніна! З Новым годам, з новымі задумамі і здзяйсненнямі, з новымі гіпотэзамі шчасця і сэнсу быцця! Гоюся і адыходжу ад абурэння і крыўды, якая агортвае, калі чалавек вымушаны пераварваць штодзённыя горы хлусні, вульгаршчыны, ідэалагічнага махлярства і немаведама якіх яшчэ сюрпрызаў нашага «пераходнага» чысцілішча. Рады, што закончыў, аддаў сварлівы артыкул у «Вячэрні Брэст» і нарэшце прайшоў у царства Апалона, дзе Ты прадзеш сваё мудрае і далікатнае прадзіва. Чытаю і думаю: вось гэта і ёсць тое жывое, што можа збавіць чалавецтва ад самагубных і душазгубных інстынктаў»… (28.III.92)

…«Так што стой на варце. Абнімаем, цалуем Зося і Ул. Калеснікі». (30.XII.1993).

Апошнія радкі – з апошняй да мяне паштоўкі падараванага Богам Настаўніка і Сябра.

Больш Ён ужо не напіша мне, не патэлефануе, не прыедзе. Ніколі.

Бо мусіў адысці – за мяжу ўявімага.

Каб ужо АДТУЛЬ па-ранейшаму аберагальна свяціць і мне. Заўсёды.

Гаманю з Ягонай душою.

Ніна МАЦЯШ

# У СЯЛЬЦЫ

Лава даўгаватая, чатыры чалавекі вольна могуць уладкавацца на ёй за сталом. Гасцей і сапраўды чацвёра. Але адзін з іх – Мікола Пракаповіч – больш сядзіць на ганку і курыць, і, калі да яго звяртаюцца, змушана ўсміхаецца: трохі нездаровіцца Міколу… Ніну Мацяш Калеснік пасадзіў на табурэт каля стала, і яна зрэдку, нібы дробная птушка, глытае нейкія крошкі. Сам Уладзімір Андрэевіч сядзіць на канцы лавы каля чароўнай Марыйкі Новік – выкладчыцы беларускай мовы з Берасця. Высокі, плячысты, ён прыціснуў яе да сцяны, пазірае вочкамі-вугольчыкамі на сваіх маладых сяброў і час ад часу гаворыць бліскучыя прамовы на самыя разнастайныя тэмы. (Міжволі зазначаю сабе: мабыць, Калесніку проста тварыць. Награварыў, а потым нават без асаблівых папravak занатаваў гэта на паперы…) У час адной з такіх прамоваў Марыйка далікатна пратэстуе: «Не прыціскайце, Уладзімір Андрэевіч, не прыціскайце!» «Дзіця маё мілае, – абурана гудзе ён, а ў вочках скачуць чорцікі, – я не прыціскаю. Як можна! Я – твой бацька». «Яно так, – згаджаецца Марыйка. – Але ўсё роўна адсуньцеся, вунь колькі месца!»

Ужо не першы раз Калеснік з сябрамі ў Сяльцы, і гучыць у бацькавай хаце не «гаворка», а беларуская мова. Але можа ўпершыню я так востра адчуваю, якая яна выразная, прыгожая, пікантная. Куды да яе якой-небудзь французскай, бо беларуская – свая. А свая, гэта калі вольна, нязмушана ліецца з душы.

Каб я тады ведаў, што бачу Уладзіміра Андрэевіча апошні раз… Зрэшты, хто можа такое ведаць?..

Паўгода таму атрымаў ліст ад знаёмага. Бядуе, што, мабыць, ужо ніколі не збяромся ў Сяльцы, бо няма з намі Уладзіміра Андрэевіча. Падумалася: не толькі ў Сяльцы, у многіх іншых куточках Берасцейшчыны таксама. І рэч не ў тым, што няма часу, няма бензіну… У Калесніка часу і бензіну хапала на ўсіх. Цяпер, калі пішуць пра Уладзіміра Андрэевіча, найперш згадваюць шырыню, энцыклапедычнасць яго ведаў. Але ж было ў яго нешта яшчэ больш каштоўнае – надзвычай жывое, адкрытае людзям сэрца і светлая душа.

Мікола АРАХОЎСКІ

# ШТО ЧАКАЕ ЗА КРУТОЙ ГАРОЙ…

Лёс майго першага паэтычнага рукапісу складваўся даволі драматычна: вершы правінцыяла-пачаткоўца нейкім чынам трапілі на рэцэнзію да аднаго з мэтраў беларускага літаратуразнаўства, і той педантычна прайшоўся па яшчэ недаспелых радках. Папросту, зарэзаў рукапіс. Атрымаў я гэтую рэцэнзію – быццам дарога абарвалася. Усё – наперадзе прорва…

У каго шукаць рады? Ногі самі прывялі да Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. «Можа, мне зусім кінуць пісаць?» – пытаюся. А недзе ў сярэдзіне танюсенькі галасок нашэптвае: можа, пашкадуе, можа, абвергне крытыку таго мэтра… Але Уладзімір Андрэевіч адказаў даволі рэзка: «Калі можаш не пісаць – не пішы!» Гнятлівая паўза цягнулася вечнасць. «Сядай! – не запрасіў, загадаў. – Зося, прынясі нам чаго-небудзь». Гэта ўжо да жонкі. Увайшла Зося Міхайлаўна. З добрай, нейкай светлай усмешкай і вясёлымі іскрынкамі ў вачах. Гэта ўжо я пазней зразумеў: вясёлыя іскрынкі з'яўляліся, калі гаспадар бываў не ў гуморы, і гаспадыня такім чынам маральна падтрымлівала нас: зараз адыдзе, супакоіцца.

Мы прагаварылі некалькі гадзін. Дакладней, гаварыў Уладзімір Андрэевіч, я больш слухаў. Гэта была не лекцыя, якія я старанна канспектаваў у інстытуце, не грунтоўная, а нярэдка і з'едліва-іранічная крытыка, што гучала на нашых літаратурных «серадах» у рэдакцыі «Зары». Гэта было слова Настаўніка.

## Уладзімір КАЛЕСНІК

Не хутка я павёз у выдавецтва новы рукапіс. Але не ўпэўнены, ці з'явіўся б ён без той сустрэчы, калі ў маёй душы зноў разгарнуліся крылы...

Людзі староннія называлі Уладзіміра Калесніка нашым літаратурным бацькам. Калегі-літаратары з іншых абласцей дый са сталіцы па-добраму нам зайздросцілі – дарадца, абаронца. І тыя і гэтыя мелі рацыю. Але для мяне асабіста галоўным было іншае: не толькі ў час літаратурных сустрэч, а і на рыбалцы, у грыбах, за шчырай сяброўскай бяседай – заўсёды ў душы жыло адчуванне неардынарнасці, велічы гэтага чалавека. Адна яго прысутнасць не дазваляла расслабіцца, трымала ў напружанні мозг. Станавілася сорамна, калі які гаварун пачынаў несці банальшчыну. Нехта з нас тут жа імкнуўся перахапіць ініцыятыву, бо, толькі зірнуўшы на «дзеда», разумеў: насоўваюцца хмары. Не, нічым, ніколі ён не падкрэсліваў сваёй вышэйшасці, сваёй значнасці, хаця ніколі, нікому не даваў сябе прынізіць. Самаўпэўненасць – рыса, характэрная людзям пераважна недалёкім. Таленавіты чалавек заўсёды ў сумненнях, з іх нямымі сведкамі – бяссоннымі начамі-роздумамі. Хацелася хоць крыху наблізіцца, узняцца да яго духоўнага і інтэлектуальнага ўзроўню. Нешта падобнае, напэўна, адчувае альпініст ля падножжа гары, чыю заснежаную вяршыню хаваюць аблокі.

*Што чакае за крутой гарой –*
*Выявіцца толькі на вяршыні...*

Гэта радкі Ніны Мацяш. Яе творчасцю і няпростым жыццёвым лёсам сапраўды па-бацькоўску апекаваўся Уладзімір Андрэевіч. Ля падножжа ягонага жыццёвага шляху цёк Нёман, шумелі векавыя Налібокі. Сын селяніна-адыходніка, плытагона, знанага і паважанага па ўсіх прынёманскіх вёсках. Імя бацькі, як пароль, неаднойчы выручала сына-партызана ў нялёгкія хвіліны. Услых, на людзях, Уладзімір Андрэевіч рэдка згадваў партызанскія гады, хіба нейкія вясёлыя, гумарыстычныя сітуацыі: маладосць і на вайне маладосць. Але часам, дзе-небудзь каля цяпельца, у кампаніі блізкіх людзей боль па незваротных стратах, якія ён хаваў глыбока ў сэрцы, прарываўся вонкі. Гаварыў ён тады нейкім нязвыкла ціхім, грудным голасам. Вочы ўзіраліся міма нас, у аднаму яму бачную далячынь, дзе на блакадным снезе сцякалі крывёю ягоныя сябры, гэткія ж маладыя і адчайныя, як ён сам, хлопцы, гарэлі партызанскія вёскі. Гэта была не тая партызанская вайна, пра якую даводзілася чытаць. Можа, таму так доўга не расказваў пра яе Калеснік-пісьменнік, хаця мару аб партызанскіх мемуарах выношваў шмат гадоў.

Калі можаш не пісаць... Такой патрэбы ў працы, штодзённай, штохвіліннай, такой самаахвярнасці мне не даводзілася бачыць ні ў кога. Дома, за пісьмовым сталом, у вагоне цягніка, у гасцініцы... Архівы Берасця, Гародні, Вільні, Менска... Сустрэчы з людзьмі, перапіска... Кнігі, часопісы, газеты – на беларускай, рускай, польскай мовах... І зноў пісьмовы стол, спісаныя дробным почыркам старонкі, у якіх разабрацца магла хіба што толькі Зося Міхайлаўна.

Не ведаю, як у іншых рэгіёнах, на Берасцейшчыне творы Уладзіміра Калесніка знікалі з кнігарняў у першыя ж тыдні пасля выхаду. Таму што пісаў ён не толькі гісторыю літаратуры, але і гісторыю краю, пісаў цікава, захапляльна, з любоўю.

«Я прыйшоў да літаратуры Заходняй Беларусі ў 40-я гады, калі ў нашым літаратуразнаўстве, як вядома, моднымі, папулярнымі былі сацыялагізатарскія, спрошчаныя ацэнкі, погляды на літаратуру, літаратурны працэс, – гаварыў У. Калеснік у інтэрв'ю абласному тэлебачанню з нагоды свайго 60-годдзя. – І на гэтым фоне літаратура Заходняй Беларусі выдавалася мне з'явішчам вельмі цэльным, ідэйна насычаным, змястоўным. Пазней, вывучаючы яе з'явы, заканамернасці, працэсы, я пераканаўся, што літаратура гэтая была натуральным, шчырым, глыбока чалавечным адбіткам нацыянальна-вызваленчага руху, таго стану грамадства, калі народ імкнецца заявіць пра сябе, пра сваё гістарычнае быццё, пра сваю прысутнасць у свеце. І робіць гэта справамі сваіх герояў і вуснамі гераічных паэтаў».

У тым жа інтэрв'ю Уладзімір Андрэевіч расказаў аб працы над кнігай, ідэя і назва якой увасобілі асноўны накірунак яго творчасці, сэнс ягонага жыцця: пошук арыенціраў на гістарычных шляхах народа, тварэнне ўласнай нацыянальна-вызваленчай легенды. Пазней са старонак кнігі паўсталі Гусоўскі і Скарына, Купала і казачнік Рэдкі – постаці, у якіх сканцэнтраваны не толькі талент нацыі, але і спрадвечнае імкненне беларусаў «Людзьмі звацца».

І ўсё ж творчасць Уладзіміра Калесніка, як і беларуская літаратура ўвогуле, сёння па-сапраўднаму не запатрабаваны і не ацэнены беларусамі. Народ глухі да роднага слова, бо і самога народа не стала. Народа, якога б лучыла агульнанацыянальная, агульнадзяржаўная ідэя. Некалькі стагоддзяў размывання нацыянальнай свядомасці крэсавай ды імперскай палітыкай далі свой чорны плён: людзі забыліся, хто яны. А бяспамяцтва да таго ж і агрэсіўнае. Учытайцеся ў газетныя артыкулы, дзе пад выглядам абароны правоў чалавека і змагання за наш дабрабыт зняважаюцца наша гісторыя, мова, культура – колькі ў іх непрыхаванай злосці! Ад бездапаможнасці яна, ад няправеднасці, ад жадання паставіць на галаву спрадвечныя ісціны.

Як балюча ўспрымаў усё гэта Уладзімір Андрэевіч тады, калі магутны бульдозер партапарату па жывому здзіраў нацыянальныя адметнасці, заганяючы рэспубліку ў пракрустава ложа «савецкага народа», і цяпер, калі кволыя парасткі нацыянальнай свядомасці зноў утоптваюцца ў бруд кіраўніком дзяржавы.

«На якой мове размаўляе кароль, на такой гаворыць і шляхта», – адказаў Уладзімір Калеснік на рытарычнае пытанне партыйнага боса ў час сустрэчы членаў ЦК КПБ з творчай інтэлігенцыяй рэспублікі. Сённяшні кароль размаўляе на трасянцы, узвёўшы яе ў ранг нейкай неабеларускай мовы, створанай народам за гады пабудовы «светлай будучыні». І абяцае разабрацца з нацыяналістамі, якія адкрываюць беларускія школы, пішуць праўдзівую беларускую гісторыю і вераць, што жывуць у незалежнай дзяржаве.

Голы народ, голы кароль... Па нітачцы, па каліўцу распранаілі нашы душы. Мы не паспелі гэтага ні заўважыць, ні ўсвядоміць і паранейшаму няўпэўнена топчамся ла падножжа той вяршыні, на якой засталіся Багдановіч, Купала, Караткевіч... На якую светла ўзнялася душа Уладзіміра Калесніка, аглядаючы неабсяжныя прасторы нашай магчымай будучыні.

*Яны пазначылі нам шлях.*
*Хадзема, сябры...*

**Мікола ПРАКАПОВІЧ**



# Валянціна АКСАК | У НАС



*Між сценаў каляровых*
*дойга будзе плыць*
*аловак паламаны.*

## ПОЛАЦКІЯ ГАЛЕРЭІ

**Патрапіла ў стыхію драпінаў,**
**якія крэсліць спрэс нервова**
**адзін знаёмы мой**
**Валодзя-графік.**

**А ў паралельнай галерэі**
**аксамітычнасцю пастэлі**
**цячэ вясёлка па панелі.**

**На гойстрых промнях рысак**
**я прышчаплю краплістыя пупышкі**
**ад флянсаў размаітых дрэвастодаў**

Ён святлаісны. Раптам:
Крыніцы паадмыкаліся
Дзверы пазамыкаліся

Узляцелі
Тады салаўі з душы
І пазнікалі за сценамі

Вось і ўвайшоў я
У Ерусалім?

Не, не ўвайшоў я –
З Ерусаліма
Цела маё выносяць

## Птушка –
## а можа зярнятка

Вялікаднем з сонца
Скропіцца на зямлю
Зярнятка

Зярнятка –
А можа кропля
Кропля –
А можа зярнятка?

Без роспытаў пахавае
За пазухаю схавае
Зямля падарунак:

сам вершапіс Міхаіла Рэнджава даволі «фрэскавы»: адначасова ашчадны і шчодры, аскетычны і маляўнічы, канкрэтны – але ўспоены універсальнай семантыкай, сітуацыйны – але падсветлены нябёсамі сноў.

–...Што, Міха, госця маеш? – пытаецца ў Міхаіла Рэнджава сусед, гонячы па горных сцяжынах невялічкую чараду невялічкіх, па маіх уяўленнях, кароў.

–Але, госця, – адказвае Міхаіл.

–Цікава, адкуль?

–З Беларусі.

–А, з Беларусі...

–А ці ведаеце вы, дзе Беларусь? – умешваюся я ў размову.

–Ведаю, бліжэй да Балтыйскага мора, чым да Урала, – упэўнена адказвае Міхаілаў сусед.

Я не стаў тады ўдакладняць месцазнаходжання Беларусі, тым больш не стаў бы цяпер, бо і самім нам няпроста адказаць, дзе цяпер Беларусь: бліжэй да Балтыйскага мора ці да Урала... Беларусь дрэйфуе. Але, мабыць, самы яе першы, гістарычна засведчаны, дрэйф быў якраз у бок Македоніі. І здзейсніўся ён, прынамсі (кажу, спасылаючыся на «Гісторыю македонскага народа», Скоп`е, 1972); плямёнамі «драгавітаў», «смалянітаў», «сагудатаў» (ці не затранскрыбаваных крывічоў, якія, паводле жамойцкай традыцыі, транскрыбаваліся як гуды?)

Над Скоп'ем імкліва згушчаліся ліловыя прыцемкі. Мне трэба збірацца ў дарогу. Я ад'язджаю, везучы з сабой македонскую Біблію, дзве анталогіі македонскай паэзіі і некалькі зборнікаў Міхаіла Рэнджава.

Яму слова.

Алесь РАЗАНАЎ





Зярнятка –
А можа кроплю
Кроплю –
А можа зярнятка

Іванавым днём
З зямлі
Да сонца ўзаўецца
Шчаслівая птушка

Птушка –
А можа зярнятка
Зярнятка –
А можа птушка

## Карціна ў небе
*(Споведзь)*

Пазіраеш і не пазнаеш
Я цень твайго ценю
Я азярына тваёй вады
Страла тваёй спеўнай здабычы

Калі ты маўчыш –
Здаецца
Становішся на калені
Калі спяваеш –
Здаецца
Узносішся ўгору

Я на галеры цябе
Даганяю
А параўняцца з табой
Не здольны

Ты згаснуў мне кажуць
Са словам ссохлага майго
Паднябення
З колерам світкі маёй
Сшарэлай

А я ўсё адно на сваёй галеры
Кірýюся за табою
Па небе нямым
Бясконцым

## Мармур
*(Слуп)*

**Хто спіць у табе?**
**Хто блукае ў табе?**
**Які Вавілон, Візантыя якая?**
**Які архангел, які сатана?**
**Які госпад?**

**Да цела твайго галаву прыкладу –**
**Пачую: ўсярэдзіне салавей**

**Шчабеча**

## Ліхтар

**Нашто палымнееш**
**Калі ніхто**
**У цемры цябе не бачыць?**

**Спавіты ў сваё маўчанне**
**Клічаш нячысцікаў і скарпіёнаў**
**Гадаў марскіх і рыбін**
**Каб цела тваё**
**У цябе забралі**

**Ніхто не прыходзіць**
**Адно толькі вецер гуляе**
**З анёламі зіхатлівых**
**Тваіх вачэй**

**Захоплены ў пастку**
**Нібы неаперaны голуб**
**Не верыш у смерць**

**І шкарлу́піны**
**Што твой цень**
**Ператварае ў перлы**
**Не заўважаеш**





## Аблокі

**Гэта нямыя чаўны**
**Што носяць мой боль**
**І мяне суцяшаюць**

**Белыя дзікія ружы**
**У галавах у паэта**

**Куды плывяце даплывіце**
**Мае чаўны!**
**Ачуньвае маё сэрца**
**Ад перуновага ўдару**

## Напісаў: Кветкі

**Напісаў: Кветкі**
**Рассыпаліся і сталі**
**Акрасай сэрца**

**Напісаў: Сэрца**
**Рассыпалася і стала**
**Каменем –**
**Пасткай для чоўнаў**

**Намерыўся напісаць**
**Тады: Вечнасць**
**Але спалохаўся**
**Але спалохаўся**
**Каб не знікнуць**

## Госць

**Прыходзіць і зноў адыходзіць**
**Госць:**
**Здань ці сутонне**

**Пытаўся ў яго:**
**Які вецер цябе прыносіць**
**Якая непагадзь прадвяшчае**
**З якога неба спускаешся**

З якога волава выплаўляешся
З якой цемрадзі
З якой злосці?

Застагнаў, нешта вымавіў
І ўва мне
паволі схаваўся: Госць –
Здань ці сутонне

## Імгненне

Гляджу і не думаю:
Гэта я
Усё мне ўва мне
Усё мне ўва мне чужое

Адно кругі пад вачамі
Ды перліна зерня ў грудзях
Мяне пераконваюць

У адваротным

## Вялікае паляванне

*(Паэт)*

Рог загарніў. Енчыць гара
Пачалося Вялікае паляванне

З-за сонца Ваўкі
З-па-над воблака Сакалы
З туману Харты
З-пад зямлі Лаўцы

У страх
У гушчар схаваўся

Алень

Гыркаюць-выюць Ваўкі
Крычаць-верашчаць Сакалы





Яхкаюць-брэшуць Харты

А Алень?

На небе

## Знямела маўчанне

Знямела маўчанне
Якое чуў
Рассыпаўся водгук
Якому быў паслухмяны

Згубіла
Неба гаючую моц
Зоркі не ацаляюць
Зёлкі не лечаць

Замнога я гаварыў
Пра страх і пакуту
Тужыў задужа

Цяпер
Гукаю свой водгук
Цяпер
Шукаю сваё маўчанне

## Людзі

Аднекуль прыходзяць –
Не магу распазнаць
Адкуль

Іх асвятляе
Цьмянае сонца жыцця
(Не магу распазнаць – якога)
Іх ахінаюць
Пыльныя шаты дарогі
(Не магу распазнаць – якой)
Сочыць за імі
Пільнае вока смерці

(Не магу распазнаць — чыёй)

Аднекуль прыходзяць
І некуды адыходзяць

Не магу распазнаць
Хто я сам

## Куфэрак

Намерыўся я апець
Хатнія з'явы
Сказаў на парог: Дарога
На дзверы сказаў: Анёл
Сказаў на люстэрка: Свечка
На лаву: Госць

А на гарышчы куфэрак
Стаяў і я доўга думаў
Як мне яго апець

Але здагадаўся і ўрэшце
Сказаў: Апратка

Потым павеяў вецер
І голас матчын пачуўся:
«Сынку
У смутку няма канца
Няма ў тугі краю
І ў скрусе дна
Беспрытульны мой сынку»

## Змаганне

*(Песні)*

Цэляцца моўчкі ў мяне
Цэлюся моўчкі ў іх
І што было мёртвае —
Ажывае





А што ажыло —
Ляціць:

Праз горы і моры
Праз хмары й пажары
Праз час і над часам

Я мёртвы ў акопе змроку
Яны са шчытамі святла
Жывыя

## Здрада

Гэтае слова нібы арол
Ляціць і мне пагражае

Пушчу ягня да яго
Як загамоняць божыя сурмы
І буду яго цікаваць у засадзе

Гэтае слова нібы засада
Цікуе і мне пагражае

Пушчу птушаня да яго
Як закалышуцца хвалямі травы
І буду яго пільнаваць ля цэлі

Гэтае слова нібыта цэль
Цэліць і мне пагражае

Ягня прывяду назад
Вярну птушаня-ненажэру
А сам упаду на дол
Не зернем
Але —

Ад здрады

*Пераклаў з македонскай*
*Алесь РАЗАНАЎ.*

# НАША Зора КІПЕЛЬ



*Сваім другім домам Зора КІПЕЛЬ лічыць Нью-Ёркскую публічную бібліятэку.*

## *Пра Зору КІПЕЛЬ*

**Спадарыня Зора нарадзілася ў сям'і менскіх інтэлігентаў у гады першай беларусізацыі. Яе маці Апалонія працавала настаўніцай і была блізка знаёмая з Уладзіславай Луцэвіч. Бацька, Лявон Савёнак, меў вядомасць як здольны журналіст і ў 1933-м атрымаў ад савецкай улады ў якасці ганарару пяць гадоў Сібіры.**

**Сярэднюю асвету Зора здабыла ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, а вышэйшую – на хімічным факультэце Лювэнскага універсітэта ў Бельгіі. Гады студэнцтва засталіся ў памяці яшчэ і падарожжамі па Эўропе разам са студэнцкім хорам Міколы Равенскага.**

**Ужо сорак гадоў яна жыве ў ЗША, дзе выйшла замуж за школьнага сябра Вітаўта Кіпеля, нарадзіла і выхавала дачку Алесю і сына Юрку, а таксама атрымала яшчэ два універсітэцкія дыпломы, закончыўшы ў Ратгэрскай alma mater (штат Нью-Джэрсі) спачатку бібліятэчны, а потым факультэт параўнаўчай літаратуры.**

**Сваім другім домам Зора Кіпель лічыць Нью-Ёркскую публічную бібліятэку, парог якой у якасці супрацоўніцы яна пераступіла ў 1966 годзе. Ад таго часу, дзякуючы намаганням спадарыні Зоры, значна пашырылася беларуская калекцыя бібліятэкі, былі наладжаныя дзесяткі тэматычна звязаных з Беларуссю выставаў. У сферы яе навуковых зацікаўленняў – рукапісная беларуская кніга XVI стагоддзя, кнігадрукі стараверaў, перакладная літаратура беларускага сярэднявечча. Зоры Кіпель належыць ангельскі пераклад беларускае версіі знакамітай рыцарскай «Аповесці пра Трышчана», надрукаваны ў 1988 годзе ў Нью-Ёрку. Неаспрэчныя заслугі як рэдактар і бібліёграф яна мае ў падрыхтоўцы серыі кніг беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў, якую выдае «Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва»...**

**Жанчыны з роду Савёнкаў любяць пажыць на гэтым свеце. У апошні па часе прыезд у Беларусь, звязаны з удзелам у міжнародным кангрэсе ПЭН-клуба ў абарону дэмакратыі і культуры, спадарыня Зора віншавала са стагоддзем сваю цётку Ганну. Чуючы, як гаспадыня абмяркоўвае з заакіянскай пляменніцай апошнія падзеі ў беларускім парламенце, я думаў, што Бацькаўшчына яшчэ не раз сустрэнецца з Зорай Кіпель і ў наступным стагоддзі.**

**Уладзімір АРЛОЎ**



# КАПІТАН ДЖОН СМІТ НА БЕЛАРУСІ

Асоба капітана Джона Сміта (1580–1631), выдатнага піянера каляніізацыі Паўночнае Амэрыкі, шматбакова й грунтоўна дасьледваная ў англамоўнай літаратуры. Ад часу, калі Сміт у 1608 годзе надрукаваў першую кнігу пра Вірджынскую Калёнію[1], да сярэдзіны гэтага стагодзьдзя апублікавана тысячы артыкулаў, дасьледваньняў ды кніжак пра гэтага выдатнага ваяку, падарожніка, дзеяча. Навейшая большая праца пра капітана Сміта, гэта кніга 1964 году амэрыканскага гісторыка й пісьменьніка Філіпа Барбура.[2] Працы Барбура згадваюцца ў гэтым артыкуле галоўна дзеля таго, што якраз у іх знаходзім матар'ял, які мае дачыненьне да Беларусі, хоць і зь некаторымі памылкамі й недакладнасьцямі, на якія тут будзе зьвернутая ўвага.

Ні асоба Джона Сміта, ні ягоная дзейнасьць дагэтуль блізу не згадвалася ў беларускіх публікацыях.[3] Тымчасам колькі эпізодаў у Смітавым жыцьці заслугоўваюць на тое, каб іх дасьледваць ды задакумэнтаваць і ў беларускім друку, паколькі яны даюць паказаньні на першыя сувязі Беларусі з Паўночнай Амэрыкай

Капітан Сміт быў адным з заснавальнікаў у 1607 годзе, а пасьля губэрнатарам **першай сталай ангельскай калёніі** ў Паўночнай Амэрыцы, у Джэмстаўне, каля Ўільямсбургу, у штаце Вірджынія. Неабходна тут падкрэсліць – **першай сталай ангельскай** калёніі, бо, як ведама, ужо й перад 1607 годам былі спробы каляніізаваць Паўночную Амэрыку, аднак ангельская калёнія ў Роанок, штату Паўночная Караліна, праіснавала толькі два гады, ад 1585 да 1587 году, і загінула бяз сьледу Яна гэтак і завецца ў літаратуры – «Згубленая Калёнія» Яшчэ старэйшая калёнія ў Флярыдзе, у Сэйнт Аўгустыне, заснаваная ў 1565 годзе, была, як ведама, гішпанская.

Дык вось у 1607 годзе капітан Джон Сміт «адкрыў Амэрыку», а толькі чатыры гады перад гэтым, у 1603 годзе, ён быў на Беларусі, а менавіта ў Рэчыцы.

Перад тым, як разгледзіць абставіны, якія прывялі капітана Сміта ў Рэчыцу, трэба сказаць коратка пра яго самога. Джон Сміт нарадзіўся ў невялічкім гарадку Вілаўбі, недалёка Лівэрпулю ў Ангельшчыне. Ягоныя бацькі мелі гаспадарку, былі даволі заможныя, але не шляхоцкага роду. Асьвету Джон атрымаў толькі пачатковую. У 15 гадоў пакінуў школу й пайшоў да багатага купца ў падмайстры. Хутка пасьля 1596 году памёр ягоны бацька й малады Джон, які ніколі ня быў задаволены купецкім заняткам, у пошуках прыгодаў падаўся ў Галяндыю, дзе ў той час пачалася вайна зь Гішпаніяй – Галяндзкая вайна за незалежнасьць.

Калі Сміту было 20 гадоў, ён вярнуўся ў Ангельшчыну, каб апанаваць майстэрства

вайсковай язды. Але тут яму не сядзелася, цягнула туды, дзе адбываліся падзеі, дзе ішлі войны. Пра турэцкія напады на Вугоршчыну ён ужо чуў раней і карцела яму ўзяць удзел у вайне супроць туркаў. І вось улетку 1601 году, пасьля блуканьняў па ўсёй Эўропе, жаўнер-прыгоднік Джон Сміт нарэшце дабраўся ў вугорскае войска ды быў у баёх з туркамі. Хутка ён выслужыўся (між іншага там упяршыню прыстасаваў сыстэму сыгналізацыі) і атрымаў рангу капітана.

Адважны капітан Сміт шмат дзе харобра змагаўся, але ў ваднэй зь бітваў у Трансыльваніі – карпатская частка цяперашняе Румыніі – пры пераходзе Карпатаў быў паважна ранены ды трапіў да туркаў у палон. Малады, здаровы арганізм перамог аднак – Джон Сміт ад ранаў аправіўся і, калі ўжо быў дастаткова дужы, з канвоем іншых палонных яго пагналі ў стары гандлёвы гарадок на Дунаі Аксыопаліс, што знаходзіцца каля 160 км. на ўсход ад Бухарэсту, амаль на мяжы цяперашняй Румыніі й Баўгарыі.

Там на рынку яго купіў нейкі Башаў Богал для падарунку сваёй нарэчанай, якая жыла ў Канстантынопалі, куды Сміта й паслалі. Адбывалася ўсё гэта недзе ўзімку й раньняй вясной 1603 году Джон Сміт вельмі скупы на даты ў сваіх успамінах. Тут дарэчы будзе зазначыць, што ўсе факты ягоных падарожжаў узятыя з успамінаў самаго Сміта, так званых True Travels – «Праўдзівыя падарожжы», – якія ён напісаў і апублікаваў толькі пад канец свайго жыцьця, у 1630 годзе ў Лёндане.[4]

Нарэчаная Башаў Богала, Чарыца Трабізанда, спаткала Джона Сміта вельмі прыязна. Сміт быў малады, прыгожы, стройны, добра выхаваны. Паміж імі завязаліся інтымныя дачыненьні, што выклікала незадаваленьне Чарыцынай маці. Баючыся гневу маці, Чарыца пастанавіла паслаць Сміта на нейкі час да свайго брата, які меў далёка ў стэпах свой «тымар».

Турэцкая Атаманская Імпэрыя ў той час дасягнула свае найбольшае велічы й сілы, ейныя ўладаньні раськінуліся ад Адрыятыку аж да Каспійскага мора. Каб заахвоціць да калянізацыі дзікіх далёкіх мясцовасьцяў, турэцкі Паша даваў сваім выслужаным ваякам надзелы зямлі й кіраўніцтва тымарамі, вайсковымі ўмацаваньнямі, дзе яны былі поўнымі ўладарамі, маленькімі царкамі. Вось у вадзін з такіх тымараў на другім далёкім беразе Чорнага мора й трапіў Сміт.

Сваё падарожжа па Чорным моры, праз Керчанскую пратоку ў Азоўскае мора ды далей на Дон, Джон Сміт дакладна й маляўніча апісвае ў сваіх успамінах. У часе падарожжа зь ім абыходзіліся даволі добра, быў ён хутчэй гасьцём, як нявольнікам, таму меў магчымасьць назіраць, што рабілася вакол яго. А назіральнікам ён быў дасканальным, пра што сьветчаць карты Вірджыніі, якія ён пазьней маляваў: выкананыя яны з такой дакладнасьцяй, што й сучасныя картографы іх падзіўляюць. І памяць Сміт меў асаблівую. Аднак, калі ход пра запамінаньне ды перадачу на пісьме татарскіх ды, асабліва славянскіх назоваў, з гэтым, як будзем бачыць, справа была горшая.

Па шасьцёх-сямёх днёх падарожжа па Доне яны выладаваліся з чаўноў, і пасьля яшчэ двухдзённай дарогі апынуліся нарэшце ў «Налбрыц, у правінцыі Тартарыі», дзе жыў Чарыцын брат Тымор Баша. Сміт дакладна апісвае гэты, ня зусім ясна азначаны, Налбрыц: «...вялікі каменны палац са шматлікімі вакол яго дварамі, абведзены моцнай каменнай сьцяной, там знаходзілася іхная зброя. .»

У Налбрыце, не зважаючы на суправаджальны ліст, Сміта вельмі няпрыязна спаткаў Чарыцын брат. Яго цалкам агалілі, далі балахон з грубой воўны, пояс з сырой скуры, на шыю павесілі ярмо і ён стаўся ізноў «нявольнікам зь нявольнікаў»

Але Сміт быў не з такіх, каб доўга цярпець няволю. Аднаго дня пад канец лета, пры малацьбе пшаніцы, Тымор Баша прычапіўся нешта да Сміта ды пачаў яго біць. Гэта была кропля, што перапоўніла чашу цярпеньня. Сміт схапіў цэп ды зьбіў свайго крыўдзіцеля да сьмерці, забраў ягоную вопратку, каня, узяў на дарогу пшаніцы і кінуўся наўцёкі ў стэп, куды яго вочы й конь павялі.

Два ці тры дні блукаў ён гэтак па Дзікім Полі, а яно тады было запраўды дзікае – ні сялібы, ні гораду, і толькі татары ды казакі адважваліся там праяжджаць. Але капітан Сміт быў добрым навігатарам, знаў, што знаходзіцца недзе далёка на ўсходзе, і каб вярнуцца на волю, да сваіх, кіраваўся на захад, аж пакуль не натрапіў на «вялікую дарогу Кастраган». Гэтая дарога была нічога іншага, як шлях, па якім ішлі караваны ў Астрахань, гэтак званы Чорны Шлях. На скрыжаваньнях гэтай дарогі ён заўважыў дарожныя знакі: паўмесяц, як прыпушчаў Сміт, – паказваў дарогу на Крым, сонца – на Кітай, а крыж – бязумоўна, кірунак, дзе былі хрысьціянскія краіны. Вось на знак крыжа й пайшоў Сміт праз стэп ды трымаўся таго кірунку 16 дзён. Стомлены, сасмаглы й галодны, і ўвесь час у страху, што яго ізноў зловяць у палон, Сміт ужо зусім згубіў надзею выйсьці жывым з гэтай прыгоды, як неспадзеўкі натрапіў, як ён кажа, на гарнізон «Маскавітаў» у «Аэкопаліс, на рацэ Дон». Але ніякага Аэкопалісу з гарнізонам «маскавітаў» у тэй мясцовасьці гісторыя ня знае.





Як вышэй ужо казалася, пісаў свае ўспаміны Сміт больш за 20 гадоў пасьля сваіх эўрапейскіх і амэрыканскіх прыгодаў. Чаго добра не памятаў, стараўся ўстанавіць паводля картаў, найчасьцей вельмі недакладных, ды па тагачасных скупых геаграфічных вопісах, дзеля гэтага ня дзіва, што Смітава эпапэя на першы пагляд здаецца ня зусім праўдзівай. Гэтак, яшчэ да нядаўняга часу ягоны турэцкі палон, уцёкі з палону ды далейшае падарожжа ня прыймалася паважна, уважалася за фантазію. Экзатычныя, незразумелыя назовы, якіх так шмат у Смітавых успамінах, бязумоўна, не дапамагалі даваць яму веры. Толькі ў сярэдзіне гэтага стагодзьдзя пачалі паважна вывучаць гэтую частку Смітавага падарожжа. Зьявіліся артыкулы вугорскіх аўтараў, у якіх дакладна быў прасочаны шлях ягонае вугорскае прыгоды. Іншыя аўтары зацікавіліся ягонымі турэцкімі й данецкімі шляхамі. Аднак ніхто так грунтоўна не разгледзеў гэтую заблытаную справу, як згаданы ўжо Філіп Барбур у сваім артыкуле «Падарожжа Капітана Сміта праз Турэччыну й Расею». Аднак і ён шмат чаго не дагледзіў ды не дагаварыў»[5]

Што-ж гэта быў за гарадок, у якім у 1603 годзе стаяў гарнізон «маскавітаў», калі туды трапіў Джон Сміт? На мой пагляд, гэта быў Царэў Барысаў, нядаўна перад гэтым, у 1599 годзе, збудаваны стэпавы горад з мэтай абароны ад татарскіх нападаў. Горад быў пабудаваны на загад цара Барыса Гадунова –адсюль і назоў Царэў Барысаў Гэта быў самы паўдзённы маскоўскі ўмацаваны гарадок на Данцы (а не на Доне). Паўстаў ён даволі нерацыянальна й ня доўга праіснаваў. На пазьнейшых расейскіх картах яго й ня знойдзеш. Але ў 1603 годзе ён быў у самым росквіце.

Сміта прывялі да «губэрнатара», які пасьля даўгіх выпытаў пераканаўся, што Сміт ня нейкі злачынец, а запраўды уцякач з турэцкага палону. Ён загадаў зьняць зь яго ярмо, а «лэдзі Каламіта задавольніла ўсе ягоныя патрэбы». Дык жанчына зноў прыйшла яму на дапамогу Такіх жанчын у Смітавым жыцьці было шмат, самая славутая зь іх–амэрыканская індыйка Покагонтас, раман зь якой найбольш апісаны ў амэрыканскай літаратуры. Але капітан Сміт чамусьці ніколі не жаніўся.

Калі Сміт ачуняў ад свае цяжкое прыгоды ды крыху адпачыў, яго накіравалі з караванам далей углыб краіны – як ён пісаў, «па Зумаласке на Карагнаў». Тры галоўныя татарскія шляхі, Мураўскі, Ізюмскі і Калміўскі, праходзілі з Крыму па Дзікім Полі –шляхі, якімі крымскія татары нападалі на Маскву Царэў Барысаў і гарады-крэпасьці, як Валуйкі, Аскол ды іншыя, і былі пабудаваныя з мэтай адбіваць такія напады.[6] Адным з гэтых шляхоў, самым усходнім, Калміўскім, або інакш Сакма Калміўскім – Смітава «Зумалацке» – і пайшоў караван на Чарнаўск – Смітаў «Карагнаў».

Караван, зусім натуральна, кіраваўся на поўнач, пад Маскву Сміт, пэўна-ж, быў не ў стане вымагаць ці раіць, куды ехаць, ён цалкам залежаў ад сваіх праваднікоў, якія й павялі яго праз Чарнаўск, Елец («Летч», паводля Сміта) і, нарэшце, у Данкоў. Тут ужо Сміт, відавочна, ня вытрываў і пайшоў сваёй дарогай, бо ад Данкова ягоны шлях рэзка павярнуў на захад да Бранску – «Бэрніскэ», далей на поўдзень на Ноўгарад Северскі («Неўгрод ін Сэбырыя», як Сміт яго перахрысьціў). Тут перайшоў маскоўска-літоўскую мяжу.

Войнаў Вялікае Княства Літоўскае ў той час з Маскоўшчынай ня мела,і перайсьці мяжу ня было справай складанай. Так ён апыніўся на тэрыторыі Беларусі, як Сміт піша «Літуаніі, у **Рэчыцы на рацэ Ніпэр»**. Праўда на беларускай тэрыторыі быў ён ужо і ў Бранску ды ў Ноўгарадзе Северскім, аднак у тую пару гэтыя землі ўжо не належылі да Вялікага Княства Літоўскага. Рэчыца была першым горадам Вялікага Княства Літоўскага, які Сміт успамінае, хоць прайсьці ён мусіў і праз Гомель, бо дарога з Ноўгараду Северскага вяла праз Гомель.[7] Перабраўся Сміт праз Дняпро паромам, праўдападобна недзе вышэй Рэчыцы, ды правым берагам кіраваўся да Рэчыцы (дарогі пераважна ішлі правым берагам, бо левы, нізкі бераг Дняпра быў балоцісты й часта заліваўся паводкамі). Да Рэчыцы капітан Сміт прышоў недзе ўвосень 1603 году.

Сустрэлі Сміта ў Рэчыцы гасьцінна. Затрымаўся ён хіба ў замку, бо быў гасьцём нейкай афіцыйнай асобы, як гэта выглядае зь ягоных словаў· «Адкуль яго з такой-жа ўвагай, у падобны спосаб праводзілі ў «Короскі» – Карасьцень, – значыцца меў, як і раней, афіцыйных праваднікоў. Не ўспамінае Сміт, аднак ані Лоева, ані Брагіна, праз якія ён мусіў праходзіць, каб трапіць у свой наступны пункт Карасьцень, які ўжо на Украіне. У Брагіне ў той час быў князь Адам Вішнявецкі, малады гуляка – любіў баляваць, прыймаў гасьцей. На ягоным двары заўсёды было шмат людзей з розных краінаў. На дзіва Сміт ні словам не згадаў пра Брагін.[8]

Вось гэтак Джон Сміт пакінуў краіну, у якой, як ён піша, прыймалі яго так, што «ніколі ў сваім жыцьці, ні раней, ні пазьней, ён не спатыкаўся з большай пашанай, увагай і гасьціннасьцяй Ніводзен «губэрнатар», дзе ён праходзіў, у дадатак да звычайнага штодзённага пажытку й адзеньня, не прамінуў абдараваць яго...» Наш край пакінуў на ім уражаньне,

як краіна, дзе «людзі цывілізаваныя, добра адзетыя, дамы іхныя маюць цікавую мэблю... Хаты збудаваныя зь бярвеньняў, паложаных адзін на адзін, ды злучаных зарубамі па рагох...» – тут ён дае дакладнае апісаньне беларускіх вясковых хатаў. Не забыўся Сміт згадаць і пра нашыя дарогі праз балоты, вымашчаныя круглякамі, якія часам цягнуліся праз два-тры дні падарожжа.

Далей ішоў Сміт праз Украіну, Польшчу, Вугоршчыну, і, нарэшце, вярнуўся ў сваю Ангельшчыну. Там якраз рыхтавалася тады экспедыцыя ў Амэрыку, Сміт скарыстаў з нагоды і ў 1607 годзе ён ужо быў у Вірджыніі.

Вернемся цяпер да Рэчыцы ды на аснове захаваных гістарычных матар'ялаў спрабуйма ўстанавіць, якою яна была ды як выглядала, калі ў сваіх мурох гасьціла будучага выдатнага піянера калянізацыі Паўночнае Амэрыкі. Адна з занядбаных галінаў гісторыі Беларусі, гэта вывучэньне мінулага гарадоў Старавечнасьць нашых гарадоў, ды іхнае значаньне, як гаспадарстваваe, так і вайсковае, мала адзначаецца, і яшчэ менш удакумантоўваецца. Рэчыца не выключэньне. Весткі пра Рэчыцу вельмі скупыя, раськіданыя, выпадковыя. Дасьледваючы падарожжа капітана Сміта, давялося пераглянуць гістарычна-бібліяграфічныя матар'ялы пра Рэчыцу, даступныя ў амэрыканскіх бібліятэках, на падставе якіх і паўстаў гэты нарыс.

Рэчыца разьмясьцілася на правым, стромым беразе Дняпра. Здаўна яна была горадам важным, ляжала на гандлёвым шляху з Варагаў у Грэкі. Дзеля свайго стратэгічнага палажэньня часта перажывала ваенныя падзеі. Перш нападалі на яе чарнігаўскія князі, пазьней у 1214 годзе (першая летапісная згадка пра Рэчыцу) князь Мсьціслаў Ноўгарадзкі цалкам зьнішчыў горад і часова прылучыў яго да свайго княства. У 14-м стагодзьдзі, пры Гэдыміне, Рэчыца ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага. З 1392 па 1430 год Рэчыцай валодаў Вялікі Князь Вітаўт, ён і ўмацаваў яе ды пабудаваў замак. У сьпісе гарадоў-замкаў канца 14-га стагодзьдзя згадваецца й Рэчыца.

Замак займаў тэрыторыю прыблізна аднаго гэктару, меў пяць вежаў формы шматграньніка, вежы былі пакрытыя стрэшкамі. У некаторых зь вежаў былі вартоўні. Увесь замак быў апаясаны зямельным валам і глыбокім ровам. Злучаўся замак з горадам пад'ёмным мастом.[9] У замку былі жылыя памешканьні, дзе жыў дзяржавец-арандатар замку; у замку-ж адбываліся земскія суды й перахоўваліся судовыя кнігі. Утрыманьне замку было абавязкам дзяржаўцаў.

Па-за замкам знаходзіўся рынак, будынкі магістрату, сьвятыні, заезджы дом і дамы больш заможных гараджанаў. Гэтая цэнтральная частка была абведзеная другою лініяй абаронных умацаваньняў. Асноўная частка гораду знаходзілася паміж другім і трэйцім умацаваньнямі. Як бачым, Рэчыца была добра ўмацаваная. Разам з Рагачовам, Шкловам, Магілевам, Старым Быхавам і Воршай Рэчыца тварыла сыстэму абароны на Дняпры. У спакойны-ж час Рэчыца ахоўвалася толькі двума ці трыма вартаўнікамі-жаўнерамі, якіх утрымлівала грамада й дзяржавец. Акрамя таго грамада давала шэсьць старажоў – «а тыя сторожы» – паводля прывілею выдадзенага Жыгімонтам Старым Рэчыцкаму дзяржаўцу Сямёну Палазовічу ў 1529 годзе – «маюць замку нашага ў варот сьцерачы і клікаці і ўсякія іныя паслугі на тым замку служыці» – як, прыкладам нарыхтоўваць дровы, прыбіраць, папраўляць і рабіць падобныя паслугі.[10]

Яшчэ перад тым, у 1511 годзе паводля граматы, данай тым-жа Жыгімонтам Старым, Рэчыца атрымала права ўносіць падаткі непасрэдна ў скарб, як было за Вялікага Князя Вітаўта, і гэтым яна атрымала частковае Магдэбурскае права, права на самаўрад. У 1561 годзе Жыгімонт Аўгуст даў грамату жыхаром Рэчыцы, у якой быў больш дакладны вопіс падаткаў і павіннасьцяў, а таксама права суда й гандлю. У 1566 годзе быў створаны Рэчыцкі павет і Рэчыца сталася павятовым горадам. У 1596 годзе Жыгімонт Ваза ізноў пацьвердзіў усе правы й прывілеі.

У канцы 16-га стагодзьдзя, калі пачаліся казацкія напады, войска ў Рэчыцы відавочна ня было, бо ў 1593 годзе Жыгімонт Ваза пісаў да Крыштофа Радзівіла, гэтмана Вялікага Княства: «Пабачыўшы, што служба ротмістраў на замках нашых ускраінных у час пераміру з суседам нашым Маскоўскім не патрэбная й скарбу нашаму шкодная, Я загадаў скасаваць яе».[11]

Першы прыход казакаў пры канцы 1595 пачатку 1596 году для Рэчыцы ня быў такім трагічным, як для іншых беларускіх гарадоў. Налівайка із сваімі казакамі уцякаў тады з Магілева, у якім нарабіў шмат шкоды – рабаваў, забіраў з сабой коні, жанчынаў, дзяўчат. Паводля Баркулабаўскае Хронікі, казакі «золата й срэбра мноства пабралі й так шкоду саромную чынілі, горш злых непрыяцелей альбо злых татар». Рэчыцы Налівайка ня зьнішчыў, тут ён толькі напісаў ліст да Жыгімонта Вазы, суліў свае паслугі прыстрашыць непакорных каралю людзей. За гэта ён прасіў караля адвесьці казаком для пасяленьня частку пустыні між





Бугам і Днястром. Адказу ад караля ён не атрымаў і хутка пакінуў Рэчыцу.[12] Моцна пацярпела Рэчыца ад казакоў толькі пазьней, у 1648-50 гадох, калі Рэчыцу захапіў Нябаба. Затым у 1654 годзе Рэчыцкі замак быў да рэшты зьнішчаны казакамі Залатарэнкі.[13]

На пачатку-ж 17-га стагодзьдзя Рэчыца, калі яе наведаў капітан Сміт, жыла поўным жыцьцём. Жыхарства ў той час было каля дзьвюх тысячаў Займаліся яны гандлям, рамяслом, земляробствам, гародніцтвам, пчалярствам, рыбалоўствам, сплавам лесу й будоўляй чаўноў. Будавалі пераважна пласкадонныя баркі й бэрліны, дзеля таго, што на Дняпры шмат меляў Баркі ўжываліся галоўна для сплаву лесу па Дняпры на Украіну й да татараў, там яны звычайна прадаваліся разам зь лесам. Рэчыца была важным рачным портам, дзе рух розных тавараў спрыяў канцэнтрацыі спэцыялістаў разнастайных прафэсіяў

У лясох каля Рэчыцы было шмат смалярняў Мясцовыя смалагоны былі добрымі спэцыялістамі й славіліся далёка сваімі вырабамі Ня выключана, што капітан Сміт мог тут бачыць смаляроў за працай ды быць азнаёмлены зь іншымі майстрамі.

Нядзелямі ў Рэчыцы бывалі багатыя кірмашы З бліжэйшых вёскаў прывозілі на продаж жыта, авёс, пшаніцу, гародніну, сена, мёд, воск, рыбу, жывёлаў (хатнюю жывёлу можна было прадаваць на рынку ад сьв. Барталамея, 24 жніўня, аж да мясапусту). Купцы з Магілева прывозілі крамныя рэчы, а скуплівалі воск, мёд, скуры, смалу, дзёгаць. З далёкіх мясцовасьцяў, з-за мяжы прывозілі соль, салёную рыбу, фрукты, турэцкую бакалею, мігдалы ды іншыя прысмакі. Прадаваліся таксама мясцовыя вырабы, як прыкладам вырабы жалеза з балотнай руды, якая здабывалася на мейсцы, ды вырабы Рэчацкіх бравароў

У Рэчыцы была мытная камора, дзе зьбіралася мыта зь мясцовых купцоў за ўвоз ды вываз тавараў за мяжу, зь іншаземцаў за продаж тавараў на мясцовых рынках ці за перавоз праз тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага.

Была ў Рэчыцы тады адна праваслаўная царква – Уваскрасенская, пабудаваная яшчэ здаўна. На пачатку 17-га стагодзьдзя была пабудаваная вуніяцкая царква Сьвятога Мікалая Дакладных дадзеных пра яе заснаваньне няма, але на пляне сярэдзіны 17-га стагодзьдзя яна ўжо азначаная. На гэтым пляне азначаныя Дамініканскі манастыр і касьцёл Сьвятой Тройцы, заснаваныя ў 1634 годзе. Плян гэты, праўдападобна быў зроблены ў часе казацкіх войнаў [14]

Вось гэтак выглядала Рэчыца ў 1603 годзе, калі яе наведаў капітан Сміт Умацаваны горад-замак у маляўнічай мясцовасьці на стромым беразе Дняпра, з добра наладжаным гандлям і рамяслом, бяз сумлеву прыцягнуў на сябе ўвагу нашага падарожніка.

Калі ўжо на амэрыканскай зямлі капітан Сміт стаўся губэрнатарам Вірджынскай Калёніі й пачаў разбудоўваць яе, паўстала патрэба спэцыялістых для ўсіх дзялянак жыцьця. Іх пачалі вербаваць з краёў Эўропы праз розныя ангельскія кампаніі. Ведаючы цяпер пра знаёмства капітана Сміта зь Беларусяй, можна прыпушчаць, што ў Вірджынію маглі трапіць і нашыя землякі, асабліва спэцыялістыя па вырабу смалы й дзёгцю. У беларускім друку гэты пагляд выказваўся, але з пэўнасьцяй сьцьвердзіць прысутнасьць беларусаў у Вірджынскай Калёніі можна будзе толькі ў выніку далейшых пошукаў як у амэрыканскіх архівах, гэтак і ў архівах брытанскіх кампаніяў.

**«Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва». N 16, 1978**

---

[1] Smith, John. A true relation of such occurences and accidents of noate as hath hapned in Virginia... London, 1608.

[2] Barbour, P.L. The three worlds of Capitain John Smith. Boston, 1964.

[3] Кіпель, В. Беларуская спадчына ў Амэрыцы. (Беларус, Нью Ёрк, N 219, ліпень 1975).

[4] Smith, John. The true travels, adventures & observations of Capitaine John Smith... London, 1630. Успаміны пісаныя Смітам у трэйцяй асобе.

[5] Barbour, P.L. Captain John Smith 's route through Turkey and Russia. (William and Mary Quarterly, 3rd series, XIV, Williamsburg, Va., 1957, p. 358-369).

[6] Багалай, Д.И. Очеркі из истории колонизации степной окраины Московского государства. Москва, 1887, б. 23-27 і 42-50.

[7] Wysłouch, S. Dawne drogi Polesia (Ateneum Wileńskie Rocz. XII, Wilno, 1937, str 146-202).

[8] У Брагіне пры двары Адама Вішнявецкага якраз у тым часе аб'явіўся Лжэ Дзімітры.

[9] Умецкі, Б. Рэчыца, Мінск, 1968, б. 7.

[10] Любавский, М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. (Общество истории и древностей Российских. Чтения. Кн. 4, Допол. N 47, Москва, 1892-93).

[11] Wisner, H. Wojsko litewskie pierwszej połowy XVII w. (Studia i materjały do historii wojskowości, v. 19, cz. 1, Warszawa, 1973, str. 127-131).

[12] Эварицкий, Д.И. История Запарожских козаков. С.-Петербург, 1895, т. 2, б. 136.

[13] Акты относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 14, С.-Петербург, 1889, б. 130-138.

[14] Егоров, Ю. Градостроительство Белоруссии. Москва, 1954, б. 76.

МЫ

## Уладзімір НЯКЛЯЕЎ



*Як ты памер, скажы, што ты жывы.*
*Скажы пра гэта голасам травы*
*І голасам касы скажы пра гэта:*
*Жывы, пакуль курлычуць журавы*
*На тым шляху, якім ляціць камета.*

*Схаваны ў змрок, укрыты ў цень сцяны,*
*Нічога і нікому ты не вінны,*
*Жывы – і вольны ад любой віны,*
*Ад будучыні і ад даўніны,*
*Ад усяго, што прывід і руіны.*

# САРАКАВІНЫ

*Паэма*



1

**Віноўнай быць душа**
**хіба павінна,**
**Не цямячы, у чым яе віна?**
**Ды звадамі змучоная да дна,**
**Нібы святкуе – так баліць яна.**
**Прыйшла пара спраўляць саракавіны.**

**На дно душы**
**не ў час і неўпапад**
**Кідаў я нерат, каб пазбыцца звад,**
**Але віна вірамі рвала нерат,**
**І вінавата я глядзеў назад,**
**І вінавата пазіраў наперад.**

**Віна мне вочы рэзала, як шкло;**

**Не ўбачыўшы нічога, што б магло**
**Віну суняць, суцішыць, супакоіць,**
**Пазваў я тых, каго ўжо не было,**
**Да тых, хто будзе – у маё жытло,**
**І цені іх напоўнілі пакоі.**

**Раней я многіх пазнаваў са спін –**
**Цяпер і ў твар не пазнаваў нікога.**

**Было іх сорак. Сярод іх адзін,**
**Які сказаў: «Нядоўгая дарога**
**За стол памінак ад стала радзін».**

**Ён са стала на стол паставіў крупнік,**
**Хлеб пераклаў, зацепліў дзве свячы.**
**Спытаў: «Ну што глядзіш, як той пакутнік?**
**Твой папярэднік тут і твой наступнік.**
**Астатніх трыццаць восем не лічы».**

2

**Мы ў некага заўсёды за спіною –**
**І нехта ў нас заўсёды за спіной.**
**Мой папярэднік – цень, што стаўся мною.**
**Ён не памёр, жывы маёй віною,**
**Я не памру, жывы яго віной.**

**І мой наступнік – цень, што мною стане.**
**Так на зямлі, не знаючы расстання**
**З самім сабой, бясконца, з веку ў век,**
**Пазбыць віны і час спыніць не ў стане,**

Жыве адзін і той жа чалавек.

Мяняючы імёны, маскі, твары,
Ён перажыў патопы і пажары,
Халеру,
воспу чорную,
чуму –
І ўсё жыве, і ўсё чакае кары...
Якой яшчэ? За што яна яму?

3

Каго спытаць?.. Няма ў каго спытацца.
Свет не назваць і ў свеце не назвацца,
Не знаць таго, што ведае дзіця,
Ці той, каму ў сладобу смак жыцця,
Хто час яго прыняў, як час вакацый.

Не мець таго, што ёсць у выпівох,
У тых гуляк, якія ўдвох і ўтрох,
І ўсаракох, як фэст, жыццё гуляюць,
Жывуць яго, жуюць і прапіваюць,
І не чакаюць, каб ім Бог памог.

У іх хаўрусе я б любіў любога,
Калі б не тыя, што паўсталі строга
І ценямі напоўнілі мой дом...
–Ты хто? – спытаўся я ў Саракавога.
–Я проста Голас,– ён сказаў.– Фантом.

4

Наперадзе і ззаду – цені, цені,
З усіх бакоў – цямрэча і агонь.
І ўпаў перад агнём я на калені,
І ў цемры перакідваць стаў імгненні
Іскрынкамі
з далоні на далонь.

Іскрынку кінуў – першы крок зрабіў,
Спалохаўся: іду!.. І з перапуду
Успомніў тое, што даўно забыў:
Што ўсё адно мне, кім раней я быў,
І ўсё адно мне, кім я потым буду.

Хто зараз я,
цяпер,
у гэты міг? –





Вось што мяне і мучыла, і мучыць...

Каб сам сябе я ў гэты міг лятучы
Спасціг,
калі душа – мой зрок і слых –
Мяне з жыццём злучае неўміруча!

Каб сам сябе спазнаў:
на рубяжы,
На гэтым зломе часу – на мяжы,
Дзе слаў снапы, а змалаціў салому!..

Ды ўсім былым імгненням я чужы,
І ў іх – былых – чужы сабе самому.

І будучым імгненням я не свой.
Якая адзінота, Божа мой!

5

Якая адзінота, Божа мой,
Па лініі ідзе берагавой,
Кіруючыся зменлівым абрысам,
Спыняецца, стаіць пад кіпарысам
І кідае каменьчыкі ў прыбой.

Яна сябе адну аберагае
Адна,
а як наблізіцца другая,
Дык за вярсту другую абміне...
Каменьчык кіне – хваля набягае,
Каменьчык кіне – хваля адхлыне.

Віна на дне суціхла, адзыбела,
І не згадаць, з чаго душа збалела,–
Так... нешта мімалётнае... капрыз...
Аточаны ажурнай пенай бераг.
Гайдаецца на хвалі ветразь белы.
Хістаецца на ветры кіпарыс.

6

Усе адны. Хоць кожнага вяжы
Да кожнага. Вузлы не рвуцца самі,
А рэжуцца аб лёзы, аб нажы.
У адзіноце кожны ўсім чужы.
Мы звязаны хіба што галасамі.

Падай мне голас праз Сусвет пусты!
Галоднаму
гукніся з нематы,
Няхай на мне жабрацкая кароста —
Не падавай мне міласціну, проста
Спытайся, хто я, і скажы, хто ты.

Між намі голас — нітка залатая,
Яна да суравой не прырастае,
Ніяк канцы з канцамі не звяжу:
Як ты гукнешся — што я запытаю?
Як запытаеш — што я адкажу?

7

Хто мы ў Сусвеце?.. Голас, адкажы
І падкажы, у чым шукаць апоры,
Не пакідай на зменлівай мяжы
Між берагам, дзе кожны ўсім чужы,
І морам з белым ветразем у моры.

Хто ў Вечнасці мы?.. Голас, адкажы!..
Няма адказу.
Немата. Аковы.
І лёс — матацыкліст на віражы,
Вар'ят,
што замыкае круг чарговы...
Так круцяцца:
планеты,
зоры,
словы...

Ніхто не новы: ні суддзя, ні кат.
Ідзе спектакль. Акцёры ўсе на сцэне.
Вось Юда... і Каяфа... і Пілат —
Усе сышліся ў Гефсіманскі сад:
Там хлопчык той, што знойдзены на сене.

8

Дык як на вечнай сцэне быць сабой,
Не слыць, а жыць, не рынуцца ў разбой,
У гвалт, у закулісныя афёры?..

Віноўны,
я шукаў апоры ў горы,
Ракло мне гора: «Кіньма гараваць»,—
І валакло катурны і падпоры,
Змушаючы шчаслівчыка іграць.

Апора ў шчасці? Я шукаў і там,
Рукамі і зубамі — не аддам! —
Трымаўся за яго...
«Шчаслівых мала,
Ты мой абраннік»,— шчасце мне ўнушала,
Ламала рукі, зубы выбівала
У бойках між абранымі... Я сам
Зарокся быць шчаслівым.
Страшна стала.

Шукаў апоры і ў каханні я.
Сагрэўшыся, як на грудзях змяя,
Шаптала мне каханне: «Мой абраны...»
І рэўнасцю атручвала, і раны,
Калі загоіць нехта — дык зямля.

І ўцяміў я: без берагоў і дна,
Шырэй за берагі, глыбей за мора,
Адна ў мяне адзіная апора:
Глухая, непазбыўная віна.
Схаваны ў ёй
каханне,
шчасце,
гора —
І ўсё, пра што не ведае яна.

9

Быў хворы на віну, як на праказу,
Цень, што ўкрываўся за маёй спіной.
Я выйшаў са сцэны — ён стаў сцяной,
Ён выдыхнуў, а я ўдыхнуў адразу
Душу, што пачуваецца віной.

Так у траве з травой растуць каменні,
І вырастаюць над травой касцы,
І ў ланцужку, дзе ўсе мы толькі звенні,
Дарма маліць і трызніць аб збавенні,—
У ланцужка скаваныя канцы.

Ты свой не завяршыў яшчэ стажок,
А на лужок злятае ўжо сняжок,
І пачынае рытуальны танец
Бяззубая з касою...
Ланцужок
Гасподзь перабірае, як ружанец.

10

З камення камень і трава з травы,
А чалавек з чаго, калі не з гліны,
Калі ў ім голас, а не рык звярыны?..

—Ты не з чаго,— сказаў Саракавы.—
І ні з чаго твае саракавіны.

Твой папярэднік і наступнік тут
Ніякавата селі ў самы кут,
Паслухаўшы, як цьмяна ты гадаеш
То пра пакуты, бо не меў пакут,
То пра віну, бо знаць яе не знаеш.

Нашто пазваў ты цені? Ліць алей,
Тваім здагадкам цьмяным біць у ладкі?
Здагадкі не мяняюць ход падзей.
Так пра камету згадку меў Галей —
Ляціць яна і без ягонай згадкі.

Усё адно ёй: быў Галей ці не,
Свая ў яе часовая дарога.
Часова ўсё. Жыццё і смерць міне.
Апоры ты не знойдзеш у віне,
Няма яе, бо ўся яна — з нічога.

11

Часова ўсё. Да смерці. А віна
Даўжэй за смерць. Нікому не відна —
Мацней чым смага мучыць і чым голад,
І ўсё, пра што не ведае яна,
Мне за яе распавядае Голас.

Аднолькава і зблізку, і здаля
Ён чуецца, бо сказана ад Бога,
Што і ў былым, і да ўсяго былога
Было спачатку Слова. А пасля?
Што будзе потым? Мусібыць, нічога.

Што можа быць па часе?.. Ды віна
Даўжэй, чым час,
даўжэй, чым даўніна
І будучыня разам з даўніною.
Як цёмна скрозь! За мной, перада мною
Сцяна віны. Астрожная сцяна.





12

Жывым і мёртвым не пазбыць віны.
Чырвоныя і чорныя званы
Гудуць паміж вайною і вайною.
Не па маёй віне — маёй віною
У небе разгайданыя яны.

Далей ад іх — і ад віны далей.
Сцяна ў сцяне. Пад ёю акалей —
Закружыць над табой жывая зграя.
Жывы жыве, бо мёртвы не ўмірае.
Жыў Юда...
Жыў Каяфа...

Жыў Галей,
Жыве —
імя каметаю згарае.

Жыццё і смерць сышліся ў ім — ні ў чым
І ні з чаго гарыць адно ў адным,
І пакідае ў небе бліскавіцу...
Скажы мне, Голас:
гэту таямніцу
Каму спасцігнуць — мёртвым ці жывым?

13

Царкву — у ногі, лес — да галавы,
На вочы века — і ручнік на века,
І, дзякуй Богу, у труне — не вы...

—Ну вось і пахавалі чалавека,—
Наступніку сказаў Саракавы.—

Цяпер ён папярэднік твой. Ты рады?
Калі ты праўда рады, то дарма.
Тваю душу да дна замуцяць звады,
І плуг віны па вечным полі здрады
Табе цягнуць, калі яго няма.

Цяпер ягоны папярэднік вольны.
Ён тут яшчэ?
І цень гукнуўся:
—Тут.
—Ідзі. Ты вольны. Завяршыўся суд.

А мы паўторым хутка

шлях пакут,—
Сказаў мне Голас, як настаўнік школьны.

14

Шукаючы апоры, ты імя
Чужое ўзяў, нібы свайго няма,
І выдумаў сабе віну чужую,
Фантомную, з якой стварыў жывую,
Што стала вінавaціцца сама.

Яна ў цябе паперадзе ідзе
Па камені, паветры і вадзе
І ўжо не азіраецца:
за ёю,
Як змеялоў за залатой змяёю,
Ты йдзеш туды, куды яна вядзе.

З балота ў дол і з долу на гару,
Шукаючы здабычу ці нару,
Паўзе яна, а ты за ёй спяшаеш,
Мінаючы свой час, сваю пару,
Забыўшыся на тое, што шукаеш.

15

З чужым ружанцам ты зайшоўся ў храм
І, не застаўшы анікога там,
Спытаўся ты: «Чаму няма нікога?»
І голас твой
сабе пачуўся сам
З усіх кутоў, а найгучней з пустога.

Ты ў кут той рушыў і запоўніў кут
Самім сабой, сказаўшы: «Вось я, тут,
Дзе не бываў і мог не быць ніколі,
Я сам сюды спяшаў, па ўласнай волі
Стаю я тут — ну дык вяршыце суд».

Пад купалам, пад крыжам залатым,
У пустаце перад усім пустым
Стаяў ты ў храме,
да ўсяго гатовы,
Ды як прыйшоў з чужым — так рушыў з тым,
Нібы ружанец, перабраўшы словы.





16

Твой — толькі голас,
словы — не твае.
Тваіх табе ніколі не стае
Сярод чужых, на горкі яблык збітых,
Якія між кілішкаў недапітых
Па памінальным коцяцца стале.

Ды што рабіць? — суседзі і радня
Сабраліся казаць адно і тое
За доўгі стол саракавога дня,
Вакол якога ўстала гарадня
У сорак крэслаў, а тваё — пустое.

Ты за сцяной, яны каля сцяны,
Цень ад якой жахае — і адны
І тыя ж думкі ў кожнага жывога:
Хто на чарзе? Каму збяруць яны
Стол памінальны дня саракавога?

17

Не бедны стол, табе сабраны ён
Па Крэве ўсім — дзе сподачак, дзе міска,
Абрус смаргонскі — вышываны лён,
Гарэлка магазінная — аж з Мінска,
Свая з Барунаў, слаўная здавён.

Прастора рвецца, час ідзе на злом,
А на мяжы паміж дабром і злом —
І смажыва, і варыва густое,
І сесці ў крэсла, раз яно пустое,
Не сорамна табе за тым сталом.

З усімі тымі, хто пайшоў раней,
Ты лёс пражыў за марны не марней,
Хай лепшы пражыве — хто потым пойдзе,
І не вядуць твой памінальны рэй
Бацькі твае насуперак прыродзе.

Ты іх паспеў праводзіць — Бог памог
Каля дзядоў пакласці іх удвох,
Пацалаваць іх і закрыць ім вочы...
Твае хай закрывае, хто захоча
З тых, каго любіш, памажы ім Бог.

18

Хай кажуць словы,
галасы дрыжаць
Не ўсе з таго, што, дзе каму ляжаць,
Не ведаюць – і жахі пашчы шчэрацць. .
Не кожнаму, пасеяўшы, дажаць.
Не кожнаму, паснедаўшы, вячэраць.

Ды кожнаму, хто гол, як той сакол,
Ад смерчу смерці, што ўгінае дол,
Надзеяй дрэва можна захінуцца:
Зламае вецце – застанецца ствол,
Зламае ствол – карэнні застануцца.

Канец тады, як спрахнуць карані.
Ад забыцця, Гасподзь, абарані
Крывіцкі род, смаргонскі люд ды крэўскі,
Вярні ўсіх крэўных на пустыя крэслы,
За памінальны стол усіх вярні.

19

Як ты памёр, скажы, што ты жывы.
Скажы пра гэта голасам травы
І голасам касы скажы пра гэта:
Жывы, пакуль курлычуць жураўлі
На тым шляху, якім ляціць камета.

Схаваны ў змрок, укрыты ў цень сцяны,
Нічога і нікому ты не вінны,
Жывы – і вольны ад любой віны,
Ад будучыні і ад даўніны,
Ад усяго, што прывід і руіны.

Калі між зор анёл уструбіць збор,
Ты хату прыбяры, спарадкуй двор
І на дрывотні навастры сякеру,
Скажы, што ты жывы, калі памёр,
Ідзеш на Суд – і я табе паверу.

У двор сваіх, чужых панабяжыць.
Як жыта ў жыце, ты пакінь іх жыць,
Па смерці ўваскрасаць, як жыта ў жыце, –

І перад тымі, каму Суд вяршыць,
Паўстань у час прызначаны:
судзіце.



# Рэй БРЭДБЕРЫ | ЯНЫ

## ТОЙ, ХТО ЧАКАЕ

Я жыву ў студні Я жыву ў студні, як дым. Як вільгаць у каменным горле Я не рухаюся. Я нічога не раблю Толькі чакаю. Наверсе я бачу халодныя зоркі ночы і раніцы, а таксама я бачу сонца. А часам я спяваю старыя песні гэтага свету, калі ён быў малады. І як я магу сказаць вам, хто я, калі я і сам не ведаю? Я проста чакаю. Я туман і месячнае святло, і памяць. Я сумны і стары Часам я падаю ў студню, як дождж. Там, на паверхні вады, куды падаюць мае кроплі, з'яўляецца малюнак павуціння. Я чакаю ў халоднай цішыні, але прыйдзе дзень, калі я больш не буду чакаць.

Цяпер раніца Я чую моцны грукат. З адлегласці я чую пах агню. Чую грукат упаўшага металу Я чакаю. Я слухаю

Галасы. Здалёк.

– Так!

Адзін голас. Чужы голас. Чужая мова, якой я не ведаю Ніводнага знаёмага слова. Я слухаю.

– Вышліце людзей на разведку!

Рыпенне крышталяў пяску

– Марс! Дык вось ён які!

– Дзе сцяг?

– Тут, сэр.

– Добра, добра.

Сонца высока ў блакітным небе Яго залатыя прамяні поўняць студню, і я павісаю на іх, як нябачная кветка, саграваючыся ў цёплым святле.

Галасы.

– Ад імя ўрада Зямлі я абвяшчаю гэтую планету Марсіянскай Тэрыторыяй, якая будзе пароўну падзеленая паміж краінамі-членамі.

Што яны кажуць? Я паварочваюся на сонцы, як кола. Нябачны і лянівы, залаты і нястомны

– А што там?

– Студня!

– Не можа быць!

– Так. Хадзі сюды!

Набліжаецца цеплыня. Тры аб'екты нахіляюцца над студняй, і мая прахалода паднімаецца да іх.

– Клас!

– Думаеш, вада там добрая?

– Пабачым.

– Прынясіце колбу і прыбор для забору вады

– Зараз!

Нехта пабег. Вярнуўся.
– Вось.
Я чакаю.
Апускай. Асцярожна.
Наверсе ззяе шкло, якое паволі апускаецца на вяроўцы
Вада мякка цурчыць, напаўняючы колбу. Я падымаюся ў цёплым паветры наверх.
– Вось так. Хочаш пакаштаваць вады, Рэджэнт?
Давай
– Якая прыгожая студня Паглядзі на гэтую канструкцыю. Колькі ёй гадоў?
– Бог яго ведае Калі ўчора мы былі ў іншым горадзе, Сміт сказаў, што жыццё на Марсе загінула дзесяць тысяч гадоў таму
Толькі падумаць.
– Ну як, Рэджэнт? Як вада?
– Чыстая, як срэбра. Выпі
Гук вады на гарачым сонечным святле Цяпер я падобны да пылу, да карыцы на мяккім ветрыку
– Што такое, Джонз?
– Не ведаю Дзікі галаўны боль. Знянацку
– Ты піў ваду?
– Не, не піў Гэта не вада. Я проста нахіліўся над студняй, і раптам галава страшэнна забалела Цяпер мне лепей.
Цяпер я ведаю, хто я.
Маё імя Стэфен Леанард Джонз, мне дваццаць пяць, і я толькі што прыляцеў на ракеце з планеты Зямля Я стаю тут з маімі добрымі сябрамі Рэджэнтам і Шо ля старое студні на планеце Марс.
Я гляджу на мае залацістыя пальцы. Моцныя і загарэлыя. На мае доўгія ногі і серабрыстую форму, і на сяброў
– Што здарылася, Джонз?
– Нічога,– кажу я, гледзячы на іх.– Абсалютна нічога.
Добрая ежа Вось ужо дзесяць тысяч гадоў я нічога не еў Яна кранае язык так мякка А віно саграваe Я слухаю гук галасоў. Я кажу словы, сэнс якіх не разумею і адначасова разумею Я ўбіраю носам паветра.
– Што такое, Джонз?
Я паварочваю галаву, якая цяпер належыць мне і кладу на стол рукі, што трымаюць срэбныя прылады для ежы Я адчуваю ўсё
– Што ты хочаш сказаць?– кажа мой новы голас.
– Ты неяк дзіўна дыхаеш Кашляючы,– кажа чалавек.
Я старанна адказваю
– Пэўна крыху пахаладала.
– Потым праверышся ў лекара
Я ківаю Як добра ківаць! Як добра рабіць нешта пасля дзесяці тысяч гадоў нерухомасці Добра дыхаць паветрам, добра адчуваць сонца на скуры, і адчуваць, як цяпло ідзе ўсё глыбей Добра адчуваць касцявую структуру, выдатны шкілет, схаваны ў цёплых мышцах. Добра чуць гукі значна больш ясна, чымсьці ў каменнай глыбіні студні Я сяджу зачараваны
Прачынайся, Джонз. Гэй! Нам трэба ісці!
– Так,– кажу я, загіпнатызаваны тым, што слова фармуецца, як вада на языку, і павольна, прыгожа падае ў паветра
Я іду і адчуваю, як добра ісці Я высокі і калі я гляджу ўніз, то да зямлі вельмі далёка Быццам жывеш на прыгожай скале.
Рэджэнт стаіць ля студні, нахіліўшыся над ёй Іншыя ўжо пайшлі да срэбнае ракеты, на якой прыляцелі.
Я адчуваю свае пальцы і ўсмешку на маім твары
– Яна глыбокая,– кажу я.
– Так.
– Яна завецца Студня Душы.
Рэджэнт паднімае галаву і глядзіць на мяне





– Адкуль ты гэта ведаеш?
– Яна так выглядае
– Ніколі не чуў пра Студню Душы
– Месца, дзе чакаюць і чакаюць рэчы, што калісьці мелі ўласнае цела,– кажу я, кранаючыся яго рукі

***

Пясок гэта агонь, а ракета – срэбны агонь у гарачыні дня Як добра адчуваць гарачыню Гук маіх крокаў на цвёрдым пяску Я слухаю. Гукі ветру і сонца, што паліць даліны. Я чую пах ракеты, што робіцца ўсё больш гарачай на дзённым сонцы. Я стаю пад люкам
Дзе Рэджэнт?– пытаецца нехта.
– Я бачыў яго ля студні,– адказваю я
Адзін з іх бяжыць да студні Мяне пачынае калаціць. Лёгкае пацепванне, у глыбіні, але яно робіцца ўсё больш моцным І ўпершыню я чую нешта, што быццам нясецца з глыбіні студні Голас, у глыбіні мяне. Тонкі і спалоханы Гэты голас крычыць. *«Пусці мяне, пусці мяне»,* і я адчуваю, як нешта спрабуе вызваліцца, грукаючы у лабірынце дзвярэй, бегаючы па цёмных калідорах і стромкіх лесвіцах, крычачы, крычачы.
– Рэджэнт у студні!
Людзі пабеглі. Усе пяцёра Я бягу разам з імі, але мне блага, і мяне моцна калоціць.
– Пэўна, ён упаў туды Джонз, ты быў з ім Ты бачыў гэта? Джонз? Гавары ж?
– Што такое, Джонз?
Я падаю на калені, мяне калоціць усё мацней
– Яму блага Дапамажыце мне
– Сонца
– Не, гэта не сонца, мармычу я
Яны кладуць мяне на пясок. Прыступы трасуць мяне, як землятрусы, і голас глыбока ўва мне крычыць. *«Гэта Джонз, гэта я, гэта не ён, не ён, не верце яму, выпусціце мяне, выпусціце мяне!»* Я гляджу на схіленыя фігуры, і мае павекі дрыжаць. Яны кранаюць мае рукі
– Яго сэрца спыняецца
Я заплюшчваю вочы. Крык сціхае Мяне больш не калоціць Я ўзнімаюся, як з халоднае студні. Вольны
– Ён мёртвы,– кажа нехта.
– Джонз мёртвы
– Ад чаго?
– Падаецца, што ад шоку
– Якога шоку?– кажу я Маё імя Сэшнз, мае вусны рухаюцца рашуча Я іх капітан Я стаю сярод іх і гляджу на цела, якое ляжыць у пяску. Абедзвюма рукамі я хапаюся за галаву
Капітан!
– Нічога,– кажу я галасна – Проста галаўны боль Усё будзе добра Так. Так,– шапчу я Усё ўжо добра
– Лепей пайсці ў цень, капітан
– Так,– кажу я, гледзячы на Джонза.– Не трэба нам было ўвогуле ляцець сюды Марс не хоча нас.
Мы нясём цела да ракеты, а ў глыбіні мяне крычыць новы голас
*Памажыце, памажыце.* Глыбока ў нетрах зямнога цела *Памажыце, памажыце!* Чырвоныя гукі, стогнучы голас
Гэтым разам мяне пачынае калаціць значна раней Я ўжо не магу кантраляваць цела
– Капітан, лепей вам пайсці ў цень. Вы выглядаеце кепска, сэр
– Так,– кажу я – Памажыце
– Што, сэр?
– Я нічога не казаў.
Вы сказалі «памажыце», сэр
– Няўжо, Мэцьюс, я сказаў гэта?

Цела кладуць у цяні ракеты, і голас крычыць у глыбокіх катакомбах мышцаў і костак. Мае рукі пацепваюцца. Рот крывіцца. Ноздры пашыраюцца. Вочы закочваюцца *Памажыце, памажыце, о не, не, не, выпусціце мяне, не, не.*

– Не,– кажу я.

– Што, сэр?

– Не звяртай увагі,– кажу я – Мне трэба вызваліцца

Я закрываю рот далонню.

– Што, сэр?!– крычыць Мэцьюс.

– Сядайце ў ракету, усе. Ляціце на Зямлю!– крычу я.

Пісталет у маёй руцэ. Я ўзнімаю яе.

– Не трэба, сэр!

Выбух. Бягуць цені. Крык спыніўся Гук падзення

Як добра паміраць праз дзесяць тысяч гадоў бяздзеяння Як добра адчуваць раптоўны холад, расслабленне. Як добра быць падобным на руку ў пальчатцы, якая робіцца выдатна халоднай на гарачым пяску О, цішыня і прыгажосць цёмнае смерці! Аднак гэта працягваецца нядоўга

Рэзкі гук.

– Божа мой, ён застрэліўся!– крычу я і адкрываю вочы Ля ракеты ляжыць капітан Ягоны чэрап развалены куляй, вочы пашыраныя, язык бачны паміж белымі зубамі З галавы бяжыць кроў. Я нахіляюся над ім і кранаю яго.– Дурань. Навошта ён зрабіў гэта?

Людзі перапалохаліся. Яны стаяць каля двух мерцвякоў, павярнуўшы галовы да марсіянскіх пяскоў, у якіх відаць студню, дзе ў глыбокай вадзе плавае Рэджэнт З іх вуснаў зрываецца сухі гук, слабы, як дзіцячы пратэст супраць кашмарнагу сну.

Яны паварочваюцца да мяне

Пасля доўгае паўзы адзін з іх кажа.

– Цяпер капітан ты, Мэцьюс.

– Я ведаю,– павольна кажу я

– Нас засталося ўсяго шэсць.

– Божа, як хутка ўсё здарылася

– Я не хачу заставацца тут Паляцім дадому!

Людзі шумяць. Я падыходжу да кожнага і ўпэўнена, вельмі ўпэўнена кажу ім·

– Слухайце.

І я кранаюся іх локцяў, рук, пальцаў.

Мы ўсе заціхаем

Мы – адна істота.

*Не, не, не, не, не, не!* Крычаць унутраныя галасы, трапіўшы ў астрог целаў

Мы глядзім адзін на аднаго. Мы – Сэм'юэл Мэцьюс і Рэйманд Мозэс, і Вільям Сполдзінг, і Чарлз Эванс, і Форэст Коўл, і Джон Самерз. Мы маўчым і толькі глядзім адзін на аднаго, на нашыя белыя твары і рукі, якія торгаюцца.

Мы паварочваемся, як адзін чалавек, і глядзім на студню.

– Наперад,– кажам мы.

*Не, не,* крычаць шэсць галасоў, якія назаўсёды трапілі ў пастку глыбока ў нетрах целаў

Нашыя ногі ідуць па пяску, і быццам адна вялікая рука з дванаццаццю пальцамі, мы перасоўваемся па дне сухога мора

Мы нахіляемся над студняй, гледзячы ўніз З халоднае глыбіні на нас глядзяць шэсць твараў.

Адзін за адным мы нахіляемся ўсё больш, губляючы баланс і падаючы ў студню, насустрач халоднай цемры, у халодную ваду.

Сонца заходзіць. На начным небе ззяюць зоркі. Далёка-далёка ўспышка святла. Яшчэ адна ракета ляціць сюды, пакідаючы ў космасе чырвоны след.

Я жыву ў студні. Я жыву ў студні, як дым. Як вільгаць у каменным горле Я не рухаюся. Я нічога не раблю. Толькі чакаю. Наверсе я бачу халодныя зоркі ночы і раніцы, а таксама я бачу сонца. А часам я спяваю старыя песні гэтага свету, калі ён быў малады І як я магу сказаць вам, хто я, калі я і сам не ведаю?

Я проста чакаю.





# ТРУНАР

Пан Бенедыкт выйшаў са свайго невялікага дамка. Ён стаяў на ганку, злёгку курчачыся ад сонца і не звяртаючы ўвагі на людзей Маленькі сабака з разумнымі вачыма прабег міма. Вочы ў сабакі былі такія разумныя, што пан Бенедыкт паспешліва адвёў позірк. За чыгунную браму могілкаў насупраць царквы зазірнуў хлопчык, і пана Бенедыкта ажно страсянула ад вострае цікаўнасці хлапчука.

– Ты пахавальшчык,– сказаў хлопчык.

Пан Бенедыкт, які ўнутры ўвесь скурчыўся ад няпэўнага жаху, маўчаў.

– Ты валодаеш царквой?– нарэшце запытаў хлопчык.

Так,– адказаў пан Бенедыкт

– І месца для пахаванняў таксама тваё?

– Так,– здзіўлена адказаў пан Бенедыкт.

І гэтыя камяні, і сцежкі, і магілы?– цікавіўся хлопчык.

– Так,– амаль з гонарам сказаў пан Бенедыкт

І гэта была праўда. Проста дзіва нейкае. Сапраўднае шчасце, якое давала яму вечаровая вясёлая праца ўжо шмат гадоў Перш ён прыдбаў царкву і могілкі з некалькімі пазелянелымі надмагільнымі камянямі, калі баптысты пераехалі да цэнтра горада. Потым пабудаваў цудоўны невялікі морг. У гатычным стылі, вядома, і абсадзіў яго плюшчом А для сябе прыбудаваў невялікі дамок. *Вельмі зручна пасля смерці трапляць у рукі пана Бенедыкта. Ён без усялякае спешкі накіроўваецца куды трэба. Мінімум клопату і максімум павагі. Ніякае патрэбы ў хаўтурнай працэсіі!* Так казала яго апошняя рэклама ў ранішняй газеце *З царквы проста ў зямлю. Свежы, як агурок. І толькі найлепшыя бальзаміруючыя сродкі!*

Хлопчык глядзеў на яго, і пан Бенедыкт пачуваўся, як свечка на ветры. Такім самым нязначным Усё, што рухалася і жыло, прыводзіла яго ў стан глыбокае меланхоліі Ён заўсёды пагаджаўся з людзьмі, баючыся спрачацца альбо крычаць, альбо казаць «не» Кім бы вы ні былі, калі пан Бенедыкт сустракаў вас на вуліцы, дык заўсёды глядзеў вам у ноздры, альбо старанна вывучаў вушы ці накіроўваў сарамлівы, крыху дзікаваты позірк на лоб, але ніколі не глядзеў вам у вочы. Ён сціскаў вашую руку сваімі ледзянымі далонямі так, быццам вы – самая вялікая каштоўнасць свету, і казаў·

– Вы, безумоўна, бясспрэчна, на ўсе сто маеце рацыю.

Але калі б вы з ім ні размаўлялі, у вас заўсёды заставалася пачуццё, што ён не чуў аніводнага вашага слова.

Цяпер, стоячы на ганку, ён прамовіў, баючыся, што хлопчык не ўпадабаў яго:

– Ты цудоўны хлопчык.

Пан Бенедыкт сышоў з ганка і выйшаў за браму, нават не зірнуўшы на невялічкі будынак морга. Ён пакінуў гэтую асалоду на пазнейшы час. Вельмі важна, каб усё здаралася ў належны тэрмін Цяпер думкі пра радасць працы з мёртвымі целамі, што чакалі яго таленавітых рук, асалоды не прынясуць. Перш трэба разабрацца са штодзённай руцінай. Перш яму патрэбны канфлікт

Ён цудоўна ведаў, дзе яму лепш сапсаваць свой настрой Паўдня ён хадзіў па гарадку, дазваляючы снабізму яго жыхароў перапоўніць сябе, дазваляючы пачуццю ўласнае нязначнасці распусціць сябе ў моры ўласнага поту, завязаць нервы ў моцныя вузлы.

Ён гаварыў з панам Роджэрсам, аптэкарам. То была лянівая ранішняя размова аб нічым І ён адклаў у запас усе абразы і здзеклівы тон пана Роджэрса. А пан Роджэрс заўсёды меў сказаць пра людзей, што займаліся пахаваннямі, нешта жахлівае.

– Ха-ха,– засмяяўся пан Бенедыкт з жарту пра самога сябе, хаця ў той момант яму хацелася закрычаць ад злосці

– Трымай, халодны,– працягваючы руку, пажартаваў пан Роджэрс тым ранкам.

– Халодны,– паўтарыў пан Бенедыкт.– Ха-ха!

Выйшаўшы з аптэкі, пан Бенедыкт сустрэў пана Стайвезанта, падрадчыка. Пан Стайвезант дэманстратыўна глянуў на гадзіннік, каб вызначыць, колькі свайго каштоўнага часу ён можа змарнаваць на Бенедыкта перад чарговай важнай сустрэчай

– А, дзень добры, Бенедыкт! – крыкнуў Стайвезант. Як справы? Закладаюся, ты працуеш не на жыццё, а на смерць. Дайшло? Я сказаў, не на жыццё

– Так, так,– хіхікнуў пан Бенедыкт – А як вашыя справы, пан Стайвезант?

– Слухай, старычына Бені, а чаму ў цябе такія халодныя рукі? Проста лёд. Бальзаміраваў фрыгідную кабету? Някепска, га? Дайшло?– прагрукатаў пан Стайвезант, пляскаючы таго па спіне

Цудоўна, цудоўна! – адказаў пан Бенедыкт з невыразнай усмешкай Добрага вам дня

Так і ішло Чалавек за чалавекам. Пан Бенедыкт, пераходзячы ад аднаго да другога, пачуваўся возерам, у якое ўсе кідалі смецце Людзі пачыналі з невялічкіх каменьчыкаў, калі ж пан Бенедыкт не пратэставаў, пачыналі шпурляць камяні, цагліны, валуны Пан Бенедыкт не меў дна, ён не пляскаў, не пускаў хвалю. Возера не рэагавала.

Дзень ішоў, і пан Бенедыкт пачуваўся ўсё больш бездапаможным і злым Ён хадзіў ад дома да дома і пасля кожнае размовы ненавідзеў сам сябе ўсё больш моцна, з нейкай мазахісцкай асалодай Аднак стрымлівала яго салодкая думка пра ўлюбёную вечаровую працу Таму ён раніў сябе раз за разам гэтымі жорсткімі, тупымі, бяздушнымі людзьмі, пацiскаў ім рукі і прасіў толькі аднаго – абразы

– Здароў, мяснік,– сказаў пан Флінгер, уладальнік крамы далікатэсаў. Як там твае вэнджаныя чэлесы і марынаваныя мазгі?

Гэтак цягнулася да крэшчэнда прыніжэння. Літаральна закіпаючы ад нянавісці і пачуцця ўласнае бездапаможнасці, пан Бенедыкт паглядзеў на гадзіннік і пабег да сябе. Ён быў цалкам падрыхтаваны, падрыхтаваны да працы, якую ён заўсёды рабіў з асаблівай асалодай Жахлівая частка дня скончылася, час для цудоўнай яго часткі! Ён радасна прабег па прыступках морга.

Пакой чакаў яго, як першы снег, што гатовы ўпасці на зямлю. У ім знаходзіліся белыя покрывы, пад якімі ляжалі бледныя целы

Дзверы расчыніліся.

Пан Бенедыкт стаяў у дзвярах, асветлены слабым святлом Адну руку ён трымаў над галавой, быццам вітаючыся, другая, ненатуральна моцна, трымала ручку

Гаспадар прыйшоў дадому.

Другую хвіліну ён стаяў у цэнтры морга. Магчыма, у галаве гучалі бурныя воплескі. Ён не рухаўся і толькі паволі паварочваў галаву, вітаючы ўзрадаваную аўдыторыю, што галасна біла ў ладкі.

Ён асцярожна зняў пінжак, павесіў яго, апрануў свежы белы халат, прафесіянальным рухам прышчапіў манжэты. Акуратна памыў рукі, уважліва аглядаючы сваіх добрых сяброў, што ляжалі пад прасцінамі

Тыдзень быў проста выдатны. Пад покрывам ляжала некалькі чалавек, і стоячы перад імі, пан Бенедыкт адчуваў, што расце і расце, узнімаючыся ўсё вышэй над сталамі.

– Як Аліса!– здзіўлена сказаў ён сам да сябе.– Вышэй і вышэй Цікаўней і цікаўней!

Ён выцягнуў рукі і ўзняў іх у паветра.

Ён заўсёды адчуваў пэўнае трапятанне ў пакоі з мёртвымі целамі. Тут, сабе на здзіўленне і радасць, ён быў гаспадаром Тут ён мог рабіць з людзьмі ўсё, што заўгодна І яны мусілі быць з ім ветлівымі Яны не маглі збегчы І цяпер, як і ў іншыя падобныя дні, ён пачуваўся, як казачная Аліса, што расла і расла

– Так высока, высока, вельмі высока . пакуль галава не кранецца . столі

Ён хадзіў паміж людзьмі, што ляжалі пад прасцінамі. Адчуванне было такое самае, як калі ён выходзіў з апошняга сеанса кіно. Ён быў моцны, упэўнены ў сабе Усе глядзелі на яго, а ён быў такі прыгожы, такі правільны і смелы Такі самы, як герой кіно. Яго голас упэўнены, брыво рухаецца зухавата, пальцы лёгка пастукваюць па кругу кульбы. І гэты кінагіпноз працягваўся і дома, нават у сне. Так, ён пачуваўся ўпэўнена толькі ў двух месцах. У кінатэатры, і ў сваім тэатры смерці

Ён ішоў каля сталоў, чытаючы біркі.

– Пані Уолтэрс. Пан Сміт. Панна Браўн. Пан Эндрус. Добры вечар вам усім!

– Як вы сёння, пані Шэлмунд?– пацікавіўся ён, уздымаючы прасціну, як дзіця, што патаемна зазірае пад ложак. Вы выглядаеце цудоўна, дарагая.





Пані Шэлмунд ніколі не гаварыла да яго. Яна заўсёды праходзіла міма так, быццам ехала на нябачных каньках. І выглядала заўсёды элегантна.

– Мая дарагая пані Шэлмунд, сказаў ён, падсоўваючы крэсла і ўважліва разглядаючы яе праз павелічальнае шкло.– А ці ведаеце вы, што ў вас забруджаныя сальныя залозы? Пры жыцці вы былі тлустая навобмацак. Пазабіваныя скураныя поры. Тлушч і бруд, і прышчы. У вас была вельмі, вельмі салодкая дыета, пані Шэлмунд. Зашмат цукерак, піражных, печыва. Вы заўсёды ганарыліся сваім розумам, пані Шэлмунд, і лічылі мяне пылам пад вашымі нагамі. А мозг свой кармілі цукрам, салодкай вадой, шампанскім. А да мяне, пані Шэлмунд, ставіліся заўсёды з пагардай Вось чаму мы зробім наступнае

І ён правёў на ёй далікатную аперацыю. Зрабіў надпіл на чэрапе і зняў верхнюю яго частку. Акуратна выняў мозг. Потым запоўніў яе пусты чэрап бітай смятанкай, каляровымі стужкамі, зорачкамі з печыва і піражнымі. Зверху напісаў крэмам *«Салодкія мары»*, акуратна закрыў чарапную каробку і замаскіраваў шво грымам.

– Вось так,– задаволена прамовіў ён

І прайшоў да наступнага стала

– Дзень добры, пан Рэн. Дзень добры І як сёння пачуваецца наш адданы расіст? Чысцюткі, белы пан Рэн. Чысты, як снег, белы, як бялізна. Чалавек, які ненавідзеў габраяў і неграў Прадстаўнікоў меншасцяў, пан Рэн.

Ён прыўзняў прасціну. Пан Рэн глядзеў на яго шклянымі вачыма

– Паглядзіце на аднаго з прадстаўнікоў меншасці, пан Рэн. На мяне. Меншасці нязначных людзей. Тых, хто размаўляе адно шэптам Тых, хто баіцца гаварыць уголас. Тых, хто баіцца амаль усяго Ці ведаеце вы, *што* я збіраюся зрабіць з вамі, пан Рэн? Перш, дазвольце выпусціць з вас кроў, мой нецярпімы.

Кроў была выпушчаная

– А цяпер ін'екцыя, так бы мовіць, бальзаміруючай вадкасці

Пан Рэн, снежна-белы, чысцюткі, ляжаў, чакаючы, пакуль у яго ўлівалася гэтая вадкасць.

Пан Бенедыкт зарагатаў.

Пан Рэн зрабіўся чорным Чорным, як бруд. Чорным, як ноч.

Бальзаміруючай вадкасцю быў атрамант

***

– Дзень добры і *вам,* Эдмунд Ворт!

Якое прыгожае цела меў пан Ворт. Моцнае, з прыгожымі мускуламі і грудзямі, падобнымі на валун Жанчыны гублялі мову, калі ён праходзіў міма а мужчыны зайздросцілі чорнай зайздрасцю, марачы, што аднаго вечара яны маглі б пазычыць гэтае цела і прыемна здзівіць сваіх жонак. Але цела Ворта належала толькі яму, і ён карыстаўся ім для сваіх прыемных забаў, якія выклікалі столькі плётак сярод тых, каму падабаецца грэх.

– І вось вы тут,– сказаў пан Бенедыкт, з задавальненнем пазіраючы на цудоўнае цела На хвіліну ён паглыбіўся ў думкі пра ўласнае цела ва ўласным мінулым

Аднаго разу ён спрабаваў катавацца сваё цела з дапамогай апарата, які вы падвешваеце ў дзвярным праёме і падцягваецеся на ім, спадзеючыся дадаць цалю-другую свайму да смешнага маленькаму біцэпсу Каб хаця злёгку падфарбаваць сваю смяротна бледную скуру, ён ляжаў на сонцы Аднак ён «згарэў», яго скура зрабілася ярка-ружовай і пачала злазіць вялікімі шматкамі А што можна было зрабіць з маленькімі, блізка пастаўленымі вочкамі і невялічкім, слабым ротам? Можна перафарбаваць дом, спаліць старое смецце, пераехаць з трушчобаў, забіць уласную маці, купіць новую вопратку, прыдбаць аўтамабіль, зарабіць грошы, памяняць усё сваё асяроддзе на нешта новае Аднак чым можа дапамагчы розум, калі ў вас такі бязвольны рот, падобны на кавалак сыра? І яго самае блізкае асяроддзе не давала яму жыць. яго скура, цела, колер валасоў, голас не давалі яму ніводнага шанцу трапіць у свет, у якім мужчыны казыталі падбароддзе жанчынам, цалавалі іх, пацiскалі рукі сябрам і палілі духмяныя цыгары.

Думаючы пра ўсё гэта, пан Бенедыкт стаяў над вельмі прыгожым целам Эдмунда Ворта.

Ён адрэзаў Ворту галаву, паклаў яе ў дамавіну на невялікую падушку ружовага саціну Потым набіў дамавіну ста дзевяноста фунтамі цэглы, паклаў некалькі такіх самых падушак, каб усё выглядала як сапраўднае цела, і накрыў гэта коўдрай з блакітнага аксаміту па самае падбароддзе Выдатна атрымалася.

А само цела ён змясціў у маразілку.

– Перад смерцю, пан Ворт, я аддам загад, каб маю галаву пахавалі разам з вашым целам Да таго часу я буду мець адданага памочніка, які за грошы зробіць усё. Калі чалавек не можа мець добрае цела пры жыцці, то, прынамсі, можа набыць яго пасля смерці Дзякуй.

І ён бразнуў накрыўкай дамавіны Эдмунда Ворта.

***

Так як у мястэчку рабілася ўсё больш папулярна хаваць нябожчыкаў у закрытай дамавіне, гэта давала пану Бенедыкту вялікія магчымасці рабіць са сваімі «гасцямі» ўсё, што заўгодна Некаторых ён клаў у дамавіны дагары нагамі, некаторых тварам уніз, некаторыя рабілі брудныя жэсты А як смешна было працаваць з трыма старымі дзеўкамі, якія загінулі ў аўтакатастрофе, вяртаючыся з вячэры. Усе ведалі іх як найвялікшых пляткарак, якія ўвесь час пра нешта шапталіся І чаго не ведалі прысутныя на пахаванні (усе тры дамавіны былі закрытыя), дык таго, што, як і ў жыцці, усе тры былі ў адной дамавіне, абмяркоўваючы вечную, халодную, скамянелую плётку. Дзве іншыя дамавіны былі панабіваныя каменнем, пяском і смеццем Пахаванне было цудоўнае. Усе казалі

– Гэтыя тры неразлучныя нарэшце разлучыліся

– Так,– пагаджаўся пан Бенедыкт, хаваючы твар.

Маючы своеасаблівае пачуццё справядлівасці, аднаго з багацеяў пан Бенедыкт пахаваў абсалютна голым А жабрака–загорнутым у дарагую тканіну, з залатымі пяцідоларавікамі замест гузікаў і з дваццацідоларавымі манетамі на кожным воку. Адваката ён і ўвогуле не хаваў Спаліў таго ў печы, а ў дамавіне знаходзіўся дзікі кот

Старая дзеўка сталася ахвярай жахлівага жарту Пад ядвабным покрывам разам з ёй ляжалі рэшткі старога. Яна ляжала, гвалтаваная халоднымі органамі. Яна кахалася з халоднымі рукамі і іншымі чэлесамі. На яе твары быў выраз шоку.

Так і хадзіў ад цела да цела пан Бенедыкт, гаворачы да ўсіх трупаў, апавядаючы пра ўсе свае сакрэты Апошнім было цела Мерывела Блайта, старога, які часта траціў прытомнасць і ўпадаў у кому. Яго ўжо некалькі разоў бралі за мёртвага, але кожнага разу ён ачуньваў і не ставаўся ахвярай заўчаснага пахавання.

Пан Бенедыкт прыўзняў прасціну з твару пана Блайта.

Той міргнуў.

– А!– пан Бенедыкт кінуў прасціну

– Ты!– пачуўся з-пад прасціны голас.

Пан Бенедыкт упаў на каменны стол, яму было млосна

– Выпусці мяне!– чуўся голас Мерывела Блайта.

– Вы жывы!– сарваў з таго прасціну пан Бенедыкт

– Што я чуў, што я вымушаны быў слухаць апошнюю гадзіну!–галасіў стары, лежачы на стале і закочваючы вочы Лежачы тут, не ў стане зрушыцца і чуючы ўсе твае сакрэты! Ах ты чорная, чорная істота, жахлівая жывёла, звер, монстр. Дапамажы мне ўстаць. Я раскажу ўсё мэру і савету горада. Садыст і падманшчык, нягоднік, жахлівы чалавек. Толькі пачакай Я ўсё пра цябе раскажу!– вішчаў стары.– Дапамажы мне ўстаць!

– Не!– сказаў пан Бенедыкт, падаючы на калені

Толькі падумаць, што адбывалася ў нашым горадзе ўвесь гэты час, а мы нават не ведалі пра тое, што ты рабіў з людзьмі! Монстр, жахлівы монстр!

– Не,– шаптаў пан Бенедыкт, спрабуючы падняцца і зноў падаючы, ахоплены жахам.

– Што ты казаў!– пракурорскім тонам гаварыў стары.– Што ты рабіў з людзьмі!

– Прабачце,– прашаптаў пан Бенедыкт.





Стары паспрабаваў падняцца

– Не!– крыкнуў Бенедыкт і прытрымаў таго

– Пусці мяне!– крыкнуў стары.

– Не,– паўтарыў пан Бенедыкт.

Ён схапіў шпрыц і ўсадзіў іголку ў руку старога.

– Гэй!– дзіка крыкнуў стары, звяртаючыся да мерцвякоў.–Дапамажыце!

Ён ірвануўся да вокнаў, што выходзілі на могілкі.

– Вы, там пад зямлёй Ён так шмат зрабіў зла. Зрабіў мне і вам. Ён зрабіў гэтага зашмат. Не мірыцеся! Не дазваляйце яму рабіць гэта і з іншымі.

Стары аблізаў перасохлыя губы Ён слабеў

– Зрабіце ж яму нешта!

Пан Бенедыкт стаяў у шоку.

– Яны нічога не могуць мне зрабіць. Яны не могуць. Не могуць.

– Выходзьце з магіл!– галасіў стары.– Дапамажыце! Сёння, альбо заўтра, альбо ў іншы час. Але адпомсціце яму, гэтаму жахліваму чалавеку!

Стары заплакаў.

Якая дурнота,– драўляным голасам сказаў пан Бенедыкт –Вы паміраеце, таму верзяце лухту

Пан Бенедыкт ледзьве мог варушыць вуснамі. Вочы яго пашырыліся

– Памірай, хутчэй памірай!

– Уставайце ўсе!– крычаў стары – Выходзьце з магіл! Дапамажыце!

– Калі ласка, замаўчыце,– прасіў пан Бенедыкт – Я не хачу гэта чуць.

Раптам у пакоі зрабілася цёмна. Надышла ноч. Рабілася позна. Стары крычаў, але ўсё слабей. Нарэшце ён з усмешкай сказаў:

– Яны шмат выцерпелі ад цябе, жахлівы чалавек. Сёння яны адпомсцяць.

І стары памёр.

***

Казалі, што той ноччу на могілках адбыўся выбух. І не адзін. Чуўся дзіўны пах, нешта рухалася, рыкала. Ззяла святло, блішчэла маланка, ішоў дождж, а царкоўныя званы гудзелі на званіцы Пераварочваліся надмагільныя камяні, гучалі праклёны, у паветры нешта лётала. Чуліся крыкі, у моргу гарэла святло і былі бачныя шматлікія дзіўныя цені Усё рухалася, пацепвалася, торгалася. Павылятал шыбы і дзверы З дрэваў паспадала лісце, бразгала чыгунная брама. А пазней некаторыя бачылі пана Бенедыкта, які бегаў і бегаў, змяншаючыся і знікаючы. Святло раптам згасла, і пачуўся апошні, самы жахлівы крык – крык самога пана Бенедыкта.

А потым– цішыня.

***

Раніцой жыхары горада прыйшлі да морга. Яны абшукалі морг і царкву, а потым пайшлі на могілкі.

Яны не знайшлі нічога акрамя крыві. Вялізнае колькасці крыві, якой было запырскана ўсё навокал, куды хапала вачэй. Быццам усю ноч нябёсы плакалі крывёю.

Але пана Бенедыкта нідзе не было.

– Дзе ж ён можа быць?– цікавіліся ўсе

– Адкуль жа *нам* ведаць?– адказвалі яны самі сабе.

Але потым яны знайшлі адказ.

Прайшоўшы па могілках, яны апынуліся ў глыбокім цяні ад дрэваў, там, дзе рад за радам знаходзіліся старыя магілы з пазелянелымі ад часу камянямі Аніводная птушка не спявала на дрэвах. Сонечнае святло, якое нарэшце здолела прабіцца праз тоўстае лісце, выдавала на электрычнае слабае, незразумелае, тэатральна-няяркае

Людзі спыніліся каля аднае з магіл.

– Тут!– крыкнулі яны.

Усе спыніліся, нахіліліся над шэрым, пакрытым цвіллю каменем і ад нечаканасці крыкнулі

На ім быў свежы надпіс, быццам наскрабаны пазногцямі, адно імя: *ПАН БЕНЕДЫКТ*

Глядзіце сюды! крыкнуў нехта

Усе павярнуліся.

– Вось гэты камень, і вунь той, і той таксама!– крыкнуў чалавек, паказваючы на пяць камянёў

Усе разбегліся па магілках, чытаючы надпіс.

На кожным надмагільным камяні пазногцямі было наскрабана адное і тое ж:

ПАН БЕНЕДЫКТ

Людзі былі ў шоку

– Але ж гэта немагчыма,– слаба запратэставаў адзін з іх – Ён *не можа* быць пахаваны ва ўсіх гэтых магілах!

Усе стаялі моўчкі Інстынктыўна яны паглядвалі адзін на аднаго Чакаючы адказу І адзін з іх проста сказаў слабым голасам·

– Ды няўжо не?

# ЦМОК

Начны вецер дзьмуў над кароткай травой верасовае даліны, больш там не рухалася нічога. Вось ужо некалькі гадоў ніводная птушка не пралятала ў вялікай сляпой ракавіне неба Даўным-даўно некалькі невялічкіх камянёў упалі ў пыл і ажывілі жыццё Цяпер жа ў душах двух мужчын, што сядзелі ля адзінокага вогнішча, рухалася адно ноч Цемра ціха пульсавала ў іх венах, мякка казычучы скроні і кісці рук.

Агонь час ад часу асвятляў іх дзікія твары, адбіваючыся ў вачах аранжавымі лахманамі Яны слухалі слабы, халодны подых адно аднаго і чулі нават ціхі, як у яшчарак, рух павекаў. Нарэшце адзін з іх паварушыў вуголле мячом

– Ты што, ідыёт! Ён нас заўважыць!

– Не мае значэння, – адказаў той – Цмок можа пачуць наш пах за некалькі міль. Божа, ну і холад. Лепш бы мы цяпер былі ў замку

Мы тут шукаем смерць, а не сон...

– Але навошта? Цмок нават не падыходзіў да горада!

Маўчы, дурань! Ён з'ядае адзінокіх вандроўнікаў з нашага горада!

– Ну і няхай ён іх з'ядае, а мы паедзем дадому!

– Чакай! Што там?

Мужчыны застылі

Яны чакалі доўга, але чулася адно нервовае трымценне скуры іх коней, быццам тамбурыны чорнага аксаміту мякка званілі срэбнымі званочкамі страмён

– Вох, – уздыхнуў другі. – Што за зямля кашмараў Тут усё можа адбыцца. Нехта задзьмувае сонца, і на даліну падае ноч. А цмок! Божа мой! Людзі кажуць, што ён мае вогненныя вочы Яго подых – гэта белы газ. Ён імчыцца праз цёмную зямлю. Ён бяжыць са страшным гукам і зрэзвае траву Авечкі ўпадаюць у шал і паміраюць, звар'яцеўшы. Жанчыны нараджаюць монстраў. Моц цмока такая вялікая, што муры вежаў ператвараюцца ў пыл. Ягоныя ахвяры асвятляюцца ранішнім сонцам параскіданыя на ўзгорках. І я пытаюся, колькі рыцараў выходзілі на бойку з цмокам і загінулі, так, як сёння загінем і мы?

– Хопіць!

– Хопіць? Ды ў гэтай пустэчы я нават не памятаю, які цяпер год!

Дзевяцьсот гадоў мінула з дня Нараджэння Хрыста.

Не, не, – прашаптаў другі, заплюшчыўшы вочы – У гэтай пустэчы няма Часу, тут ёсць адно Вечнасць. Мне падаецца, што калі цяпер я пабягу назад на дарогу, то не знайду горада, людзі яшчэ не нарадзіліся, усё памянялася Замкі яшчэ не паўсталі з навакольнага камення Драўляная брама ўсё яшчэ не ссечаная стаіць дрэвамі ў лесе Не пытай мяне, адкуль я ведаю гэта. Гэта ведае даліна і апавядае мне. А мы сядзім тут на зямлі вогненнага цмока! Дапамажы нам Божа!





– Калі баішся, то апрані браню!

– А навошта? Цмок з'яўляецца ніадкуль. Мы не ведаем, дзе яго дом Ён знікае ў тумане, і мы не ведаем, куды ён накіроўваецца. Што ж, апранём браню і памром у добрым адзенні.

Апранаючы пасярэбраную кальчугу другі мужчына спыніўся і павярнуў галаву.

Праз цёмную даліну, поўную ночы і пустаты з самага сэрца пустэчы вецер узняў слуп пылу з гадзіннікаў, што выкарыстоўваюць пыл, каб паказваць час. У сэрцы гэтага новага ветру палалі чорныя сонцы, а таксама мільёны асенніх ліасткоў, якія паспадалі з дрэваў далёка за даляглядам Гэты вецер плавіў краявіды, расцягваў косткі, быццам тыя былі з белага воску, і прымушаў кроў загусаць у мозгу, як ліпкі бруд. Вецер быў тысячамі душаў, што памералі ў страшэнным непакоі Гэта быў туман пасярэдзіне імжы, пасярэдзіне цемры. То было месца не для людзей, яно не мела часу ўвогуле. Толькі гэтыя двое стаялі пасярэдзіне жахлівае пустаты, дзе іх заспеў нечаканы мароз, шторм і белы гром, які рухаўся па-за вялікай масай зялёнае травы, што была маланкай Кроплі дажджу ўпалі на зямлю і зашамацелі вакол двух рыцараў, што чакалі

– Вунь, – прашаптаў першы. – Вунь там.

У некалькіх мілях адсюль з гучным рыканнем да іх нёсся цмок.

Моўчкі рыцары апранулі даспехі і залезлі на коней. Паўночная цішыня з набліжэннем цмока раздзіралася рыканнем. Яго жоўтае вока блiснула над пагоркам, а потым паказаліся амаль нябачныя кольцы цела, што ахапілі пагорак, накіроўваючыся ў даліну

– Хутка!

Яны прышпорылі коней і паскакалі да невялікае пячэркі

– Ён заўсёды праходзіць тут!

Яны схапілі дзіды і апусцілі забралы коням на вочы

– Божа!

– Так, з імем Бога!

У імгненне цмок ахапіў пагорак, і яго жахлівае вока асвятліла рыцараў, замільгацела чырвоным і аранжавым на даспехах. З дзікім працяглым крыкам і скрыгатам цмок скочыў наперад.

Літасцівы Божа!

Дзіда патрапіла пад жоўтае безабароннае вока, і чалавек паляцеў у паветра Цмок піхнуў яго, падмяў пад сябе і раздушыў сваім целам Чорная гара цмокавага пляча стукнула другога рыцара, адкінуўшы яго на вялікі валун З віскам і крыкам цмок, рассыпаючы агонь і жоўтыя, ружовыя, аранжавыя іскры, схаваўся ў воблаках белага, сляпучага дыму

– Ты *бачыў?* – крыкнуў нехта – Што я казаў табе!

– Тое самае! Рыцар у даспехах! О, Божа! Мы збілі яго!

– Спынімся?

Аднойчы я спыніўся, але нічога не знайшоў Не люблю спыняцца ў гэтай даліне Мурашкі па спіне бегаюць.

Але ж мы нешта збілі!

– Мы папярэдзілі яго свістком. Напэўна, ён быў глухі

Туман раптам расступіўся

– У Стокі будзем згодна раскладу Падкінь вугалю, Фрэд.

Яшчэ адзін рэзкі свісток страсянуў паветра Начны цягнік, увесь у агні і дыме, прабег праз вузкую даліну і знік у напрамку поўначы, пакінуўшы пасля сябе адно воблака чорнага дыму, што вісела яшчэ колькі хвілін над месцам, з якога ён толькі што знік.

# СМЯЦЯР

Ягоны працоўны дзень пачынаўся так: ён уставаў а пятай і мыў твар цёплай вадой, калі награвальнік быў спраўны, альбо халоднай, калі той быў няспраўны. Асцярожна галіўся, размаўляючы з жонкай, якая на кухні гатавала яму яечню з вяндлінаю, ці бліны,

ці што яшчэ там магло быць. А шостай ехаў на працу, і паркаваў машыну пад прамянямі ранішняга сонца; там паркавалі свае аўтамабілі ўсе смецяры. Неба ў гэты час было аранжавае і блакітнае, і фіялетавае Часам яно было ярка-чырвонае, часам жоўтае, а часам яснага колеру вады на белым камені. Часам ён мог бачыць свой подых у паветры, а часам не Калі сонца пачынала ўставаць, ён стукаў кулаком па зялёным грузавіку, ягоны шафёр залазіў у кабіну, вітаўся з ім, і яны ехалі ў вялікі горад да месца працы Час ад часу яны спыняліся, каб папіць чорнае кавы, і далей ехалі ўжо з цеплынёю ўнутры. А потым пачыналася праца ён вылазіў каля кожнага дома, браў бачкі са смеццем, нёс іх да машыны і перакульваў у яе З бачкоў выпадалі недагрызкі, апельсінавая лупіна, косткі. Грузавік пачынаў поўніцца смеццем. У смецці заўсёды былі рыбныя галовы, зялёная цыбуля, старая салата. Калі смецце было новае – гэта было добра, калі ж старое –яно смярдзела I гэта было ўжо вельмі блага Ён не быў упэўнены, любіў ён сваю працу ці не, але гэта была праца, і ён яе рабіў добра. Час ад часу ён многа гаварыў пра яе, а часам нават і не думаў Часам праца была проста цудоўная: ты прачынаўся рана, паветра было прахалоднае, свежае, пакуль сонца не рабілася гарачым і смецце не пачынала смярдзець. Але ў асноўным гэта была важная праца, якая займала яго цалкам А адзін ці два разы на месяц ён са здзіўленнем адчуваў, што любіць гэтую працу і што яна лепшая за ўсё на свеце.

Так працягвалася шмат гадоў. I раптам праца змянілася для яго Змянілася за адзін дзень. Потым ён пытаўся сам у сябе. як гэта праца можа змяніцца літаральна за некалькі гадзін

***

Ён увайшоў у кватэру і не ўбачыў жонкі, не пачуў яе голасу, хаця яна была тут, побач. Ён прайшоў у пакой, а яна стаяла і глядзела, як ён дакрануўся да крэсла і моўчкі сеў I сядзеў доўга.

– Штосьці не так? – урэшце голас прабіўся да яго. Яна, пэўна, спыталася тры альбо чатыры разы.

Не так? ён паглядзеў на жанчыну – гэта сапраўды была ягоная жонка, і гэта сапраўды быў пакой ягонае кватэры з высокай столлю і вылінялымі шпалерамі

– Нешта здарылася сёння на працы, – сказаў ён.

Яна чакала

– Нешта здарылася з машынаю.

Ён аблізаў сухія вусны і заплюшчыў вочы, каб не бачыць аніякага святла. быццам ты прачнуўся апоўначы адзін у пакоі

– Я думаю кінуць працу. Паспрабуй зразумець мяне.

– Зразумець?! – крыкнула яна.

– Ужо нічога не зробіш Гэта надзвычайнейшая рэч, што здарылася са мной, – ён расплюшчыў вочы і сядзеў, паціраючы пальцы. яны былі халодныя – Надзвычайным было тое, *што* здарылася

Ён выняў з кішэні абрывак газеты

– Сённяшняя газета. «Лос-Анжэлес Таймс», дзесятага снежня, 1951 года. Бюлетэнь грамадзянскае абароны. Тут пішацца, што на ўсе смеццязборныя машыны паставяць радыё.

– Ну і што дрэннага ў тым, што ты паслухаеш музыку?

– Ніякае музыкі Ты не зразумела Ніякае музыкі.

Ён раскрыў грубую далонь і падкрэсліў патрэбнае месца пазногцем, падкрэсліў паволі, старанна, каб яна ўбачыла ўсё сама.

– У гэтым артыкуле мэр піша, што яны паставяць рацыі на ўсе смеццязборныя машыны, – ён паглядзеў на далонь. – Пасля таго, як атамныя бомбы ўпадуць на горад, рацыі ўключацца. А потым нашыя машыны паедуць збіраць трупы.

– Але гэта практычна. Калі .

Смеццязборныя машыны, – паўтарыў ён, – паедуць збіраць трупы.

– Нельга ж каб мерцвякі ляжалі паўсюль. Іх трэба...

Яна вельмі павольна закрыла рот. Міргнула Толькі адзін раз, і таксама вельмі павольна. Ён глядзеў на яе Потым, павярнуўшыся так, быццам нехта зрабіў гэта за яе, жанчына падышла да крэсла, пастаяла і села. Вельмі напружана і асцярожна, быццам не ведаючы, як гэта робіцца. Яна маўчала.

Яны сядзелі так доўга Моўчкі слухаючы ціўканне гадзінніка.

Нарэшце яна засмяялася·

– Яны жартавалі!

Ён пахітаў галавой. Ён адчуваў, як галава рухалася злева направа і наадварот Павольна, як і ўсё, што адбывалася ў пакоі.

– Не. Сёння ў маю машыну паставілі рацыю. Мне сказалі, што калі прагучыць сігнал трывогі, я павінен выкінуць смецце на вуліцу «Калі мы выклічам цябе, руш да нас і пачынай збіраць мерцвякоў»

Было чуваць, як у кухні на пліце кіпела вада. Жанчына дала ёй пакіпець секунд пяць, потым устала, трымаючыся за більца крэсла, знайшла дзверы і выйшла. Гук кіпення змоўк. Яна пастаяла ў дзвярах, потым прайшла туды, дзе нерухома сядзеў ён Вочы яго глядзелі ў адну кропку

– Усё ўжо размеркавана. Яны маюць аддзяленні, сяржантаў, капітанаў, капралаў Усё, – сказаў ён. – Мы нават ведаем, куды звозіць мерцвякоў.

– Дык ты думаў пра гэта ўвесь дзень.

– З раніцы Я думаў· мабыць цяпер я больш не хачу быць смецяром Для нас з Томам гэта было нечым накшталт вясёлае гульні Ты павінен рабіць гэтую працу. Смецце гэта дрэнна. Але калі ты працуеш з ім, усё можаш ператварыць у гульню. Мы з Томам так і зрабілі Мы працавалі са смеццем і глядзелі, якое яно ў розных людзей Мясныя косткі ў багатых дамах, салата і апельсінавая лупіна ў бедных Зразумела – гэта недарэчна, але ты павінен зрабіць сваю працу самай лепшай і патрэбнай А інакш навошта ёю займацца? У машыне ты сам сабе гаспадар. Ты прачынаешся ўранку і працуеш на свежым паветры Бачыш, як устае сонца, як прачынаецца горад. I гэта зусім нядрэнна. Але сёння я раптам адчуў, што гэтая праца больш не для мяне

Жонка пачала хутка гаварыць. Яна прыгадала безліч рэчаў і гаварыла б яшчэ, але ён мякка спыніў яе

– Я ведаю, ведаю Дзеці і школа I наша машына Я ведаю. I рахункі, і грошы, і крэдыты Але ж у нас ёсць бацькава ферма Чаму б не паехаць туды, далей ад гарадоў? Я крыху знаюся па сельскай гаспадарцы Мы б назапасілі таго-сяго, закапаліся б у зямлю I мелі б даволі ўсяго, каб пражыць некалькі месяцаў, калі нешта здарыцца

Яна нічога не адказала.

– Вядома, усе нашыя сябры тут, у горадзе, – разважаў ён далей, – і кіно, і забавы, і сябры дзяцей, і...

Яна цяжка ўздыхнула

– Мы можам падумаць некалькі дзён?

– Не ведаю. Я баюся гэтага Баюся, што калі пачну абмяркоўваць становішча, то прызвычаюся да гэтае думкі. I, Божа ты мой! Як дрэнна, калі чалавек дазваляе сабе прызвычаіцца да ТАКОГА!

Яна паволі пакруціла галавой, гледзячы ў акно на шэрыя муры і цёмныя карціны на іх. Сціснула рукі і пачала была гаварыць.

– Я падумаю пра гэта ноччу, – сказаў ён. – Не буду класціся спаць, і раніцай ужо буду ведаць, што рабіць.

– Асцярожна з дзецьмі. Ім лепш нічога не ведаць.

– Я буду асцярожны.

– Тады не будзем больш пра гэта. Пайду гатаваць вячэру

Жанчына падхапілася, закрыла твар рукамі, потым адняла рукі і паглядзела на сонечнае святло ў вокнах.

– Божа, дзеці хутка вернуцца! А ў мяне нічога няма.

– Я не вельмі галодны

– Табе трэба паесці

Яна выбегла, пакінуўшы яго аднаго пасярод пакоя, дзе нават маленькі ветрык не кранаў фіранкі. Над ім вісела шэрая столь з адзінокай лямпачкай, падобнай на стары

месяц у небе. Ён сядзеў ціха Потым пацёр твар Падняўся, пастаяў у дзвярах сталовай Пайшоў і адчуў, што сеў там на крэсла На белым абрусе ён бачыў свае рукі.

– Цэлы дзень, сказаў ён, – я думаў.

Яна прайшла праз кухню, пазвінела лыжкамі і стукнула каструлямі па цішыні, што панавала паўсюль.

– Я цікавіўся, гаварыў ён, – як класці мерцвякоў у машыну Уздоўж ці ўпоперак? Галовамі ўправа ці ўлева? Мужчын і жанчын разам ці паасобку? Дзяцей у асобную машыну ці разам з дарослымі? Сабак у спецыяльную машыну ці не браць увогуле? А колькі трупаў змесціцца ў машыне? Як трэба іх класці? Адзін на адзін? Ніяк не магу зразумець. Спрабую, але нічога не атрымліваецца Колькі ж трупаў можна загрузіць у адну смеццязборную машыну?

Ён сядзеў і ўяўляў сабе, як у канцы працоўнага дня машына будзе поўная. І покрыва, што хавае вялізную гару смецця, абрысоўвае ўсе няроўнасці І што б ён адчуў калі б раптам сарваў покрыва і зазірнуў пад яго Некалькі секунд ён бачыў нейкія белыя рэчы, падобныя на макарону ці локшыну Гэтыя рэчы былі жывыя і нібыта кіпелі Мільёны белых рэчаў. Потым яны адчувалі гарачыню сонца і хаваліся пад салату, старую ялавічыну, рыбныя галовы. Праз дзесяць секунд сонечнага святла ўсе белыя рэчы, падобныя на локшыну ці макарону, знікалі, і вялікая гара смецця ляжала ціха і нерухома Ён зноў закрываў яе покрывам, якое абрысоўвала ўсю калекцыю Ён ведаў, што пад покрывам было цёмна і гэтыя рэчы пачыналі рухацца У цемры яны заўсёды павінны рухацца

Ён усё яшчэ нерухома сядзеў у пустым пакоі, калі дзверы расчыніліся Убеглі дачка і сын Яны смяяліся, але, убачыўшы яго, змоўклі.

Маці хутка падышла да дзвярэй кухні і паглядзела на сваю сям'ю Яны ўбачылі яе твар і пачулі яе голас.

Сядайце, дзеці, сядайце! – яна працягнула руку – Вячэра ўжо гатовая.

**Пераклаў з англійскай**
**Алесь КУДРАЎЦАЎ.**

# ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

*Я не спрабую апісваць будучыню. Я спрабую прадухіліць яе.*

**Так ахарактарызаваў сваю працу Рэй Дуглас Брэдберы, якога ўсе выдаўцы сціпла ахрысцілі «найзнакаміцейшы сучасны аўтар навуковае фантастыкі ў свеце».**

**Рэй Брэдберы нарадзіўся 22 жніўня 1920 года ў горадзе Вокеган, штат Ілінойс. У 1938 годзе ён скончыў сярэднюю школу ў Лос-Анжэлесе. На гэтым завяршылася яго фармальная адукацыя. На працягу чатырох гадоў пасля заканчэння школы ён гандляваў газетамі на вуліцы. Сваё першае апавяданне Брэдберы прадаў у 1941 годзе. З таго часу ён надрукаваў каля пяцісот кароткіх апавяданняў і некалькі раманаў. Яго першы зборнік «Чорны карнавал» з`явіўся ў 1947 годзе і да гэтай пары лічыцца адной з лепшых кніг «літаратуры жахаў». Потым з друку выйшлі такія вядомыя працы, як «Марсіянскія хронікі» (1950) (бадай, самы знакаміты зборнік Брэдберы), «Татуіраваны мужчына» (1951), яго самы вядомы (хаця, магчыма і не лепшы) раман «451 градус па Фарэнгейту» (1953). Многія крытыкі характарызуюць жанр, у якім піша Брэдберы, як «навуковая фантастыка сацыяльнае накіраванасці», аднак адзін з найадданых прыхільнікаў Рэя Брэдберы Стывен Кінг справядліва заўважыў, што «...Брэдберы пісаў і піша чыста намінальную фантастыку. Нават у сваіх «касмічных» апавяданнях яго цікавяць зусім не рухавікі на антынеонах ці канвертары рэлятыўнасці. За гэтым трэба звяртацца да такіх пісьменнікаў, як Лэры Найвен ці Роберт Хайнлайн. А вось калі вы хочаце ведаць, што можа прынесці вам будучыня – чытайце Курта Ванегута ці Рэя Брэдберы». І тут ён цалкам мае рацыю. Калі Брэдберы і піша фантастыку, дык сапраўды адно намінальна. Дзеянне можа адбывацца на Марсе (улюбёнай планеце аўтара), альбо на Венеры, альбо ў ракеце, але на гэтым уся фантастыка і заканчваецца. Усё іншае – нашае звычайнае жыццё, магчыма, крыху ўтрыраванае (толькі хто можа ведаць гэта напэўна?). Брэдберы паказвае, што хаваецца ў глыбіні душы кожнага з нас. Дэманструе, што можа адбывацца за знешне прыстойным фасадам. Паспрабуйце прачытаць большасць яго апавяданняў перад сном, і ноч кашмараў вам гарантаваная. І хаця Брэдберы, хутчэй, піша ў жанры літаратуры жахаў, ён не хоча запалохаць нас. Ён папярэджвае. А лепш за ўсё такія папярэджанні адкладаюцца ў свядомасці, калі яны асацыіруюцца з нечым жахлівым. Спрэчна? Безумоўна. Але тое, пра што не спрачаюцца, альбо нуднае, альбо да млоснасці саладжавае. Вядома, Брэдберы не засяроджваўся адно на жахах. Усе мы ведаем яго раман «Віно з дзьмухаўцоў» – цёплую, настальгічную кнігу пра невялікае амерыканскае мястэчка. Дый у кожным зборніку кароткіх апавяданняў абавязкова ёсць два-тры, што проста зззяюць дабрынёй. Брэдберы не хоча палохаць нас. Ён хоча папярэдзіць. А каб мы верылі ў тое, што зло будзе пераможана, ён піша свае «добрыя» апавяданні пра каханне і пяшчоту. Брэдберы – дзіўны чалавек. У ім быццам змяшалася кроў друідаў, рамантычных трубадураў, смелых вікінгаў і грубых піянераў, што рушылі асвойваць Новы свет.**

**Брэдберы адухаўляе космас, абуджае паганства. Нават планеты збіваюцца з вечных арбіт ад вясёлага хмелю ягонага віна з дзьмухаўцоў. І ўсё мяняецца, прымаючы нязвыклае, часам палохаючае аблічча. «Фантастыка, – заўважыў неяк Брэдберы, – цудоўны молат, якім я збіраюся карыстацца час ад часу, апускаючы яго на некаторыя галовы, што не хочуць пакінуць у спакоі сабе падобных».**

**Брэдберы – паэт, тонкі аналітык і мудры філосаф. Трагедыя і сум, як сплеценыя ў ручаі струмяні вады, праходзяць праз усю ягоную творчасць. Аднак ніколі не сцякае гэты ручай у цёмную багну адчаю.**

**На беларускую мову Брэдберы, на жаль, перакладаўся няшмат: тры апавяданні ў старой «Крыніцы», столькі ж у «Бярозцы» і «Даляглядах». Вось і ўвесь Брэдберы на Беларусі. Для параўнання прывядзём спіс кніг (няпоўны), што выдаў Рэй Дуглас Брэдберы на бацькаўшчыне.**

**Зборнікі апавяданняў:**

*Dark Carnival (1947)*
*Martian Chronicles (1950)*
*The Illustrated Man (1951)*
*The Golden Apples of the Sun (1953)*
*A Medicine for Melancholy (1959)*
*The October Country (1955)*
*The Machineries of Joy (1964)*
*I Sing the Body Electric (1969)*
*Long After Midnight (1976)*
*R is for Rocket*
*S is for Space*

**Раманы:**

*Fahrenheit 451 (1953)*
*Dandelion Wine (1957)*
*Something Wicked This Way Comes (1963)*
*Death is a Lonely Business (1985)*
*Graveyard for Lunatics (1990)*

# НАЙНОЎШАЯ ГІСТОРЫЯ ТВАРЭННЯ ВОЛЬНАЕ ЛІТАРАТУРЫ (ТВЛ)

## ЯНО

### Слова ад аўтара

***Выпусціўшы ў свет фундаментальнае сваё даследаванне «ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЕ САВЕЦКАЕ ЛІТАРАТУРЫ» («Крыніца N 13), аўтар атрымаў шмат удзячных лістоў за сваю карысную і ва ўсіх адносінах неабходную працу. Аднак сярод станоўчых і ўхвальных водгукаў трапляліся і нараканні. У прыватнасці, чытач з горада Прапойска Глеб Заглотаў упікае аўтара за тое, што ён абыходзіць увагаю суцэльны кагал маладых талентаў і дараванняў. А там жа такое дзеецца, такое!.. Палічыўшы падобныя заўвагі слушнымі, аўтар стаў скрупулёзна ды ашчадна збіраць матэрыял па прапанаванай тэме. У выніку чаго, калі ён (матэрыял. –*** *Заўвага К.М.*) ***набраў крытычную масу і нават пачаў пагражаць выбухам, аўтар быў вымушаны акрэсліць сабе больш вузейшае кола – а менавіта спыніцца ды пільна ўгледзецца ў тваральнікаў вольнае літаратуры (ТВЛ), паколькі, дазволю ўзяць на сябе такую смеласць, яны і толькі яны з'яўляюцца закладальнікамі падмурка пад найноўшую беларускую і нязменна савецкую літаратуру.***

### Уласна гісторыя

.. Карацей, напавылазіла неяк з-пад карчоў у Наваполацку процьма патлатых ды барадатых літаратараў, якія прышкандыбалі ў слыннае месца беларускіх нафтаперапрацоўшчыкаў адкуль толькі магчыма, але да пары да часу пад гэтымі самымі карчамі сядзелі. Вось на святло іх выперла, ды туга неадольная сэрцы раздзіраць пачала: «Волі хочацца! Абсалюту!»

«Абсалют» знайшлі досыць хутка – якраз гэтага дабра ў камках было хоць запіся. Запівацца, аднак, не сталі. Бо адных ад такое абсалютовае перспектывы гідзіла, а іншых яшчэ ўчарашні трывалы запас непахіснае ісціны трымаў Больш складана было з воляю. Тут узняўся будучы стырнавы вольных літаратараў Алесь Аркуш ды мовіў: «Паколькі ўсе мы тут трохі, а хто і добра пыльнутыя, дык адпаведна і вольныя! Бо толькі ў шызе можа здабыць шчасце і волю посттаталітарнае маргінальнасці чалавек!»

На тым і вырашылі тварыць надалей вольную літаратуру (ТВЛ). А паколькі «Абсалюту» хапала на ўсіх аж з лішкам, то наталяцца літра-аратарствам (неалагізм С. Грахоўскага) болей не сталі, а злілі рэшту ў прагныя пашчы бадзяжных мясцовых сабак. Нямала дзівячыся на тое, Алесь Касцень пад канец заўважыў: «Першы раз бачу, каб паэты ад гарэлкі насы варочалі»

***

Аднойчы Славамір Адамовіч купіў сабе новыя боты. «Бляха муха, – думае, калі гэтымі ботамі – ды па прэзідэнцкай ці прэм'ерскай пысе, то якая моцная зваротная правакацыя атрымаецца!» Думка гэтая не давала яму спакою ні ўдзень, ні ўначы, ні ўвечары, ні ўранні. Тады С. Адамовіч здзейсніў-такі лёсам яму наканаванае, і пакуль яго цягнулі ўжо за босыя ногі без ботаў у бліжэйшы пастарунак, галава С. Адамовіча неміласэрна білася аб брукаванку ды выбівала бессмяротныя радкі кнігі «Зваротныя правакацыі», якая была прызнаная «Нашай Нівай» лепшым паэтычным зборнікам 1994 года.

***

Аднойчы Алесь Аркуш скраў з Полацкае друкарні імя Ф. Скарыны тры кіло першакласнай фінскай паперы. «Ну, усё, – прыйшла яму ў галаву геніяльная думка, – я цяпер, як той Францішак, – беларускі выдавец!» (Тут мусім адзначыць, што старэнькая трафейная друкачка «Ундэрвуд» у А. Аркуша была свая.) Скрадзеную паперу ён схаваў у калоссі. А каб





не забыцца, дзе, даў адпаведны назоў часопісу, у які не марудзячы сталі прапіхваць усялякую лухту тваральнікі вольнае літаратуры (ТВЛ). З прычыны ж таго, што трох кіло першакласнай фінскай паперы наваяўленаму выдаўцу відочна не хапала, то ён парупіўся, каб здабыць падтрымку Фонду Сораса, які, як вядома, фінансуе ўсе шкодніцкія ды сумнеўныя праекты на Беларусі са зламысным намерам адсмактаць потым затлумленыя мазгі ў Амерыку У Амерыку, аднак, А. Аркуш так і не адсмактаўся, бо і па сённяшні дзень ходзіць па калоссі, дарэмна шукаючы скрадзеную ды занадта добра схаваную ім жа самім паперу.

***

Аднойчы Павал Бурдыка прыйшоў да Алеся Аркуша дый кажа: «У мяне ёсць таямніца, і ў цябе ёсць таямніца. Давай складзём іх разам ды выдадзім «Тайніцу». «Ну, добра, – адказвае А. Аркуш. – А што будзе?» «А будзе, – аж шалам зайшоўся П. Бурдыка, – альтэрнатыўны друк!» «А як па шапцы?» – не кінуў свае сумлевы Аркуш. «А як па шапцы, – не сунімаецца Бурдыка, – то мы тады атабарымся ў падполлі ды будзем адтуль выдаваць творы вольнае літаратуры (ТВЛ)!» У падполлі яны так і сядзяць, бо тых, хто вытыркаецца на паверхню, косяць кулямётчыкі, а кніжка-дуплет «Тайніца» навечна сталася яскравым узорчыкам («обрázчик». – *Расейск.*) тварэння альтэрнатыўнае вольнае літаратуры.

***

Аднойчы Лявон Вольскі выйшаў у калідор. А там свінні. Ну, думае, трэба адстрэльвацца. Грэб гітару ды давай дзірбаніць. Усе падаюць. А.Л. Вольскі ўскочыў у кастрычніцкі цягнік і паехаў піць піва без чаргі, пакінуўшы ў калідоры гару свінскіх («свінячых» – удакладняе ён сам) трупаў, якія прыходзяць да яго штоночы непрыхаванымі, жуда-страхотнымі кашмарамі. Вытрываць гэтае жуды адзін Л Вольскі не мог. Таму ён гукнуў на дапамогу яшчэ з добры тузін паэтаў-тваральнікаў вольнае літ-ры (ТВЛ), з якіх асабліваю адметнасцю вызначыліся Лявон Гамонскі, Гамон Кастольскі, Кастусь Ляванец, Валюсь Лявонскі, Кастон Кастусец, Лявон Гальскі, Гамусь Вальманец, Лятусь Магальскі, Саткусь Маганец, Кастусь Гаманец і якія ў супольнасці сфастрыгавалі надзвычай змястоўную і надзіва карысную ў плане барацьбы са свінячымі кашмарамі кнігу «Калідор», у які Л. Вольскі калісьці выйшаў

***

Аднойчы Юры Гумянюк баўдануўся ў ванну Плюскаецца, бурбалкі пускае дый думае: «О, балдзёж! О, нірвана!» А ў дадатак да гэтага паслаў (некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што пусціў – *Заўвага К.М.*) ці то на паверхню, ці то пад ваду крамольную мысль. «Каб я быў яшчэ апосталам, то хадзіў бы па вадзе, акі па пасуху». І пільна так стаў узірацца ў свой уласны (ясна, што ў свой, у чый жа яшчэ?! – *Заўвага К.М.*) чэляс, каб найбольшы нірванічны эфэкт атрымаць. У выніку чаго Ю Гуменюку пачала мроіцца агульная кампазіцыя ягонага першага неўміручага рамана «Апосталы нірваны», у якім чэлясаў на кожнай старонцы ёсць болей чым дастаткова, а калі няма, то пакінуты іх выразныя і адметна стылёвыя сляды, якія навечна залатымі літарамі ўпісаліся ў тварэнне вольнае літаратуры (ТВЛ).

***

Аднойчы Анжаліна Дабравольская ўбачыла аркуш белай паперы. З таго часу яна стала паэткаю. І нават выдала кніжку, якую назвала далікатным слоўкам «Пазамежнасць». А таму аўтар гісторыі тварэння вольнае літаратуры (ТВЛ) вырашыў таксама далей далікатна змаўчаць.

***

Аднойчы Алесь Касцень узяў кісцень і пайшоў працаваць у «Звязду» Што з таго сталася – можна ўведаць, чытаючы штодня першую і апошнюю беларускую газету Тваральнікі вольнае літ-ры (ТВЛ), не церпячы манаполіі на інфармацыю, даверылі яму за гэта друкаваць першы нумар «Калосься» ў Паставах, што А. Касцень паспяхова і заваліў, таму як з кісценем сваім не развітваўся ні на хвілю, і, нават да тварэння вольнае літ-ры (ТВЛ) далучаючыся, у сцяну ім гахнуў з сакраментальнымі словамі: «Хоць я тут і самы стары, ядры тваю ў корань, ды акуляры ў мяне цёмныя, во!» І пайшоў шукаць сухое чырвонае віно ў краму, каб сагрэцца, бо ад тых слоў нават яго самога спінадрыг браць стаў, а валасы на галаве дыбарам узняліся.

***

Аднойчы Вінцэсь Мудроў забрындаў у стэп. А быў ён ужо да такой ступені зморана, што аж уваччу рабілася чорна. Змора тая булькацела ды шалялёхала рэштамі ў полекамандзерскае кайстры, што вісела ў яго на баку. Тут насустрач В. Мудрову выйшлі постсавецкія памежнікі, папярэдне наклаўшы ў .. (тут неразборліва. – *Заўвага выдаўцоў*) ад страху, і запатрабавалі дакументы ізраільскага прадстаўніцтва. Паколькі В. Мудроў ніколі не быў падданым краіны з чужою і нават варожаю нам ідэалогіяй, то постсавецкім памежнікам ён пальнуў у лоб полекамандзерскаю кайстраю. Ад чаго вочы іхнія счарнелі яшчэ болей за мудроўскія, а рэшта з неверагодным нахабствам у стэпавы пясок уся ўсмакталася

З таго часу В. Мудроў так і сядзіць у тым стэпе, разам з памежнікамі па пяску соўгаючыся ды дарэмна хоць кроплю рэшты тае адшукваючы А ў моманты, калі накочвае асаблівая туга і невыноснасць па радзіме, кладзе сабе на калені полекамандзерскую кайстру і, буйнашротавымі слязьмі яе мочачы, піша чарговую рэдакцыю слыннага аповеду «Палонны чорнага стэпу», нават і пад пільным наглядам постсавецкіх памежнікаў творачы вольную літру (ТВЛ).

***

Аднойчы Сяржук Мінскевіч і Алесь Туровіч упалі ў транс. Дакладней, трансаваў толькі адзін з іх, а другі ў гэты час шукаў у падобнай трасцы (першапачатковае напісанне «падобным трансе», ды выдаўцы твораў вольнае літ-ры (ТВЛ) былі абпіліся літрамі і ўсё зблыталі – *Заўвага цэнзара*) неабвержную логіку. Так нарадзілася чарговая шызоідная плынь у найноўшай беларускай літ-ры – транслагізм. Трасцаванне С. Мінскевіча і А. Туровіча доўжылася да таго часу, покуль іх не засмактала бязмерная дзюрка адсюля і датуля. Калі ж хто плявузгае абы-што ды называе іхнюю бездакорную ва ўсіх адносінах шызоідную плынь лухтою – таму заўсёднаразамныя паэты ставяць пад вока лухтары.

***

Аднойчы Ігар Сідарук, творачы вольную літ-ру (ТВЛ), напісаў нятленнае эсэ «Кава сярод ночы». За гэта ўслаўленыя навечна І. Сідаруком жанчыны вырашылі яго забіць. Каб неяк уратавацца, ён упаў у дзяцінства, а заадно і ў аргазм. Жанчын гэткая акалічнасць не сказаць каб засмуціла, аднак імпэту крыху пазбавіла. І замест таго, каб забіваць І. Сідарука лютаю, пакутніцкаю смерцю, сталі навыперадкі яму спачуваць. бач, дзіцянё якое ды яшчэ аргазмуе. Можа,жанчынам і яшчэ што мроілася-марылася, аднак дарма. Таму як здзіцянелы І. Сідарук з перапуду такім і застаўся, у выніку чаго стаў малоць суцэльную павучальную чаўпарню ды бляяць санаты і намалоў – набляяў-такі гэтых самых чаўпарні з санатамі аж на дзве знакамітыя кніжкі – «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука» і «Саната Арганата».

***

Аднойчы Людка Сільнова ніяк не магла ўцяміць, што такое рыса, а што такое слова. Сабраліся дужа ўражаныя гэткімі незвычайнымі абставінамі творцы вольнае літ-ры (ТВЛ) ды давай вось гэта рыса! – і паказваюць; а вось гэта слова! – і гавораць. Карацей, дагаварылісядапаказваліся яны да таго, што ўжо і самі не ведаюць, дзе што ды як завецца. А хітрамудрая Л Сільнова як убачыла, што нічога ў такіх справах яны не петраць, далучацца да ТВЛ-аўцаў перадумала, а вядомую ў блізкім і нават далёкім замежжы кніжку так і назвала. «Рысасловы» Асабліва любяць чытаць-глядзець яе маленькія дзеці, а таксама прысуджальнікі прэміі «Гліняны Вялес», якая была ўручаная Л Сільновай у Нацыянальнай бібліятэцы 20 студзеня 1995 года, дзе яна паспяхова агорвае рысу і слова па сённяшні дзень.

***

Аднойчы Лера Сом пяяла блюз на сваёй маленькае кухні, а шчасцем са зграбненькіх паўлітровачак бязмежна ўпітыя творцы вольнае літ-ры (ТВЛ) аж шалелі ды галёкалі. «Ты каралева! Ух, ха! Ха, Лера, Лера!» І гэта было адзіным і непаўторным штуршком да напісання паэткаю-бардэсаю літаральна за ноч, пакуль галёканне цвяліла ды натхняла, кніжкі найвышэйшага класа ды такой жа пробы «Блюз каралеўскае кухні»

***

Аднойчы Юрась Пацюпа прачнуўся ўначы халодны і аначасна змакрэлы. Дужа ўражаны гэткай неверагоднай акалічнасцю, ён адразу знайшоў у гэтым неабвержны стымул для





напісання паэмы «Кебіч думае пра Беларусь» Аднак выдаўцы твораў вольнае літ-ры (ТВЛ), што зажраліся сорасаўскімі вустрычынамі, імпэт ягоны ахаладзілі спасылкаю на застарэласць тэмы. Тады Ю. Пацюпу нічога не засталося, як чытаць, перачытваць, рагатаць ды плакаць над першым сваім паэтычным зборнікам, названым ім у гонар тае самае ночы, калі ён прачнуўся халодны і адначасна змакрэлы.

***

Аднойчы Мікола Касцюкевіч унурыўся ў філасофскае чытанне і дачытаўся да таго, што страціў валасы, затое займеў акуляры, да таго ж апынуўся ў далёкае Германіі (Нямеччыне). Адтуль ён з філасофскім нахабствам стаў узірацца ў твар той самай дзяўчыны, якая магла кахацца, як і год таму, на пашарпанай лаўцы, адначасна пасылаючы – у сэнсе М Касцюкевіч з Нямеччыны, а не пад час кахання на лаўцы жудлыя праклёны ды гарачыя модлы ў ейны адрас (па ейнаму адрасу – *Заўвага бяззменнага ды ганаровага выдаўца ТВЛ А. Аркуша*) Але, улічваючы тое, што М Касцюкевіч начытаўся філасофскіх кніжак, з-за чаго страціў акуляры, затое прыдбаў валасы, ён нарэшце на поўнае дыханне ўкусіў тую самую дзяўчыну за чорны аксаміт грудзей і ў поўным жаху ад нечалавечай тугі з'ехаў-такі з далёкае Германіі (Нямеччыны), на развітанне трымкнуўшы суцэльную вольную літру (ТВЛ) «Кайзер» (Толькі нікчэмны чалавек будзе адпрэчваць тоеснасць вольнае літ-ры і адпаведна літры, грунтоўнай і непаўторнай. – *Заўвага К.М.*)

**Замест кропкі.**

***На гэтым аўтар новага фундаментальнага доследу быў вырашыў паставіць кропку. Аднак,пакуль «НАЙНОЎШАЯ ГІСТОРЫЯ...» рыхтавалася да эпахальнага друку ды здавалася ў беспрэцэдэнтны набор, гэтыя вісусы, гэтыя галганы са здзічэлага тоўпішча задужа вольных літра-аратараў (ТВЛ), панапісвалі столькі новай трасцы ды панавыдавалі такога..... (далей слова зацёрта. Прычым засталося незразумелым, ці то самім аўтарам, ці то ТВЛ-аўцамі, ці то цэнзарам. –*** *Заўвага выдаўцоў* ***), што аўтар «НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫІ ТВАРЭННЯ ВОЛЬНАЕ ЛІТАРАТУРЫ (ТВЛ)» палічыў сваім гонарам і нават абавязкам значна пашырыць і ўдакладніць ашчадна па каліўцу сабраны матэрыял, каб яго потым не абвінавацілі ў занадта пільнай увазе да адных ды ў незаслужаным абмінанні іншых, а таксама каб усемагутны і няспынны працэс тварэння вольнае літ-ры (ТВЛ) быў усеабдымна ахоплены. А таму ўсё змешчанае тут вышэй можна лічыць толькі караткамоўным уступам да канчаткова завершанай і бездакорна выпраўленай «НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫІ ТВАРЭННЯ ВОЛЬНАЕ ЛІТ-РЫ (ТВЛ)», якая неўзабаве выйдзе выпраўленым і значна дапоўненым выданнем.***



**Клім МАРКОЎКІН**

